**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку 21.07.2016. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк.16,53. Тыраж 1388 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

У № 6 на старонцы 18 дапушчана памылка: героя рубрыкі "Выбітныя" завуць Павел Дзюсекаў.
Просім прабачэння ў Паўла і чытачоў.

# Путрышкі — Гродна — Беларусь

**Пачатак чэрвеня. У Гродне святкуецца юбілей Элізы Ажэшка. У доме яе, які ў турыстычных буклетах нязменна завецца «шэрым дамком» і які сама пані Эліза некалі, у лістах да адрасатаў, называла «маёй хатай», збіраюцца сур'ёзныя — паважныя — людзі. Каб проста сустрэцца, каб прачытаць дзясятак навуковых дакладаў, каб абмеркаваць чарговы раз ажэшкаўскую спадчыну, каб зноў паразважаць над асабістым лёсам пісьменніцы, каб успомніць падзеі даўнейшыя, каб пагасіць юбілейны канверт, каб прадэкламаваць урыўкі з твораў юбіляркі і шмат яшчэ розных «каб». Пакуль нічога не пачалося. Пакуль расстаўляюцца ў зале крэслы і разгортваюцца на стэндзе ў дворыку часопісы з публікацыямі. А я, Досця Звяздоўская, варон не лаўлю. Проста азіраюся па баках.**




— Мяне завуць Кананові Таццяна, я вучаніца 11 класа… Не, ужо выпускніца. Путрышкаўскай сярэдняй школы.

Путрышкі — гэта за сем вёрст ад Гродна, як пісала пані Эліза пану Леапольду Меету з летняга адпачынку. Маўляў, у гміне Верцялішкі ёсць вёска Путрышкі, і «здзівішся, вычытваючы наша месца, але перарабі яго сабе на Пятрушкі, як мы зрабілі, бо запамінаць лацвей». То цяпер будзе зусім латва помніцца: у Путрышках вучацца таленавітыя дзеці!

Таццяну Кананові, як аказалася, я ўжо ведаю. Літаральна тыдзень таму на абароне адной дысертацыі на БДУшным філфаку (ну так, і туды ўжо ваша Досця дапяла) шэптам (каб не перашкаджаць дысертанту «абараняцца») згадвалася, памятаю, нейкая гродзенская кніжачка, складзеная школьніцай Таняй. Кніжачка вершаў пра маму. І вось цяпер перада мною тая самая Таня.

— Мы з настаўніцай Святланай Вячаславаўнай Бозыр распрацавалі тэму вобразу маці ў творчасці Рыгора Барадуліна і паэтаў Гарадзеншчыны, — расказвае Таня. — «Мы ўсе жывём пад зоркамі матуль» — так называецца гэтая работа. Сутнасць яе ў тым, што мы параўналі вобраз маці, адлюстраваны ў вершах Барадуліна, з вобразамі маці ў вершах паэтаў Гарадзеншчыны. Вынікам стаў не толькі даклад, але і вось гэты зборнік.

«Ты пагладзь мяне, мая матуля…», вершы пра маці, пісьменнікі Гарадзеншчыны, ДУА «Путрышкаўская сярэдняя школа», 2016. Гэта на тытуле. А на франтыспісе — малюнак са словам «МАМА». І надпіс: «Выкарыстаны малюнкі навучэнцаў Путрышкаўскай СШ».

— Каб аздобіць зборнік незвычайна, я абвясціла ў школе конкурс. Ён быў прысвечаны святу 8 Сакавіка, па яго ўмовах малодшыя школьнікі павінны былі намаляваць партрэты сваіх матуль. Было заяўлена, што лепшыя малюнкі пойдуць у кнігу. Так і здарылася. Кніга ўтрымлівае 32 вершы і сем дзіцячых малюнкаў.

— Складанасці, неспадзяванкі, сюрпрызы — былі?

— Работу мы пісалі год з нечым. На працягу ўсяго гэтага часу шукалі вершы. Канечне, яны збіраліся як дадатак да асноўнага тэксту работы. Але захацелася аформіць яго прыгожа — каб можна было, напрыклад, даць яго іншым школам, у іншыя бібліятэкі. Але самае дзіўнае вось што. Калі я паказала работу аднакласнікам і дзецям меншага ўзросту, яны ўсе так зацікавіліся! Яны пачалі дапамагаць мне збіраць вершы! А потым, калі я абвясціла конкурс малюнкаў і расказала, навошта яны — што я буду ўдзельнічаць

у рэспубліканскай канферэнцыі, а малюнкі ўвойдуць у адмысловы зборнік, — захапіліся яшчэ больш. Іншымі словамі, малюнкаў атрымалася шмат, і выбраць лепшыя было вельмі цяжка.

— А дызайн вокладкі чый?

— Уся кніга — калектыўная праца. Мае аднакласнікі і настаўніца шукалі карцінкі і разам думалі, як лепш аформіць.

Задача гэтага выдання — распаўсюдзіцца па школах Гродзеншчыны у якасці крыніцы інфармацыі, якая дапаможа адразу даведацца, хто што на Гродзеншчыне пра маму напісаў.

— Але, канечне, гэта не ўсё, што напісана пра маму на нашай зямлі. Сабралі найбольш знакамітых паэтаў. Калі паступлю ў ВНУ, папрацую над гэтым больш. Трэба далучыць маладых паэтаў і даследаваць тэму шырэй і глыбей. І таксама выпусціць зборнік.

— Раскажы яшчэ што-небудзь. Пра школу, пра настаўнікаў, пра сябе?..

— Мабыць, да выканання гэтай працы я не так добра ставілася да сваёй матулі. Я ўспамінала, як яна сама расказвала пра сваю матулю і іх адносіны, — і заўважыла, што сёння стасункі паміж мамамі і дзецьмі такія… не такія цёплыя. Я паглядзела на сваіх аднакласнікаў — як яны да сваіх матулек ставяцца. Могуць павышаць на іх голас. Рэзка адказаць. І ўзнікла пытанне: чаму?

— Ты шукала адказ?

— Я звярнулася да творчасці Барадуліна. І паглядзела, як ён ставіўся да сваёй маці. Раней, адразу пасля вайны, дзеці ўсведамлялі, як матулям цяжка. Яны разумелі, што няма таты, які мог бы дапамагчы. Яны бачылі, як гэта ўвогуле — адной на сваіх плячах усё несці. І былі ўдзячныя. А цяпер? Вайны няма. Мы жывём добра, і дзякуй Богу. Мы не ведаем, што такое голад, і як гэта — недаядаць. І мы не цэнім гэтага. І ставімся да мамы так: ты, маўляў, нам павінна. Павінна даць адукацыю, павінна накарміць, павінна набыць новае адзенне, хоць папярэдняе куплялася не так даўно… Прападае тое, што было. А мы ж павінны цаніць сваіх матуль не за нешта, а проста таму, што яны ў нас ёсць. Ды мы не разумеем: ну ёсць і ёсць. Быццам нічога ў гэтым няма каштоўнага.

— Каб атрымаць любоў блізкага чалавека, каб маме атрымаць любоў дзіцяці, не абавязкова трэба чорт ведама што зрабіць. Любоў павінна быць без умовы.

— Так. Мы не можам, мы не павінны казаць: я цябе люблю, таму што ты такая, такая і такая, таму што




мне зрабіла тое, тое і тое. Мы павінны любіць іх за тое, што яны далі нам жыццё. Што былі побач, калі былі патрэбнымі. Што заўсёды з намі, нават калі не побач. Мне балюча глядзець на тое, як часам ставяцца да матуль. І я зрабіла гэтую працу мо яшчэ і з-за гэтага. Я расказваю сваім аднакласнікам, што маму трэба любіць не за нешта, а проста так. Мне здаецца, яны гэта зразумелі. А гэта самы галоўны вынік маёй працы. Памятаю, сядзелі ў зале мае аднагодкі, а я чытала апошні верш зборніка — «Мы ўсе жывём пад зоркамі матуль», і ў многіх на вачах блішчэлі слёзы. Я думала, можа, яны прыйдуць дахаты і скажуць кожны сваёй маме: «Я так цябе люблю». А не будуць думаць пра тое, як не сказалі гэтыя словы, пасля — калі ўжо не будзе каму сказаць. Бо гэта вельмі дрэнная тэндэнцыя: разважаць пра любоў да матулі, калі яе не стане. Трэба цяпер. Проста так. Проста так нарваць васількоў. Проста так падарыць. Проста так.



**Дзмітрый Шулюк**

## Зарастаюць дарогі

Музыка ліецца з дынаміка ўсё хутчэй і хутчэй. Алекс Цёрнэр і Майлз Кэйн прымушаюць паветра ў маім пакоі вагацца і хвалявацца. Сцены робяцца немагчымымі і быццам раствараюцца. За сценамі поле. Летняе зялёнае пахучае. Гукавыя хвалі незаўважна становяцца цокатам капытоў. Першы і пакуль апошні альбом гурта «The Last Shadow Puppets» («Апошнія лялькі тэатра ценяў») адправіў мяне ва ўспаміны. У дзень, калі дзед упершыню дапамог мне сесці на каня і павёў таго па палявой дарозе.

Салодкія ўспаміны. Салодкія і вострыя, яркія і адначасова бляклыя. З разраду ўспамінаў, у якіх да канца немагчыма ўпэўніцца. Немагчыма пазбавіцца сумневаў у рэальнасці гэтых імгненняў. Пазбавіцца пытанняў. Можа, гэта быў проста сон? Можа гэта была мара? Ды і запытаць няма ў каго. Дзед нічога не зможа пацвердзіць. Ён ужо колькі гадоў як застаўся ў мінулым. Каня Матыля забрала нейкая хвароба. Дарога зарасла.

Кажуць, сучасная моладзь ні аб чым не думае, ні да чаго не здольная. Часцей нават не кажуць, а крычаць. І ў большасці гэтыя крыкі не маюць пад сабой ніякага фундаменту. Людзям проста здаецца, што яны былі іншымі, што яны хацелі, яны маглі. Але паглядзіш на іх: толькі зарослае поле. Усе тыя сцежкі, вытаптаныя юнацкімі марамі, пазарасталі. Няма іх.

Быў тыповы зімовы вечар. Магчыма, і не зусім тыповы. Я ў гэты вечар паведаміў маці, што маё апавяданне надрукуюць у часопісе. Яна пахваліла мяне. Але пахвала радасці не прынесла. Бо здалася мне бессэнсоўнай. Зусім бессэнсоўнай. Напэўна, я не здолеў успрыняць словы маці як словы маці. Я пачуў толькі словы Чалавека-з-Канапы. Быццам добра не тое, што я раблю, не тое, што я ствараю, а толькі тое, што маё імя з'явіцца ў продажы. Ведаю, ацэнка вельмі экспрэсіўная і павярхоўная, але час ад часу ўсе мы робімся ўразлівымі для эмоцый, якія раптоўна выбухнулі.

— Паслухай, калі ласка, — папрасіў я. Маці не адвяла вачэй ад манітора, таму я маўчаў і чакаў.

— Ну, кажы.

— Паслухай... — хацелася, каб голас гучаў упэўнена, але атрымаўся незакончаны выдых.

— Я слухаю.

Яе рука па-ранейшаму ляжала на мышцы. Перадавала рухі курсору, які хапаў карту за картай і перакладаў іх, каб у выніку пасьянс склаўся. Такая простая і надзённая мэта.

— Не. Не слухаеш.

Нарэшце, яна павярнула галаву і паглядзела на мяне з-за шкла акуляраў. Я крыху яшчэ памаўчаў, бо не ведаў, з чаго пачаць. Некалькі секунд: сабрацца і зрабіць спробу. Зрабіць крок да ўзаемаразумення і прыняць крок у адказ. Калі раптам гэты «крок у адказ» будзе зроблены.

— Чаму ты ніколі не хвалішся чым-небудзь? Вось я, напрыклад, паспрабаваў штосьці зрабіць, стварыць. А чаму ты так не робіш? Чаму ўсё, пра што ты расказваеш, гэта штодзённыя праблемы на рабоце або мімалётныя выпадкі з тых, якія не нясуць эмоцый, пачуццяў, а часцей нават мінімальна аб'ектыўнага бачання? Яны не патрэбны ні мне, ні табе.

Я гаварыў і разумеў, што словы зусім не тыя. Што я зусім не гэтым заклапочаны. А калі нават і гэтым, то не так. Зразумела, ніякага «кроку ў адказ» і быць не магло. Тым не менш я працягваў.

— Вось ты глядзіш у манітор: хтосьці яго вынайшаў. Хтосьці вынайшаў тэлевізар. Ды любая рэч у гэтай хаце не з'явілася сама па сабе. Колькі сапраўдных стваральнікаў нараджаліся, жылі і паміралі на працягу ўсёй гісторыі. Ім таксама трэба было есці, трэба было купляць вопратку, абагра-

ваць жыллё. Але яны знаходзілі час і жаданне для большага. Бо яны разумелі, наколькі кароткае чалавечае жыццё. Прамільгне, як птушка ў небе, і нічога не застанецца.

— Ну, і што ты ад мяне хочаш?

«Як што?! Ты не разумееш?! Ці магчыма тут што не разумець?! Ты проста не слухаеш! Паслухай! Паслухай!» — кіпелі словы, пытанні, крыкі, але я сказаў іншае, непатрэбнае, фальшывае.

— Калі б не гэтыя людзі, у цябе б нічога не было.

Такія разумныя высновы, такія цэльныя погляды пры размове з людзьмі, якія не жадаюць слухаць, ператвараюцца ў пафаснае ныццё.

— Зрабілі і добра, — з папрокам кінула мне маці. — Цяпер можна адпачыць.

Незаўважна праносіцца палова альбома. Пачынаецца адна з маіх любімых кампазіцый «My mistakes were made for you». Зноў лаўлю сябе на думцы, што такая музыка з'яўляецца ўскосным доказам маіх меркаванняў. Маёй упэўненасці ў тым, што асэнсаванасць чалавекам жыцця не настолькі залежыць ад узросту, як гэта звычайна прадстаўлена. Часам ніякай асэнсаванасці няма — што ў сталага чалавека, што ў юнака. Напэўна, патрэбна прапанаваць вам другую палову маёй кампазіцыі.

Мне пашанцавала папрацаваць класным кіраўніком у дзявятым класе. Школа была невялікая. Нават не, невялікая — гэта вельмі моцна. У мяне было тры вучні. І такая іх колькасць несла пэўныя праблемы. Напрыклад, ім не было да каго расці. Так атрымалася, што вучыліся яны амаль аднолькава, ды і ў астатнім развіваліся на адных хуткасцях. Магчыма, іншым разам я раскажу вам пра іх больш, але не цяпер. Цяпер толькі адзін урывак з адной класнай гадзіны.

Не буду хлусіць, што я чалавек вельмі старанны. Часцей я зусім не стараюся. Напэўна, таму і думкі ў мяне больш працуюць як фонавыя праграмы ў камп'ютары. Быццам нічога нідзе не ўключана, а раптам усплывае акно: «Абнаўленні для вашага плэера загружаныя». То бок я пастаянна рыхтуюся. Аналізую, фільтрую, шліфую, але для большасці гэта выглядае як «Эўрыка! Эўрыка!»

У той дзень я таксама быццам з ніадкуль прыдумаў цікавы ўрок. На мой погляд, цікавы. Урок меў тэмай першыя дасягненні чалавечай цывілізацыі і ўключаў у сябе шмат відэаматэрыялаў. Я пасля паказваў гэтае відэа настаўніку фізічнай культуры, і ён быў у захапленні. А вось вучням было сумна, яны раз за разам пaглядвалі, колькі засталося да канца ўрока, шапталіся між сабой ды клявалі насамі. Я доўга назіраў за гэтай даволі непрыемнай карцінай і нарэшце не вытрымаў.

— Вам сумна! — выкрыкнуў я. — Сумна? Нецікава глядзець, слухаць? Вам паказваюць пра сляды, якія дайшлі да нас праз тысячагоддзі. Уявіце! Праз тысячагоддзі. Вам сумна на гэта глядзець? А якія сляды збіраецеся пакінуць вы? Адкуль людзі праз сто гадоў даведаюцца пра вас? Арцём? Адкажы, які след ты пакінеш на Зямлі?

Ён адразу адвёў вочы, вінавата прабег імі па парце, а затым упэўнена адказаў.

— А навошта пакідаць след?

Мінулым летам я хацеў паказаць сваёй каханай возера, да якога з таварышамі прадзіраўся ў дзяцінстве, каб пабачыць баброў. Аказалася, што няма там ужо возера. І дарог, якімі ехалі па сена, — няма. Успаміны здаюцца казкай. Успаміны чалавека, якому няма нават трыццаці гадоў. Зарастаюць, зарастаюць, зарастаюць. Неабходна гэтым летам праехацца па гарадах Беларусі, каб тыя дарогі, што я пракладваў у сэрцах добрых людзей, не зараслі.

Музыка не заціхае.

*The Last Shadow Puppets — брытанскі рок-гурт, створаны Алексам Цёрнерам і Майлзам Кэйнам. Цёрнер — фронтмэн гурта ArcticMonkeys, а Кэйн — фронтмэн гурта TheRascals. Магчыма, ім не хапала прасторы для творчасці ў межах адной каманды, альбо былі іншыя прычыны. У выніку нам пашанцавала, дзве сапраўдныя зоркі сучаснага року ўтварылі сузор'е. І прамяні іх святла цягнуць слухача ў чароўныя шасцідзясятыя.*

*У 2008-ым выйшаў першы і, на жаль, пакуль што апошні альбом The Last Shadow Puppets пад назвай «The age of the understatement». Альбом атрымаў станоўчыя адзнакі крытыкаў і першае месца ў брытанскіх чартах.*

*Не магу не параіць вам абавязкова паспрабаваць паслухаць гэту музыку. У гуках якой пераклікаюцца дзесяцігоддзі.*




**Канстанцін Касяк**

## Дарога, якую выбіраеш сам

Embraer 195, які ляціць прамым рэйсам з Мінска ў Тбілісі, павольна выязджае на паласу, як след разганяецца, адрываецца і пачынае набіраць вышыню. У салоне беларусаў няшмат, іх лёгка вылічыць пры рэгістрацыі па сініх пашпартах. Астатнія — уладальнікі чырвоных, грамадзяне або Грузіі, або Расіі. Мой сусед побач — вясёлы стары грузін, які паказвае пальцамі некуды ў ілюмінатар і расказвае мне пра горад, у якім я апынуся праз некалькі гадзін.

Бяру ў рукі свежы нумар «On Air» — бартавога часопіса кампаніі «Белавія». Змест уражвае: высакагорны нямецкі парк Бергтэсгадэн, афрыканскія графіці ў Буркіна Фасо, павольны адпачынак у суседняй літоўскай Паланзе, вандроўка ў дзіўную і далёкую Новую Зеландыю, з якой пайшоў вядомы на ўвесь свет ваяўнічы танец «хака» і многае іншае. На дэсерт захапляльная біяграфія Рыхарда Зорге, з якой мог бы выйсці вельмі добры баявік. Дзед побач расказвае пра сваё няпростае жыццё і лёс, так вось проста, выпадковаму мінаку, як у фільмах.

Пасярэдзіне моднай хіпстарскай вокладкі цытата з Якуба Коласа. Вельмі трапна, думаю, зрабілі — акурат 95 гадоў таму славуты беларускі літаратар вярнуўся на радзіму з Куршчыны. Не самалётам, праўда, а цягніком. Але таксама ж вандроўка.

Тады пра вяртанне жывога класіка паклапацілася кіраўніцтва Наркамата асветы БССР, якое звярнулася з хадайніцтвам да самога Луначарскага: «Белорусская республика вправе желать, чтоб ее поэты вернулись к ней и могли посвятить себя своему призванию». Нічога не заставалася, як задаволіць патрабаванне. А газета «Савецкая Беларусь» 17 мая 1921 года радасна вітала земляка: «У нядзелю вярнуўся ў Мінск пасля доўгай адсутнасці беларускі паэт Якуб Колас. Вымушаны пакінуць сваю радзіму пад уціскам цяжкіх умоў, звязаных з ваенным ліхалеццем, абрушаным на Беларусь, Якуб Колас вярнуўся ўжо ў Вольную Айчыну, аб якой ён пяяў у сваіх вершах і змагаўся доўгія часы!» Вярнуўшыся, Колас пасяліўся на Старажоўцы, цяперашняй вуліцы Кісялёва, і крыху абжыўшыся, выправіўся летам таго ж года на Каўказ.

Не ў Тбілісі, у Есентукі, дзе ён адпачываў разам з Янкам Купалам. Туды да іх прыязджаў у адведкі Цішка Гартны. Усёй кампаніяй яны хадзілі ў музей Лермантава ў Пяцігорску. Успамінаю пра гэта, праязджаючы ўжо па дарозе з Тбілісі ў адзін з самых старых гарадоў, вядомых чалавецтву, — Мцхету. Над ёй, на высокай гары, стаіць старажытны манастыр Джвары. Кажуць, менавіта тут, над месцам зліцця рэк Куры і Арагві, Лермантаў задумаў напісаць сваю паэму «Мцыры».

Разглядаючы каўказскія горы з акна гатэля, успамінаю лісты Коласа да жонкі Марыі Дзмітрыеўны: *«Лазіў з біноклем на сваю пляцоўку. Чароўная панарама снежных гор. Іх яшчэ не асвяціла сонца, яны мелі палавы колер, і надта прыгожы. А цяпер Эльбрус — бачу яго праз акно свае кватэры — загарэўся на сонцы, хоць і сонца яшчэ не ўзышло»*. Там, дзе я жыву, снегу на гарах няма, адно зялёная раслiннасць. І тым не менш хочацца напісаць нешта і пра іх, дамоў, у Беларусь. Сваёй жонцы…

Што б там ні казалі, а на маю думку класік меў рацыю: «Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш».



**Яна Мусвідас**

## #мойМінск

Большую частку жыцця ўва мне змагаюцца дзве крайнасці: адна любіць Мінск, а другая яго ненавідзіць. На жаль, апошнім часам перамагае другая.

Я імкнуся прымаць людзей такімі, якія яны ёсць. Стаўленне да сябе — аналагічнае. Але калі гаворка ідзе пра горад, канфармізм не падыходзіць.

Каб жыць у гармоніі, трэба любіць тое, што цябе акружае, а калі гэта ну ніяк не атрымліваецца, то асяроддзе трэба мяняць. Менавіта з-за вечнага імкнення да гармоніі я так адчайна змагаюся за любоў да Мінска. Але каб перамагчы ў сабе такое складанае пачуццё як нянавісць, трэба разабрацца ў яго вытоках.

Выток я вызначыла адразу і ўпэўнена, што беспамылкова. Гэта людзі. Не, я не мізантроп і далёка не ўсе мяне раздражняюць, але ёсць у Мінску такі гатунак — «чалавек рынкавы», — які абуджае ўва мне толькі адмоўныя эмоцыі. Напрыклад, абсалютна кожны дзень у грамадскім транспарце абавязкова трапляецца той, хто штурхне дзеля «стаялага» месца або абапрэцца сваім немалым целам на мае 46 кілаграмаў. У мяне ёсць здагадка, што з маімі праблемамі сутыкаецца не кожны: у кагосьці ёсць асабісты транспарт, нехта мае большыя параметры, ды і доля мне выпала не самая лёгкая — жыць недалёка ад Камароўскага рынку.

Яшчэ ў школе ўсім тлумачаць асновы этыкі, эстэтыкі і культуры наогул. Курс этыкі чытаецца і ў ВНУ. Я, напрыклад, у гэтым семестры здала такі прадмет на «выдатна». Але ці зберажэ мяне гэты факт ад траплення ў шэрагі «чалавека рынкавага»? Як паказвае практыка, далёка не факт.

Супакойвае вось што: «такія» людзі ёсць не толькі ў нас. Напрыклад, вясной мы з матуляй ездзілі ў Маскву, на ўручэнне прэміі «Паэт года». Як у любога немясцовага жыхара, у нас быў спіс месцаў, абавязковых для наведвання. Безумоўна, не абышлося без сабора-музея Васілія Блажэннага. На касе вісела аб'ява аб ільготных квітках для пэўнай катэгорыі асоб, мы ў гэты шэраг уваходзілі. Я — студэнт, а маці — музейны работнік. Каб лішніх пытанняў не ўзнікла, вырашылі адразу прад'явіць касіру патрэбныя дакументы. Архіўнае пасведчанне запоўнена на беларускай мове, але, як вядома, слова «музей» на абедзвюх мовах гучыць аднолькава. Ды гэта не стрымала жанчыну ад абразы. Яна чамусьці вінаваціла ўсіх нашых грамадзян у хлусні, хітрасці і шэрагу іншых непрывабных якасцей. Зразумелая справа: крыўдна было не за-за квіткоў, а за мову і краіну. Дарэчы, нягледзячы на тое, што за квіткі мы заплацілі, на іх стаяла пазнака «Бесплатно». Застаецца толькі разважаць, хто з нас хлуслівы...

Мне шкада, што свет не без злых людзей, ды і сама я, верагодна, не заўсёды ўвасабляю дружалюбнасць. Цяпер мне васямнаццаць, і, думаю, яшчэ не адзін і не два гады пойдуць на тое, каб я прывыкла да ўсіх «гатункаў» людзей. Мая галоўная мэта — не скаціцца да ніжэйшага ўзроўню.

Што ж датычыцца любові да горада, то тут усё можна паправіць і выхад дакладна знойдзецца. Ад непрыязных людзей я магу адгарадзіцца навушнікамі і прыроджаным астыгматызмам. Нядаўна з'явілася цэлая лінейка прадукцыі з выявай нашага горада і гучным хэштэгам #мой-Менск. Мабыць, і мне варта набыць майку з такім надпісам, — няхай гэта паслужыць пачаткам нашага з Мінскам рамана.



## Наталля Скарынка

# Вытокі шчасця

Атрымліваць асалоду ад далікатных дакрананняў да цела беласнежнай тканіны з нацыянальнымі ўзорамі. Вадзіць аслабленай ад унутранага спакою далонню па калоссі. Па бясконцым полі залатых каласоў. Ісці праз яго і чуць, як спявае ціхую песню сэрца.

Гэта маё першае жаданне, якое я ажыццяўляю ўлетку. Другое — прачытаць усе творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія заслугоўваюць увагі. На гэта ў мяне сыдзе ўсё жыццё.

«Кроў бы вада. Ты — для мяне — назаўжды»[1]. Гэтыя словы — трэцяе жаданне. Пачуць іх ад чалавека замест зацёртых «я цябе кахаю» будзе азначаць, што я знайшла майго адзінага рыцара. Яго даспехі — сумленнасць, яго меч — мова. Яго каханне — мая душа. Якая лічыцца ім, як і ўсе астатнія, бессмяротнай. Рукі яго — вынік работы розуму і працы фізічнай. Бо я казала раней і скажу цяпер, што ніколі не аддам сваё сэрца чалавеку, які нічога не робіць, нічога з сабе не ўяўляе. Істота, якая скажа: «Ты — мая кроў, жывая, неўміручая, якая актыўна бяжыць па венах майго жыцця, дзякуючы якой я ўсё яшчэ дыхаю. А я — твая вада, якая клапоціцца аб тваёй чысціні, тваім здароўі, тваім стане і настроі, якая фільтруе цябе ад усялякага бруду».

Амаль што гэты вобраз выразна апісаны ў адным з найвялікшых твораў беларускай літаратуры. З «каштанавымі, вельмі іскрыстымі пад сонцам валасамі і цёмна-шэрымі вачыма»[2], нашчадак шляхты беларускай, арыстакрат не толькі па рысах асобы і чысціні крыві сваёй, але і па складзе розуму, па інтарэсах і амбіцыях. З такім чалавекам я змагу стаць асобай, бо, на жаль, няма аніякай магчымасці стаць ёю ў адзіноце. Гэтая сапраўдная асоба жыве ўнутры мяне ўсё маё жыццё, і раскрыцца ёй мае сэнс толькі тады, калі знойдзецца чалавек, які ў поўнай меры зразумее яе ва ўсіх думках і страхах, жаданнях і настроях, поглядах і пазіцыях, да канца.

Ідзеш у полі. Кранаеш кончыкамі пальцаў каласы. Думкі твае — аб ім. Аб нацыянальным беларускім героі. Аб тым, як аднойчы ён замест калючых каласоў кране тваю далонь цеплынёй сваёй моцнай рукі і ўпэўнена стуліць на ёй свае пальцы і ніколі ўжо не адпусціць.

…Хто ведае — можа, гэта якраз каласы, што растуць цяпер на месцы тых, якія калісьці, шмат вякоў таму, былі пад нечым сярпом…

Можа, менавіта тваім?

---

[1] Радкі з песні гурта Akute — Кроў бы вада. *(Заўвага аўтара)*
[2] Радкі з рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». *(Заўвага. аўтара)*



**Валерый Гапееў**

## Першая крытыка

Голас у цёткі Танькі гучны, але незвычайна напеўны, яна цягне галосныя, адначасова амаль не робячы паўзы між асобнымі словамі:

— Валерык, дык скажы, што ты там напісаў такое?

Сэрца маё ёкае, адчуваю, як кроў прылівае да шчок. Вось жа… Я так спадзяваўся, што дарослым вяскоўцам няма ніякай справы да таго артыкула ў раёнцы, а тут вунь як — пачыталі, відаць жа, абмяркоўвалі, смяяліся «на нарадзе». І праўда, сёння, першы раз гэтым летам ідучы «на нарад» — да слупа, дзе прыбіта дошчачка, на якой брыгадзір пакідае паперку з размеркаваннем работ, адчуў на сабе пару незразумелых позіркаў цётак і дзядзькаў…

Недзе ўжо адзінаццаць, мы толькі завяршылі стог. Першы раз дзядзька Васіль узяў мяне да сябе кідаць стагі. Астатнія хлопцы цягаюць копы, бабы грабуць. Складаем сена дзвюма брыгадамі, у той — трое дарослых, а ў нас — дзядзька Васіль, Іван Нямы і я, ужо васьмікласнік. Я і радаваўся, і ганарыўся, стараўся, дзядзька мяне стрымліваў больш. Калі Іван Нямы вяршыў, падаваў на піхаўі сена я. Хлопне Нямы вілкамі па баку стога, сцісне пяцярню — я ў тое месца кладу ўлежанага, доўгага сена, трошкі. Растапыра пальцы Нямы, стукне сабе па нагах — бяру, як падняць, кідаю яму пад ногі...

Стог атрымаўся прыгожы, акуратны. Зараз перакур. І вось прыселі ўсе ў цяньку скіданага стога, цётка і запыталася…

Мне здавалася, увесь сорам я ўжо перажыў — дзякуй Богу, артыкул той выйшаў за тыдзень да канца навучальнага года. І навошта было Тумаравай Гальцы, з якой мы ў такіх добрых адносінах, несці тую раёнку ў школу? Ледзь перажыў тыя хвіліны, калі адна з дзяўчынак, не помню ўжо і хто, чытала ўголас некалькі абзацаў пра мяне, пра маё апавяданне.

Яшчэ і настаўнікі… Бачыў, адчуваў у іх позірках… Што? Не ведаю, але нешта невытлумачальнае, незразумелае. Былы дырэктар, настаўнік гісторыі (а ён пісаў у раёнку шмат і часта), перастрэў мяне ў калідоры, спецыяльна чакаў. Я ледзь дыхаў, а ён сказаў, каб я падышоў да яго перад самымі канікуламі, каб пагаварыць… наконт допісаў у раёнку.

Не пайшоў я. Не дні, гадзіны лічыў да канікулаў. І вось так спадзяваўся, што ўсё ўжо забылася…

Калі мяне пытаюцца пра першы празаічны вопыт, кажу пра апавяданне, якое пісаў у 18 гадоў, пра каханне, ды так і не дапісаў. І маўчу пра гэта невялікае апавяданне пра вайну, якое напісаў у сёмым класе, у маі. І адправіў быў у сваю раёнку.

Пра вайну бацькі нам расказвалі мала. Зусім мала. Але ведаў я пра спаленую вёску Казлова, бачыў яміну, якая засталася ад калодзежа, у які карнікі пакідалі былі малых дзяцей. А яшчэ расказваў пра вайну бацька. Яму напачатку вайны было сем гадоў. Вось пра свае хлапечыя прыгоды і расказваў… Як украў быў пісталет, за што ледзь не расстралялі яго маці, маю бабулю. Як краў з сябруком бляшанкі з нямецкага аўтамабіля, з будкі. Тая машына з палявой кухняй стаяла прама на нашым агародзе. Кухар, тоўсты немец, быў быццам пільна заняты сваімі справамі, але калі хлапчукі залезлі і потым з бляшанкамі невядомых кансерваў збіраліся скочыць з будкі, схапіў абод-

Калі мяне пытаюцца пра першы празаічны вопыт, кажу пра апавяданне, якое пісаў у 18 гадоў, пра каханне, ды так і не дапісаў. І маўчу пра гэта невялікае апавяданне пра вайну, якое напісаў у сёмым класе, у маі. І адправіў быў у сваю раёнку

вух за каўняры. Бы з-пад зямлі вырас, і такі спрытны аказаўся. Адной рукой абодвух трымаў, другой выцягнуў сваю папругу ды так па пары разоў сekануў па азадках… А потым…

— Мы, канечне, кінуліся да яблыні, ды сталі: куды далей? Там — двор свой, і матка, яшчэ дадасць дзеркачом. І тады той немец крычыць нам: ком! — расказваў бацька. — Быццам не злосны. Ідзём, што ж… Падышлі да стала, бачым — рэжа дзве лусты хлеба, тонкія-тонкія. З вялізнай бляшанкі нажом чапляе павідла, такое густое, рудое, размазвае па хлебе, дае нам… А твар нейкі такі сумны…

Мяне нават не гэта ўразіла, як помню. Што там дзіўнага — даць дзецям хлеба? А тое, што бацька сказаў пра немца: «Здаровы, тоўсты такі, як наш шурка Герасімаў».

Шурку мы ўсе ведалі. Нязменна працаваў на ГАЗ-51, аўтамабіль такі грузавы, гэтакі тоўсты быў — руль у жывот упіраўся. Смяяліся: пузам рулюе. А так і было, паказваў: есць хлеб з салам, ціснe на педаль, а аўтамабіль коціцца да наступнай капы сена…

І вось гэтае параўнанне раптоўна змяніла ў мяне ўсё. Першы раз у маю свядомасць увайшло, што немцы — то людзі. Такія ж людзі, як і мы. Адно бацькава параўнанне ачалавечыла немца больш за яго аповед пра хлеб з павідлам.

Вось і напісаў я апавяданне. Пра хлапчукоў, якія кралі кансервы, якіх немец пачаставаў спярша папругай, а потым — лустай хлеба.

Былі і іншыя немцы, пасля, расказваў бацька. І стралялі, і забівалі. А то стаяла франтавая часць, удакладняў ён…

Тады была завядзёнка ў раёнках — рабіць агляд літаратурнай пошты. Карэспандэнт не паленаваўся, патэлефанаваў у школу, даведаўся, што я ўжо прыняты ў камсамол. І пытаўся ён у сваім аглядзе: куды ж гэта глядзіць школа і камсамольская арганізацыя, калі камсамолец Гапееў не ведае, што немцы неслі нашым дзецям смерць і пакуты, а не хлеб з павідлам?

Пра нейкія іншыя вершы да апавяданні — па сказу, а мне — некалькі абзацаў. Так прайшоўся, хоць бяжы ў белы свет.

Бацька пачытаў — ні слова не сказаў. Адно маці паказаў. І яна нічога мне не сказала. Толькі ў той вечар мяне ніхто словам не крануў. Быццам я нечакана цяжка захварэў.

…Дзядзька Васіль звярнуў якраз цыгарку, не дае мне адказаць, з дакорам пытаецца ў цёткі:

— А то ты не ведаеш, як Коля з Лісавецінам Мішкам кралі тыя кансервы?

— Дык я ж знаю, — напеўна цягне цётка. — Дык а чаго яны там так накінуліся на цябе? — пытаецца ў мяне.

— Не ведаю… няправільна напісаў, — ціха адказваю я, са здзіўленнем адчуваючы ціхую спагаду ў цётчыным пытанні.

— От маць! — ускрыквае нечакана дзядзька Іван, бацька майго аднакласніка. — А якую ім праўду трэба, га? Якую?

Дзядзька заўсёды кажа хутка, нібыта спяшаецца некуды, глытае канчаткі слоў, а як вып’е, дык і не разабраць. Але цяпер ён цвярозы.

— От маць! — спяшаецца далей дзядзька. — Ты, Валерык, напішы, я табе раскажу. Як немцаў пагналі, у нас на двары кухня наша стаяла. Дык абед згатаваў кухар, вусаты такі, чорны, падыходзілі салдаты, кожнаму ў кацялок клаў кашу. А мы ля сцяны стаялі, усё гадалі: от маць, зараз на дне столькі застанецца, нас кухар пакліча — наядзімся. От маць, наеліся! Да дна ўсё выскраб, у кацялок свой наклаў поўна, і нам вядро пустое дае — вады прынясіце. Бегма паляцелі. Прынеслі, ён тую ваду ў кацёл, паплёхаў-паплёхаў ды выліў на зямлю! От маць, як было…

Усе змаўкаюць.

Сонца паліць. Мужчыны дакурваюць моўчкі. Дзядзька Васіль паднімаецца, аглядае луг.

— Так, хлопцы! Копы — вунь на той узгорак, — паказвае рукой.

Мы пачынаем класці новы стог…

Аліна Длатоўская

**нарадзілася 26 лістапада 1994 года ў Мінску. Вучыцца завочна па спецыяльнасці «Культурная спадчына». Захапляецца гісторыяй і вельмі любіць вандраваць. Вырошчвае кактусы ды іншыя экзатычныя расліны. Працуе ў Фестывальным цэнтры «Хваля Ідэй» арганізатарам дзіцячых творчых фестываляў.**



## Натхненне

Яно ў мяне яшчэ зусім маленькае. Такі мілы пухнаты камячок. Яно вельмі любіць чорную гарбату з цукрам. Раней любіла малако, канечне, але аднойчы паспрабавала гарбатку і змяніла меркаванне. А яшчэ яно вельмі любіць гуляць. Асабліва ў хованкі. Асабліва са мной.

Не ўпэўнена, што магу падлічыць, колькі разоў я ўжо выцягвала яго з-пад ложка. Не ведаю, чым яго прываблівае ўвесь гэты пыл. Хіба што там у мяне стаяць скрынкі з рознай лухтой з мінулага. Вось яно згорнецца ў адной са скрынак, лапкі пад пыску падсуне і спіць сярод маіх успамінаў.

А колькі разоў я здымала яго з кніжных палічак! Ускараскаецца туды, дзе вышэй, уладкуецца на томіку Караткевіча і пішчыць — злезці само не можа. А як працягнеш рукі — дык не ідзе, нібы яму і там нядрэнна.

Другі яго любімы занятак — уцёкі. Толькі што сядзела на падаконніку ці на балконе, назірала за людзьмі на вуліцы і раптам — шусь у адчыненую фортку! І ўсё, няма. Раней я непакоілася і хадзіла яго шукаць. Але хутка зразумела, што сэнсу ў гэтым няшмат. На «кс-кс» яно не адгукаецца, малаком яго не завабіш...

Цяпер не шукаю, бо ўжо добра ведаю: раней ці пазней знойдзецца само. Вось еду я аднойчы ў тралейбусе, разглядаю юнака, які захоплена слухае музыку, а яно раптам вазьмі і высунь пыску з яго заплечніка! Я нават не здзіўляюся ўжо, проста гляджу ды ўсміхаюся. А юнак бянтэжыцца — думае, што яму.

Ці прыйду, напрыклад, да сяброўкі-паэткі ў госці, а яно ляжыць на яе рукапісах, задаволенае, і вуркоча. Я тады па-гаспадарску сурова кажу: «Прэч адсюль! У яе сваё ёсць, вусацейшае за цябе!» Яно, напэўна, крыўдзіцца…

Ну і дарма. Я ж вось не крыўджуся. Я разумею: пераходны ўзрост, самы трапны час для дурыкаў. Аднойчы яно вырасце, стане вялікім пухнатым зверам з даўгімі вусамі і будзе фанабэрыста шпацыраваць па маёй кватэры, усім навокал дэманструючы, хто ў хаце гаспадар. Нарэшце перастане спаць у скрынках, уцякаць і хавацца ў чужых заплечніках. Можа, нават мышэй лавіць пачне? А яшчэ яно будзе пакорліва ўладкоўвацца на маіх каленях, адгукаючыся на: «Кс-кс-кс, хадзі да мяне». І будзе вуркатаць ужо на маіх рукапісах, а не на чужых, нібы кажучы: «Я тваё і нікуды ад цябе не падзенуся».

Але калі быць шчырай, я хацела б, каб яно як мага даўжэй не сталела. Мне будзе надта сумна без яго дураслівых уцёкаў…

Аднак пра гэта рана хвалявацца. Бо яно ў мяне яшчэ зусім маленькае. Такі мілы пухнаты камячок. І мне вельмі падабаецца частаваць яго чорнай гарбатай з цукрам, выцягваць з маіх пыльных успамінаў, здымаць з кніжнай шафы, атрымліваць ад мілага юнака ў тралейбусе і нават знаходзіць у рукапісах сяброўкі. Нічога, што яно ўцякае і не адгукаецца, калі я яго клічу. Галоўнае, што я ведаю: гэта маё Натхненне.

## Варгін

Чорная муха раздражнёна білася ў шкло. Спрабавала патрапіць на сцюдзёную лістападаўскую вуліцу. Халодную, ахінутую вільготным туманам.

Чорная гарбата астыла ўжо другі раз. Моцы выйсці на кухню па кіпень не было. Нічога, вып'ецца і халоднай.

Чорны світар непрыемна калоў цела. Прымушаў увесь час шукаць становішча пазручней. Але не грэў.

Чорны кот ціха варкатаў, уладкаваўшыся ў яго на каленах. Адзіная істота ў пакоі, што засталася цёплай гэтай восенню.

Бескаляровы агідны адчай напаўняў яго галаву. Разам з назойлівым гудзеннем.

Чорная муха білася ў шкло.

«Дурніца».

***

Дзядоўнік цяжка выцягваць з адзення. Пальцы нервова дрыжалі. Зноў атрымае плескача ад бацькі ды пагардлівы позірк ад маці. Але гэта раздражняла менш за расчараванне і крыўду ў чорных вачах дзяўчаці насупраць. З валасоў дзядоўнік выцягваць яшчэ і балюча. Варта было папрасіць прабачэння. Але ён не асмеліўся б. Таму проста працягнуў руку, каб дапамагчы ёй выбіраць з пасмаў бадзякі. Чамусьці яму здавалася, што гэта не так страшна, як выбачацца. Яна адхінулася і скрывіла вусны. Калі звычайная дзіцячая гульня ператварылася ў прычыненне болю адзін аднаму?

Дзяўчынка, ганарліва ўзняўшы кірпаты нос, рушыла ўслед за бацькамі, што ўжо зніклі за паваротам лясной сцяжыны. Ён пабег за ёй. Раптам спыніўся. Пастаяў крыху, сціскаючы кулакі, хмурачы бровы. Крочыў далей спакойна ды павольна.

Пахіленая лядашчая хата выплыла з восеньскага туману шэрым прывідам. Дах яе быў увесь імшаны, у вокнах даўно не было шыбаў, а падворак зарос пустазеллем. Казалі, тут жыла старая вядзьмарка. Імя яе ў вёсцы не называлі. Ды і ўвогуле рэдка пра яе гутарылі. Тым не менш плёткі пра яе смерць разышліся даволі хутка.

Малая замерла перад хатай, збялелая, напружаная. З ганку на іх уважліва глядзела старая. У бруднай спадніцы, шэрай камізэльцы ды пацёртай хустцы кабета выглядала такой жа прывіднай, як гэтая хата ды абляцелыя каржакаватыя яблыні. Позірк яе працінаў да самага сэрца. Ён не спалохаўся, не. Толькі па целе пабеглі дрыжыкі. Ён раптам адчуў сябе неверагодна самотным, халодным, пустым, пакінутым. Нібы тая хата. Жанчына маўчала. Але ён глядзеў ёй у вочы і чуў:

«Вазьмі яе за руку. Альбо пражыві ўсё жыццё ў адзіноце».

Цёплая пяшчотная ручка ў яго далоні, здавалася, магла назаўсёды выратаваць яго ад гэтай пустэчы, ад гэтага холаду. Але нешта спыняла яго. Нешта хацела яго пакутаў.

Ён хітнуў галавою, нібы вытрасаючы адтуль словы жанчыны, ды рушыў далей. Гэта ўсё яму прымроілася.

Дзяўчына засталася стаяць, працягваючы пустэчы руку. Пальцы яе дрыжалі ад холаду. Вусны — ад плачу, які яна старанна стрымлівала.

Ён зноў памыліўся. Ён зробіць яшчэ процьму памылак. Але ўсё пачалося з дзядоўніку ў валасах — у гэтым ён быў упэўнены.

***

Аднойчы на Дзяды ён знайшоў у пад'ездзе чорнае кацяня. Забраў дадому. Што выратуе ад самоты лепш за пухнаты камячок? Ад самоты, якую ён стварыў сабе ўласнымі рукамі. Баючыся нарабіць яшчэ больш памылак. Проста баючыся.

Відаць, ёй вядзьмарка тады падказвала нешта іншае. Бо яна цяпер вывучала беларускую міфалогію. Пісала ў сеціве: «Жудасны чорны кароль катоў Варгін, знайшоўшы сабе гаспадара, прымушае яго сварыцца з любымі ды роднымі, пакутаваць ад адзіноты. Выклікае жудасныя псіхічныя расстройствы. Ад яго прысутнасці ў галаве ў чалавека заводзяцца мухі, якія ў выніку даводзяць самотніка да вар'яцтва».

Няма нічога жудаснага ў чорных катах. Гэта не яны даводзяць да вар'яцтва і не мухі, якія з'яўляюцца ў галаве ад іх прысутнасці. Да вар'яцтва даводзіць адзінота. А адзіноту чалавек стварае сабе сам.

Чорныя мухі біліся ў шкло.

«Дурань».

## Я — не яна

Я смяялася. Вецер дзьмуў у твар. А я смяялася, шырока раскінуўшы рукі. Пачуццё свабоды захлынала. Я лёгкая. Я моцная. Я вольная. Я — вецер.

Аблокі беглі хутка, быццам баяліся не паспець у вырай да халадоў. Між іх мільгалі яскравыя зоркі. У маіх вачах зоркі ззялі яшчэ ярчэй. Я — неба.

Вада блішчэла, адбіваючы святло ліхтароў. Халодная, бяспачуццёвая рака адмежавалася ад горада каменнымі ўзбярэжжамі. Ёй не патрэбны быў ніхто, акрамя яе самой. Ніхто не ведаў яе таямніц. Ніхто не ведаў яе глыбіні. Я — рака.

— Я вольная! — выгукнула ў твар позняму мінаку, прымусіўшы яго збялець ад страху.

Я — птушка. Я люблю неба. Я люблю вецер. Я люблю свабоду. І сёння я пакінула сваё птушаня на ганку дзіцячага дома. Я — зязюля.

Ён плакаў і ўвесь час мармытаў «мама». Я паабяцала, што мама аднойчы абавязкова прыйдзе па яго. Але я — не яна. Я ніколі не любіла яго. Усе гэтыя клопаты, хваробы ды разбітыя каленкі. Гэтыя слёзы, пракуды ды дураслівыя пытанні. Гэтыя кашы, прагулкі, казкі нанач. Гэтыя абмежаванні, абяцанні, абавязкі.

У мяне не можа быць абавязкаў. У мяне не можа быць абмежаванняў. Я — птушка. Я — неба. Я — вецер.

Я смяялася.

***

Я плакала. Вакол былі раскіданы аскепкі люстэрка. Нянавісць да сябе забівала знутры. Я не магла больш глядзець сабе ў вочы.

Цацкі, малюнкі, дзіцячы посуд ды кніжкі — усё гэта займала занадта шмат прасторы ў кватэры. Займала надта шмат прасторы ў свядомасці. Забірала занадта шмат паветра. Я задыхалася.

Я — пустэча. Я — нішто. Легкадумная, нібы вецер. Цёмная, нібы начныя нябёсы. Бязвольная, нібы хвалі ракі, што падпарадкоўваюцца плыні. Здрадлівая, нібы зязюля, што падкідае сваё птушаня ў чужое гняздо.

— Даруй…

Маё птушаня стаяла на ганку дзіцячага прытулку. Заплаканае, натапыранае, недаверлівае. Усхліпвала ды пішчала «мама», тулячыся да мяне, спрабуючы патрапіць пад надзейнае крыло. Я паабяцала, што мама аднойчы абавязкова прыйдзе па яго. Але я — не яна.

Хоць я і любіла яго. Любіла абдымаць яго, выціраць са шчок слёзы, тулячы да сэрца, любіла цалаваць разбітыя каленкі. Любіла смяяцца разам з ім над ягонымі пракудамі ды дураслівымі пытаннямі. Любіла клапаціцца пра яго, любіла распавядаць казкі, каб яму лепш спалася ўночы. Любіла быць яму патрэбнай. Але я разумела, што побач са мной яму надта небяспечна.

Але я не маю права, не магу любіць. Не магу клапаціцца. Не магу быць патрэбнай. Бо я — пустэча. Я — нішто.

Я плакала, сціскаючы ў далоні востры аскепак люстэрка.

***

Я стаміўся. Я не мог і не хацеў зараз думаць пра працу. Жонцы паставілі дыягназ «бясплоднасць», але замест таго, каб ехаць да яе, я тырчу тут, у гэтай вар'ятні.

Заплаканая жанчына з забінтаванымі запясцямі смяялася мне ў твар, некалькі разоў падымалася, каб сысці, крычала: «Вы мяне не ўтрымаеце! Я — не яна!»

— Можна паразмаўляць з ёй? — мякка пацікавіўся я.

— Нельга! Яна памерла. Забіла сябе. Вены перарэзала, бачыш? Выпусці мяне, я хачу жыць.

— Чаму яна забіла сябе?

— Адкуль я ведаю? Я — не яна! Мо праз сына.

— А што з сынам?

Яна нахілілася, каб бліжэй разглядзець мой твар, звузіла вочы. Узнікла агіднае пачуццё, што зазіраюць унутр мяне. Быццам не я тут корпаюся ў чужой галаве, а ў маім розуме нехта капаецца. Літаральна. Я страсянуў галавой і паўтарыў:

— Што з сынам?

— Яна кінула яго. Аддала яго ў дзіцячы прытулак.

— Яна, не ты?

— Яна, не я, — паўтарыла жанчына і раптам зноў засмяялася. — Яна — не я. Я — не яна.

У галаве зазвінела ад яе смеху. Скроні раптам сціснула і перад вачыма стала цёмна…

Ачомаўшыся, я знайшоў сябе на ганку дзіцячага прытулку разам з жонкай. Малы, падобны да птушаняці, глядзеў на нас уважліва і падазрона. Любая прысела перад малым і ўзяла яго далонькі ў свае рукі.

— Прывітанне, хлопчык, — мякка сказала жонка.

— Ты — не яна, — шэптам заўважыў малы.

## Сяброўства з першага погляду

Вы калі-небудзь кахалі з першага погляду? Я — так. І не раз. А вось пасябраваць з першага погляду мне давялося толькі аднойчы. Гэта здарылася першым днём сакавіка ажно чатырнаццаць гадоў таму. Кожны мой дзень за выключэннем выходных быў бязлітасна знявечаны жахамі малодшай школы. Справа была зусім не ў тым, што я не любіла вучыцца. У першым класе пра гэта рана разважаць. Мне было нудна. Мае аднакласнікі, а тым больш аднакласніцы здаваліся мне вельмі абмежаванымі. Хлопчыкі толькі і ведалі, што гулялі ў забойствы ды абмяркоўвалі гэтыя самыя забойствы, ажыццёўленыя ў віртуальным сусвеце. Дзяўчынкі бавілі час з дарагімі лялькамі ды ўяўлялі сябе гераінямі серыялаў. Мне з імі было не цікава. Ці ім са мной?

Алінку перавялі з іншай школы, чамусьці ў апошняй чвэрці... Я дагэтуль не ведаю, што мною кіравала. Але толькі ўбачыўшы яе, адразу кінулася абдымацца, нібы да сябра, якога не бачыла ўжо гадоў сто. Можа, так і было?

Урэшце, было падобна да таго. Бо мы імгненна знайшлі агульную мову. Нават не так, мы яе вынайшлі. Сваю ўласную агульную мову, якую больш ніхто не ведаў і не разумеў. І пакуль нашы аднакласніцы гулялі ў «Санта-Барбару», мы вандравалі па акіянах, змагаліся з піратамі, чаравалі, лёталі на драконах і самі былі гэтымі драконамі. З неверагоднай лёгкасцю яна стварала новыя сусветы, я ж аздабляла іх падрабязнасцямі. І мы ніколі не маглі знайсці трапнага адказу на пытанне аднакласніц:

— Дзяўчаты, у што вы гуляеце?

Наўрад ці яны зразумелі б хоць адзін адказ, які мы маглі ім даць. Ясная справа, мы заўсёды заставаліся ўдваіх.

І калі нашы аднакласніцы нас проста не разумелі, дык наша настаўніца нас яшчэ і не любіла. Яна любіла толькі тых, чые бацькі рэгулярна падвозілі яе дахаты ды рабілі ёй каштоўныя падарункі. Яна любіла багатых. І не разумела, што багацце бывае розным.

Аднойчы яна загадала прынесці на занятак старую панчоху. З яе мы павінны былі зрабіць цацку-змейку, якая б надзявалася на руку і «размаўляла». Панчох у мяне не было. Затое былі калготкі. Праўда, адны. Але каму ў траўні патрэбны калготкі? Да наступнай восені дакладна набудуць новыя.

Аліна ж прынесла неверагоднай прыгажосці панчошкі, жоўценькія, тоненькія і вельмі прыемныя навобмацак. Капронавыя. Вядома, калі яна прышывала гузікі-вочы, пад няўмелымі дзіцячымі ручкамі капрон «папоўз», на ім з'явіліся непрыгожыя шыўкі.

— Адкуль ты ўзяла такія панчохі? — адразу ж пачала лаяцца настаўніца.

— Хросная прывезла з Італіі, — разгублена адказала сяброўка.

— У цябе што, няма іншых панчох? Знайшла, што прынесці. Я пастаўлю табе два. А на наступныя заняткі прынясеш тое, што я прасіла!

У гэты дзень я ўпершыню зведала, што такое слёзы лепшай сяброўкі. Ведаеце, калі «каханне з першага погляду» разбівае табе сэрца — гэта не так балюча. Яна плакала так горка і адчайна, што мне самой хацелася плакаць.

— Чаго ты равеш?! Трэба было прынесці нармальныя панчохі!

Настаўніца лаялася, казала вельмі абразлівыя і непрыемныя рэчы, называла яе недарэкай і дурніцай. Я ведала, што гэта хлусня і што гэта жудасна несправядліва. Мая сяброўка — самая разумная і таленавітая! Калі б настаўніца магла ўбачыць усе тыя сусветы, якія яна стварае, яна б ніколі не казала такіх жудасных рэчаў. Але яшчэ я ведала, што ёй бессэнсоўна што-небудзь даводзіць і тлумачыць.

— Гэта мае адзіныя панчохі. У мяне няма іншых… — праз слёзы выціснула Аля.

Аднак настаўніца нават слухаць яе не хацела, пляснула па парце дзённікам з намаляванай у ім двойкай і сышла да выдатніцы Машачкі.

— Гэта сапраўды былі мае адзіныя панчохі. Я іх нават не надзела ні разу. Мне было іх шкада. Яны ж такія прыгожыя… Былі.

Разумееце, яна прынесла з хаты адзіныя панчохі. Сапраўдныя, італьянскія, падораныя хроснай, самыя прыгожыя ў свеце панчохі. Панчохі, якія нават ні разу не надзела. Прынесла на заняткі па «працоўнай адукацыі». Таму што яна старалася, яна хацела быць выдатніцай, яна хацела рабіць усё правільна, яна хацела падабацца.

«Мала хто можа ацаніць твае высілкі, але менавіта такіх людзей варта лічыць сябрамі!» — скажа яна мне праз шмат гадоў. А тады я проста абдымала яе, спрабуючы абараніць ад гэтага надта патрабавальнага і несправядлівага сусвету. Я яшчэ не ведала, колькі разоў нам давядзецца вось так абараняць адна адну. Хоць, напэўна, здагадвалася. Затое я была ўпэўнена, што ў гэты самы момант наша «сяброўства з першага погляду» ператваралася ў нешта большае.

— У мяне засталася яшчэ адна «нага» ад калготак, — прашаптала я, супакойваючы.



## Алена Карасёва

**нарадзілася 12 мая 1982 года ў вёсцы Багушы Брагінскага раёна. У 2001 годзе скончыла Жлобінскае агра-ВПВ (бухгалтар), у 2013 — геаграфічны факультэт БДУ (геаэкалогія). Друкавалася ў часопісе «Вожык» і газеце «Наваполацк сёння». Любіць вандраваць па краіне, чытаць, спазнаваць новае і знаёміцца з цікавымі людзьмі.**

# Плыні жыццёвай стужка

***

Першыя промні з блакітных азёраў
Здымуць вільготную коўдру туману.
Думкі, як коні, — няўрымслівы нораў —
«Поплаў» пакінуць услед за каханым.

Ты, маё шчасце, усе пажаданні,
Мары, пачуцці ад сэрца ўпотай
Здолееў украсці. Цяпер развітанне
Крочыць нячутна і хрысціць самотай.

Першыя зоры мігцяць прахалодай.
Піша ў вершы мне сэрцам абраны:
«Ноччу азёры празрыстыя воды
Хутаюць спешна ў абдымкі туману…»

### Вусны

Маці кранулі ў шчокі ля школы
Вусны дзяўчынкі — крылы анёла.
Вусны дзявочыя — ружы пялёсткі,
На заляцанні адказваюць хлёстка...
Смак пацалунка зведаў адзіны.
Спелыя вішні — вусны жанчыны.

### Дзякуй Богу

*Прысвячаецца С.А. Лапцёнку*

Ізноў агідны замест малітвы
Гучыць усюды праклён,
Крый Божа свет, калі раптам знікнуць
Такія людзі, як ён.
Няхай ніколі не ўбачу болей
Пад сонцам роснай травы,
Абы заўсёды былі на свеце
Такія людзі, як вы.
А жыць стамлюся — прыйду нап'юся
З крыніц сцюдзёных, святых.
Бо дзякуй Богу, што ёсць на свеце
Такія людзі, як ты.

***

Ты лічыш, што жыццё — несправядлівае,
І дзеліць не пароўну, і бярэ?
Адзін пахлёбку сёрбае з крапівою,
Другі — кавалкі тлустыя жарэ.
Каго заўгодна вінаваціць можна:
Сябе ці Бога, гэтых альбо тых…
Жыццё — гульня без правілаў. Ды кожны
Гуляе ў ім па правілах сваіх…

***

Жыццё — кінастужкаю перад вачыма,
Апошнія кадры павольна мінаюць.
І што адбылося — змяніць немагчыма,
А з'явы наступныя сэнсу не маюць.
Сумны сцэнарый, сюжэт нецікавы,
Дрэнна акцёры выконваюць ролі…
Мне надакучыла… Будзьце ласкавы,
Дрэнь гэту выключце! Хопіць! Даволі!
Столькі гадоў перабегла за плечы —
Ды навучыцца, як жыць, не паспела…
Мо хоць са смерцю-сяброўкай сустрэчу
Я адыграю прыгожа і смела.

## Яшчарка

Побач подыхі чую халодныя
Ды баюся назад паглядзець,
І паветра такое смуроднае —
То мярзотная яшчарка-смерць.

Так павольна паўзе, набліжаецца,
Сапраўды, ёй спяшацца куды?
Яна ўсюды за мною цягаецца
Трыццаць тры з невялікім гады.

## Хутка

Хутка мяне паклічуць
Людзі — мае ўспаміны,
Чуеш, гадзіннік лічыць
Кожнага дня хвіліны.

Плыні жыццёвай стужка
Рвецца рукою лёсу.
Зрынуцца мары-птушкі,
Бы камяні з нябёсаў.

Не дажыву, не ўбачу,
Нават не дакахаю
Што набыла — не страчу,
З тым адыду, што маю.

***

Калі свіння з хлява аднойчы ўцекла,
Адчула ветру свежага павеў,
То зразумела, што жыла, бы ў пекле,
І здохла, зноў патрапіўшы ў хлеў.

Я не памру без сонечнага ззяння,
Без свежага паветра — пражыву…
Ды чым трываць такое існаванне,
То лепш на плаху ўскласці галаву!

***

Як на парозе маладосці
Ва ўзрост свядомы перайшла —
Шукаю згубленае штосьці,
Але ж дагэтуль не знайшла.
І ўрэшце, стомлена пытаю
Душу збалелую сваю:
«Усё жыццё сябе шукаю!
Дык, можа, я не існую?..»

***

Усё змяняецца ў жыцці —
Крыўдую, выбачаю…
Ці крылы радасці знайсці,
Ці зведаць смак адчаю?
Была бяда — бяда сплыла,
І шчасце ў мінулым.
Як шмат пабачыла я зла,
Як шмат дабра адчула!
Жыццё — яно, як паглядзець —
То сум, а то прыгоды.
Усё мінае. Толькі смерць
Аднойчы. Назаўсёды.

Марыя Маляўка

**нарадзілася 4 сакавіка ў 1990 годзе ў Кіеве, большую частку жыцця пражыла ў Беларусі. Скончыла факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Працуе ў журналістыцы. Піша прозу ў розных стылях з ухілам у прыгодніцка-магічныя сюжэты. Евангельская хрысціянка. Аматарка Толкіена, Льюіса і дзікага агратурызму. Лічыць, што пісьменнік мае дзівосны дар — называць тое, што не мае іменаў.**



## Адшукаць Мову

Знадворку дзьмуў вецер. Святло ў цесную каморку трапляла толькі праз цьмянае акенца ў скосе даху. Пасля змяркання яго зусім не стала. Відаць, неба цалкам зацягнула хмарамі.

Першая асенняя непагадзь сціскала сэрца: яна нагадвала, што час непазбежна сыходзіць. Ужо не менш як канец верасня. А значыць, гімназісты сядзяць за партамі і напоўніцу рыпяць пёркамі на паперы. Яны, гімназісты, бываюць тоўстыя і чырванатварыя, ім мамкі пасылаюць з дому пірагі ды вэнджаную грудзінку. Ён такіх бачыў каля будынка гімназіі; бачыў і дзяўчыну з кошыкам, з выгляду пакаёўку, якая не інакш як прыйшла з перадачай да нейкага сынка заможных бацькоў. Хоць, відавочна, такія не ўсе; можна быць і хударлявым гімназістам. Аднак гэтая думка слаба суцяшала: у свет навукі яго ўсё роўна не пускалі.

Ён пачаў мерзнуць і падцягнуў худыя вострыя калені да падбароддзя. Кажушка, якім накрыўся, не хапала на ногі. Кажушок быў хоць і стары, але з добрай аўчыны — грэў няблага і ўзімку. А вось ногі варта б накрыць якой дзяружкай, але ён пакуль не расстараўся здабыць.

Сюды ён прыйшоў пешшу з Полацка. Галодны, босы, але з надзеяй — вучыцца ў Віцебску ў гімназіі. Аднак вучняў у лахманах у гімназію не бяруць. Колькі дзён яшчэ ён сноўдаўся каля будынка з апантанай надзеяй, а потым пабрыў шукаць сабе пражытак. На вуліцы пазнаёміўся з мясцовымі хлопцамі. Хлопцы былі добрыя, не тое што смаркачы і крыўднікі з павятовага вучылішча; паважліва слухалі хлапчука, які хацеў вучыцца, і выклікаліся дапамагчы з прыстанкам, а адзін, Багуш Война, нават абяцаў здабыць яму школьную форму. Мала верагоднасці, але ж прыемна.

Гэта была трэцяя ноч у пакойчыку над карчмой. Раней, пакуль было цёпла, ён начаваў пры беразе, пад мастамі. І толькі калі стала дзьмуць з ракі, пастукаўся ў карчму, пра якую казаў Багуш: «Схадзі спытай пра пакой». Пан Юдэль, немалады габрэй без сям'і, згадзіўся пасяліць хлопца ў каморцы на гарышчы, сказаўшы, што будзе даручаць такую-сякую працу. Аднак на два дні пра яго амаль забыліся, толькі кухарка шкадавала і прыносіла тое-сёе з ежы — рэшткі са стала.

«Хлопчык імкнецца да ведаў», — казалі пра яго яшчэ зусім малога. Толькі сэнс гэтага слова — «Веды» — для яго так і застаўся не да канца зразумелым. Яно бачылася яму напісаным з вялікай літары, і заўсёды ва ўяўленні маляваўся высокі чырвоны будынак з вялікай колькасцю людзей. Людзі снуюць туды-сюды, чытаюць разгорнутыя скруткі і звяртаюцца адзін да аднаго з нейкай важнай патрэбы. А ў скрутках, думаў ён, невядомыя знакі, якіх нельга прачытаць простаму чалавеку. І хоць у школе ў Полацку ён вывучаў пісьмо, Закон Божы, гісторыю, геаграфію, маляванне, гэта было яшчэ не тое. Сапраўдныя веды ёсць у людзей магутных, вядомых, у цэрквах, палацах, кнігазборах.

На вялікай імшы рымскага абраду быў святар, які чытаў на лаціне. Ён меў высокую завостраную мітру і ўладу над тэкстам Пісання, бо валодаў мовай старажытнай, святой, мовай хрысціянаў даўніны. Хлопец заміраў, слухаючы. Гэтая мова зачароўвала плаўным працяглым гучаннем, што так нагадвала яго ўласнае імя. Непакоіла адчуванне, што ўсё вядомае яму на мовах, якія чуюцца сярод людзей: беларускай, рускай, польскай, — толькі цьмяны злепак з ведаў, захаваных на мовах найстарэйшых і найпершых. Калі б ён іх ведаў, то адкрыў бы шмат таямніц.

Ён заплюшчваў вочы і пачынаў разумець.

**In nomine Patris, et Filii, et Spiritus Sancti.**

**Gratia Domini…**

**Gloriainexelsis Deo…**

**Christe, eleison…**[1]

Гэта было нескладана — здагадацца па інтанацыі, параўнаць са словамі чутай раней уніяцкай літургіі.

А яшчэ была грэчаская мова, на якой калісьці пісаў апостал Павел. І гэтая мова была замкнёная ў куфары злоснага прэфекта Полацкага вучылішча. Той адразу прыкмеціў вучня, які мог прачытаць усё, што траплялася на вочы, і аднойчы заспеў яго на месцы злачынства: хлопец пралез за настаўніцкую кафедру і зазірнуў у разгорнуты том. У прэфекта страшэнна зледзянеў голас.

— Адыдзі ад кнігі!

А ён толькі і паспеў убачыць літары, здалёк падобныя да рускіх. Мабыць, прачытаць было б нескладана.

Але прэфект трымаў мову пад замком, не падпускаў вучня да яе. Відаць, крыўдаваў, што гэтаму ўбогаму хлапчуку мовы так лёгка даюцца, што такія спагадныя яны да яго — самі клічуць. А яму, чалавеку адукаванаму, прэфекту школы, даводзіцца сядзець са слоўнікам, бо праз усе намаганні не ўдалося ні адной мовай авалодаць як след — ні з сучасных, ні са старажытных. Вучні ведалі: прэфект у навуцы зорак з неба не хапаў. Цытаваў урыўкі з Пісання няўклюдна, па складах.

І таму ён прымушаў хлопца сядзець над лічбамі і караў жорстка за кожную няўдачу. «Навучыся спачатку грамаце элементарнай, а не па кніжках чужых лазь! Не для твайго розуму!»

Тады яму было шкада сябе, а зараз — мову. Як яна там была, пакінутая? Мове нельга надоўга заставацца ў адзіноце. Яна ж загіне. І тады ўжо ніхто не даведаецца, што яна значыць і як яе чытаць.

А ў гімназіі навучалі мовам. Калі б ён ведаў хоць дзве-тры і мог так, дзеля забавы, пераапранаць свет у іншыя словы!

---

[1] У імя Айца і Сына, і Духа Святога
Ласка Пана…
Хвала на вышынях Богу
Хрысце, змілуйся… (лац.)

Мацней праймаў холад. Заснуць было немагчыма. Ён устаў і пайшоў, мацаючы сцяну — адзіную, каля якой можна было выпрастацца ў поўны рост.

Пальцы ўперліся ў выступ — цагляны комін, умураваны ў сцяну. Цэгла была цёплая.

Відаць, у будынку запалілі печы. Ён ссунуўся на падлогу, спінай да коміна, і загарнуўся ў кажушок. Дрыжыкі суняліся, цела супакойвалася ў цяпле.

На акенца быццам набегла светлая пляма. Сёння павінна быць поўня. Дзве мінулыя ночы былі цьмяныя. Калі хмары разыдуцца, стане вельмі светла. Ён чакаў і ўжо амаль пачаў засынаць.

Круглы месяц выплыў з-за хмар і кінуў прамень святла акурат на комін і хлопца пад ім. Кожную цагліну можна было разгледзець. На адной, гладкай, унізе быў адціснуты надпіс «Liozno».

Потым ён заўважыў шафу, на якую раней не звярнуў увагі. Гаспадар загадаў яе не чапаць, але не надта строга. Кінуліся ў вочы інкрустацыі на дзверцах, пераплеценыя, схопленыя бронзавымі дужкамі. Сэрца забілася мацней — у такіх шафах не захоўваюць рызманы.

Ключ сядзеў нямоцна. Баўтануўся ў адтуліне. Пасыпалася драўляная труха. Ён пацягнуў за вечка і адчыніў адну створку. На паліцах залаціліся пераплёты. Адчыніў другую. Кнігі. Поўная шафа кніг.

З цяжкасцю ён выцягнуў адзін том са шчыльнага шэрагу. На вокладцы — надпіс у два радкі з невядомых знакаў. Кніга вельмі старая. Пахне зляжалай скурай.

Ён адгарнуў вокладку. Шчыльныя радкі гнуткіх літар з патоўшчанымі вертыкальнымі рыскамі. З выгляду здаюцца перавернутымі. Габрэйская мова! Вядома, у габрэяў радок пачынаецца з правага боку. Мова яшчэ больш старажытная, чым грэчаская ці лаціна, мова, на якой напісаны кнігі Старога Запавету…

Праз шмат гадоў, калі яму, ужо вядомаму навукоўцу, прынясуць рукапіс з кніжнае барахолкі, ён гэтак жа адразу пазнае іншую старажытную мову Усходу, мову святароў, і на ёй будзе чытаць іншыя Веды. І тады ён пацвердзіць здагадку прэфекта: «Так… Мовы самі знаходзяць мяне». Ён іх выбраннік, адораны іх любоўю.

Незнаёмыя літары ззялі ў святле месяца. Ён гладзіў пальцамі шчыльную жоўтую паперу. Было відаць кожную шурпацінку. Прытуліўшы кнігу да грудзей, сеў на ранейшае месца ля коміна. Цяпер ён будзе бясконца ўглядацца ў гэтыя знакі, шукаць іх падабенства, даваць ім назвы, знаходзіць словы — сходныя паслядоўнасці знакаў. Ён знойдзе імя Госпада і пазнае яго. Ён папросіць пана Юдэля дазволіць паслухаць чытанне Талмуда. Не, не дазволіць. Тады ён схаваецца і падслухае. Ён будзе запамінаць пачутае і даведаецца, у якой кнізе апавядаецца пра стварэнне свету, і запомніць знакі на яе вокладцы. Потым ён будзе чытаць па памяці славянскі тэкст кніг Майсеевых і параўноўваць з тэкстам гэтай кнігі.

**1 В начале сотвори Бог небо и землю.**

**2 Земля же бе невидима и неустроена, и тма верху бездны, и Дух Божий ношашеся верху воды.**

**3 Иречe Бог: да будет свет. И бысть свет…**

Доўгія-доўгія гадзіны асалоды ў гэтым пакоі сам-насам з Мовай. Багуш, верны сябар, дастане яму свечкі. Толькі трэба хавацца ад гаспадара. Але ён будзе вельмі-вельмі асцярожным. Ніхто не ўбачыць яго з кнігай.

Ён правёў далонёй па лбе. Лоб быў мокры. Вусны багавейна дакрануліся да радкоў, як да іконы. Адчуў, як на вочы набягаюць слёзы, і сумеўся. Ён не плакаў ні ад болю, ні ад суму, ні ад голаду. Але гэта было іншае — Мова не пакінула яго ў адзіноце, прыйшла да яго ў бедную каморку.

***

Габрэі абарочваліся яму ўслед. На тварах ён чытаў здзіўленне, цікавасць, недавер, нават страх — кнігі, якія іх народ старанна беражэ ад чужых вачэй, прачытаў малаадукаваны мясцовы падлетак. Чуліся абрыўкі размоў.

— Каэтан… Хлопец з Полацка… Чытае Талмуд… Ніхто не вучыў, не!..

— У Маскве будзе вучыцца, —з веданнем справы паведамляў суседзям пан Юдэль.

## Чужая партыя

Каця трохі спазнялася на спеўку. Калі яна забегла ў памяшканне, Ларыса, дырыжор, ужо стаяла перад хорам. Гэта была высокая, зграбная жанчына гадоў трыццаці пяці, хударлявая, гнуткая, энергічная, з бездакорна прамой постаццю, быццам праз ўсё яе цела праходзіў металічны стрыжань. У Ларысы ўладны характар, але, відаць, такі і трэба, каб кіраваць хорам. Каця заўсёды здзіўлялася, як ёй удаецца чуць кожнае адценне супольнага гучання іх галасоў.

Яна накіравалася да свайго ўтульнага месца на першай лаўцы альтоў. На хаду паправіла падол салатавай з прынтам спаднічкі. Водгукі летняга вечара яшчэ дрыжалі ў галаве: над праспектам сёння стаяў няспынны гуд ад машын, а святло здавалася трохі цьмяным. Але такое бывае пасля спякотнага дня.

Ларыса раптам павярнула да яе галаву і кіўнула на прывітанне.

— Здароў, Карыся. Сядай.

Насамрэч Каця добра не расчула, як яе назвала дырыжор, але ў любым выпадку гэта не было падобна на любую з формаў яе імені. Яшчэ больш дзіўным было тое, што яна кіўнула на месца сярод сапрана, на верхняй лаўцы, паміж дзвюх дзяўчат. Тут Каці здалося, што нешта шчоўкнула ў яе мозгу, як бывала ў дзяцінстве ад моцнага гуку, і ўсё навокал стала выглядаць нерэальным. Яна разгубілася. Трэба было нешта сказаць, але яна пакутліва не магла зразумець, што. Між тым Ларыса глядзела на яе загадным позіркам. Каця павярнулася і на ватных нагах пайшла да сапрана. Цяпер яна адчула, што вечар сапраўды душны.

Нейкім чынам у яе ў руках апынулася папка. Яе суседкай была пухленькая Вестачка, гнуткі і звонкі «сапранчык». Кажуць, чым больш поўны чалавек, тым танчэйшы ў яго голас. Глупства, канечне, але… Ёлкі, пры чым тут гэта? Што адбываецца?..

Раптам, калі яны ўжо скончылі распявацца, Каця зразумела, што Вестачка нават не спыталася, чаму яна тут. І ўвогуле, ва ўсіх быў выгляд такі, як быццам усё ідзе як звычайна. У яе закружылася галава; у гэты момант Ларыса назвала песню, якую трэба адкрыць, але яна не разабрала словы. Аўтаматычна пачала гартаць папку, зазіраючы да суседзяў, каб знайсці патрэбную старонку.

Песню яны амаль што ведалі, хоць, канечне, партыя сапрана была Каці незнаёмая.

Жаночая палова хору запела. Каця цягнула за іншымі. Ноты неяк запознена выскоквалі перад вачыма, як слупы з-за павароту. Ёй здавалася, што яна разганяецца і імчыць наперад, як бывала ў сне: яна едзе на машыне, хоць ведае, што правоў у яе няма, і ўвогуле за рулём ніколі не сядзела. Аднак усё роўна неяк едзе, нават нясецца, толькі пранізвае думка, што зараз спатрэбіцца нейкі прыём, з якім яна не зможа справіцца. Тут яна ўбачыла, як небяспечна ноты набліжаюцца да верхняй мяжы радка. Вось яны ўжо ў другой актаве, а тут яна нічога вышэй за «мі-бемоль» не зможа ўзяць. «Ты, канечне, можаш скочыць і вышэй, — казала Ларыса. — Але гэта дорага абыдзецца. Парвеш звязкі». Як спець, каб ніхто не пачуў фальш? І што адчуваеш, калі рвуцца звязкі?

Вось і «мі». Каця паспрабавала спець фальцэтам, спадзеючыся, што за іншымі будзе не чуваць, але выйшаў поўны гук, як быццам нота сама прымушала сябе пець. І ў той жа момант яна адчула ў горле халодны сталёвы нож, які стаіць старчма і ўсё працінае. Мільгануў жах: «Парвала звязкі». Ад болю з вачэй пырснулі слёзы, хоць і боль быў нейкі нерэальны, як і ўсё навокал, інакш яна б проста страціла прытомнасць. Гледзячы на нотны радок, яна пахаладзела: далей былі і «фа», і «соль», яны раптам затрымцелі над радком, махаючы дробнымі металічнымі крыльцамі, кожнае — быццам лязо. Яны пагражалі ўскочыць ёй у горла і парэзаць там усё на дробныя шматкі.

Каця хацела закрычаць, але зразумела, што рот у яе і так адкрыты, і замест крыку яна пяе. У гэты момант наверх з агульнага спеву вырваліся тэнары і ўзляцелі пад дах. Яна любіла тэнары і іх паднябеснае гучанне, але зараз яны набылі нейкую пагрозлівую моц, як галасы манахаў, якія пяюць падчас спалення ерэтыка на вогнішчы. Яна з цяжкасцю падняла вочы ад папкі і ўбачыла, што хор стаіць на высокім памосце, а навокал бездань і штосьці палаючае, чырвонае, а наперадзе мірыяды чорных ценяў, якія рухаюцца бязладна, аднак усе вочы павернутыя да іх, усе слухаюць. Адзенне Ларысы палала, валасы слаліся за спінай, а вочы свяціліся амаль д'ябальскім полымем. Вышыня пад імі была страшэнная, памост вузкі, вось-вось крайнія не ўтрымаюцца і пачнуць падаць у агонь. Каця адчувала, што трымае іх разам толькі песня, вось яна скончыцца — і ўсе пасыплюцца ў бездань.

Раптам ззаду штосьці шчоўкнула, так спакойна і рэальна, што як быццам пераключыла мозг у адваротным кірунку. Яна паспела азірнуцца і заўважыла здзіўлены круглы твар Аркадзя з басоў, які стаяў, шчыльна самкнуўшы вусны, і згінаў-разгінаў у карашку папку. Тут усё пачало знікаць у цемры.

***

Каця прачнулася. Было гадзіны чатыры ночы. Духата ў пакоі так і не паменшала. Скамечаная прасціна валялася на краі ложка. Ад слабага ветрыку стукнула адчыненая фортка.

Яна ляжала некалькі хвілін, а потым паспрабавала падумаць: «Ну і прысніцца ж такое!» — але пажартаваць са сну не атрымлівалася. Уражанне было занадта яскравым, круцілася брыдкай аскомай на зубах.

Увечары Каця збіралася на спеўку. З паліцы шафы глядзела адзінокая салатавая спаднічка з прынтам.

— Мама, дзе мае малінавыя шорты?

— У машыне. Брудныя. Ты ў іх на шашлыкі ездзіла.

— А сарафан?

— Таксама. Што, няма чаго апрануць? Вунь спадніца вісіць.

— Ай, надакучыла.

— Ну то трэба было раней думаць. А так бруднае ўсё.

У кватэры стаяла ліпкая духацень. Горла пяршыла, спяваць не хацелася. А Вестачка зноў будзе дражніць альтоў, што яны нічога не робяць, цягнуць тры ноты.

— Мама, ты ніколі не зразумееш усіх пакутаў харыста.

— А што там за пакуты? Спявай сваю партыю і не звяртай ні на каго ўвагі.

— Супер! Ты проста спасцігла дзэн!

Каця ўзяла сумку і трохі памарудзіла каля дзвярэй.

— Ладна. Прабач. Проста сон дрэнны прысніўся.

«Окей. Нядрэнная ідэя. Будзем спяваць сваю мілую родненькую партыю».



Наталля Голубева

**нарадзілася 26 чэрвеня 1992 года ў Мінску. Скончыла сярэднюю школу з эстэтычным ухілам. Займалася ў аматарскім тэатры ТЮТ. Але ўвесь час марыла паспрабаваць сябе ў літаратуры. Скончыла факультэт міжкультурных камунікацый Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Працуе рэпетытарам англійскай і беларускай моў.**

## Лета з Язэпаўнай

Заканамернасць у сваім жыцці я заўважыў даўно. Яшчэ ў шэсць гадоў. Надыходзіць лета — усіх дзяцей сплаўляюць да бабуль. Вось ужо чацвёртыя канікулы я праводжу ў бабулі ў Мядзеле. Бацькі адвозілі мяне на машыне разам з велізарнымі торбамі адзення, цацак, кніг, ежы, нібы збіраліся пакінуць мяне тут на год, хоць я ведаў, што гэта ненадоўга. У ліпені мы паедзем усёй сям'ёй на мора.

Калі праязджалі горад, я пазіраў праз акно машыны, заўважаючы, ці шмат дзяцей бегае па вуліцах, з кім можна пагуляць. Раптам я заўважыў Мішу. Мы летась пазнаёміліся з ім. Нармальны хлопец, толькі размаўляе вельмі ціха. Памятаю, што падумаў пра яго: «Дзіўны нейкі». Тады яшчэ не ведаў, што ягоная бабуля — легендарная Адэліна Язэпаўна, больш вядомая як «індычка».

Не сказаць, каб мянушка была абразлівай — яна ёй пасавала. Адэліна Язэпаўна была жанчынай даволі буйных формаў. Адставіўшы азадак, яна перасоўвала сваё мажное цела рыўкамі, ад чаго доўгія спадніцы ўсхвалявана дрыжэлі ў такт яе крокам. Кароткія курчавыя рыжыя ва-

ласы абрамлялі яе галаву. Па твары раскінуліся карычневыя плямы, як на перапяліным яйку, а буйныя радзімкі нагадвалі вочкі на бульбіне. Другое падбароддзе плаўна перацякала ў шыю і матлялася, як у індычкі. Павекі маленькімі мяшочкамі навісалі над вачыма, што перашкаджала іх расплюшчыць да канца, таму позірк старой быў заўсёды сонны. Калі доўга на яе глядзець, абавязкова пазяхнеш. Да таго ж, у старой быў дрэнны зрок. На дужках вялікіх старых акуляраў, якія пакрыліся жоўта-зялёнай коркай па краях, вісеў ланцужок з карычневымі пацеркамі.

Што рэдка для старых, у Адэліны Язэпаўны быў цудоўны слых, таму яна пазнавала людзей па голасе. Страшна падумаць, што было б, калі б яна добра бачыла: ад яе немагчыма было б уцячы.

На шчасце, яна была нешматслоўнай. Не таму, што ў яе нізкі з нейкім скрыпам голас (хоць часткова і таму), а таму, што ў яе вельмі непрыемна пахла з рота. Верагодна, такі «водар» сыходзіў ад яе зубоў, якія больш нагадвалі стары перакошаны плот, пакрыты мохам.

Усім сваім выглядам Адэліна Язэпаўна давала зразумець, што яна птушка высокага палёту. Я рэдка бачыў яе з іншымі бабулямі.

Пад'ехаўшы да зялёнага драўлянага доміка, я павітаўся са сваім часовым, але не новым прытулкам. Усё было знаёма: калодзеж злева, градкі справа, а за хатай куратнік, хлеў ды сад са старымі яблынямі. Калі машына спынілася, бабуля з'явілася каля брамкі. Шчымлівая радасць бліснула ў яе вачах. Вядома, чакала нас, як штогод. Яе сівыя валасы былі схаваны пад святочнай блакітнай з жоўтымі кветачкамі хусткай. Яркая сукенка, падобная да халата, надавала яе постаці ўтульнасці. Зверху быў накінуты стары жаўтаваты фартух.

— Здароў, бабуля! — кінуўся я да яе.

— Вітаю, унучак! — хударлявыя рукі прытулілі мяне да мяккага жывата, і я адчуў знаёмы пах, які зыходзіў ад бабулінага фартуха.

— Ты яечню згатавала? — падняў я ўверх галаў.

— О, ты здагадлівы! Хацела сюрпрыз зрабіць.

— Не! Я не ведаў! Проста ад цябе смачна пахне.

Усе засмяяліся.

— Хадзіце ў дом. Чаго стаіцё? — клікнула бацькоў старая.

— Так! Яечня ж стыне!

Мы селі за стол. Бабуля даставала з печы міскі са сваёй адмысловай яечняй. Такую без печы не згатуеш. З задавальненнем паеўшы, бацькі расказвалі навіны, абмяркоўвалі планы, пыталі, чым дапамагчы па гаспадарцы, а я лічыў рамонкі на шпалерах.

Пасля дарослыя заняліся сваімі справамі, а я, атрымаўшы дазвол, узяў вядро, рыдлёўку і формачкі, каб пагуляць на пляжы. Мінаючы плошчу, я заўважыў знаёмую чырвоную панаму. Гэта Міша сядзеў на лаве са сваёй «індычкай». Яна расплылася, займаючы дзве трэці месца. На тым, што засталося ад лавы, туліўся Міша. Ён задуменна глядзеў у бок возера. Адэліна Язэпаўна чытала газету. Раптам яна булькнула:

— Міша, прачытай мне вунь гэты артыкул, — і тыцнула пальцам у тонкі аркуш.

Ад нечаканасці хлопчык разгублена забегаў вачыма па шэрых слупках з маленькіх літар, на якіх засталася ўмяціна ад рэзкага дотыку. Міша з заўважным напружаннем вымаўляў словы, цяжка выдыхаючы пасля кожнага прачытанага сказа.

«Пыхціць, Мішка-паравоз!» — смяяўся я сам сабе. — «Я б не вытрымаў жыццё з такой бабуляй».

— Добра. Хопіць, — спыніла яго «індычка».

— Добры дзень, Адэліна Язэпаўна, — павітаўся я.

Старая падняла на мяне свой сонны позірк:

— Добры дзень, Жэня.

— Я б хацеў з Мішам пагуляць. На пляжы, — сказаў я, паказваючы свае цацкі, але потым успомніў, што яна ўсё роўна не бачыць. — У мяне ўсё ёсць для гульні.

«Індычка» вытрымала паўзу. У гэтае імгненне Міша глядзеў на яе не як на бабулю, а як на сфінкса.

— Добра. Толькі мне трэба перасесці бліжэй да возера.

— Дзякуй вам, Адэліна Язэпаўна, — сказаў Міша.

— Мы пойдзем наперадзе, каб хутчэй знайсці вам лаву.

Старая кіўнула, ад чаго заматлялася яе другое падбародддзе.

— Ты заўсёды з ёй на «вы»? — спытаў я Мішу.

— Так, — ціха адказаў ён.

— Дзіўна…

Пагуляць асабліва не атрымалася. Мы толькі зрабілі першы паверх замка і пачалі выкопваць сутарэнні, як пачулася знаёмае квахтанне:

— Міша, дадому!

— Да мы ж нават не пабудаваліся! — збянтэжыўся я. — Яна што, знарок?! Як ты з ёю жывеш?!

— Цішэй… — шапнуў Міша. — Пажыў бы сам — зразумеў бы.

— Час падвячорка! — працягвала старая.

— Ого! — засмяяўся я. — Дык у вас там проста лагер дома! Усё па раскладзе!

— Ага, — змрочна азваўся хлопчык.

— А вось я б ніколі не здолеў ужыцца з тваёй «індычкай»!

— Не так гучна, яна ж чуе, — ціха прагаварыў Міша. — Я пайду.

Малы ўтаропіўся сумным позіркам у наш замак з пяску, але ногі яго панеслі ў іншым напрамку, да бабулі-«індычкі». Мне нават стала шкада яго. Пакіну замак так. Калі ніхто не разбурыць, даробім яго заўтра.

— Да сустрэчы, — сказаў я, падняўшыся на ногі.

— Ага, — кіўнуў хлопчык.

Калі я вярнуўся дамоў, дарослыя корпаліся ў агародзе, а я вырашыў раскласці свае рэчы па месцах. Наверсе сумкі ляжала мая любімая цацка, з якой я сплю. Я паклаў яе на канапку каля акна, што стаяла насупраць тэлевізара. Звычайна ўвечары тут сядзела бабуля і глядзела па панядзелках сваю ўлюбёную тэлеперадачу «Чакай мяне» (ці, як яна казала, «Жджы мяне»).

Хутка надышоў вечар. Поўня, нібы нябесны ліхтар, асвятляла наваколле. Ужо ў ложку я глядзеў на цені ад галін дрэваў, якія падалі на шторы, і разбіраў, каго яны мне нагадваюць: жырафа, аленя, цмока. Заўтра ж нядзеля. Я цешыў сябе тым, што бабуля зробіць блінцы ў печы на сняданак.

Але раніцай усё пайшло не так. Я прачнуўся ад гідкага паху смажанай пячонкі, які пранізваў наскрозь усё паветра ў пакоі. Здавалася, ёй прапахлі шпалеры, на якіх рамонкі пераўтварыліся ў наготкі.

Бабуля ж ведае, што мне нават глядзець на пячонку брыдка! Вымушаны хутка падняцца, я адчыніў акно і высунуўся наперад, але так смярдзела нават больш. Калі павярнуў галаву ўлева, заўважыў адчыненыя аканіцы на кухні.

«Ну вось яшчэ!» — гнеўна падумаў я і рашуча накіраваўся да бабулі, але на кухні мяне чакаў сюрпрыз, яшчэ большы за смажаную пячонку: каля пліты стаяла старая «індычка». У мяне ажно ногі падкасіліся, і я ўхапіўся за дзвярную ручку, каб не ўпасці. Адэліна Язэпаўна сонна глянула ў мой бок:

— Добрай раніцы, Міша. Памыў рукі?

Я паматаў галавой.

— Памыйся і прыходзь снедаць, — сказала яна і працягнула смажыць пячонку.

Праціраючы вочы, я пайшоў назад у пакой. Толькі цяпер я заўважыў, што знаходжуся не ў доме бабулі. Шпалеры сапраўды былі бэжавага колеру ў аранжавыя кветкі. Гэта не ад пячонкі пацямнелі бабуліны рамонкі. На сценах вісела шмат паліц з кнігамі. Мэбля была дубовая. На падлозе ляжаў барвовы дыван з мудрагелістымі ўзорамі. Акно было адчынена. Я наблізіўся да яго і заўважыў насупраць школу мастацтваў.

— Дык я ж у Мішы дома! Міша, ты дзе? — забегаў я па пакоі, вышукваючы яго пад ложкам, за шафай, за дзвярыма, але яго нідзе не было.

Разумеючы, што я ў гасцях, хуценька апрануўся, знайшоў ванны пакой і памыўся там.

— Добрай раніцы, Адэліна Язэпаўна.

— Добрай. Сядай.

Я паслухаўся. Неўзабаве перада мной з'явілася талерка з ячнай кашай і смажанай пячонкай. Скрывіўшыся, я выкалупваў кашу з таго боку, дзе яе не краналіся гідкія карычневыя кавалкі смярдзючай брыдоты.

— А дзе Міша?

Старая ўзняла галаву і спакойна адказала:

— Міша тут, і ён будзе есці пячонку.

«Што? — падумаў сам сабе я. — У яе ўжо і са слыхам праблемы?»

— Еш. Яна карысная. У ёй шмат жалеза.

«Во бабуля, корміць дзіця жалезам! Сама-та, відаць, шмат ясі. Куленепрабівальная, нібы робат. Ёй нават прыкрыкнуць не трэба, каб пагражаць. Ну, і што мне рабіць з гэтай металічнай пячонкай?»

Рашэнне з'явілася з нечаканага боку.

— Еш з хлебам, — сказала «індычка», падсоўваючы талерку з нарэзаным чорным хлебам.

Скарыстаўшы тое, што старая дрэнна бачыць, я ўзяў скібку і пераклаў кавалкі пячонкі на яе. Усё роўна не адрозніць: для яе ўсё цёмнае. У выніку яна сапраўды не заўважыла.

— А зараз, пакуль я мыю посуд, адпачні крыху і рыхтуйся іграць на скрыпцы. Першыя гадзіны пасля абуджэння самыя эфектыўныя для мазгавой дзейнасці.

Мне сапраўды трэба было актывізаваць свае сілы, каб знайсці Мішу. Куды ён дзеўся, гэты малы бандзюк? Ціхая свіння глыбока рые. Ну, я табе дам… Але спачатку трэба выбрацца адсюль. Я накіраваўся на кухню:

— Адэліна Язэпаўна, я дадому пайду.

«Індычка», як заўсёды, спачатку апусціла голаў, а потым падняла, спрабуючы разгледзець мяне праз велізарныя акуляры:

— Міша, дадому паедзеш праз месяц. Бацькі працуюць, і няма каму даглядаць цябе.

— Да не, я да бабулі. І ўвогуле я не Міша, а Жэня.

Старая выключыла ваду ў кране і наблізілася да мяне.

— Ты, Міша, пойдзеш займацца музыкай. Кропка, — сказала яна, і кропля яе сліны ўпала мне на нос. — Як шкада, што школа мастацтваў не працуе ўлетку, — потым дадала яна, ужо мыючы посуд.

«Ну, не! Нагі маёй тут больш не будзе. Ні правай, ні левай».

Аднак у калідоры я сутыкнуўся з непрадказальным развіццём маіх незапланаваных прыгод: уваходныя дзверы былі зачынены. Ключоў паблізу не было відаць.

«Пастка!»

За спінай пачуўся шоргат. Наперадзе зачыненыя дзверы, па баках сцены, а ззаду — Адэліна Язэпаўна.

«Куды падзецца?»

Іншага выйсця не было — толькі сустрэцца твар у твар са сваім жахам. «Індычка» спынілася, незадаволена паглядзела на мяне (а можа і з іншай якой эмоцыяй, бо ў яе заўсёды быў такі выраз твару) і пакрочыла ў Мішаў пакой:

— Не прымушай мяне чакаць, — грымнула адтуль.

«Можа, калі я “зайграю” на скрыпцы, яна ў рэшце рэшт зразумее, што я не Міша!»

Калі я зайшоў у пакой, Адэліна Язэпаўна стаяла побач з незасланым ложкам. Яна не вымавіла ні слова, а паказала сваім сухім пальцам у яго бок. Я зразумеў.

Калі ложак прыняў належны выгляд, старая апусціла на яго свой цяжкі азадак, пасля кінула позірк у левы кут. Я азірнуўся: там стаяў футарал са скрыпкай. Побач размяшчаўся рабочы стол, на якім ляжала тэчка з надпісам «Ноты». Я глянуў на «індычку», яна сцвярджальна заматляла сваім другім падбароддзем. Я дастаў твор, які ляжаў зверху. Старая ў прадчуванні атрымання музычнай асалоды заплюшчыла вочы.

«Сон будзе працягвацца нядоўга», — падумаў я, але памыліўся.

Дагэтуль я ніколі не трымаў скрыпку, але незразумелым чынам пальцы самастойна прыціскалі патрэбныя струны, а рука ўпэўнена выводзіла смыком вычварныя фігуры. Я чуў прыемную мелодыю і не верыў ані вушам, ані вачам. Не можа быць, каб тое, што адбываецца цяпер, праўда!

— Дастаткова, — спыніла мяне «індычка». — Вельмі добра.

Здаецца, упершыню я ўбачыў на яе твары падабенства ўсмешкі.

— Хочаш пернік?

«Ага. Можа, у цябе і пернікі нейкія незвычайныя, з жалезам ці з пластыкам».

— Лепш дайце на вуліцы пагуляць.

— Добра, прагуляемся.

Цяпер ужо я сядзеў у чырвонай панаме, як падасінавік каля старога дрэва, пазіраючы ў бок пляжа, адкуль даносіліся дзіцячыя галасы. Толькі і чакаў, каб мяне хто хутчэй сарваў, быццам той грыб.

Пасля быў звычайны Мішаў рэжым: абед, гадзіна сну, падвячорак, чытанне кніг па летняй праграме, паход у краму, вячэра, калыханка, сон.

Лежачы на цвёрдым матрацы і ўтаропіўшыся ў столь, я спрабаваў асэнсаваць сённяшні дзень і не мог уявіць, што заўтра можа паўтарыцца тое ж самае. І паслязаўтра. І пасля-пасля…

Усё, Мішка, вяртайся на сваё месца. Я зразумеў, што такое жыць з «індычкай». Я хачу да сваёй, да нармальнай бабулі. Толькі б прачнуцца ў сябе дома…

Як жа так, Міша?..

Маргарыта Латышкевіч



**нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. Закончыла філфак, магістратуру і аспірантуру БДУ. Паэтэса, празаік, літаратуразнаўца, фалькларыст. Аўтар кніжкі вершаў «Пульс навальніц» (2012), якую можна знайсці ў гарадскіх бібліятэках. Піша шмат — і ў розных кірунках. Літаратар-многастаночнік. Больш, чым пісаць, любіць толькі маляваць. Мае неадольную слабасць да катоў і кошак, добрых кніг ды гарбаты з бергамотам.**

## Люстра сну

***

Людзі спяць.
Хто дыхае ціха, а хто — храпіць,
Так што шклянкі на кухні
Дробна дрыжаць ва ўнісон.
Падбяру з падлогі
Нябачную месяца ніць
І па ёй, як па дроце,
Бязважка ўвайду ў нечы сон.

Людзі сняць.
Хто зарплату, а хто і сваіх дзяцей.
Некаторыя нават у сненні
Бухгалтарскі зводзяць улік.
Горай тым, хто без кроплі святла
Самотна крочыць праз цень
Альбо тым, хто падае вечна —
І не можа выціснуць крык.

Людзі спяць.
Быццам пацеркі,
Коцяцца мроі ўначы.
Месяц лапай кашэчай
Чапляе іх на кіпцюры.
Месяц ловіць кашмары,
Каб людзі свой мелі спачын
Хоць у сне.
Хаця б трошачкі.
Хоць да зары.

## Цмокі

Там, у цёмнае пушчы,
Дзе дрэвы стаяць, як слупы,
Пераплёўшы карэнне
І сукаватае вецце,
Секачы сярод моху
Вышукваюць жалуды
І трывожна ўбіраюць
Праз ноздры
Духмяністы вецер.

Бусел ходзіць
Па беразе топкім за асакой.
Падаюць галасы
Ап'янёныя маем рапухі.
Неба быццам засыпана
Срэбнаю рыбнай луской,
Толькі хмары
З-над лесу
Нясуць навальніцу
Пад брухам.

У галінах, і ў лісці,
І ў меднай чаканцы кары
Бачу звівы стагоддзяў —
І звівы вялізарных целаў.
Пэўна, цмокі лясныя,
Схаваўшыся, спяць да пары,
Спавіваючы кольцамі
Станы разложыстых дрэваў.

А па зморшчках кары
Пішуць мудрасць сваю мурашы:
«Мы выходзім з зямлі,
І ўсе некалі будзем — зямля».
Цмокі спяць, і ім сніцца,
Як побач спяшаюцца
Жыць
Секачы,
І буслы,
Мурашы,
І рапухі,
І я.

## Варожба

Горкі палын
Набяры ў прыпол,
Пахкія руты лісткі.
Камнем цяжкім
Упадзе сакол
За зайцам
У мох сухі.

Зёлкі спалі,
а попел — развей
На скрыжаванні пустым.
Вецер закруціць,
Закружыць,
Але
Вернецца
Верны
Палын.

Сонца на досвітку грае.
Ляціць
Кліч
Напярэймы журбе
Рута й палын
Не будуць
Маніць —
Любага
Вернуць табе.

***

Ах, як многа жыве
Незямной тугі
Ў цёмных звівах
Асенняй вады!
Завірыць бы ёй,
узняцца,
успеніцца б —
ды
закаваная ў берагі.

Аплятае трывала
сухі трыснёг,
сушыць горыччу
змрочны палын.
А зямлю колкі іней
Ужо аблёг,
Цяжка давіць
Нябесная стынь.
Як тужліва,
са скаргаю
шэпча рака,
як уздыхае яна
ў паўсне…

Зачарпну вады,
намачыўшы рукаў, —
як магу,
суцешу яе.

## Кола дзён

Белы снег
На зямлю
Ляжа.
«Я цябе напаю», —
Скажа.
Белы свет,
Быццам снег,
Чысты,
Прарасце
Ў парастках
Лісця.

Снег растане,
Паўстане —
Квецень.
Яблык у садзе,
Як сонца,
Свеціць.
Сонца голаў закружыць —
Аж млосна.

Падбірае
паданцы
восень.
Іней сцелецца,
срэбрам —
звяжа.
…Белы снег
на зямлю
ляжа.

## Прадчуванне

Неба падае
Проста ў лужыны,
І дрыжаць аскялёпкі блакіту.
За гарбатаю,
Трохі прастуджаным,
Добра марыцца
Аб нязбытным.

І размова, такая звыклая,
Уваходзіць
У свае каляіны.
І здаецца:
Пра нешта забыла я
Ці — драбочак сябе
Згубіла.

Нешта ў трубах
Варушыцца і бурчыць,
Падае свой
Звярыны зык.
Быццам хоча нас
Нечаму навучыць
Гарадскі замучаны
Дамавік.

А на кухні,
Ведаеш, пад акном,
Дзе і цёмны,
І ўтульны кут,
Скразнячок малы
Свой наладзіў дом
І, здаецца,
Прыжыўся тут.

Кроплі з грукатам дробным
Стукаюць у шкло,
Разбіваючы люстра сну.
Запалю ва ўсёй кватэры
Святло
І ўпушчу да сябе
Вясну.

***

А на вейках дрыжыць пытанне —
Не зададзенае яшчэ.
Не адлюбленыя каханні
Аніяк
Не разбіць ушчэнт.

Назаўжды у адно спавіты
Непадзеленыя раней
Эпізоды з пражытых жыццяў
У крыжаванцы
З праяў і дзей.

Неадступны і непазбежны,
Крочыць толькі наперад час.
На такія пытанні, зрэшты,
Толькі ён і дае
адказ.

***

Скажуць:
«Гэтак было і будзе.
Будзь — як людзі.
Не ўзірайся ў зорныя высі.
Прыстасуйся.
Змірыся».

Скажуць:
«Рабі,
Як усе.
Так, як прынята.
Прамаўчы!
Хай перакіпяць
Словы
За вуснамі сцятымі.

Памагчы?
Вось табе —
Ніткі з іголкай.
Забіся ў куток
І зашый сабе рот
На золку».

Скажуць
Яшчэ і яшчэ.
А ты вушы рукамі прыкрыеш.
А ты словы чужыя з вачэй
Пад дажджамі вясновымі змыеш.

Ведай: слова часам
Можа сагрэць,
Як неастылыя вуглі
Ў прыску.

Захавай,
зберажы
сябе
тут,
каля самага сэрца
блізка.

Кірыл Стаселька



**нарадзіўся 25 ліпеня 1990 года ў Барысаве. Скончыў факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ і магістратуру Інстытута падрыхтоўкі навуковых кадраў пры НАНБ. Вучыцца ў аспірантуры Акадэміі навук, з'яўляецца дырэктарам «Агенцтва інфармацыйных тэхналогій «Буцэфал». У 2015 годзе выдаў дэбютны зборнік «Дзіцячы маніфест», які быў намінаваны на шэраг літаратурных прэмій.**

## Кніга ў вянку з церняў

Бедныя раёны Фларэнцыі ніколі не адрозніваліся асаблівай цішынёй, а ў гэты дзень да агульнага гулу галасоў, крыкаў і віску далучыўся яшчэ адзін. У сям'і Марка Мальябекі і Гіневры Бальдарыета з'явіўся сын, якога назвалі Антоніа. Адбылася гэта знамянальная падзея, знамянальная не толькі для сям'і Мальябекі, у XVII стагоддзі за год да 1634 года і на наступны дзень пасля 19 кастрычніка. Справядліва будзе сказаць, што менавіта з Антоніа Мальябекі пачынаецца гісторыя кнігі, аб якой у далейшым пойдзе гаворка, але зараз, 20 кастрычніка 1633 года, нават да яе з'яўлення яшчэ далёка.

Бесклапотныя гады хлопчыка доўжыліся нядоўга. Як гэта нярэдка бывала ў бедных сем'ях, Антоніа ўжо з дзяцінства прыстроілі працаваць. Мабыць, менавіта з крамы бакалейшчыка пачалося знаёмства хлопчыка з кнігай. Яго штодзённыя абавязкі не вылучаліся разнастайнасцю, любому іншаму яны маглі падацца самым сумным заняткам на свеце, але толькі не яму. Кожны дзень, працуючы ў краме, ён беражліва запакоўваў тавар для чарговага кліента. Для гэтай мэты Антоніа звычайна браў старонку з кнігі ці нават рэшткі старых бухгалтарскіх запісаў, якія ляжалі стосам недалёка ад прылаўка. Старанна разгладзіўшы старонку, хлопчык браў пучок кропу і ўкладваў яго па цэнтры. Затым плаўна здзяйсняў некалькі няхітрых рухаў, і тавар быў гатовы выправіцца ў рукі чарговага пакупніка або пасыльнага. Для хлопчыка гэта было чымсьці накшталт рытуалу, сакральнасць якога заключалася не ў саміх рухах, і нават не ў тым, што трэба было спакаваць. Сакральнасць заключалася ў самой абгортцы.

Маленькі памочнік бакалейшчыка не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, і наўрад ці яму — сыну небагатых бацькоў — пашчасціла б гэтаму калі-небудзь навучыцца. Але непісьменнасць не перашкаджала хлопчыку атрымліваць задавальненне ад чарнільных завіткоў. А можа, нават наадварот: загадкавасць незразумелых знакаў яшчэ больш прыцягвала ўвагу дапытлівага хлопца.

Кожную новую старонку ён быццам смакаваў усім сваім нутром, на імгненне зліваючыся з ёй у адно цэлае. Вочы прагна беглі па радках, нос шчасліва ўдыхаў водар паперы і чарніла, а маленькія ручкі дрыгатліва абмацвалі лісток, адчуваючы кожны выгіб або шурпатасць. Нешта, адначасова мілае і інтымнае, было ў гэтым рытуале. Быццам юнак упершыню смакуе цуд першай сустрэчы з жаночым целам.

Але пачуццё захаплення і задавальнення мяшалася з нейкай горыччу. Хлопчыку так не хацелася расставацца з лапікам паперы, так не хацелася аддаваць яго ў чужыя рукі. Страх, што аб'ект яго сакраманту можа быць кім-небудзь апаганены, прыводзіў да роспачы. Антоніа ён здаваўся жывым, і сумна было нават уявіць, што яго могуць выкінуць ці, што яшчэ горш, кінуць у камін, каб развесці агонь. Каб яго воля, Антоніа забіраў бы кожную старонку сабе і аберагаў ад любой пагрозы: няхай то вада, агонь ці грубыя рукі, здольныя апаганіць крохкую рэліквію.

Магчыма, яго мог чакаць лёс непісьменнага вар'ята, што нюхае і мацае старыя паперкі з незразумелымі крамзолямі, калі б аднойчы хлопчыка не заўважыў гандляр кнігамі, які працаваў непадалёк. Той быў гэтак уражаны трапяткім стаўленнем юнага памочніка бакалейшчыка да рознага кшталту паперак, якія цяпер выкарыстоўваліся ў якасці пакавальнага матэрыялу, што неўзабаве ўзяў хлопчыка да сябе ў вучні. Рыжабароды гандляр даўно адчуў у непісьменным Антоніа нешта дзіўнае, нейкую здольнасць, нейкую таямніцу, што радніць яго з кнігамі. І пацвярджэнне гэтага пачуцця не прымусіла сябе доўга чакаць.

Хлопчык усмоктваў як губка ўсё, чаму вучыў яго гандляр, і ўжо зусім хутка навучыўся чытаць, разумець сімвалы, якія яшчэ нядаўна здаваліся чымсьці загадкавым. Аднойчы гандляр узяўся паказваць Антоніа літары і тлумачыць іх значэнне, і той адразу ж здолеў усё паўтарыць, як быццам вучыўся грамаце ўжо даўно. Здзіўлены і ўзрушаны, гандляр кінуўся да адной з паліц і дастаў Біблію. Вялікую важкую кнігу ён паклаў перад хлопчыкам, і той пачаў бегла чытаць тэст, пераскокваючы ад радка да радка. З кожным днём здзіўленне і захапленне хлопчыкам расло. Хутка высветлілася, што ён памятае ўсё, што прачытаў. Антоніа мог у момант успомніць размяшчэнне любой з тысяч кніг з дакладнасцю да пазіцыі на канкрэтнай паліцы. Амаль за месяц ён вывучыў не толькі ўсе назвы кніг, але і назвы раздзелаў кожнай з іх. Для кнігагандлёўца гэты юны памочнік бакалейшчыка апынуўся не толькі каштоўным «набыткам» для кніжнай крамы, але, у першую чаргу, асабістай радасцю.

Гандляра зацікавіла як доўга і як шмат з прачытанага можа захоўвацца ў гэтай маленькай галаве, і праз некаторы час ён вырашыў праверыць хлопчыка, спытаўшы яго пра першы прачытаны ўрывак з Бібліі. Малы з дакладнасцю ўсё аднавіў. Настаўнік не мог стрымаць захапленне і кожнаму распавядаў пра незвычайныя здольнасці свайго вучня. Многія пачалі прыходзіць у краму толькі для таго, каб асабіста пераканацца ў тым, што здавалася такім незвычайным, нават цудоўным. Прыходзілі як прафаны, так і вучоныя мужы горада. Не было чалавека, якога б Антоніа пакінуў абыякавым. Асабліва дзіўна выглядала гульня, калі хлопчыку задавалі тое ці іншае пытанне, а ён імгненна даваў на яго адказ і нават называў кнігу, нумар старонкі і абзац, дзе знаходзіўся ўрывак.

З павелічэннем патоку наведвальнікаў павялічвалася і кліентура самой крамы. Справы ішлі ўсё лепш і лепш. Гандляр не мог і чакаць такога эфекту, калі рабіў прапанову гэтаму юнаму дараванню.

Немалую ролю ў развіцці Антоніа адыграла знаёмства з выдатным бібліятэкарам Мучыа Эрміні. Той бясплатна навучаў яго мовам: латыні, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай. Акрамя таго, Мучыа шчодра дзяліўся з Мальябекі асаблівасцямі і таямніцамі свайго рамяства, даючы яму мноства парадаў па працы з кнігамі. А той, як і раней, усё гэтаксама старанна і трапятліва

ўбіраў у сябе новыя веды і навыкі. І ўжо праз некалькі гадоў, дзякуючы незвычайным здольнасцям у спалучэнні са спрыяльнымі ўмовамі іх развіцця, Антоніа Мальябекі можна было смела назваць адным з самых адукаваных людзей Фларэнцыі.

Слава пра Антоніа распаўсюджвалася так хутка і так далёка, што неўзабаве дайшла да Казіма III — герцага Тасканскага з роду Медычы — які прызначыў яго сваім бібліятэкарам, а з часам і захавальнікам Лаўрэнцыяны, найбагацейшай фларэнційскай бібліятэкі. Герцаг плаціў васемсот ліўраў на год, але Антоніа быў гатовы працаваць і бясплатна, бо для яго адкрылася самая сапраўдная скарбніца. Там ён праводзіў увесь час і не мог наталіцца, чытаючы з раніцы да вечара. Не выязджаючы за межы горада, Антоніа здабываў каталогі найбуйнейшых бібліятэк свету, сістэматызуючы іх згодна з распрацаванай ім сістэмай. Праз некаторы час для яго ўжо не засталося невядомых кніг ці аўтараў. Ён мог нават па памяці згадаць уладальніка той ці іншай рэдкай кнігі.

Але для Антоніа Мальябекіі гэтага было мала. У сваім доме ён збіраў асабістую бібліятэку з кніг і рукапісаў. Кніг было так шмат, што яны займалі ўсю прастору, у якой неўзабаве стала досыць складана перасоўвацца нават самаму худому чалавеку. Здавалася, дом мог існаваць без сцен, бо стосы кніг цалкам паўтаралі ўсе ягоныя контуры ды распасціраліся да самай столі. Яны знаходзіліся на першым і другім паверсе, на падлозе, яны былі ўсюды. Праз некаторы час іх было так шмат, што нават гаспадару дома даводзілася дзяліць свой ложак з кнігамі.

Фігура незвычайнага бібліятэкара не магла застацца незаўважанай, слава пра яго хутка распаўсюджвалася далёка за межы Фларэнцыі. Да Антоніа прыязджалі з усёй Еўропы: хто пагутарыць з вялікім бібліятэкарам, а хто проста паглядзець на дзівоснага кніжніка. Многіх абстаноўка дома і лад жыцця гаспадара прыводзілі ў жах. Тут было цесна і душна, і здавалася, што гаспадарыць тут не чалавек, а кнігі. Не ў меншай ступені наведвальнікаў дзівіў неахайны, у запэцканай вопратцы ўладальнік бібліятэкі.

Гэта і нядзіўна, бо чытанне было галоўным заняткам Мальябекі. Падоўгу ён не мыўся, не пераапранаўся, не стрыгся, вельмі сціпла і амаль мімаходзь еў штосьці накшталт хлеба з яйкам ды зусім не спаў. Рукавы кашуль, якія ён заношваў да лахманоў, былі запэцканыя тытунём. Недагледжаныя валасы падалі на твар. Будзь магчымасць, ён ніколі б не еў, не піў, не мыўся, нікуды не выходзіў, каб нішто не адцягвала яго ад любімага занятку. Антоніа гняла неабходнасць адкласці кнігу, як гэта бывае, калі на некаторы час даводзіцца расстацца з родным дзіцём. Таму нават есці і мыцца ён прызвычаіўся з кнігай у руках.

Жыві ён хоць дзвесце гадоў, распарадак Антоніа зусім не змяніўся б. Мабыць, справа была нават не ў часе — кнігі ён не чытаў, але літаральна праглынаў. Проста чым больш ён аддаваў часу кнігам, тым больш яны яго паглыналі. Ён быў падобны да азартнага гульца, які пастаянна прайграе і бярэ ў пазыку. Кнігі якраз і былі яго заганнай жарсцю, а час — грашыма. Як гэта здараецца ў падобных выпадках, цяжка было разабраць, ці з'яўляліся аб'ектам жарсці самі кнігі ці ўсё ж веды, якія змяшчалі старонкі. Хутчэй за ўсё — апошняе, інакш складана патлумачыць далейшыя падзеі, што прывялі да стварэння таямнічага тома.

Аднойчы позна ноччу ў дзверы яго сховішча пагрукалі. Антоніа быў гэтак паглынуты чарговым рукапісам, што покліч з вонкавага свету, магчыма, так бы і застаўся без адказу, калі б зусім выпадкова яго ўвага не была адцягнутая на долі секунды.

Пераканаўшыся, што яму не падалося, Антоніа спусціўся ўніз ды адчыніў дзверы. На парозе стаяў хлопчык гадоў трынаццаці, яго звалі Сімоне. Самому Антоніа Мальябекі на той час мінула ўжо шэсцьдзясят шэсць.

Бойкі хлопчык, не чакаючы, выпаліў даўно падрыхтаваны тэкст пра тое, хто ён і чаго хоча. Сімоне прасіў Антоніа прыняць яго ў вучні. Старога бібліятэкара заспелі знянацку, але, нягледзячы на гэта, ён паспрабаваў добразычліва растлумачыць усю немагчымасць задавальнення падобнай просьбы. Перашкодамі былі юны ўзрост першага ды старэчы другога, крайняя занятасць, адсутнасць навыку настаўніка і многае іншае. Акрамя гэтага, Антоніа, які і без таго не жадаў адцягвацца на такія дробязі як сон і ўжыванне ежы, баяўся абцяжарваць сябе яшчэ чым-небудзь, што магло адарваць яго ад важнага і любімага занятку. Але Сімоне быў непахісны і ўсё ж такі здолеў пераканаць старога бібліятэкара надаваць яму хоць бы па гадзіне на месяц.

Так Сімоне пачаў наведваць дом Антоніа Мальябекі кожную другую суботу месяца. Як і бібліятэкар, хлопчык паходзіў з небагатай сям'і, а таму яму ўжо з дзяцінства прыйшлося працаваць пасыльным. З гэтай прычыны іх сустрэчы праходзілі не раней за дзесяць гадзін вечара. Сімоне быў не такім здольным, як Антоніа ў яго гады, але браў хутчэй упартасцю. Ён з'яўляўся поўнай супрацьлегласцю вялікага бібліятэкара: амбітны, часам дзёрзкі, настойлівы да непрыстойнасці. Мальябекі бачыў, вучоба давалася хлопчыку вельмі складана, але, нягледзячы на гэта, ён не адступаў, што выклікала яшчэ большую павагу ў старога настаўніка.

Часам стары параўноўваў сябе ў дзяцінстве з Сімоне, згадваючы іх сустрэчы. Антоніа схіляўся да меркавання, што малады вучань, мусіць, заслугоўвае большай павагі, чым ён сам. У юнацтве, калі ён яшчэ працаваў у краме кнігагандлёўца, многія ім захапляліся. Але яму ўсё давалася значна лягчэй, бо ў яго былі нейкія прыроджаныя здольнасці, якімі яго надзяліў Бог. Сімоне ж даводзілася прыкладаць у тры, ці нават у дзясяткі разоў больш намаганняў, чым яму самому. Калі б гэты хлопчык валодаў тым жа дарам, што і ён, Сімоне абавязкова стаў бы самым адукаваным з усіх людзей, што жылі калі-небудзь.

Сімоне прыходзіў усё часцей. Праз некаторы час Антоніа ўсвядоміў, што іх заняткі праходзяць ужо па два, а то і па тры разы на тыдзень, прычым часам размовы іх доўжыліся ўсю ноч. Але, раскусіўшы маленькую хітрасць, Антоніа толькі ўсміхнуўся і нічога не сказаў хлопчыку. Ён стаў яму амаль як сын, якога стары з пяшчотаю і клопатам вучыў усяму, што ведаў сам.

Навучыўшыся чытаць, Сімоне падзяліўся з настаўнікам марай сабраць уласную бібліятэку. Маленькі пасыльны, нават калі б адкладваў усё заробленае, і за год не здолеў бы назапасіць хоць на адну кнігу. Таму Мальябекі час ад часу дарыў вучню кнігі, за якія той быў шчыра ўдзячны. А крыху пазней, калі хлопец падрос, стары ўладкаваў яго на службу ў бібліятэку, каб ніштo не адцягвала Сімоне ад вучобы.

Раўняцца памяццю з настаўнікам Сімоне не мог, але, дзякуючы стараннай працы, ужо да дзевятнаццаці гадоў вывучыўся чытаць і пісаць на некалькіх мовах. Акрамя таго, ён мог пацягацца эрудыцыяй з многімі вучонымі мужамі горада. Веды настаўніка і ўседлівасць вучня прыносілі дзіўныя плады. Часам Сімоне станавіўся цалкам нелюдзімым і закрытым, паглыбляючыся на некалькі дзён, а то і тыдняў ва ўласныя разважанні, старанна нешта запісваючы. У гэтыя перыяды ён не наведваў нават свайго любімага настаўніка, які настолькі прывык да зносін з Сімоне, што ўсё цяжэй пераносіў доўгую разлуку з ім.

Аўтар пра твор

*Фігура Антоніа Мальябекі захапіла мяне даўно. Інфармацыя, веды — каштоўны рэсурс і сёння, у эпоху Інтэрнэта, не кажучы пра перыяд, калі такіх сродкаў камунікацыі не існавала. Чалавек з падобнымі здольнасцямі — гэта вялікая сіла. А што, калі такія людзі аб'ядналоцца ды стануць яшчэ большай сілай?.. Разважанні далі штуршок да напісання апавядання. Але гэта датычыцца сюжэтнай лініі. А вось расповед пра сутнасны бок апавядання я перакладаю з сябе на чытача.*

Амбітны фантазёр Сімоне гадамі выношваў планы, марыў пра штосьці большае, чым простае паглынанне кнігі за кнігай. Ён не жадаў, як геніяльны Антоніа, гібець кніжным чарвяком да старасці, маючы магчымасць дасягнуць большага. Яму хацелася чагосьці маштабнага, усёабдымнага, вялікаснага. Так, калі ў думках і на паперы сфарміраваліся больш ці менш выразныя планы, ён вырашыў падзяліцца імі са сваім сябрам і настаўнікам. Нягледзячы на даўняе сяброўства і блізкую сувязь, яму доўга было боязна, як успрыме яго ідэі Антоніа. Але, усё ж сабраўшыся з духам, аднойчы хлопец наважыўся раскрыць плён уласных спадзяванняў і памкненняў.

Малады Сімоне прапанаваў сабраць ды сістэматызаваць усе існуючыя веды на зямлі. Але ў адзіночку — ды і нават удваіх — гэтая задача выглядала недасяжнай і нават абсурднай. Падобная ідэя пацешыла Антоніа Мальябекі. Хто, як не ён, мог у поўнай меры разумець усю фантастычнасць падобнай задумы! Ён яшчэ здолеў бы зразумець, калі б падобнае прапанаваў нейкі дурань, што прэтэндуе на ўсёведанне, але Сімоне— яго вучань, якога Антоніа лічыў адным з самых разважных і разумных сярод гараджан! Аднак малады бібліятэкар супрацьпаставіў пярэчанням і сумневам старога настаўніка выразны план.

Сімоне мроіў пра нешта накшталт ордэна кніжнікаў, якія б сталі скрыптарамі ды захавальнікамі ўсіх ведаў чалавецтва, у тым ліку і самых таемных. Ён марыў пра магутны ордэн, улада якога была б заснавана на ведах. Сябе ж ён бачыў у якасці аднаго з яго правадыроў, гэткага егіпецкага жраца. Але пра гэтыя мроі ў размовах са сціплым і цнатлівым Антоніа ён, вядома, не згадваў.

Паводле задумкі Сімоне, першымі рэкрутамі ў ордэн павінны былі стаць самыя таленавітыя і разумныя сярод маладых фларэнційцаў, якія у далейшым павінны былі б выправіцца ў доўгія падарожжы ва ўсе канцы зямлі, каб знайсці ды запомніць усе магчымыя тэксты, перш за ўсё старажытныя. У Мальябекі падобная ідэя, нягледзячы на ўсе аргументы і падрабязныя планы, усё яшчэ не без падстаў выклікала сумневы. Было ў ёй нешта юнацкае, наіўнае і такое недасяжнае. Стары не верыў, што з гэтага што-небудзь магло атрымацца, ды і ўзрост быў ужо не той. Аднак, не жадаючы засмучаць палкую душу, якая ўжо паспела ўзнесціся на крылах натхнення, Антоніа пагадзіўся ўдзельнічаць у гэтым сумнеўным мерапрыемстве.

Заручыўшыся згодаю настаўніка, Сімоне адразу ж разгарнуў актыўную дзейнасць, натхнёна займаючыся адборам магчымых членаў будучага ордэна. Задача была не з простых. У адзіночку яму давялося праэкзаменаваць сотні маладых людзей. У першую чаргу ён адбіраў тых, хто валодаў найлепшай памяццю. Ужо праз месяц перад Антоніа паўстаў тузін юнакоў, да якіх Сімоне ужо даўно і грунтоўна прыглядаўся. Але, вядома ж, не ўсім з іх у далейшым выпадала стаць часткай яго грандыёзнага плана.

Сістэма адбору юнакоў праходзіла ў некалькі этапаў — Сімоне надзвычай грунтоўна падыходзіў да працэсу стварэння ордэна і адбору яго членаў. Таму праз два гады навучання з трынаццаці навабранцаў засталося толькі восем, якія здолелі дасягнуць найбольш значных вынікаў. Цяпер перад імі заставалася яшчэ тры гады навучання з Антоніа, пасля чаго адсеялася яшчэ чацвёра юнакоў.

Рафаэль, Бенісіа, Умберта і Сільвіа апынуліся ў ліку тых, на каго ўскладаліся асноўныя надзеі. Кожны з іх быў па-свойму ўнікальны. Так, Рафаэль адразу ж запамінаў усё прачытанае, убачанае і пачутае. Бенісіа дасягнуў такой хуткасці чытання, што ўжо неўзабаве здолеў бы пацягацца з самім Антоніа Мальябекі. Умберта чытаў крыху павольней, чым Бенісіа, і запамінаў трошкі горш, чым Рафаэль, але адрозніваўся асабліва гнуткім розумам і кемлівасцю. Сільвіа ж мог пахваліцца усімі пералічанымі вартасцямі. Ён, як ніхто іншы, быў падобны на Мальябекі, не толькі ў здольнасцях, але таксама ў звычках і манерах.

За пяць гадоў, якія яны правялі разам, вучні і настаўнікі так зрадніліся, што ўжо лічылі адзін аднаго не проста сябрамі, але сям'ёй. Для Сімоне гэтыя юнакі сталі братамі, для Антоніа — дзецьмі, нароўні з першым вучнем. Як і ў любой сям'і, тут таксама не абыходзілася без сварак і крыўдаў. Іх характары моцна адрозніваліся. Адзін быў надзвычай запальчывым, часам агрэсіўным, другі — спакойным і нават меланхалічным, трэці — хітрым і ашчадным, чацвёрты — баязлівым і нерашучым, але, нягледзячы на ўсю непадобнасць, яны любілі адзін аднаго. Здаралася, што і Сімоне — старэйшы з іх — як маленькае дзіця, раўнаваў старога сябра да маладых падапечных. Але падобнае доўжылася не доўга, бо ён быў досыць адыходлівы і велікадушны.

Канчатковая мэта навучання не з'яўлялася сакрэтам для Рафаэля, Бенісіа, Умберта і Сільвіа. Сімоне, аднойчы распавёўшы ім пра ідэі ордэна, паступова ўводзіў будучых яго членаў у свае далейшыя планы. За апошнія гады ён здолеў распрацаваць статут ордэна, яго знакі і атрыбуты.

Маладыя члены ордэна меліся выправіцца ў падарожжа так далёка, як толькі было магчыма, у пошуках старажытнай мудрасці. Кожнаму на гэта адводзілася каля пяці гадоў. Вярнуўшыся, сабраныя тэксты трэба было ўзнавіць па памяці, адначасова сістэматызуючы і запісваючы іх згодна з спецыяльна распрацаванай сістэмай, якая б дазволіла цэлыя кнігі змяшчаць у некалькіх абзацах. Распрацоўка падобнай сістэмы была ўскладзена на найстарэйшага і найразумнейшага з членаў наваяўленага ордэна. Калі б задумка ўдалася, стала б магчымым зашыфраваць усе тэксты чалавецтва ў адну кнігу. У такім выпадку ордэн здолеў бы, з аднаго боку, сабраць разам усе веды чалавецтва, пазбягаючы пры гэтым простага перапісвання тэкстаў. З другога боку, што яшчэ больш важна, таемныя веды можна было б зберагчы ад старонніх вачэй.

Ці меліся дзе-небудзь гэтыя самыя «таемныя веды», пра якія мроілі стваральнікі ордэна, ці ўдасца распрацаваць унікальную тэхніку шыфравання і ці скончыцца наогул, у канчатковым выніку, поспехам іх задума, ніхто не мог сказаць дакладна. Было ў гэтай ідэі многа недаказанасці, абсурду ды юначай наіўнасці, якую калісьці ўлавіў Мальябекі і якая з гадамі перастала заўважацца. На паверхні засталіся адно амбіцыі, заснаваныя, аднак, на надзеях і летуценнях.

Між тым у той перыяд перспектывы ордэна здаваліся досыць светлымі, а яго члены адчувалі сябе першапраходцамі і нават, у пэўным сэнсе, героямі.

Праз год, праведзены ў практычных зборах, Сімоне склікаў усіх членаў ордэна ў доме Мальябекі, які ўжо даўно ператварыўся для юнакоў у святыню. Некалькі свечак, здольных у імгненне знішчыць гэтае месца і працу ўсяго жыцця яго ўладальніка, асвятлялі сход, надаючы яму належную загадкавасць. Ужо заўтра яны выпраўляліся ў дарогу. Гэта была іх апошняя сустрэча перад доўгім расстаннем.

Найперш Сімоне зачытаў статут ордэна. Затым зноў агучыў план далейшых дзеянняў яго членаў. Рафаэлю мелася адправіцца на поўдзень, Бенісіа на паўднёвы ўсход, Умберта на паўночны ўсход, Сільвіа на поўнач, Сімоне на захад. Так, прасоўваючыся ўсё далей і далей, ордэн, нібыта імперыя, што заваёўвае новыя тэрыторыі, захопліваў бы ўсё болей і болей ведаў. Мальябекі ж належала за гэтыя гады завяршыць распрацоўку таемнай мовы будучай кнігі.

Як і ў кожнага ордэна, у іх былі і свае атрыбуты. Сімоне падрыхтаваў і ўрачыста ўручыў кожнаму члену ордэна, у тым ліку Антоніа, залатыя пярсцёнкі з гравіроўкай імя яго ўладальніка і сімвалам ордэна — кнігай, заключанай ў цярновы вянок. Атрымаўшы ордэнскі знак, кожны

прамаўляў клятву вернасці агульнай справе. Па завяршэнні ўрачыстай часткі сходу, усе шасцёра перайшлі да больш ці менш нязмушаных зносін, праглынулі сціплую вячэру ды трохі віна. Чым бліжэй падыходзіла развітанне, тым мацней нарастала ў кожным трывога. Нават віно не дапамагала расслабіцца. Здавалася, выпі яны хоць па бутэльцы кожны, ап'яненне так і не наступіла б.

Яны ўсклалі на сябе адказную місію. Хваляванне і страх перад невядомым з кожнай секундай усё глыбей пускалі карані. Ніхто, нават іх геніяльны настаўнік Мальябекі, не мог дакладна ведаць, што будзе там, у самым канцы, ніхто не мог сказаць, што будзе з кожным з іх праз два гады, год і нават месяц. Не было тут сэрца, у якім бы асцярога няўдалага зыходу не пусціла парасткі, але ніхто не адважваўся агучыць свае сумневы.

Справа была не ў тым, што яны чагосьці ці кагосьці баяліся. Хутчэй разумелі, што нават адно неасцярожнае слова здольнае разбурыць веру кожнага ў агульную місію, якая так зблізіла іх. Бо менавіта місія зрабіла іх і ордэнам кніжнікаў, і сям'ёй. Разбурыць веру, хай і хісткую, значыла страціць сям'ю, сяброў, страціць гэтых людзей, што сталі адзін для аднаго самым дарагім у жыцці. У любым выпадку, ім трэба было расстацца. Але гэта было не страшна, бо пасля вяртання яны стануць яшчэ бліжэй. Толькі прадчуванне будучай сустрэчы здольна было іх крыху падбадзёрыць.

Больш іншых трывога раздзірала Сімоне. Ён спрабаваў удзельнічаць у абмеркаваннях, паводзіць сябе нязмушана, але падоўгу, захоплены думкамі, нібыта застываў, гледзячы ў адну кропку. Магчыма, думаў ён, некаторыя не вернуцца, загінуўшы ў чужых краях. Некаторыя ж, расчараваўшыся альбо паддаўшыся спакусам, пакінуць ордэн. Зыход задуманага, як яму падавалася, цалкам ляжаў на ягоных плячах. Ён, можа, быў бы і рады адмовіцца ад прадпрыемства, але адступаць было занадта позна.

Ніхто, вядома, яго не асудзіў бы. Члены ордэна хутчэй з удзячнасцю і палёгкай прынялі б яго рашэнне застацца дома, у Фларэнцыі. Але Сімоне нёс адказнасць, перш за ўсё, перад самім сабой, перад сваім рашэннем. Ён ведаў дакладна: зрабі ён так — і больш не здолеў бы жыць у гармоніі з сабой. Паспрабаваць і прайграць было ў любым выпадку лепш, чым адмовіцца, не паспрабаваўшы, пад ціскам уласнай няўпэўненасці і нерашучасці.

Гэтай ноччу ніхто не мог пахваліцца моцным сном. А Антоніа Мальябекі і зусім прасядзеў да раніцы, не заплюшчваючы вачэй. Ён не быў, як звычайна, паглынуты чытаннем або роздумам пра кнігі. Яго душу напоўнілі настальгія і горыч, прадчуванне будучай адзіноты. Магчыма, яго вучні не хацелі заўважаць, што ён занадта стары для падобных задумак, але Антоніа быў упэўнены, што больш ніколі не ўбачыць сваіх хлопчыкаў. Таму ён смакаваў апошнія імгненні, пакуль вучні яшчэ знаходзіліся побач з ім.

Зранку, калі яшчэ толькі пачынала днець, а цела ахутвала лёгкая прахалода, усе шасцёра выйшлі на двор. Ледзь стрымліваючы пачуцці, без лішніх слоў, развітаўшыся з Антоніа і адзін з адным, маладыя кніжнікі разышліся кожны ў сваім напрамку. Сімоне, перамагаючы сябе, спрабаваў прайсці як мага далей. Слёзы набягалі аднекуль з глыбіні, захрасаючы камяком у горле. Ён пабег з усяе сілы, так хутка, як толькі мог. Не здолеўшы стрымацца, Сімоне расплакаўся. Затым спыніўся каля дрэва, прысеў на траву і, ужо не спрабуючы сябе суняць, зарыдаў. Ён адчуваў, як надыходзіць палёгка. Пакрысе ён супакоіўся, абцёр рукавом слёзы. Цяпер яму стала лягчэй, і Сімоне перапоўніла натхненне. Нарэшце адпусціўшы ўсю горыч і страхі, ён быў гатовы кінуцца ў бой, быццам леў.

Яго браты па ордэне, магчыма, ужо хутка прымуцца за працу. Іх стратэгія палягала ў тым, каб прасоўваючыся ўсё далей і далей знаходзіць новыя веды на сваім шляху, а дасягнуўшы мяжы, вярнуцца дадому. Але было цалкам не вядома, як далёка яны прасунуцца і колькі часу

на гэта спатрэбіцца. У адрозненне ад іх, Сімоне планаваў адразу забрацца як мага далей. Ён хацеў перш дасягнуць апошняй магчымай кропкі падарожжа, толькі там прыняцца за працу, а затым рухацца ў напрамку Фларэнцыі. Так, здавалася, будзе прасцей, бо ён здолеў бы скласці план працы, акрэсліць, хоць прыкладна, часавыя рамкі. Усё гэта было немалаважна для натуры з такімі рацыянальнымі і ўладнымі рысамі. Акрамя таго, ведаць, што ўжо вяртаешся дадому, будзе нашмат прасцей, чым знаходзіцца ў няведанні, кожны дзень думаючы пра Радзіму і не ўяўляючы, калі зможаш зноў пабачыць дарагія сэрцу мясціны.

Праз некалькі месяцаў Сімоне здолеў дабрацца да Гішпаніі, адкуль збіраўся адплыць затым у Новую Гішпанію. Да гэтага часу сціплыя сродкі, што ён меў, якія Антоніа здолеў здабыць для іх ордэна, амаль скончыліся. Наяўнай сумы не хапала не толькі на далейшае падарожжа, але нават на тыднёвае пражыванне. Таму Сімоне прыняў рашэнне ненадоўга тут затрымацца і трохі падпрацаваць, каб назапасіць грошай для далейшага шляху. Доўга шукаць настолькі адукаванаму чалавеку не прыйшлося, аднак заробак быў не вельмі высокі. Маладому чалавеку ўдалося ўладкавацца памочнікам у адну з кніжных крамаў Мадрыда.

Нягледзячы на сітуацыю, Сімоне не губляў час марна, і ўжо ў Мадрыдзе ўзяўся за выкананне сваёй місіі. У вольны час працаваў у Каралеўскай бібліятэцы Эскарыёла. Праседжваў па пятнаццаць гадзін за сталом, «паглынаючы» кнігу за кнігай, зусім як дома. Ён праводзіў бы тут і цэлыя суткі, калі б не трэба было клапаціцца пра хлеб надзённы.

Ужо за некалькі першых месяцаў Сімоне прачытаў і запомніў амаль усе кнігі і рукапісы бібліятэкі. Дзіўны малады чалавек не мог не звярнуць на сябе ўвагу. Чуткі пра яго неўзабаве дасягнулі каралеўскага духоўніка Пэдра Робіна. Аднойчы ён нават асабіста прыбыў у бібліятэку, каб паназіраць і пазнаёміцца з эрудытам, чыя персона спарадзіла за такі кароткі перыяд мноства плётак і падазрэнняў.

Перад позіркам высокай асобы паўстала маленькая скурчаная фігура, акружаная высокімі стосамі кніг. Малады чалавек хутка гартаў старонкі. Скончыўшы гартаць адну кнігу, ён адразу пераходзіў да наступнай. Пэдра падобнае відовішча не захапіла, але раззлавала: навошта яго адарвалі ад важных спраў, ці не для таго, каб палюбавацца на непісьменнага вар'ята, што апаганьвае каштоўныя фаліянты сваімі бязглуздымі дзеяннямі?. Ён намерыўся выкінуць вар'ята і больш не пускаць, але найперш вырашыў прыстрашыць яго асабіста, настолькі велізарным было абурэнне каралеўскага духоўніка.

Але абурэнне адразу замяніла такое ж велізарнае здзіўленне, калі Сімоне спакойна, ні на момант не збянтэжыўшыся, прапанаваў на памяць працытаваць урывак з любой кнігі бібліятэкі. Зніякавелы, Пэдра Робін накіраваўся да самай далёкай шафы, адкуль, падняўшыся на драбінкі, дастаў з апошняй паліцы кнігу ў зялёнай вокладцы. Затым, асцярожна спусціўшыся, ён назваў старонку і абзац. Яго голас рэхам пачуўся па ўсёй зале. Пачакаўшы, пакуль стане ціха, Сімоне у сваю чаргу, як і абяцаў, агучыў зададзены ўрывак, ні разу не запнуўшыся. Тады духоўнік узяўся за другую, потым трэцюю кнігу. Агаломшаны, ён бегаў з боку ў бок, ад адной шафы вялізнай залы бібліятэкі да другой, па чарзе выцягваючы кнігі.

Праверка доўжылася амаль гадзіну, пакуль задыханы і стомлены ад летаніны Пэдра не прысеў побач. Нядоўга думаючы, ён прапанаваў маладому унікуму працу ў Каралеўскай бібліятэцы, план якой належаў яму і быў зацверджаны за два гады да гэтага каралём Філіпам IV. Сімоне таксама, доўга не разважаючы, адказаў згодай. Магчымасць паскорыць збор неабходных для далейшага падарожжа сродкаў без адрыву ад сваёй місіі была надзвычай дарэчы. На наступны ж дзень Сімоне прыступіў да працы на новым месцы.

У Гішпаніі ён планаваў затрымацца не больш чым на пару месяцаў, але прайшоў амаль год. За гэты час Сімоне прачытаў не толькі ўсе кнігі Каралеўскай бібліятэкі, але і ўсіх даступных прыватных збораў Гішпаніі. Яго фінансавае становішча таксама кардынальна змянілася. Зараз ён валодаў буйнымі грашовымі сродкамі, якіх, мабыць, хапіла б на некалькі гадоў падарожжаў па рэалізацыі місіі ордэна. Нягледзячы на гэта, Сімоне не спяшаўся адпраўляцца ў плаванне на іншы кантынент, знаходзячы ўсё новыя нагоды затрымацца. Так доўжылася некалькі гадоў, пакуль не мінула паловы адведзенага на місію часу. Тады Сімоне вырашыў прабыць у Мадрыдзе яшчэ некалькі месяцаў і ўсё ж адправіцца ў плаванне. Пакідаючы Фларэнцыю, члены ордэна разумелі, што тэрмін, адведзены на місію, дастаткова ўмоўны і мог вар'іравацца, павялічваючыся на некалькі гадоў. Ад спазнення Сімоне на два-тры гады нічога істотна не змянілася б. Магчыма, ён будзе нават не самым апошнім.

Прайшло паўгода, тры гады, дзесяць гадоў, але Сімоне, як і раней, працягваў працаваць у Каралеўскай бібліятэцы. Калі ён упершыню з'явіўся ў гэтым горадзе, то нават уявіць не мог, што сталіцу Гішпаніі будзе так складана пакінуць. У самім Мадрыдзе не было нічога асаблівага. Яго хутчэй прыцягвала новае палажэнне, якім ён не мог пахваліцца ў родным горадзе. Дома яму — выхадцу з беднай сям'і — даводзілася ўвесь час эканоміць, нават пасля таго, як Антоніа ўладкаваў яго працаваць у бібліятэку. На яго глядзелі не столькі з павагай, колькі са здзіўленнем, з цікаўнасцю, з якой глядзяць на дзіўнага заморскага звярка. Дома ў яго не было ні становішча ў грамадстве, ні грошай, ні славы, ні павагі. Тут жа Сімоне меў магчымасць ні ў чым сабе не адмаўляць, есці і піць, колькі і што пажадае, жыць у раскошных апартаментах. У Мадрыдзе ў яго з'явілася мноства прыяцеляў, знаёмых, якія ставіліся да яго са шчырай павагай.

Але прызнацца сабе ў сапраўднай прычыне затрымкі ён не адважваўся, перабіраючы апраўданні адно па адным. Сімоне спрабаваў пераканаць сябе, што задума з ордэнам, як лічыў некалі Антоніа, наіўная і дурная, што ніхто з місіянераў, хутчэй за ўсё, так і не вернецца. Часам яго адольвалі сумневы і пачуццё віны: а што, калі яны ўсё ж вярнуліся, што, калі ён апынуўся адзіным, хто падвёў ордэн? У любым выпадку, незалежна ад зыходу, яму не варта было здраджваць сябрам і старому настаўніку, ён мусіў вярнуцца ў прызначаны тэрмін. Чым хутчэй бег час, тым мацней яго апаноўвалі пакуты. Душэўны боль быў настолькі моцным, што Сімоне нарэшце вырашыў вярнуцца дадому, да сваіх бацькоў, якіх пакінуў у няведанні, сяброў і настаўніка, якія так і не дачакаліся яго.

Мінула шаснаццаць гадоў з таго часу, як малады Сімоне пакінуў Радзіму. Ён адчуваў сябе тут ужо чужым. Шмат што змянілася. Вялікіх намаганняў каштавала рашэнне вярнуцца, але яшчэ большых высілкаў патрабавала сустрэча з бацькамі, Антоніа і іншымі членамі ордэна. Вярнуўшыся, ён арандаваў сціплыя, але годныя апартаменты. Хваляванне суправаджала яго несупынна, што б ён ні рабіў, куды б ні пайшоў. Таму, не адкладаючы, на наступны ж дзень Сімоне выправіўся да блізкіх. Магчыма, ён на гэта ніколі і не адважыўся б, каб ведаў, што яго чакае.

Перш на яго абрынулася вестка пра смерць бацькоў. Бацька спачыў праз тры гады пасля таго, як Сімоне, нічога не паведаміўшы і не развітаўшыся з бацькамі, пакінуў Фларэнцыю. Маці да апошняга спадзявалася на вяртанне сына, але, так і не дачакаўшыся яго, памерла пяць гадоў таму. Затым высветлілася, што яго настаўнік Антоніа памёр ўсяго праз год пасля іх развітання. Сімоне спрабаваў даведацца хоць штосьці пра Рафаэля, Бенісіа, Умберта і Сільвіа, але ніхто не здолеў нічога прыгадаць.

Засмучаны і паглыблены ва ўласныя думкі, Сімоне доўга блукаў па горадзе і апынуўся непадалёк ад месца, дзе раней жыў Мальябекі. Сыходзячы ўсё далей ад дома настаўніка, Сімоне натрапіў на дрэва, пад якім плакаў шмат гадоў таму, пакідаючы Фларэнцыю, развітваючыся з усім, што было яму гэтак дарага.

Перад вачыма пранеслася карціна ранейшай жыцця: знаёмства з Антоніа, праца ў бібліятэцы, апошні вечар з сябрамі. Успаміналася толькі лепшае, самыя цёплыя моманты. Ён зноў, як у тую раніцу, прысеў пад дрэвам. Саракагадовы мужчына плакаў, быццам маленькі хлопчык. За ўсё жыццё ён плакаў тры-чатыры разы. Сімоне было горка і сорамна. Сорамна за здраду бацькам, за тое, што пакінуў іх і збег, за тое, што так і не сказаў, як любіць іх. За тое, што ў апошні момант жыцця яго бацькі засталіся зусім адны. Сорамна за здраду не толькі сябрам, але і Антоніа. Ён ведаў, што ўжо ніколі не здолее загладзіць віну, таму адмовіўся ад задумы шукаць астатніх членаў неіснуючага ордэна. Яму было страшна ўявіць, што аднойчы лёс зноў звядзе яго з кім-небудзь з чатырох, што яму давядзецца паглядзець сваёй ганьбе ў вочы.

Увесь астатні дзень ён правёў у апартаментах, нерухома седзячы за сталом. Сімоне, не адрываючыся, глядзеў у акно. На вуліцы і ў пакоі цямнела, але ён нават не запаліў камін, працягваючы глядзець у цемру. У поўным змроку ён прасядзеў да самай раніцы, пакуль першыя промні сонца зноў не асвятлілі пакой.

Усё вакол знікла, усё адышло для яго ў нябыт, у той час як у душы адбываліся найглыбейшыя змены, пасля якіх ранейшы Сімоне памер і адрадзіўся зноў, нібы Фенікс. З ім былым загінулі ранейшая цікавасць да жыцця, амбіцыі, азарт. Усю яго сутнасць паглынула суцэльная беспрасветная меланхолія.

Сімоне больш нічога не трымала ў гэтым горадзе, і ён прыняў рашэнне вярнуцца ў Гішпанію. Перад ад'ездам яму хацелася апошні раз убачыць бібліятэку, кожную кнігу якой ён ведаў на памяць. Усе кнігі сваёй багатай калекцыі — амаль пяцьдзясят тысяч кніг і рукапісаў — Антоніа пакінуў у спадчыну гораду. Зараз калекцыя захоўвалася ў фларэнційскай Лаўрэнцыяне.

Як і дваццаць сем гадоў таму, рукі дрыгатліва перабіралі старонкі. Сімоне прынюхваўся да кніжнага паху, адчуваючы сябе трынаццацігадовым хлопчыкам. Унутры станавілася цёпла і лёгка.

На адной з паліц яго ўвагу прыцягнуў вялікі рукапіс у чорным пераплёце, якога раней не было ў доме Антоніа. Магчыма, ён набыў яго незадоўга перад смерцю. Тэст быў напісаны лацінскімі літарамі, але не на латыні. Штосьці ў ім здавалася незвычайным, але Сімоне ніяк не мог зразумець, што іменна. Ён хутка гартаў кнігу, спрабуючы зразумець хоць бы слова. У некаторых месцах трапляліся урыўкі, напісаныя не толькі лацінскім пісьмом, але і нейкімі невядомымі яму значкамі. Толькі цяпер у яго паўстала здагадка, што урыўкі або зашыфраваныя, або пісаліся з выкарыстаннем некалькіх моў. Няўжо Антоніа ўсё ж такі здолеў распрацаваць новую пісьменнасць? Але, у такім выпадку, што гэта? Калі апісанне сістэмы пісьма, то чаму яно было такім аб'ёмным? Калі ў руках у яго была тая самая кніга, дзеля якой быў створаны ордэн, то чаму яго таварышы вярнуліся так рана і чаму кніга апынулася тут? Сімоне задаваўся дзясяткамі пытанняў, забыўшыся на некаторы час пра нядаўняю меланхолію. Рукі мужчыны адолела дрыготка. Што, калі ў руках ён трымаў найвялікшыя таямніцы на зямлі?..

Усю ноч Сімоне зноў не спаў, няспынна думаючы пра сваю знаходку. На наступны дзень ён цвёрда намерыўся займець дзівосны тэкст. У бібліятэцы, як і ўсюды, не абыходзілася без людзей, не надта чыстых на руку. Таму Сімоне было нескладана, падкупіўшы аднаго з нагляд-



чыкаў, вынесці схаваны пад вопраткай рукапіс. У той жа дзень ён пакінуў Фларэнцыю назаўсёды і адправіўся ў Гішпанію, на сваю новую радзіму. Кнігу, як гэта нярэдка робяць з каштоўнасцямі, Сімоне схаваў як мага глыбей сярод рэчаў. Зноў прыняцца за яе вывучэнне ён рызыкнуў толькі ў Мадрыдзе.

Сімоне закінуў працу ў бібліятэцы, марнуючы ўвесь час на спробы разгадаць рукапіс. Праходзілі дні і месяцы, а ён, з усёй сваёй эрудзіраванасцю, так і не здолеў прасунуцца наперад. Меланхолія, некалі заглушаная знаходкай, цяпер ізноў адраджалася, усё мацней паглынаючы Сімоне. Толькі віно было здольнае трохі яго разварушыць, надаць густ новаму жыццю. Неўзабаве ён ужо піў амаль увесь дзень. Перш цнатлівы і аскетычны, бібліятэкар пачаў шукаць суцяшэнне ў алкаголі, картах і жанчынах.

Ён прачынаўся ўжо не на світанні, а бліжэй да поўдня, праводзячы яшчэ некаторы час у ложку, зрэдку прыпадымаючыся, каб запіць брыдкі прысмак выпітага напярэдадні. Затым Сімоне ўставаў, спусташаў бутэльку віна і адпраўляўся гуляць або наведваў адну са сваіх палюбоўніц. Часам і іх яму станавілася мала. У такія перыяды ён цягаўся па самых бедных раёнах у пошуках бацькоў, гатовых за вялікую плату аддаць чужынцу сваю дачку на знеслаўленне. Тыя ў сваю чаргу, знаходзячыся на мяжы галечы, нярэдка згаджаліся, хапаючыся за апошнюю магчымасць выжыць, і прыводзілі ўласных дачок у апартаменты Сімоне, дзе той сілай авалодваў як дзяўчатамі, так і дзяўчынкамі. Самай малодшай з ягоных ахвяр было каля васьмі гадоў, а самай старэйшай — пятнаццаць.

У няспынных гулянках грошы, некалі заробленыя цяжкай працай у Каралеўскай бібліятэцы, раставалі, нібы снег у летні сонечны дзень. Калі сродкі ўсё ж скончыліся, а ўсе каштоўныя рэчы былі прададзеныя, Сімоне навучыўся жыць у доўг. З некалі элегантнага і станістага маладога чалавека ён паціху ператварыўся ў нахабнага агіднага п'яніцу. Яго адзенне было пакрытае ліпкім брудам, ад строгай акуратнай прычоскі не засталося і следу, а смурод быў адзіным, што ўсюды суправаджала Сімоне. Нават прыяцелі, якіх ён цяпер толькі зрэдку сустракаў дзе-небудзь на вуліцы, не пазналі яго.

Аднойчы, позна ўначы, Сімоне быў заспеты каля дома адным з бацькоў яго чарговай маленькай ахвяры, з якім ён так і не здолеў разлічыцца. Не знайшоўшы, чым пажывіцца, раз'юшаны мужчына перарэзаў Сімоне горла. Так нерамантычна і бясслаўна перапынілася жыццё некалі жыццярадаснага і амбіцыйнага хлопчыка, што шмат гадоў таму пагрукаў у дзверы вялікага бібліятэкара, і што апаганіў уласнаручна сваё жыццё. Астатнюю маёмасць, якая засталася, арэндадаўца апартаментаў Сімоне усё ж здолеў прадаць у кошт доўгу. Была прададзеная і загадкавая кніга з бібліятэкі Антоніа, якой мелася ў бліжэйшы час змяніць яшчэ мноства ўладальнікаў.

Перш яна трапіла ў рукі да кнігагандлёўца, якога звалі Хорхе, што неўзабаве перапрадаў яе гідальга па імені Альварэс. Той прайграў яе свайму прыяцелю Джону, ангельцу па паходжанні,

які падарыў кнігу сыну Герберту. Праз восем гадоў, падчас знаходжання Герберта ў англійскім горадзе Эксэтэр, кнігу ўкраў злодзей, якога звалі Том. Ён, у сваю чаргу, прадаў яе калекцыянеру па імені Джордж. Калі ж надышлі цяжкія часы, Джордж заклаў кнігу Бенедыкту — знаёмаму сябра траюраднага брата ягонай жонкі, так і не здолеўшы выкупіць кнігу назад. Бенедыкт, у сваю чаргу, умудрыўся згубіць фаліянт, праязджаючы праз горад Сан-Мало, дзе кнігу падабраў афіцэр Альфрэд.

Менш чым за дзвесце гадоў кніга змяніла больш за дваццаць уладальнікаў, пабываўшы ў мностве еўрапейскіх гарадоў. Часам яна доўга ляжала на паліцах з іншымі кнігамі, забытая ўладальнікам, нібы занядбанае дзіця. Бывалі і такія ўладальнікі, што пяшчотна краналіся яе старонак з дня ў дзень, спрабуючы хоць б наблізіцца да таямніцы рукапісу. Для адных яна не адрознівалася ад смецця, для іншых жа служыла рэліквіяй. Толькі некаторыя здзяйснялі нясмелыя спробы разгадаць, што на самай справе было схавана пад вокладкай, але ўсе як адзін цярпелі няўдачу за няўдачай. Пасля доўгіх падарожжаў кніга трапіла да швейцарскага гандляра, у якога яе выкупіў і прывёз у Нясвіж Антоній Альбрэхт з роду Радзівілаў.

Уплывовы палітык і дыпламат, прадстаўнік аднаго з найвялікшых беларускіх родаў наведваў у 1918 годзе еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку і Швейцарыю, для забеспячэння дыпламатычнай падтрымкі нядаўна створанай Беларускай Народнай Рэспублікі. Новы набытак павінен быў заняць годнае месца ў Нясвіжскай бібліятэцы. У момант пакупкі Антоній Альбрэхт не змог ацаніць каштоўнасці кнігі, не ведаў яе паходжанне і ўзрост, але ўсё ж аддаў за яе досыць вялікую суму. Варта было ўзяць рукапіс у рукі, як Антоній адчуваў цеплыню, што разлівалася па целе, і нішто вакол у гэтыя імгненні не было здольна парушыць яго спакой і заміранасць. Нешта таямнічае і зачаравальнае суправаджала знаходку Антонія Альбрэхта.

Пасля яго смерці ў 1935 годзе вялікую спадчыну перадапошняга ардыната Нясвіжа атрымаў малодшы брат Леан Радзівіл, які і стаў новым уладальнікам кнігі. Ён быў чалавекам лагодным і адкрытым. Як і многія прадстаўнікі свайго роду, ён не толькі цікавіўся, але і займаўся мастацтвам. Мабыць, варта адзначыць, што па дзіўным збегу абставін рукапіс, знойдзены ў Швейцарыі, усё яшчэ не быў занесены ў бібліятэчныя каталогі Нясвіжскага палаца. Пра існаванне кнігі Леан даведаўся ад аднаго служачага, што працаваў у брата. Той не толькі займаўся працай у бібліятэцы Радзівілаў, але быў таксама захавальнікам кнігі. Пры жыцці Антонія Альбрэхта пра яе ведалі толькі яны двое.

Леана падобныя акалічнасці здзівілі, і ён вырашыў падысці да вывучэння старажытнага рукапісу як мага больш грунтоўна, перш чым уносіць яго ў каталогі. З гэтай мэтай ён нават звязаўся з некаторымі еўрапейскімі даследчыкамі. Але і ў Леана рукапіс не затрымаўся на доўга усяго толькі на чатыры гады. Даследаванню так і не наканавана было адбыцца. Пасля пачатку Другой сусветнай вайны, 17 верасня 1939 года Нясвіж быў заняты салдатамі Чырвонай Арміі. Леан быў арыштаваны, і яго з сям'ёй вывезлі ў Маскву, а палац, што некалі быў адным з самых багатых і пышных у Еўропе, чарговы раз за сваю гісторыю падверглі варварскаму рабаванню.

На кароткі час кніга трапіла ў рукі камкора Чырвонай Арміі Аляксандра Міхайлавіча, які падараваў яе ў знак удзячнасці маскоўскаму навукоўцу — Віктару Сямёнавічу — пад чыім кіраўніцтвам працаваў ягоны сын Юрый. Неўзабаве камкор быў прызнаны ворагам народа і расстраляны. Аляксандр апынуўся адным з многіх, хто памёр у хуткім часе пасля таго, як стаў уладальнікам старажытнай кнігі, таямніцу якой так ніхто яшчэ і не здолеў разгадаць.

Ці была ў гэтым нейкая містыка або проста выпадковасць — вызначыць немагчыма.



Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў



**нарадзіўся 18 лістапада 1976 года ў Навагрудку. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Працуе на кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар кніг паэзіі «Паміж небам і багнаю» (1997) і «Эстэтыка маўчання» (2011).**

## Свет запаўняецца словам…

* * *

Сон, пачакай яшчэ:
мне радок дапісаць неабходна.
Перад абліччам начэй
без радкоў рыфмаваных маркотна.

Розум пад поўняю вэндзіцца
перад тугой існавання.
Перад абліччам бяссэнсіцы
выйсце адно — рыфмаванне.

Шлях свой сугуччам жалезным
зрыфмую з Сусвету гмахам
перад абліччам бездані,
перад маўклівым жахам.

Перад абліччам пустэчы
кожны кароль — голы.
Гэтую бездань не рэчамі
можна запоўніць, а голасам.

Свет запаўняецца Словам…
Хуткая плынь ракі…
Ноч, пачакай: я нанова
перапішу радкі!

* * *

Дзень складаецца з 12 гадзін. …
У апошнія тры гадзіны Бог гуляе з Левіяфанам.
*Талмуд*

Сусвет ад самай маладосці
гуляе ў форму, колер, гук.
Святую радасць прыгажосці
быццё не выпускае з рук.

І хай пытаюцца прафаны
пра сэнс свяшчэннае гульні —
гуляе Бог з Левіяфанам.
Гуляе Ён… На свет зірні

і ўбач: ад самага маленства
закон у чалавецтва ёсць:
мастак стварае прыгажосць
паміж гульнёй і набажэнствам.

* * *

Аўтар можа сказаць пра тэкст:
«Гэта ёсць цела маё».
*Кевін Дж. Ванхузер*

Вось цела маё — чорных літар слупкі,
і целу няўтульна штосьці.
Дзе змогуць нямоглыя рыфмы, радкі
сагрэць свае змерзлыя косці?

Няма ім жытла, бо прастора і час —
зусім нетрывалы падмурак.
Магчыма, прытуліць бяздомных нас
хіба што тая віхура,

што вые так страшна за цёмным шклом…
Дык вось які голас раю!
А мы ўсё ж упарта ідзём напралом
і вечнасць ствараем.

* * *

Выслізгвае з-пад ног Сусвет,
галактыкамі распадаецца,
кітайскай граматай планет
і зорак, радасцей і бед,
а дзе шукаць таго кітайца,
які б раскрыў яе сакрэт?

Бо сэнс выслізгвае з-пад ног,
бяздоннем робіцца дарога…
А ўсё таму, што кінуў Бог
пад ногі гэтыя так многа!

* * *

У дробязі стагоддзяў гіне веліч
няўлоўных і няўрымслівых хвілін.
Нябёсы ўжо даўно папунсавелі,
і пахіснуўся свету равелін,
а мы яшчэ так многа не паспелі,
недагледзелі і не зразумелі…

У дробязі галактыкі схавана
бяздонне кроплі, глыбіня цюльпана,
як бездань духу, чый схаваны след
у дробязі сталіц, дзяржаў, планет.



Сяргей Балахонаў



**нарадзіўся 24 красавіка 1977 года ў вёсцы Свяцілавічы Веткаўскага раёна. Жыве і працуе ў Гомелі. Пісьменнік, настаўнік гісторыі, краязнавец. Аўтар кніг прозы «Імя грушы» (2005), «Зямля пад крыламі Фенікса» (2012), «Інфанта і аднарог» (2015, у фармаце электроннай кнігі). Цікавіцца гісторыяй Гомеля. Эксперыментуе з электроннай музыкай і меладэкламацыяй. Рыхтуе кнігу паэзіі «Гомельскае метро».**

# Дзяўчына ў сінім сарафане

## Чакаючы цуду

По мокрых дарогах чужых успамінаў
у розныя крочым бакі.
Мы зleплены, дзетанька, яўна не з гліны,
як нас пераконваў святар гаваркі.

Зляпілі нас з болю, абсенту і кавы.
Падклеілі стужкай надзей.
На рэчаньках нашых няма пераправаў.
Імчыць на сайгаках наш збэшчаны дзень.

Галодныя гульні, любоўныя песні,
увесь джэнтльменскі набор.
І сонца, якое ніколі не чэзне
ва ўлонні ласкавай багіні Хатхор.

Чакаючы цуду, пускаем па венах
няўнімную роспач планет,
што згінулі ў мроях сваіх бурапенных,
не здолеўшы ўчасна схавацца пад плед.

Штось будзе далей… Мемуары і гейшы,
гусары і наш Вэстэрос.
Магчыма, разок засмяюся я першым,
а ты самай першай пазбавішся слёз.

І будзе нам шчасце. Асобна, вядома.
Мне дольку. Табе эшалон.
І сэрцы заныюць ад шчаснае стомы,
калі па-над Сожам хтось скажа: «Шалом».

## Збянтэжанасць ружовым снегам

Ружовы снег ужо каторы год
мяне бянтэжыць летняю парою.
І я сваіх захоўваю герояў
ад страчаных гіпербал і літот.

Ідуць дажджы і едуць цягнікі.
Каханні на паўслове паміраюць.
Паэт сядзіць на беразе ракі,
сплаўляючы на Готланд самураяў.

Сумуюць вежы. Цешацца масты.
Рубінавай крывёй іскрацца вішні.
З прачыненых варотаў Усявышні
пільнуе мёртвых зор кісель густы…

Спыніць бы час і боль маіх радкоў
змяшаць з бясчассем і ружовым снегам!
Пад церпкі спеў эпохі ракако.
Пад порсткі «Град» эпохі недалэгаў.

А зрэшты, гэта тая ж пустата,
якую я карміў уласным шчасцем.
Яе не збыць. Хіба што толькі скрасці
захоча нехта, бо вар'ятам стаў.

За гэтай пустатой дзівосны край
губляе пакрысе свае абрысы.
Я зноў ступаю ў човен бога Ра,
і мы заводзім песню пра Алісу.

Адна яна не здрадзіць, не прадасць.
Усмешкай светлай дасць глыток надзеі,
што пустаты ліхія чарадзеі
заб'юцца аб сваю ліхую масць.

## Дзяўчына ў сінім сарафане

Дзяўчына ў сінім сарафане
Ідзе паўз твой мікрараён.
Цябе кахаць не перастане
Ні заўтра і ні праз мільён,
Умоўна кажучы, стагоддзяў,
Час — бессэнсоўнасць, час — нішто,
Калі два сэрцы міф народзяць
Пра зачарованых катоў.
Па-над сусветам кот і котка
Вядуць эпічную курну.
Сузор'і ўсхліпваюць дрыготка
Ад шчасця, што ім міф вярнуў,
Курной хаос утаймаваўшы,
Давёўшы, хто тут гаспадар,
І назаўсёды ў прорву страшных
Хтанічных зрынуўшы пачвар.
У ззянні сонц новабудоўлі
Гараць сінтэтыкай агню.
Ты помніш — тут дождж сто гадоў ліў,
Спыніўся ці не ўпершыню,
Калі найлепшая дзяўчына
Пайшла паўз твой мікрараён,
Сабой зацьміўшы дзіўным чынам
Арду дасведчаных матрон.
А ўсё таму, што несла веру
У зачарованых катоў
Расчараванаму жаўнеру
Вайны з нясцерпнай пустатой.
Спляліся зорных рэк меандры,
У іх любоў багоў саміх,
І ты не думаеш, што заўтра
Раптоўна знікне гэты міф.

## Твая аватарка

Ты снілася сёння. Дакладней — твая аватарка,
якой шчэ няма і, магчыма, ніколі не будзе.
Карцінкі мігцелі, бо кадры змяняліся шпарка
ў блокбастары, знятым без нас у пустым Галівудзе.

На той аватарцы ў сукенцы сваёй бірузовай
глядзела ты ўправа, сваё адхадзіўшы налева.
Твой позірк быў ясны. Усмешка застыла часова.
Такой мусіць быць маладая зусім каралева,

убранне прынцэсы спаліўшы ў прыдворных інтрыгах,
смяротную кару прызначыўшы кату і блазну,
зрабіўшы свой ложак пачэсным прыстанішчам ліха,
закрэсліўшы сонца цудоўнай мінуўшчыны ўласнай,

разбіўшы дашчэнту ў дрыгве «Апалон-18»,
закідаўшы гноем дарогу ў смарагдавы горад,
мяне навучыўшы з люстэркам адно цалавацца,
не слухаць радараў трывожны да жудасці шоргат

і не падымаць па трывозе свае батальёны,
каб шок і трымценне не несці садам Карфагена,
што гопніцкім спайсам ад рана да рана замглёны,
дзе водзяць сяброўства марскія ваўкі і гіены.

Твая аватарка… Імгненне ці, можа, дно лімба?
І што за налёт на ружовых маіх акулярах?
Не скончыўся сон, і гучыць шугавейна марымба,
і змрочны сабака жарэ мне душу на бульвары.

## Усе бабы, як бабы. А ты…

Усе бабы, як бабы. А ты — Одры Хепбёрн.
З іранічнай усмешкай і гатоўнасцю ўзняць пісталет.
Я сядзеў і глядзеў, як пячэцца твой хлеб. Шторм
пачынаўся на ўзмежжы ціхіх мар і мастоў праз залеў
непралазныя нетры з вады гаманлівай,
што то снегам бывала, то краляй пасудзін пустых.
Ты ж ішла праз двары, праз зялёныя нівы,
пераспелай Еўропе не давала ў маркоце застыць.
Не цябе я чакаў на вятрах і іголках.
Я чакаў пэўных вуснаў. Космаў пэўных чакаў аксаміт.
І была рэчаіснасць халоднай і колкай.

І крылатых гусараў гуфы рушылі між пірамід,
каб урэшце прыйсці да цябе і шарады
Рыму Пятага жвава разгадаць і трымаць пры сабе.
Ты мой компас цяпер. Ты мая паны-рада.
Мой навостраны нож. Мой недакончаны аўтапрабег.
Я гляджу на твае геніяльныя вейкі.
Я лаўлю на заходзе смех наіўны твой фібрамі сноў.
Іншым разам пяеш для нахабы Сяргейкі.
Але гэта чужое і пустое, як Пецька, кіно.
Твой праспект у агнях. У гірляндах мой хутар.
Вараць ліпавы мёд сто закапаных у жвір мудрацоў.
Ты ў дарозе на фронт. Я выкошваю руту.
Шакаладавы заяц папівае на шчасце піўцо.

## Паразмаўляй са мной пра баскетбол

Няхай люстэркі б’юцца навакол,
а дама пік ідзе ў піке і глухне —
паразмаўляй са мной пра баскетбол,
пра тайны нашай гаспадарскай кухні.
Паразмаўляй са мною пра людзей,
якіх ты любіш гэтым міжсезоннем.
Няхай зайздросціць Славік Чарадзей,
а Стах кароль збірае з шахмат коней,
каб дзікім паляваннем апячы
свядомае, што дрэмле ў несвядомым.
Няхай грымяць ад досвітку мячы!
Няхай ляцяць у кошыкі без стомы!
А ты хоць раз на гэта паглядзі
не з эпіцэнтру стартавых пляцовак.
Няхай інфанты скінуць бігудзі
і возьмуць аднарогаў на аловак,
каб ружамі між хронік расквітнець
дзеля баярства дыскурсу й гламуру…
Паразмаўляй пра золата і медзь,
пра грань паміж вясёлым і панурым.
Паразмаўляй са мной пра карнавал,
пра шэрых кардыналаў ў пыльных шлемах,
пра тэмы, што з табою не кранаў,
да часу «Х» выседжваючы нема.
Няхай пульсуе ў лямпачках вальфрам,
падміргваючы боскаму спецназу.
Паразмаўляй насуперак снягам,
што прыхаваюць попел і алмазы.

## Ведаеш, Таня?

Ведаеш, Таня?
Многае кане
ў бездані лічбавых сонцаў.
Козы і лані,
псы-марсіяне,
пафас радкоў пачаткоўца.
Што застанецца?
Дождж за вакенцам.
Пара не знішчаных фотак.
Шнары на сэрцы.
Роспач інерцый.
Мэта, што легла пад сродак.
Летнія сцюжы.
Жонка без мужа.
Трэці статут на паліцы.
Студзень узрушыў
чырванню вушы,
хоць не збіраўся «паліцца».
Дзіўныя танцы —
каб сустракацца,
Зніклі раптоўна нагоды.
Моўкнасць абзацаў.
Менскія цацы.
Торт і няўмольнасць пілотаў.
Паўшакаладкі.
Цёплыя згадкі.
Цень паралельных сусветаў.
План «Б» нягладкі.
Толькі б не спаткі
ў час, калі цётка букеты
ціха сплятае,
быццам святая
з песні-апокрыфа балтаў.
Позна світае.
Рана пустая.
Мёд саркастычнасці ўпартай.
Ведаеш, Таня?
Сэнсу не стане
больш ад грымотаў зімовых.
Кафка і дранік —
шчасце дазвання
на паўлегальных умовах.





Ягор Конеў

**нарадзіўся 21 снежня 1970 года ў Мінску. Празаік, драматург, публіцыст. Працаваў у рэдакцыях газет «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», часопісах «Беларуская думка», «Беларусь», «Бярозка». Зараз на пасадзе дацэнта Інстытута журналістыкі БДУ вучыць студэнтаў, што быць сумленным журналістам — карысна. У прозе аддае перавагу гісторыка-прыгодніцкаму і дэтэктыўнаму жанрам, а ў драматургіі — казкам і мюзіклам.**

## Андрэй Станкевіч і Таемнае мастацтва

*«Раптам пэўная думка стукнула мне ў галаву:*
*— Чакай, а нашто там было быць суддзі Станкевічу,*
*чалавеку з роду беларускіх шэрлак-холмсаў?*
*Амаль жа ніводнай шумнай справы не было*
*ў шаснаццатым-сямнаццатым стагоддзях,*
*каб яе нехта са Станкевічаў не разблытваў...*
*Мар'ян бурчаў:*
*— Холмсы мы з табой… Пінкертоны…*
*Картэры… Станкевічы… Мегрэ...*

*Андрэй Станкевіч — самы славуты*
*з гэтай "дынастыі законнікаў"*
*следчы і суддзя беларускага сярэдневякоўя».*

*Уладзімір Караткевіч*
**«Чорны замак Альшанскі».**

Спякотным чэрвеньскім поўднем 1570 года з саборнай вежы загучаў харал. Шасцёра прыхаджанаў суладна заспявалі па-нямецку:

*Божа Усёмагутны, Цябе молім —*
*Міласць Сваю захавай да нас!..*

Сугучча духоўных спеваў ляцела над звілістымі вулкамі і цаглянымі дамамі слаўнага горада Кнайпхофа, над яго саламянымі і чарапічнымі дахамі, над крапасным мурам і шырокай гандлёвай плошчай.

З вышыні пеўчым адкрываўся ўвесь Кнайпхоф (па-нямецку — Рачная выспа), які туліўся на востраве пасярод ракі Прэгель. Шырокія масты злучалі яго з дарогамі ў Альтштат (Стары горад) на паўночным беразе і ў Форштат (Мядовы горад) на паўднёвым. На адлегласці двух палётаў стралы ад ракі ўзвышалася пляскатая гара Твагстэ, дзе раскінуўся замак Кёнігсберг (Каралеўская гара) — рэзідэнцыя герцага Прусіі.

Іншаземцы, якія прыплывалі з Балтыкі, звалі Кёнігсбергам і замак, і ўсе тры гарады. Аднак тубыльцы ведалі, як істотна яны адрозніваюцца.

У Кёнігсбергу і каля ягоных сценаў сялілася герцагская світа. Сюды штодня імчалі з розных правінцый Прусіі кур'еры з данясеннямі, адсюль раз'язджаліся з указамі яго светласці. У Альтштаце шумеў самы буйны ў краі порт. Тут збольшага жылі матросы, гандляры і крамнікі. Фарштат насялялі землябробы, якія апрацоўвалі прылеглыя абшары, а таксама паляўнічыя і рыбакі. Духмяны пах тамтэйшых медаварняў адчуваўся на колькі міляў наўкол. Што ж да Кнайпхофа, то частку яго жыхарства складалі рамеснікі — рымары і разнікі, ганчары і муляры, ткачы і краўцы, шаўцы і злотнікі, сталяры і піваварны. Аднак славіўся горад найперш акадэміяй, заснаванай герцагам Альбертам і ў ягоны гонар названай Альбярцінай. На месцы колішняга каталіцкага кляштара ў будынках Рэктарыума і Шкалярыума выкладалі дзясяткі дактароў навук і магістраў, бакалаўраў і ліцэнцыятаў. У інтэрнаце і ў арандаваных дамах жылі сотні шкаляроў і студэнтаў, якія прысвячалі свой малады час пагулянкам, пацехам, заляцанням і, здаралася, вучобе.

Як у кожным прускім горадзе, жыццём кнайпхофскага люду кіравала ратуша, а менавіта рада з дванаццаці дваранаў, якія абіраліся агульным сходам на год і зваліся ратманамі. Кожны з іх выконваў адпаведныя абавязкі. Бургамістр кіраваў пасяджэннямі рады. Канцлер распараджаўся канцылярыяй і архівам. Казначэй наглядаў за скарбніцай. Вінмайстар кантраляваў якасць віна і піва ў крамах. Не менш адказны клопат выпаў на долю юстыцрата, які спаганяў штрафы з вінаватых, пільнаваў парадак на вуліцах і разбіраў усе крымінальныя здарэнні.

Сёмы год запар юстыцратам Кнайпхофа абіраўся Карл Вільгельм Іеранім фон Кросбах — высокі, сівавусы, даўгалыгі ўдавец, нашчадак рыцараў-тэўтонаў. Пры кожнай нагодзе Кросбах любіў пахваліцца трохсотгадовым радаводам. Але тым гарачым поўднем юстыцрат не згадваў прашчураў нават у думках, паколькі справа, дзеля якой ён брыў у дом на Грунэрштрасэ (Зялёная вуліца, дзе з большага жылі бондары і зяленіўшчыкі), была трагічнай, скрушнай і жалобнай.

Адной рукой нашчадак крыжакоў часта выціраў спацелы лоб, другой трымаў закінуты за плячо сімвал улады — скураны мех для службовых папераў. Дабрыўшы да ганка двухпавярховага дамка, Кросбах прыслухаўся да мілагучнага харалу, які ляцеў нібыта з-пад аблокаў, перажагнаўся, паправіў сярэбраны ланцуг на шыі, разгладзіў на жываце складкі барвовай мантыі, ачысціў аб каменную прыступку бруд з падэшваў даўганосых пантофляў ды забарабаніў у дзверы драўляным малатком, які звісаў каля ўвахода на ланцужку.

Неўзабаве дубовыя створкі расчыніліся. Прадстаўніка гарадской улады вітаў паклонам магістр багаслоўя Люцыус Герберус — цёмнавалосы, хударлявы, вастраносы, у сіняй мантыі да пят.

— Нябожчык пачынае патыхаць, — прагаварыў вучоны.

Юстыцрат хмура пакрывіўся, нібыта воцату сербануў, і пакіраваў услед за магістрам па лесвіцы ў кабінет на другім паверсе.

Ахвярай аказаўся гаспадар дома — прафесар метафізікі Якаб Прудэнціус. Нябожчык скурчыўся на падлозе — паўапрануты, левай рукою ўчапіўся за ножку стала, правай — за ўласнае горла. На твары — скарчанелым, у зеленаватых плямах — застыў страхатлівы выраз. Драўляную падлогу засмечвалі ваніты.

Як патлумачыў юстыцрату Герберус, прафесара знайшлі пасланцы з Рэктарыума, дзе занепакоіліся: чаму Прудэнціус не з'явіўся на заняткі? Пасланыя пагрукалі ў дзверы — ім ніхто не адчыніў. Тады яны ўвайшлі ў дом з задняга двара. Прыслугі не сустрэлі — апошнім часам

Прудэнціус жыў адзінока: папярэдняга асістэнта звольніў, а новага пакуль што не наняў. На крыкі пасланцоў ніхто не адгукнуўся. Яны зазірнулі ў кабінет, і тое, што ўбачылі, змусіла іх у жаху кінуцца ў Альбярціну, паведаміць пра страшную знаходку начальству, а яно давяло да ведама юстыцрата…

У кабінеце Кросбах зняў свой чырвоны капялюш, паклаў на стол побач са скураным мехам і нетаропка агледзеў месца здарэння.

Усё сведчыла, што смерць прафесара мела негвалтоўны характар. Праз дзверы, вокны і трубу каміна ніхто ў жытло не ўлазіў — не было відаць ані прыкметаў узлому, ані слядоў попелу на падлозе.

Агледзеўшы астатнія памяшканні ў доме, юстыцрат зрабіў лагічную выснову — сюды прыходзіў Д'ябал, які забраў у пекла грэшную душу прафесара Прудэнціуса.

Падставу для такога дапушчэння дала лабараторыя, якую Кросбах убачыў у сутарэнні. У куце зеўраў вялікі камін, а перад ім — стол, застаўлены колбамі, рэтортамі ды слоікамі з рознакаляровымі сумесямі. Дасведчанае вока юстыцрата распазнала — гаспадар дома практыкаваў Таемнае мастацтва, званае ў навуцы *алхіміяй*. Пэўна, як і ўсе апантаныя алхімікі, Прудэнціус не шкадаваў ані грошай, ані часу на здабыццё Вялікага Сродку, званага *філасофскім каменем*. Той Сродак, як вядома, любое рэчыва ператвараў у золата і дарыў чалавеку несмяротнасць. Але недарма сцвярджала царква, што сапраўдным валадаром Вялікага Сродку быў Сатана. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што Князь цемры заявіўся на Грунэрштрасэ па душу свайго аматара-пыхліўца.

Завяршыўшы такім чынам следства, Кросбах паважна ўздыхнуў і загадаў магістру Герберусу, які ўвесь гэты час яго суправаджаў:

— Паклічце шкаляроў з акадэміі. Няхай аднясуць цела ў капліцу ды прыбяруць у доме. А я займуся дакументацыяй.

Пакуль вучоны дзеяч выконваў яго распараджэнне, юстыцрат выняў са скуранога меха пергамент і пісьмовы прыбор, адчыніў масіўную накрыўку чарніліцы, прынюхаўся да яе — меў такую звычку перад пачаткам усякае адказнай справы! — абмакнуў у чарніла завостранае пяро ды, нетаропка выводзячы літары, запісаў пратакол следства.

Неўзабаве Герберус вярнуўся з акадэміі на чале тузіна гаманлівых вучняў. Пакуль яны зносілі нябожчыка і прыбіралі ў доме, юстыцрат завяршыў следчы акт. У якасці галоўнага сведкі паперу падпісаў, блізарука прыжмурыўшыся, магістр. Кросбах счакаў, пакуль падсохне на пергамене чарніла, скруціў шэры ліст у трубку і змясціў у скураны футарал. Цяпер пратакол належала захоўваць у архіве да дня Страшнага Суда. (Атрымлівалася, менш за стагоддзе, бо тагачасныя прапаведнікі казалі, што Армагедон неаспрэчна адбудзецца 16 чэрвеня 1666 года.)

На развітанне магістр Герберус падзяліўся плёткамі. Маўляў, у Альбярціне ўжо даведаліся пра смерць доктара Прудэнціуса і ў канцылярыю рэктара чарадой пацягнуліся выкладчыкі, якія туліліся на здымных кватэрах. Кожны з іх хваліўся грунтоўным унёскам у навуку і прасіў дазволу, каб пасяліцца ў апусцелым доме на Грунэрштрасэ.

— Заўтра збор вучонай рады! — пакруціў галавой Герберус. — Уяўляю, які там вэрхал узачнецца! Якія звягі ды знявагі прагучаць...

Абмяняўшыся ўзаемнымі паклонамі, Кросбах адпусціў магістра ў акадэмію ды сам зазбіраўся ў дарогу. Юстыцрат спакаваў паперы ў мех, завязаў тасёмкі, закінуў на плячо. Заставалася хіба што замкнуць дзверы дома і павесіць на іх пячатку. Ды раптам дзверы кабінета прыадчыніліся і з паўзмроку калідора ў пакой пракаўзнуў юнак. На выгляд — гадоў

пятнаццаці. Выраз на непрыгожым аблавухім твары меў задуменны і крыху іранічны. Апрануты юнак быў у шэрыя суконныя штаны з абвіслымі каленямі, зялёную куртку з прарэзамі на грудзях, скрозь якія бачылася чырвоная кашуля. На нагах — скураныя пантофлі з кароткімі насамі. Каўнер кашулі складкамі ахопліваў тонкую шыю. Да шырокага пояса прывязаны кашалёк. У руцэ нервова сціскаў капялюшык.

Нізка пакланіўшыся, візіцёр звярнуўся да Кросбаха па-лацінску:

— Я мушу, экселенц, пагаварыць з вамі па вельмі важнай справе.

У Кнайпхофе, як і ў іншых гарадах Еўропы, дзе меліся акадэміі, выкладчыкі ды вучні, незалежна ад веравызнання і месца нараджэння, размаўлялі паміж сабой і з тубыльцамі ўніверсальнай мовай Цэзара і Вергілія. Кросбах здзіўлена выгнуў брыво і адказаў па-лацінску:

— Я меркаваў, усе студэнты сышлі з магістрам Герберусам.

— Я затрымаўся. Нам з вамі зараз сведкі без патрэбы.

Юстыцрат крыху прыжмурыўся, згадваючы: ці не трапляў раней гэты юнак у поле яго зроку? Нешта не прыгадваўся.

— З кім маю гонар размаўляць? — спытаў ён.

— Шкаляр факультэта вольных мастацтваў. Вучуся на аддзяленні філасофіі. Андрэй Станкевіч з Літвы, да вашых паслугаў.

— Якая справа прывяла вас да мяне, юны філосаф?

— Сюды прыйшоў я разам з іншымі вучнямі па загадзе Герберуса, — распавёў хлопец. — Ці, праўдзівей кажучы, сам напрасіўся. Я прыбіраў у калідоры. Адтуль падслухаў вашу размову з магістрам. Вы лічыце, нібыта ў смерці прафесара вінаваты Уладар апраметнай. А я мяркую — дэман у чалавечым абліччы. На шчасце, у гэтым пакоі застаўся доказ, які неаспрэчна выяўляе віну нягодніка. Я перадам яго вам, экселенц, каб вы заўтра публічна выкрылі забойцу.

Юстыцрат ашаломлены прысеў на край стала, скінуў з пляча мех, скрыжаваў рукі на грудзях ды строга спытаў юнага філосафа:

— Якія ў вас падставы для такой заявы?

***

За два гады да тае размовы, улетку 1568 года, бацька Андрэя — купец Адам Станкевіч — грунтоўна разважаў: куды выправіць сына на вучобу?

Да Менска даходзілі чуткі, што лепшыя ў свеце знаўцы рымскага права выходзяць са сценаў італьянскай Балоны, урачы — з французскага Манпельё, астролагі ды матэматыкі — з англійскага Оксфарда, багасловы — з іспанскага Таледа. Аднак Адам Станкевіч не мог туды адправіць родную кроў, паколькі з нядаўняе пары адцураўся каталіцтва, прыняў веру Марціна Лютэра і сваіх родных перахрысціў.

Шчыра кажучы, прычыны для перамены веравызнання тлумачыліся не прагаю душы, аднак жа відавочнаю выгадай. У часы панавання Жыгімонта Аўгуста князі Літвы і Русі актыўна прымалі хто лютэранства, хто кальвінізм, дэманструючы такім чынам незалежнасць ад Польскай Кароны, дзе каталіцтва буяла пышна. Услед за магнатамі змянялі веру шляхта і мяшчанства. Пранырлівы Адам Станкевіч своечасова скеміў, што яго партнёры і пакупнікі, сярод якіх прыбаўлялася лютэранаў, ахвотней будуць мець справу з адзінаверцам. Калі б спатрэбілася, лоўкі гандляр, не вагаючыся, прыняў бы нават веру Магамета.

На бяду, з-за лютэранскага веравызнання дзверы каталіцкіх акадэмій зачыніліся для купецкага сына. Але на шчасце, у многіх нямецкіх землях шанавалі веру Лютэра. Там меўся тузін акадэмій, слаўных сваімі багаслоўскімі факультэтамі. Бліжэйшая з іх знаходзілася ў Прусіі, у Кнайпхофе. Туды, пастанавіў мудры крамнік, і паедзе вучыцца Андрэй.

Кожнаму са сваіх дзяцей Адам Станкевіч загадзя вызначыў жыццёвы кон. Старэйшаму сыну, пятнаццацігадоваму Барысу, належала атрымаць у спадчыну бацькаву маёмасць і працягваць камерцыйную справу. Сёстры — дзесяцігадовая Тэафілія і сямігадовая Гальшка — былі ўжо сасватаныя і чакалі паўналецця, дванаццаці гадоў, каб згуляць вяселле. Малодшаму сыну, трынаццацігадоваму Андрэю, прыспела пара пакінуць родны дом і прыдбаць сабе планіду, якая і накорміць, і абагрэе. Аплачаная з бацькавай кішэні багаслоўская адукацыя гарантавала сыну або духоўную кар'еру, або пасаду сакратара пры двары вяльможы. У школцы пры Свята-Троіцкім кляштары Андрэй добра засвоіў лацінскую мову і цяпер мог годна размаўляць з кожным адукаваным чалавекам на абшарах ад Полацка да Лісабона…

Сонечным ранкам у пачатку ліпеня купецкі сын адплыў на віціне ад прыстані каля Замкавай гары. Акрамя куфэрка, у якім захоўваліся бялізна, парачка кніжак, пісьмовыя прылады і кашэль з талерамі, Андрэй Станкевіч вёз у памяці бацькоўскі запавет.

Перад расстаннем крамнік раіў сыну:

— Нішто цябе, Андрэйка, не абароніць ад волі нябёсаў. Калі заўгодна Богу, то патонеш у моры. Або сканаеш ад паморку. Ці нават здохнеш ад курынай косткі, якою папярхнешся за вячэрай. Аднак і ты можаш Госпаду ўспамагчы, каб даў табе жыццё доўгае і шчаслівае. Дзеля таго трымай цела і душу ў чысціні. Прымячай чужыя звычкі і паводзіны. Засвойвай з іх карысныя, пазбягай шкодных, і так лаўчэй пазбавішся дарэмных мітрэнгаў. Памятай — анёл і д'ябал заўсёды за табою сочаць.

— Нават у прыбіральні? — іранічна ўдакладніў юнак.

На гэты конт бацька не меў дакладных звестак і таму дапусціў:

— Мажліва, анёл адвернецца, калі ты чысціш нос ці распакоўваеш страўнік. Але вораг чалавечы заўсёды напагатове, будзе чакаць ад цябе ўчынкаў гнюсных. Аднак жа выбар усё роўна застанецца за табой. Выбар — вышэйшы нам дарунак Пана Бога.

Падлетак засмучана прамаўчаў. Зусім ён не палаў жаданнем ехаць невядома куды засвойваць мудрагелістыя навукі. Ды бацька напярэдадні сурова адлупцаваў сына — маўляў, каб на чужыне не дужа смуткаваў па родным доме. Пякучы боль у сцёгнах суцішыў гаротны жаль расстання.

Юнак абняўся на развітанне з матуляй і сёстрамі, якія жаласліва раўлі ў тры ручаі, паказаў дулю брату Барысу, з якім жылі, бы котка з сабакам, і перайшоў па сходах з прычала на карабель.

З царкоўнай вежы на Замкавай гары ўдарыў звон. Андрэю ён падаўся пахавальным. Ранейшае бесклапотнае жыццё для яго памерла і зараз нібыта не воды Свіслачы, але Стыкса, ракі памерлых, неслі віціну, бы ладдзю Харона, у непрадказальную і страхатлівую невядомасць.

***

Атынкаваныя і пабеленыя сцены кабінета нябожчыка ўпрыгожвалі распяцце над сталом ды мапа Сусвету насупраць яго. Звычайна прафесар Якаб Прудэнціус выкарыстоўваў яе на лекцыях у якасці дапаможніка. Цяпер мапа цешыла вока юстыцрата Кросбаха, які, прысеўшы на край стала, удумліва слухаў Андрэя Станкевіча.

На шырокім пергаменце мапы Сусвет падзяляўся на роўныя часткі — Нябёсы і Апраметную. А ў сярэдзіне зіхацела зыркімі фарбамі паўкруглая Зямля. Яе цэнтрам з'яўляўся Ерусалім, дзе ўкрыжавалі Ісуса. Адсюль вёў шлях у Нябёсы, у Боскае царства, якое дзесяццю сферамі, бы вясёлка, узвышалася над грэшнаю Зямлёй. У першай сферы выпраменьваў святло Месяц, у другой — Марс, у трэцяй — Венера, у чацвёртай — Меркурый, у пятай — Юпітэр, у шостай — Сатурн, у сёмай — Сонца. Восьмую сферу складалі ледзяныя свяцілы, якія называліся Космасам.

Дзявятая — Імперыум — утваралася з суцэльнага агню. У дзясятай сферы велічна сядзелі Бог Бацька, Бог Сын, Бог Святы Дух і галоўныя святары роду чалавечага. Дробныя фігуркі людзей луналі ў блакітных і чырвоных абшарах ад Зямлі да дзясятага неба, сімвалізуючы такім чынам, што пасля смерці пабожны лютэранін патрапіць у тую ці іншую сферу — адпаведна сваім заслугам. У адваротным кірунку — з вышэйшай сферы на Зямлю — сягалі анёлы.

У ніжняй палове мапы цямнелі дзесяць сфераў Д'яблавага царства. Туды валіліся грэшнікі — кожны ў залежнасці ад учыненых злачынстваў трапляў у тую ці іншую сферу апраметнай. А з дзясятай, дзе ў пашчы Сатаны смажыліся Каін, Брут ды Іуда, да Зямлі кіравалі рагатыя д'яблы.

Анрэй Станкевіч тым часам красамоўнічаў:

— Ісціна па сваёй прыродзе падобная вадзе або святлу. Усюды пранікне рана або позна. Зламысніцтва і падступства часта ствараюць перашкоды на яе шляху. І Гасподзь гэта дапускае, каб людзі ўсвядомілі, што іхні абавязак — уласнымі высілкамі расчышчаць дарогу праўдзе...

— Я зразумеў сутнасць вашага імператыву, — перапыніў Кросбах. — Цяпер скіруйце човен сваіх развагаў бліжэй да справы. На якой падставе вы палічылі, быццам прафесар Прудэнціус забіты? І хто тады забойца?

— Выкладчык Альбярціны. Таму я заклікаю вас, экселенц, выступіць заўтра на навуковай радзе і распавесці пра яго злачынства.

— І што ж я мушу заявіць вучонай радзе? — змрочна спытаў Кросбах.

Станкевіч завагаўся і да адказу на пытанне скіраваўся здалёк:

— Пасля агляду сутарэння вы, экселенц, пэўна, зразумелі, што прафесар Прудэнціус з'яўляўся аматарам Таемнага мастацтва?

— Хто ж з навукоўцаў не бавіўся алхіміяй? — іранічна хітнуў галавою Кросбах. — І я таксама маладой парой, калі вучыўся ў нашай Альбярціне, шукаў у эксперыментах Вялікі сродак. У выніку прыйшоў да высновы, што меў рацыю славуты Агрыпа фон Нэтэсгейм: Таемнае мастацтва — усяго толькі марнасць і вецер.

— Якаб Прудэнціус таксама зведаў багата расчараванняў у здабыцці філасофскага каменю. Але й не думаў адмаўляцца ад эксперыментаў. Я ведаю гэта дакладна, бо меў гонар служыць яму асістэнтам на працягу года. І як мог пераканацца, прафесар вышукваў Вялікі сродак не дзеля ўзбагачэння. Ён спадзяваўся з дапамогай філасофскага каменя вынайсці лекі ад усіх хваробаў. У першую чаргу, ад каменя ва ўласных нырках… Пагнаўшыся за марай, Якаб Прудэнціус адцураўся многіх радасцей быцця. Не ажаніўся, не паклапаціўся пра ўласны дабрабыт. Адзіным яго неацэнным скарбам былі вялікія веды і бязмежная адданасць навуцы...

— Цяпер і яны сталіся прахам, — уздыхнуў юстыцрат Кросбах.

— І вінаваты ў гэтым паскуднік з душою дэмана і добразычлівым абліччам. У ягоным сэрцы доўгі час выспявала прыхаваная нянавісць да Якаба Прудэнціуса. Зламыснік ведаў, як награвающца ў час метафізічнай трансфармацыі разнастайныя інгрэдыенты. Тут нават дробная памылка пагражае небяспечным вынікам. Я ведаю дакладна, што спалучэнне ртуці і кіпеню спараджае выбух. А з'яднанне серы і кінавары ўтварае атрутны дым...

— Аднак пажару ў доме не было, — змрочна адзначыў Крос. — Прыкметаў атруты я таксама не ўбачыў.

— Бо прафесар быў атручаны хітра, — звонка заявіў Станкевіч.

Ён падышоў да шафы, каля якой вісела мапа Сусвету, адчыніў дзверцы і ўказаў на паліцу, дзе месціліся тры дзясяткі кніжак.

— З ласкі гаспадара я прачытаў усю яго багатую бібліятэку, — пахваліўся Андрэй і паторкаў пальцам у скураныя вокладкі. — У гэтым томе сабраныя творы знакамітых астраномаў. Цімахарыс, Гіпарх, Арыстарх Самоскі, Ціха Браге... У гэтым — опусы слынных гісторыкаў. Плутарх, Гай Транквіл, Квінт Фляк, Публій Марон... Тут — стаўпы матэматычнае навукі. Эратасфен, Апалоній Пергскі, Нікола Тарталы, Луіджыа Ферары... А гэтая кніжка, — указальны палец спыніўся на цёмным пераплёце без назвы, — змяшчае трактаты па вырабе лекаў і атруты. Гатаванне лекаў змястоўна апісваюць арабскія нехрысці. Разэс, Авіцэна, Ісмаіл Джурджані... Што тычыцца атруты, то тут неаспрэчную перавагу маюць італьянцы. Сандра Сантырыа, Джузэпэ Фракастора, Арнольда Джымалоні... Памятаю, калі яе чытаў, дзівіўся, як шмат вакол нас рэчаў, з якіх можна вырабіць атруту... І як толькі дазнаўся пра смерць прафесара, то прыгадаўся мне раздзел з тае кнігі. У ім згадвалася ўніверсальная атрута, якую практычна немагчыма выявіць. Яна складаецца з насення маку, дробна пасечаных лістоў блёкату, карэння чаромхі і тоўчанага зерня слівы.

— Такія расліны ёсць амаль у кожным агародзе ў Кнайпхофе, — наморшчыў лоб Кросбах. — Іх спалучэнне несмяротнае...

— Пакуль не дадасцё кінавары, серы, пудры і дробкі солі!

— А пудра навошта? — удакладніў юстыцрат.

— Каб надаць сумесі выгляд белай тынктуры.

Кросбах задумліва звёў бровы. Белай тынктурай алхімікі называлі рэчыва, неабходнае для здабывання філасофскага каменя.

— Мяркуеце, забойца ўручыў Прудэнціусу атруту і параіў падагрэць? — дапусціў юстыцрат. — Ды хто паверыць у такую дурасць?

— Бадай што апантаны прафесар, які шмат гадоў вышукваў Вялікі сродак. Уяўляю, з якой пажадаю ўзяў ён у рукі гэтую сумесь. Кожны яе складнік сам па сабе пагрозы не ўяўляе. Але ў нагрэтым выглядзе рэчыва трансфармуецца ў атруту, якая пранікае ў чалавека з подыхам. Часцінкі сумесі пакрысе засмечваюць кроў ахвяры. Праз колькі гадзін спыняецца крывацёк, паветра не трапляе ў лёгкія. Няшчасны ў пакутах памірае. А выглядае ўсё так, нібыта яго сэрца само сабой спынілася. Арнольда Джымалоні пісаў, што за мінулым часам такі сродак актыўна ўжываўся пры двары міланскіх герцагаў…

— Калі ўсё так, то сляды атруты яшчэ засталіся ў лёгкіх нябожчыка, — задуменна прагаварыў юстыцрат.

— Трэба прэпараваць цела, пакуль яго не пахавалі, — апусціўшы вочы, сціпла мовіў юнак. — На медыцынскім факультэце Альбярціны ёсць адмысловыя майстры. Яны ахвотна акажуць паслугу закону ды анатаміруюць цела свайго калегі. Пасля таго, як рассякуць грудзіну прафесара, вы ўбачыце, што лёгкія набылі цёмна-сіняе адценне. Так, ва ўсялякім выпадку, апісваў ахвяраў атруты Джымалоні…

— Значыць, Якабу Прудэнціусу прэзентавалі смяротны сродак, які ён лічыў тынктурай для здабывання філасофскага каменя, — аналізаваў уголас Кросбах. — Прафесар учыніў эксперымент. Яд нагрэўся…

— І прафесар удыхнуў атруту з парай, — нецярпліва ўмяшаўся Станкевіч. — Між тым як сам забойца быў ужо далёка. А няшчасны прафесар не падазраваў, што гадзіннік яго жыцця адлічвае апошнія хвіліны. Прудэнціус завяршыў эксперымент і падняўся ў кабінет. Мабыць, жадаў занатаваць вынікі даследавання. І раптам адчуў, што не можа перавесці дых. Сэрца

білася ўсё слабей. Ад невыноснага болю ў яго вытарашчыліся вочы... — хлопец паваліўся на падлогу, захрыпеў, сціх, павярнуў галаву да Кросбаха і завяршыў: — У такім выглядзе ляжаў Якаб Прудэнціус, калі яго знайшлі.

— Што за відовішча вы мне тут паказалі? — працягнуў юстыцрат руку, дапамагаючы юнаку ўстаць на ногі.

— Адлюстраваў парадак верагодных падзей. Юрысты ў старадаўнім Рыме называлі такі метад рэканструкцыяй.

— Наколькі памятаю, рымскае права шануе рэчыўныя доказы.

— Маю версію падмацуюць аргументы, — юнак зняў з пояса скураны кашалёк, выняў з яго анучу, развязаў яе: — Вось першы.

На бруднай тканіне бялеў зацвярдзелы парашковы сплаў.

— Пакуль мае таварышы ачышчалі кухню ад недаедкаў, я патэпаў у сутарэнне і агледзеў лабараторыю, — даў справаздачу Станкевіч. — На сценках катла, які прафесар звычайна ўжываў у эксперыментах, знайшоў вось гэта. Саскроб часцінкі...

Юстыцрат цікаўна наблізіў нос да сплаву, удакладніў:

— Дык кажаце, атрута небяспечна, пакуль яе не разагрэлі на агні?

Пераҗагнаўся, скруціў анучу з парашком і сунуў рэчыўны доказ у кішэню пад мантыяй. Потым прызнаўся:

— З трактатам Джымалоні я не знаёмы. Штогод з'яўляецца ўсё болей новых кніжак. Не ўяўляю, хто паспее іх прачытаць...

— Другі мой аргумент — забойца ўзяў кнігу з творамі Арнольда Джымалоні менавіта ў хатняй бібліятэцы Якаба Прудэнціуса.

— Адкуль такая ўпэўненасць?

— Калі служыў у прафесара, то праверыў — такіх кніжак, як у яго, няма ані ў акадэмічным кнігасховішчы, ані ў кніжных крамах Кнайпхофа. Усе свае каштоўныя талмуды прафесар Прудэнціус прывёз з Прагі, дзе некалі выкладаў ва ўніверсітэце. Сярод іх меўся нават такі рэдкі твор, як «Інтымнае жыццё жыхароў Месяца». Сваім багаццем Якаб Прудэнціус час ад часу дзяліўся з калегамі. Ды толькі і ўявіць не мог, што разам з творам Джымалоні ўручае свайму забойцу рэцэпт бездакорнага атручвання.

Юстыцрат зняў з паліцы злашчасны зборнік, пагартаў яго, спытаў:

— І што ў гэтай кніжцы ўказвае нам на імя забойцы?

— Яно пазначана ў прафесарскім нататніку. Як я казаў, да бібліятэкі Прудэнціуса часта звярталіся яго акадэмічныя паплечнікі. Наўзамен ён прасіў што-небудзь карыснае для сваіх метафізічных эксперыментаў. Напрыклад, парашок з тоўчанага кіпцюра птушкі Крак або жмут поўсці аднарога. Мяркую, забойца папрасіў у яго зборнік па медыцыне, праштудзіраваў кнігу ды ў якасці аплаты ўручыў пад выглядам тынктуры атруту. Аднак не ўлічыў, што прафесар занатоўвае імёны ўсіх, каму пазычаў кнігі. А запісную кніжку захоўваў у шуфлядзе свайго стала…

Не паспеў юнак дагаварыць, як Кросбах адчыніў шуфляду, адшукаў пад стосам папераў нататнік, выняў, пагартаў. Большасць старонак, датаваных пэўным годам, запаўнялі радкі з імёнамі і навуковымі пасадамі, назвамі кніг, датамі выдачы і вяртання. На аркушы з лічбай «1570» насупраць запісу «трактат пра медыцыну» чарнела адно прозвішча. Колькі разоў перачытаўшы яго, Крос збянтэжана мовіў:

— Доктар Альфрэд фон Зітцэр? Не магу паверыць.

— І ніхто не паверыць. Аднак жа разам мы зможам даказаць яго віну.

***

Жнівеньскім поўднем 1568 года віціна, на якой Андрэй Станкевіч плыў да ведаў, увайшла ў вусце ракі Прэгель.

За кармою засталіся шлях па Свіслачы, Заходняй Бярэзіне, Нёмане, гайданка ў халодным Балтыйскім моры. Апошнія дні плавання выдаліся такія, што ўспамінаючы іх, купецкі сын нервова ўздрыгваў.

Як толькі карабель выйшаў з Нёмана ў Куршскую затоку і абагнуў доўгую белапясчаную касу, наляцела бура. Марскі шал то высока падкідваў лодку на белапенных хвалях, то куляў у цёмную бездань. Андрэй Станкевіч тым часам у труме то маліўся, то верашчаў спуджаным шчанюком. У думках ён ужо развітаўся з жыццём, рыхтаваўся патрапіць на спажыву міфічнаму Трытону.

На досвітку мора палагаднела, ладдзя заслізгацела па Віслянскай затоцы. Крыкамі карабель віталі качкі, нізка сягаючы над ветразем.

Чорна-зялёныя марскія хвалі згладзіліся, абапал бартоў заструменіліся сінія воды Прэгеля, паказаліся нізінныя берагі Прусіі.

Станкевіч падняўся з трума на палубу і ў хуткім часе ўгледзеў на ўсходзе шырокую гару. На яе пляскатай вяршыні раскінуўся цагляны замак, акружаны двайной сцяною. Ад сонечных прамянёў ярка ззяў буйны крыж на даху пяціяруснай вежы ў цэнтры замка.

Капітан карабля Гневаш спыніўся каля борта, на які абапіраўся Станкевіч, указаў на спадзістае ўзвышша, расказаў:

— Каралеўская гара. Па-нямецку — Кёнігсберг. Названая так у гонар чэшскага караля Атакара. З дапамогаю ягоных рыцараў чатырыста гадоў таму крыжакі-тэўтоны адваявалі гэтую зямлю ў паганцаў-прусаў, — заўважыўшы, што весляры заазіраліся, строга крыкнуў: — Годзе галовамі круціць, вароны! Прыналяглі плячом!

Пад Каралеўскаю гарою на раўніне туліліся тры гарады: на паўночным беразе Прэгеля — порт Альтштат, на паўднёвым — селішча рамеснікаў і земляробаў Форштат, а на выспе пасярод ракі — горад вучоных Кнайпхоф.

Віціна прышвартавалася да аднаго з прычалаў Альтштата. На борт падняўся чыноўнік з ратушы, склаў допіс прывезеных тавараў, прыняў ад Гневаша мытную плату і нарэшце дазволіў веслярам сысці на бераг.

Здаволена перакрыкваючыся, каманда паваліла ў горад. Следам за імі пабрыў на прыстань і Андрэй Станкевіч. Пад пахаю ён нёс куфэрак з асабістымі рэчамі, а ў сэрцы — страх і невыносны цяжар адзіноты.

Увагнуўшы галаву ў плечы, юнак мінуў лінію складоў. За імі цягнулася вуліца, забудаваная шынкамі ды прытонамі. Тут амаль не змаўкала адмысловая лаянка. Ахмялелыя наведвальнікі спаражняліся побач з кожнай сцяной або плотам. З расчыненых вокнаў высоўваліся аголеныя па пояс непрыгожыя кабеты і запрашалі прахожых у госці. Дарогу часта перагароджвалі матросы, якія храплі на пяску, лежма разлёгшыся ва ўласных ванітах. Карацей кажучы, партовая весялосць буяла пышна, але ў Станкевіча выклікала грэблівую агіду.

Яшчэ болей яму сапсавала настрой спроба двух мараплаўцаў, якія перамаўляліся паміж сабою па-шведску і хістка трымаліся на нагах, абрабаваць юнака, адабраць скрыню з рэчамі. Раптоўна выйшаўшы з скляпка, шведы заступілі дарогу Андрэю, штосьці пагражальна залапаталі. Ад іхніх брыдкіх усмешак у юнака заледзянела сэрца.

Хлапечы крок замарудзіўся, між тым як думка паскорылася. Збочыць няма куды, вяртацца да віціны — марная справа, усё роўна дагоняць. Заставалася адзінае выйсце — наперад!

Знянацку Станкевіч ашалела зароў і паімчаў на шведаў, якія здзіўлена знерухомелі. Аднаго з рабаўнікоў Андрэй адштурхнуў плячом, другога стукнуў краем куфра па галаве. Здалося, быццам пачуў, як хруснула лобная костка. Завыўшы ад болю, матрос захістаўся, апусціўся на калені. Ударыўшы яго нагой у грудзі, Станкевіч зваліў шведа на пясок, пераскочыў цераз цела, прыпусціў прэч. Другі грабежнік выхапіў нож, з азвярэлым крыкам пагнаўся за юнаком.

Ды Андрэй на лямант за спінаю не зважаў, дарма не азіраўся, ашчаджаў подых. У Менску ён займеў багаты досвед уцёкаў. Старэйшы брат Барыс часта збіваў малодшага — асабліва па дарозе са школкі дадому. На кулаках Андрэй не мог адужаць брата, дык увесь свой спрыт укладаў у ногі. Самае важнае ў такой справе — стварыць бяспечную адлегласць, крокаў пяць, ды імчаць раўнамерна, не паскарацца. Тады праследніку падасца, быццам вось-вось ухопіць Андрэя за каўнер. Ён паскорыцца і тым хутчэй стоміцца. А як пачуецца за спінай перарывісты кашаль, то значыць, праследнік выдыхнуўся. Тады можна дадаць кроку і даляцець першым пад страху бацькоўскага дома, дзе Барыс асцерагаўся рукі распускаць.

Той жа манеўр юнак скарыстаў зараз і неўзабаве адарваўся ад гіцля, выскачыў на шматлюдную дарогу, якая вяла ад порта да Кнайпхофа.

Толькі цяпер сэрца Андрэя спужана закалацілася. Звычайна страх накатваў на яго са спазненнем. Таму ў момант небяспекі хлопец дзейнічаў знаходліва, а потым, застаючыся сам-насам, дрыжаў, бы палахлівая варона.

На паўдарозе паміж Альтштатам і Кнайпхофам Станкевіч убачыў пагорак з мураваным памостам, а на ім — масіўную плаху, акружаную трыма слупамі, якія злучаліся бэлькамі-шыбеніцамі. На кожнай бэльцы боўтаўся ў петлях дзясятак павешаных. Побач з лобным месцам тырчалі дзве невысокія палі. На першай быў насаджаны прыгавораны. Вастрыё другой увянчала кола, на якім сохлі кавалкі чалавечага цела. Каля памоста грувасціліся кучы адсечаных рук, ног і галоваў. Зграя крумкачоў кружыла над лобным месцам. Чорныя птушкі апускаліся на плечы і галовы шыбенікаў, дзяўблі вочы і скуру з твараў нябожчыкаў.

Выгляд лобнага месца мусіў нагадваць прахожым аб карысці законапаслухмянасці. На Станкевіча яно навеяла салодкую мару: карысна было б далучыць да чарады шыбенікаў парачку шведаў-рабаўнікоў! І як да жалю крыўдна, што ён не здатны анікому даказаць іхняй віны, паназіраць за справядлівым пакараннем...

Купецкі сын скрушліва ўздыхнуў і пабрыў дарогай, якая пралягала міма бярэзніку і могілак, да Кнайпхофа.

Горад, славуты на ўвесь лютэранскі свет сваёй акадэміяй, узвышаўся на буйной, крокаў дзевяцьсот у даўжыню і восемсот у шырыню, выспе пасярод ракі. Два шырокія масты — Крамны і Мядовы — злучалі востраў з паўночным і паўднёвым берагамі. Трэці мост, званы Вантробным, прызначаўся для вывазу з Кнайпхофа смецця на звалку. Хадзілі па ім пераважна залатары-асенізатары і віслёны-прастытуткі. Прыстойныя людзі тут не паказваліся. Людскі натоўп на працягу дня шумеў і віраваў на Крамным і Мядовым мастах — там выцягнуліся ў шыхт крамкі ды латкі, дзе гандлявалі адзеннем і абуткам, харчам і пітвом, вырабамі з майстэрняў меднікаў і ювеліраў, шаўцоў і крамнікаў.

Уваход на кожны мост бараніла каменная вежа з дубовай брамай. Вада пад мастамі смярдзела — у раку па жалабах з крапаснай сцяны штодня злівалі бруд з гарадскіх прыбіральняў. Апорамі мастоў служылі пяцікутныя бастыёны з цэглы і бярвёнаў. У мірны час унутры іх былі абсталяваны казематы, склады і вязніцы. На ноч уваход на мост зачыняўся, а ўдзень парадак тут даглядалі жаўнеры герцагскай гвардыі — службоўцы сталага ўзросту, ужо не здатныя да вайсковай выправы, але годныя несці каравул у горадзе. На ўзор Старажытнага Рыма такіх ваякаў называлі «*міліцыянеры*».

У Кнайпхоф юны ліцвін увайшоў Крамным мостам. Распытаўшы ў гандляроў, многія з якіх разумелі лацінскую мову, дарогу да акадэміі, Станкевіч нарэшце заявіўся ў апірышча прускай асветы і навукі.

Акадэмія размяшчалася ў будынках колішняга каталіцкага кляштара. У 1525 годзе, калі прускі герцаг Альбрэхт прыняў вучэнне Марціна Лютэра і адцураўся ўлады Рыма, манаская брація пакінула Кнайпхоф. Прыдворныя раілі герцагу абсталяваць у кляштары мануфактуру па вырабе вяровак і канатаў. Але яго светласць нечакана пастанавіў заснаваць тут навучальную ўстанову на ўзор той, якую дзве тысячы гадоў таму ўтварыў філосаф Платон у сваёй сядзібе Акадэмас каля Афінаў.

Хадзілі чуткі, нібыта Альбрэхта намовіў на такі ўчынак доктар Францыск Скарына з Полацка, які прыязджаў у Кёнігсберг у 1530 годзе і колькі месяцаў служыў у ягамосці сакратаром. Неўзабаве герцагская атачэнне справадзіла нерадавітага палачаніна ўпрочкі. Аднак Скарынава парада глыбока залягла ў сэрца прускага ўладара.

Герцаг Альбрэхт лічыў сябе страшным грэшнікам за тое, што шмат гадоў спавядаў каталіцтва. Ён паспадзяваўся, што калі з берагоў Прэгеля пойдуць у свет юрысты, медыкі ды багасловы, якія будуць укараняць лютэранскую веру ў блізкіх і далёкіх землях, то, мажліва, за такі ўчынак нябёсы даруюць хоць бы палову ўсіх яго грахоў.

Так дзеля ўратавання душы яго светласці ў горадзе на выспе стварылася акадэмія. Дом ігумена абсталявалі ў Рэктарыум, дзе жыло і працавала начальства, трапезную — у Шкалярыум, дзе чыталіся лекцыі ды ладзіліся дыспуты, будынак з манаскімі келлямі — у інтэрнат для навучэнцаў, гаспадарчы корпус — у шпіталь і бібліятэку.

Канцылярыя герцага Альбрэхта парассылала ў навучальныя ўстановы Нямеччыны, Швейцарыі, Галандыі запрашэнні вучоным узорваць асветніцкую ніву на прускай глебе. Прыезджым дакляравалі выплату пад’ёмных і шчодры заробак. Не дзіва, што ў Кнайпхоф памкнуліся дзясяткі навукоўцаў-лютэранаў. Пры гэтым кошт навучання быў таннейшы, чым у суседніх дзяржавах. Не дзіва, што сюды паехалі вучыцца сотні ахвотнікаў з розных краёў Еўропы, розных узростаў — ад трынаццаці да трыццаці гадоў, і нават веравызнанняў — не толькі лютэране, але і кальвіністы, праваслаўныя, каталікі…

Ад гарадской брамы дарога да акадэміі вяла міма сабора. Станкевіч аж аслупянеў, упершыню ўбачыўшы такое дзівоснае збудаванне — вялізны храм з вастраканцовымі аркамі, спічастымі вежамі, вітражнымі вокнамі, высокімі сценамі, упрыгожанымі каменнымі карункамі. Такая ж прыгажосць, падумалася юнаку, можа ўтварыцца і ў яго душы — калі будзе сціплым, дбайным да вучобы і непахісным у веры. Аніводнай з такіх вартасцяў купецкі сын пакуль не мог пахваліцца.

Акадэмічныя забудовы акружаў невысокі мур. Каля брамы нёс каравул стары вартаўнік-«міліцыянер». Ён указаў Андрэю дарогу да Рэктарыума — двухпавярховай будыніны з чырвонай цэглы. У яго флігелі месцілася канцылярыя акадэміі.

Станкевіч перажагнаўся, аслабелаю рукой пагрукаў у дзверы і ўвайшоў, адчуваючы, як ад страху ў яго падгінаюцца ногі.

Пасярод пакоя з высокай столлю выцягнуўся дубовы стол, уздоўж сценаў — шафы і лавы. Загадчыка канцылярыі — яго пасада называлася «*канцлер акадэмічны*» — Андрэй заспеў за важнай справай «патурання прыродзе»: сухарлявы мужчына, падабраўшы крысо мантыі, мачыўся ў шырокі збан у куце. Станкевіч пакланіўся яму ў спіну і па-лацінску агучыў прычыну свайго візіту. Канцлер, не азіраючыся, хітнуў галавой:

— Навуку, значыць, спасцігаць прыехалі. Адкуль вы? З Літвы? Калі не памыляюся, то гэта недзе паміж Польшчай і Татарыяй?

Канцылярыст закрыў збан накрыўкай, самавіта ўладкаваўся за сталом і насунуў на нос дзівосную рэч — два круглыя празрыстыя шкельцы ў жалезнай аправе. Разглядваючы юнака скрозь шклечкі-акуляры, канцлер сурова заявіў ашаломленаму Станкевічу:

— Мяркуеце, прыехалі ў храм навукі? Насамрэч вы патрапілі ў прытон, на шабаш грэшнікаў! Будзеце жыць сярод распуснікаў, падманшчыкаў, грахаводнікаў і п'яніц! Мала хто са шкаляроў праяўляе схільнасць да ведаў. Затое спрэс ахвочыя да гулянак і да цягання за спадніцамі! Рады вітаць вас у акадэміі Кнайпхофа!

Пасля такой прэамбулы канцлер запісаў у сшытку-гросбуху звесткі пра Станкевіча і патрабавальна ляпнуў далонню па стале:

— Плата за год вучобы — дваццаць талераў. Калі вас адлічаць за гультайства або за непавагу да выкладчыка, то грошы не вярнуць. Ёсць пара правілаў, якія належыць засвоіць. Першае: да кожнага, хто ў акадэміі або ў горадзе мае статус вышэйшы, чым ваш, належыць пачціва звяртацца «экселенц». Другое: за абразу на адрас вялікага герцага, рэктара або магістрата вас чакае пакаранне дубцом ля ганебнага слупа. Калі ж пачуеце ад некага такую абразу, то мусіце паведаміць пра гэта юстыцрату. Інакш вас пакараюць за неданясенне.

— Буду мець на ўвазе, экселенц,— Станкевіч паставіў свой куфэрак на край стала і дрыготкімі пальцамі развязаў кашалёк.

— Вось вы і атрымалі статус шкаляра, віншую, — узяў грошы канцлер. — Заняткі распачнуцца ў кастрычніку. Ці маеце дзе пасяліцца?

— Я першы дзень у Кнайпхофе, — жаласліва панурыўся хлопец.

— Шанцуе вам, вандроўнік з Літвы! Учора вызваліўся пакой у інтэрнаце. Можаце заняць вольны ложак. Плата за год — дзесяць талераў.

Купецкі сын не таргаваўся, зноў развязаў кашалёк.

Перад расстаннем акадэмічны канцлер даў юнаку наказ:

— Бліжэйшыя парачку гадоў вы будзеце падобны да дзіцяці, якога з лодкі кінулі ў рачны вір. Мяне самога так калісьці выхоўваў бацька… Ані дна пад нагамі, ані берага ўдалечыні, ані дапамогі зблізку. Спадзявайцеся на Боскую літасць і разлічвайце толькі на сябе. Тады, мажліва, і перажывяце той страшны час, які пазней назавяце лепшай парой свайго жыцця. Зычу вам поспехаў, шкаляр!

***

Пасяджэнне навуковай рады акадэміі распачалося апоўдні.

У вялікай зале Рэктарыума сабраліся паўтары сотні выкладчыкаў. Прафесары і дактары навук паселі на лавах са спінкамі, магістры і бакалаўры — на лавах без спінак, ліцэнцыяты засталіся стаяць каля сцен, упрыгожаных гравюрамі з алегарычнымі выявамі Мудрасці, Розуму і Навукі. У цэнтры залы на пастаменце ўзвышалася масіўнае крэсла рэктара. У куце, бліжэй да каміна, згорбіўся за сталом сакратар, які мусіў весці пратакол.

Уся прафесура апранула парадныя мантыі, аздобленыя футрам: багасловы — зялёныя, юрысты — фіялетавыя, медыкі — карычневыя. На галовах красаваліся капелюшы, упрыгожаныя пер'ямі чапляў. Некаторыя дактары з юрыдычнага факультэта адпусцілі на шведскі ўзор даўгія вусы. Іх калегі з медыцынскага — бароды, якія, на польскі ўзор, запляталі ў коскі ды перавязвалі стужкамі. Затое тэолагі прынцыпова чыста галіліся і коратка стрыгліся.

Неўзабаве ўвайшоў рэктар у суправаджэнні світы. Усе падняліся. Прагучала малітва, у якой Усявышняга прасілі ўсяляк апякаць ягамосця герцага Прусіі ды гэты храм навукі.

Парадак дня прадугледжваў зацвярджэнне навуковых патэнтаў і вырашэнне ўзаемных прэтэнзій выкладчыкаў. Аднак напачатку з дазволу рэктара перад вучонымі выступіў Карл фон Кросбах.

Яго прамова прагучала, зразумела, па-лацінску. Сярод прафесараў былі палякі, шведы, англічане, французы, а таксама немцы з розных куткоў Германіі. У тагачаснай Нямеччыне кожнае з трохсот княстваў мела ўласную дзяржаўную мову. Ніжнесаксонскі дыялект, на які Марцін Лютэр пераклаў Біблію, яшчэ не стаўся агульнанямецкай мовай, і жыхар Баварыі, напрыклад, нізавошта не зразумеў бы ўраджэнца Вестфаліі. З'ядноўвала іх хіба што мова старажытных рымлянаў.

Строгім голасам юстыцрат абвінавацiў доктара багаслоўя Альфрэда фон Зітцэра ў забойстве прафесара Якаба Прудэнцiуса.

Лагічны ланцуг разваг Кросбаха ашаламіў прысутных.

Апісаўшы, як хітра Зітцэр атруціў Прудэнцiуса, юстыцрат распавёў, што па ягонай просьбе выкладчыкі медыцынскага факультэта прэпаравалі нябожчыка і знайшлі ў пачарнелых вантробах сляды атруты.

Матывамі злачынства Кросбах назваў зайздрасць і крывадушнасць. Іх, зразумела, у душу Альфрэда фон Зітцэра ўкараніў нячысты дух.

Доктар Зітцэр, маўляў, атрымліваў дзвесце талераў штогод і за ўласны кошт здымаў жытло ў горадзе. Прафесару Прудэнцiусу акадэмія плаціла ўдвая болей і арандавала дом на Грунэрштрасэ. Сквапнасць, зайздрасць і д'яблава падбухторванне навялі доктара Зітцэра на думку адабраць у Прудэнцiуса дом і павышаны заробак. Усяляк дэманструючы цікаўнасць да Таемнага мастацтва, Зітцэр усыпіў пільнасць Прудэнцiуса, заручыўся яго даверам і ўручыў прафесару атруту, якую той і выкарыстаў у час метафізічнага эксперымента.

Момант забойства таксама быў абраны невыпадкова. Трактат, у якім змяшчаўся смяротны рэцэпт, Альфрэд фон Зітцэр прачытаў яшчэ ў лютым, але прыгатаваную атруту даў Прудэнцiусу менш, чым за тыдзень да збору навуковай рады. Зрабіў так, каб ніхто з яго калег не паспеў прад'явіць правы на вакантную прафесарскую пасаду і дом на Грунэрштрасе. Бо звычайна рэктар, каб пазбегнуць працяглых звадак і грызні вучоных, прызначаў на вакансію першага, хто падаваў прашэнне.

На гэтых словах юстыцрата позіркі прысутных сышліся на тоўстай постаці Зітцэра ў чырвонай мантыі — той ўскочыў з лавы яшчэ на пачатку прамовы Кросбаха ды так і знерухомеў, пабялеўшы і прыціскаючы да грудзей пергаментны скрутак прашэння. Чырвоныя плямы запунсавелі ў яго на шчоках, калі юстыцрат грозна закрычаў:

— Прыведзеныя доказы наўмыснага злачынства змушаюць мяне прасіць вучоную раду пра выдаленне доктара Альфрэда фон Зітцэра з акадэмічнай суполкі ды перадачу пад юрысдыкцыю гарадскога суда!

Навукоўцы нервова заварушыліся, сталі пераглядвацца. Статус акадэміі гарантаваў кожнаму вучонаму імунітэт. Нават прускі герцаг не меў права караць выкладчыка акадэміі ды яе студэнтаў ні за якія правіны, за выключэннем богазневажання, замаху на ўладу і душагубства. Дый тое толькі са згоды рэктара і вучонай рады. І цяпер усе позіркі скіраваліся да рэктара, які паважна выпраставў спіну. Ад яго важкага слова залежаў лёс выкладчыка багаслоўя.

Нягучна, паколькі цішыня ў зале панавала мёртвая, рэктар спытаў:

— А што засведчыць у сваю абарону шаноўны доктар Зітцэр?

— Усё, што пачулі мае калегі, лухта, — заявіў той. — Доказы гера юстыцрата маюць ускосны характар. Што ён дакладна можа прад'явіць? Запіс у нататніку? Дык там толькі занатавана, што я ўзяў кніжку пачытаць! Урывак з трактата Арнольда Джымалоні? Але хіба я адзіны, хто гартаў той твор? Так можна ўсіх чытачоў назваць атручальнікамі! Колер вантробаў нябожчыка? А хто ведае, як выглядалі яны пры жыцці Прудэнціуса? Кожны ўрач пацвердзіць — афарбоўка ўнутраных органаў чалавека часта залежыць ад таго, якую ежу і пітво ён ужываў, ці грашыў курэннем тытуню, ці пакланяўся Бахусу, ці лячыўся ад хваробаў Венеры! І нарэшце заява наконт матыву забойства, — Зітцэр разгарнуў пергаментны скрутак: — З дазволу яго міласці рэктара я зачытаю сваё прашэнне. У ім не згадваецца ані вакантная пасада прафесара, ані дамок на Грунэрштрасэ. Сярод маіх калегаў багата тых, хто годны іх заняць. Я ж прапаную прыняць закон, каб выкладаць у акадэміі маглі толькі асобы з дваранскім радаводам…

— Мы разгледзім вашу просьбу і вынесем яе на абмеркаванне наступнага сходу, — перапыніў рэктар. — Пакуль жа завяршым гэтую справу. Довады вашай невінаватасці, гер Зітцэр, нам падаліся больш пераканаўчымі, чым доказы юстыцрата. А вы, гер Кросбах, мусіце прызнаць, што агучаны вамі матыў забойства не пацвердзіўся. А без матыву такое хітрае злачынства не мае сэнсу. Таму, мы адхіляем ваша хадайніцтва. Раім шукаць забойцу па-за межамі акадэміі ды больш не пляміць гонар нашых навукоўцаў.

Спахмурнелы Карл фон Кросбах пакланіўся рэктару і пабрыў да дзвярэй. Альфрэд фон Зітцэр праводзіў яго трыумфальнаю ўсмешкай. Аднак, калі да парога заставалася крокаў пяць, да юстыцрата раптоўна наблізіўся Андрэй Станкевіч — да тае пары юнак таіўся за спінамі ліцэнцыятаў — і штосьці хутка прамармытаў Кросбаху. Ахоўнік закона знерухомеў, колькі імгненняў узважваў верагодныя наступствы пачутай парады, а затым рэзка павярнуўся і закрычаў:

— Акрамя гарадскога і акадэмічнага суда ёсць яшчэ і Боскі суд! Я апелюю да звычаю, асвечанага рымскім правам! Аспрэчыць яго ніхто не мае права — ані ваша міласць, ані сам герцаг! Паводле старадаўняга звычаю я выклікаю доктара Альфрэда фон Зітцэра на судовы паядынак!

Юстыцрат з асалодай пазіраў, як спаўзае фанабэрлівая ўсмешка з вастраносага твару выкладчыка багаслоўя.

— Я — дваранін і маю права сцвердзіць сваю праўду двубоем, — Кросбах рашуча наблізіўся да рэктара: — Няхай мне і бракуе належных доказаў, аднак жа Боская воля падорыць перамогу абаронцу ісціны. Хто з прысутных адважыцца аспрэчыць прысуд нябёсаў? Калі гер Зітцэр адмовіцца ад бою, то такім чынам запляміць сваю дваранскую годнасць!

Уся навуковая суполка зноў скіравала позірк на збялелага Зітцэра.

— Мой радавод ніхто ніколі не паставіць пад сумненне, — выціснуў той. — Мой продак яшчэ шэсцьсот гадоў таму служыў у свіце імператара Генрыха Першага. Пацвярджэннем паслужаць імянныя граматы…

— Ці згодны вы на судовы паядынак? — няўпэўнена ўдакладніў рэктар.

Усе пачулі, як рыпнуў зубамі Альфрэд фон Зітцэр, а затым убачылі, як сутаргава кіўнуў ды знясілена апусціўся на лаву.

Рэктар ляпнуў далонню па падлакотніку і пастанавіў:

— Двубой адбудзецца заўтра на пляцы перад Рэктарыумам.

Юстыцрат пачціва схіліў галаву і пакіраваў упрочкі. У цішы залы стук абцасаў яго ботаў падаўся надзвычай гучным.

Калі ён выйшаў за парог, следам выкаўзнуў Андрэй Станкевіч.

— Своечасова вы мне нагадалі наконт рымскага звычаю, — кінуў Карл фон Кросбах праз плячо юнаку. — Якую зброю мне параіце для бітвы? Меч? Алебарду? Ці стрэлы з лука ў Зітцэра пускаць?

Станкевіч разгублена маўчаў. Юнакоў досвед паядынкаў абмяжоўваўся бойкамі на кулаках са старэйшым братам Барысам — завяршаліся яны звычайна панічнымі ўцёкамі.

— Апошні раз трымаў я зброю ў руках дваццаць гадоў таму, — уздыхнуў юстыцрат. — Хадзілі мы тады вайною на мазураў…

Выйшаўшы на ганак Рэктарыума і акінуўшы вокам квадратны пляц, на якім заўтра мусіў выйсці на смяротны бой, Кросбах самотна мовіў:

— Пара мне паспавядацца і прычасціцца. Мажліва, заўтра я паўстану перад Усявышнім… З матывам забойства мы сапраўды здуравалі. Баюся, што нябёсы за памылку нас пакараюць паразай.

Станкевіч таксама не жартам трывожыўся, бо разумеў: калі юстыцрат загіне на паядынку, то ніхто не абароніць юнака ад помслівага Зітцэра.

Андрэй палахліва перасмыкнуў плячыма, задуменна схіліў галаву, а потым крыху іранічна ўсміхнуўся. Здагадка, якая доўгі час круцілася сярод рою палахлівых думак, цяпер, пад цяжарам страху, набыла акрэсленую выразнасць.

— Я ведаю, дзе можна пашукаць яшчэ доказы, — нягучна мовіў юны мянянін. — У Рэктарыуме. Дакладней, у тамтэйшым архіве.

— Ды вас туды і на парог не пусцяць, — прыўзняў брыво Кросбах.

— Шкаляру, зразумела, нос прышчэмяць, — паківаў Андрэй. — А вось памочніку юстыцрата расчыняць дзверы. Калі, вядома, вы пагаворыце, экселенц, на гэты конт з канцлерам акадэмічным.

Ідэя прыйшлася Кросбаху не даспадобы. Менш за ўсё хацелася яму зараз мецць справу яшчэ з кімсьці з вучоных дзеячаў. Аднак ён ужо спасціг, што парады юнага філосафа вартыя сур'ёзнага абдумвання. Дык спыніўся, акінуў хлопца насцярожаным позіркам, стомлена ўздыхнуў, павярнуўся ды таропка пакіраваў да флігеля Рэктарыума, дзе месцілася канцылярыя Альбярціны.

Станкевіч пашыбаваў за ім, задаволена круцячы носам. Дужа яму было прыемна, што надзеленая ўладаю асоба ўлічвае ягоныя ідэі!..

І разам з тым тужлівы клопат вярэдзіў юначае сэрца. Зітцэр падазрона лёгка пагадзіўся на судовы паядынак. А раптам зноў учыніць нейкае каварства?

***

Два гады таму, у верасні 1568-га, будучыня таксама падавалася трывожнай купецкаму сыну. Туга па родным доме, па бацьках і любых сёстрах душыла яго ўдзень і ўночы. З грудзей час ад часу вырываўся тужлівы ўздых, а на вачах выступалі слёзы. Нясцерпна хацелася зноў прайсціся берагам Свіслачы, пачуць шум менскага торжышча і родную гаворку на вулках. Нават брат Барыс не падаваўся ўжо паскуднікам!..

Навучальны год у акадэміі Кнайпхофа пачаўся 1 кастрычніка.

Напярэдадні на сценах інтэрната, дзе здымаў пакой Станкевіч, забялелі аб'явы, у якіх палацінску быў распісаны парадак першага дня заняткаў: ранкам — урачыстае набажэнства ў саборы, затым — ганаровая шэсце па горадзе, а потым — заняткі ў Альбярціне. Шкаляры-навічкі (на старажытнарымскі ўзор званыя навіцыянтамі) мусілі на працягу дня насіць зялёную стужку на правай руцэ ніжэй локця.

У храм юнак прыцягнуўся аж у прыцемках, калі яшчэ не згаслі зоркі ў чорным небе. Пачуццё непазбыўнай адзіноты навяваў на хлопца шолах лістоты дрэваў уздоўж пустэльнай брукаванай алеі, што вяла да сабора. Станкевіч вярэдзіў сябе тугою: «Навошта я тут? За якую правіну закінуты сюды лёсам?»

Сам-насам з недарэчнымі пытаннямі хлопец дачакаўся ранку, калі пад гул сабornага звона ранішняе сонца ахапіла чырвонымі прамянямі горад і ў храм самавіта пабрылі купкамі *«акадэмічныя грамадзяне»*.

Да гэтай суполкі, якая кіравалася ўласнымі законамі, належалі рэктар і выкладчыкі, навучэнцы трох факультэтаў, канцлер з канцылярскімі памочнікамі, а таксама ўрач і аптэкар, паслугамі якіх карысталася вучоная грамада, уладальнікі крамаў, якія прадавалі студэнтам падручнікі, канспекты лекцый, ежу і пітво, і нават прыбіральшчыкі, якія мётламі ўлетку і рыдлёўкамі ўзімку ачышчалі ад пылу, снегу і бруду прастору і будынкі Альбярціны.

У перапоўненым саборы Станкевіч праслухаў пропаведзь, у час якой пастар выпрошваў для акадэміі спагады нябёсаў, а таксама нагадваў яе выхаванцам, што іхні найгалоўны абавязак — несці ва ўсе куткі зямлі святло сапраўднай хрысціянскай веры — лютэранства. Затым на кафедру падняўся рэктар — падгалісты, каратка стрыжаны, з запалымі вачыма, Якаб фон Катцэр. Ён унушальна мовіў па-лацінску:

— Няхай прысутныя навіцыянты прынясуць прысягу на вернасць законам акадэмічнага грамадства. Прылажыце правую далонь да сэрца і паўтарайце за мной, — і нетаропка зачытаў тэкст з кнігі, якую раскрытай трымаў перад ім канцлер.

Суладна з дзясяткамі навічкоў Станкевіч прысягнуў у асабістай адданасці акадэміі ды яе святлейшаму апекуну — герцагу прускаму, пакляўся бараніць яе суверэнітэт і беззаганна падначальвацца статуту.

Як адгучала клятва, усе прысутныя праспявалі гімн у гонар акадэміі.

Пасля заканчэння набажэнства грамада памкнулася з сабора.

На цвінтары вучні старэйшых курсаў падпільноўвалі навіцыянтаў, выцягвалі з натоўпу і кожнаму надавалі годнасць «дурной каровы» — насоўвалі на галаву жартоўны каптурык з бавоўнянымі каровінымі рагамі. Паводле традыцыі, якая прыйшла з Італіі, навічкі мусілі паўдня насіць тыя рогі як сімвал невуцтва і глупства. Спробы зняць каптурык караліся штурхялямі пад рэбры. У такім абліччы навіцыянты — іхні ўзрост вагаўся ад трынаццаці да трыццаці гадоў — пакіравалі ў Шкалярыум на першую ў навучальным годзе лекцыю.

Ёю аказалася астралогія, якую прачытаў у вялікай і халоднай аўдыторыі доктар Хендрык Дукхардус. Дасведчаны знаўца руху нябесных сузор'яў нават усмешкай не адрэагаваў на рагатыя галовы слухачоў — нібыта штодня такое бачыў.

Пасля заканчэння заняткаў старшакурснікі зноў чакалі навічкоў на ганку. З кожнага навіцыянта здымалі каптурык з рагамі ды ўрачыста заяўлялі, што цяпер, маўляў, судакрануўшыся са святлом навукі, ён губляе статус «дурной каровы». Затым усе навучэнцы пад музыку валынак трыумфальным шэсцем прайшлі па вуліцах Кнайпхофа, хорам спяваючы песні — толькі некаторыя з іх мелі прыстойны характар — і торкаючы бавоўнянымі рагамі ў прахожых. Завяршылася свята агульнай п'янкай у склепе з назвай «Ісціна ў віне». Андрэй Станкевіч нажлукціўся ўпершыню ў жыцці да зацямлення. Што адбывалася далей, ён так і не запомніў, але прачнуўся на ганку інтэрната — азяблы і ў лужыне ванітаў.

Так дзейсна пачалася для купецкага сына вучоба на факультэце вольных мастацтваў. Назва ўстановы тлумачылася старадаўнімі павевамі. «Вольных» — бо ў ёй выкладаліся граматыка,

рыторыка, метафізіка, арыфметыка, геаметрыя, музыка і астраномія, а ў Старажытным Рыме вывучаць такія навукі маглі адно вольныя людзі. «Мастацтваў» — бо навуку ў Рыме лічылі мастацтвам, па-лацінску — «артэс». З-за лацінскага маўлення і факультэт часта зваўся «артыстычным».

З моманту заснавання акадэміі факультэт вольных мастацтваў лічыўся нечым кшталту яго падрыхтоўчага аддзялення, якое, меркавалася, бы сіта, прапусціць да вышэйшых ведаў здатных і адсее няздараў. Вучоба на ім была абавязковай для ўсіх пачаткоўцаў і складалася з дзвюх ступеняў. Першая — *трывіум* (тры прадметы): шкаляр атрымліваў годнасць *«артыста»* ды спасцігаў граматыку, рыторыку і метафізіку. Той, хто адужваў трывіум, здабываў статус *«філосафа»* і пераходзіў на другую ступень навучання — *квадрыум* (чатыры прадметы). Тут шкаляр памнажаў арыфметычныя велічыні, чарціў геаметрычныя канструкцыі, складаў астранамічныя мапы і ствараў музычныя опусы на зададзеныя тэмы.

Тэрмін навучання аніяк не абмяжоўваўся. Шкаляр мог грызці граніт навукі (метафара тлумачылася паданнем, нібыта першая акадэмія, заснаваная філосафам Платонам за чатырыста гадоў да Нараджэння Хрыстова, была пабудаваная з граніту) і год, і пяць, і дзесяць — пакуль меў грошы, каб аплачваць вучобу. Калі «артыст» або «філосаф» адчуваў сябе гатовым да іспыту, то паведамляў пра гэта выкладчыку. Той прызначаў дзень для субяседвання і экзаменаваў смельчака разнастайнымі пытаннямі. Праверка ведаў магла доўжыцца пяць хвілін, а магла і пяць гадзін, пакуль экзаменатар не стоміцца. Вучань не мог прадугадаць, пра што спытае выкладчык. А той усялякі адказ трактаваў на свой лад і ў залежнасці ад настрою вырашаў: ухваліць навучэнца або адправіць на пераэкзаменоўку.

Думкі, што экзамен можа адбывацца нейкім іншым чынам, не дапускалася. Рэктарыум тайна заахвочваў выкладчыкаў, каб стражэй экзаменавалі шкаляроў. У такім выпадку зацягваўся тэрмін навучання і адпаведна не бяднеў паток вучнёўскай платы. Таму рэдкі шкаляр мог паспяхова здаць іспыт з першай, з другой і нават з трэцяй спробы. Паступалі на факультэт вольных мастацтваў сотні навіцыянтаў, а заканчвалі — дзясяткі. Многія шкаляры-«артысты», не спазнаўшы паблажлівасці настаўнікаў, або сыходзілі ў іншую акадэмію, або ўтваралі суполкі, якія валацужылі ў розных землях іараблялі на жыццё паказамі спектакляў і фокусаў, сачыненнем містэрый і п’ес. Ад такіх недавучак і ўтварылася ў Еўропе новае рамяство — артыстычнае.

Тыя ж філосафы, якія адужалі экзамены, маглі паступаць на любы з трох факультэтаў акадэміі: медыцынскі, юрыдычны ці багаслоўскі — самы ганаровы. На ўрача вучыліся пяць гадоў і яшчэ год практыкаваліся ў шпіталі, на юрыста — восем гадоў, на багаслова — аж пятнаццаць.

Калі вучняў факультэта вольных мастацтваў называлі шкалярамі, артыстамі або філосафамі, то навучэнцаў факультэтаў — студэнтамі. У дакументах ратушы Кнайпхофа яны часцей фігуравалі як «студыёзус вульгарыс» (у перакладзе з лацінскай — «малапрыстойная студэнцкая грамада»). Выкладчыкі медыцыны, юрыспрудэнцыі ці багаслоўя прымалі іспыты ў студэнтаў гэтак жа строга, як і ў шкаляроў. Таму толькі палова навучэнцаў атрымлівала дыплом бакалаўра і права займаць пасаду суддзі, пастара або ўрача.

Дарэчы думка пра тое, каб дапусціць у акадэмію жаночы пол, нават у галаву не прыходзіла вучоным дзеячам. Паколькі яшчэ з часоў Платона і Арыстоцеля пісаліся трактаты, у якіх абгрунтавана даказвалася, нібыта жанчыны не маюць душы і не здатныя да логікі, то меркавалася, што аніякіх ведаў яны засвоіць не ў стане. Акадэмічныя ўлады хутчэй пусцілі б на студэнцкую лаву сабак ці коз, чым дачак Евы.

Піраміда акадэмічная іерархіі Кнайпхофа была такой жа, як у іншых акадэміях Еўропы. На яе вяршыні знаходзіўся рэктар. Займаць такую пасаду мог толькі халасцяк, маўляў, каб клапаціўся выключна пра дабрабыт акадэміі, а не ўласнай сям'і. З той жа прычыны, дарэчы, статут забараняў прымаць у акадэмію жанатых выкладчыкаў.

Рэктара абіралі штогод з шэрагу дактароў навук.

Кожны доктар здабываў сваю навуковую ступень, баронячы ўласную тэорыю на публічным дыспуце. Найбольш уплывовымі сярод дактароў з'яўляліся тыя, хто меў яшчэ і званне прафесара, якое прысвойвалася за беззаганнае дваццацігадовае выкладчыцтва. Раз у пяць гадоў кожны доктар мусіў друкаваць за свой кошт новы падручнік або апісанне найноўшых вынаходак. Калі такой кнігі не з'яўлялася, навуковая рада магла пазбавіць яго ганаровага звання і нават з ганьбай звольніць.

Ніжэй дактароў знаходзіліся магістры — навукоўцы, якія абаранілі свае тэорыі ў дыскусіях на свецкіх факультэтах: медыцынскім або юрыдычным. Аднак паколькі іх навуковыя здабыткі не мелі карысці для багаслоўя — вышэйшай з усіх навук — то і заробак магістра быў удвая меншы, чым у доктара навук.

Яшчэ меней зараблялі ліцэнцыяты — бакалаўры, якія здалі дадатковыя экзамены і дапамагалі дактарам ды магістрам рыхтавацца да лекцый і дыспутаў. Званне ліцэнцыята давала права выкладаць у школах. Аднак ліцэнцыяты не спяшаліся пакідаць акадэмічныя сцены. Бо толькі тут маглі падзарабляць, выступаючы пасрэднікамі паміж сваімі начальнікамі ды тымі студэнтамі, якія за шчодры хабар здавалі клятыя экзамены.

Шкаляры і студэнты таксама не былі аднастайнай грамадой. Яны адрозніваліся не толькі ўзростам, але і паходжаннем. Паводле месца нараджэння навучэнцы гуртаваліся ў суполкі, званыя на лацінкі ўзор *нацыямі*. Самай буйной нацыяй, каля сямісот чалавек, былі, вядома, «немцы» — ураджэнцы Прусіі ды германскіх княстваў. Астатнія групоўкі — «палякі», «ліцвіны», «шведы», «англічане», «шатландцы», «галандцы» і «французы» — істотна саступалі ім у колькасці.

Склад кожнай «нацыі» таксама быў неаднастайны. «Артысты» мусілі прыніжацца перад «філосафамі», а тыя — перад студэнтамі. Шкаляры, якія мелі багатых бацькоў і трэслі тоўстымі кашалькамі, наймалі сабе ў прыслугу бедных таварышаў. Маёмасны стан навучэнца характарызавала даўжыня наскоў яго пантофляў. У сыноў князёў ці графаў яна дасягала паловы локця. У такіх шарачкоў, як Андрэй Станкевіч, — меней далоні.

Уся гэтая акадэмічная іерархія — ад рэктара да юнага артыста —складала звыш тысячы чалавек, якія не падлягалі гарадской юрысдыкцыі ды не плацілі ў казну Кнайпхофа падаткі. Паводле рымскай традыцыі суполка выкладчыкаў і вучняў звалася «таварыствам», па-лацінску — *«універсітэтум»*. Пакрысе гэтая назва ўкаранялася ў Еўропе. Усё часцей буйныя навучальныя ўстановы называлі не акадэміямі, а ўніверсітэтамі.

Андрэй Станкевіч адчуваў сябе пясчынкай, якую вецер лёсу прыгнаў да падножжа акадэмічнай піраміды. Як паслухмяны сын ён меў намер выканаць бацькаў запавет — вывучыцца на багаслова. Пры тым са скрухай усведамляў, што грошай на падарункі настаўнікам няма дзе ўзяць. Аднак жа спадзяваўся, што дбайнасць, руплівасць і Боская ласка дапамогуць яму здабыць жаданы статус бакалаўра. Асаблівыя надзеі ўскладаліся на дапамогу нябёсаў.

Штодня юнак прачынаўся пад крыкі пеўняў і маліўся ў прыцемках. Затым запальваў свечку, умываўся, апранаўся, снедаў хлебам з цыбуляй і смажаным мясам, глытаў калодзежнай вады з біклажкі, пакаваў у скураны мех сваё багацце — падручнікі, скрутак пергаменту, чарніліцу, пер'і, невялікую квадратную дошку, кашалёк з грашыма.

Туман яшчэ клубіўся над зямлёю, калі Станкевіч панура тэпаў да Шкалярыума. Пукаты брук халадзіў ногі скрозь падэшвы пантофляў.

У вялікай халоднай аўдыторыі шкаляры займалі месцы адпаведна статусу: «філосафы» сядзелі на лавах, «артысты» — на жмутах саломы на падлозе. Меркавалася, такая прыніжанасць выхавае ў першакурсніках належную пачцівасць да выкладчыкаў і старэйшых вучняў.

Звон на вежы сабора абвяшчаў шэсць гадзін раніцы. Адзін з вучняў, які падпрацоўваў апальшчыкам, падкладваў дровы ў камін. Уваходзіў паўсонны выкладчык і рыхтаваўся да выступу: прачышчаў нос і горла, смаркаўся і сплёўваў у памыйнае вядро. Нарэшце лектар займаў месца за кафедрай, строга азіраў прысутных, раскрываў падручнік і нудна чытаў тэкст, час ад часу перапыняючыся і тлумачачы тыя ці іншыя ўрыўкі. Ліцэнцыят, які асісціраваў выкладчыку, ставіў перад ім пясочны гадзіннік, а сам садзіўся за спінамі вучняў, пільнуючы, каб тыя не перамаўляліся паміж сабой або не задрамалі. Парушальнікаў парадку ліцэнцыят частаваў прутом па руках або патыліцах.

Ранішнія заняткі складаліся з дзвюх лекцый — кожная па паўтары гадзіны. Пра іхняе заканчэнне сігналізаваў звон з вежы сабора. Шкаляры шумна падымаліся з лаваў і падлогі, кланяліся лектару і пад наглядам ліцэнцыята кіравалі ў храм на малітву.

Ранкам у саборы хор спяваў «Захавай, Гасподзь, міласць да нас, грэшных!», а ўвечары — «Уславім Бога за шматлікія дарункі!».

Пасля ютрані вучні мелі пару вольных гадзін на адпачынак. Станкевіч ішоў абедаць у харчэўню «Пад аленем», якая месцілася паміж рынкавай плошчай ды іўдзейскім гета з сінагогай. Над уваходам у гэты вузкі дамок замест шыльды віселі пачарнелыя аленевы рогі. Прыстойная публіка рэдка сюды зазірала — грэбавала сілкавацца побач з яўрэйскім селішчам. А вось галоднае шкалярства ахвотна кіравала ў «Пад аленем», прывабленае пахамі свежаспечанага хлеба, піва і смажанай вяндліны, а галоўнае — невысокімі цэнамі.

Гаспадарыла ў харчэўні фрау Цвайгель — высокая ўдава з нізкім голасам і такім строгім норавам, што яе пабойваліся самыя адчайныя выпівакі Кнайпхофа. Хадзілі чуткі, нібыта нейкаму малайцу, які не ў добры час палез ёй пад спадніцу, фрау Цвайгель качаргой руку зламала. Пэўна, толькі кабета з такім характарам магла саўладаць са студэнтамі, якіх у іншых корчмах называлі Бічом Боскім. Прыслугоўвалі фрау Цвайгель парачка чаляднікаў, прагнаных майстрамі за п'янства са сваіх цэхаў, а таксама дванаццацігадовая дачка Орпа — як падавалася Станкевічу, самая прыгожая дзяўчына ў свеце. Яе аблічча лашчыла юнаку вока, а мілагучны голас саладзіў слых. Цішком сочачы за ёй на працягу гадзіны-другой, Андрэй марыў пра тое, як цудоўна было б ажаніцца з Орпай. Ды сваю закаханасць надзейна ўтойваў у сэрцы. (Шчыра кажучы, і расказаць пра яе не было каму.) Паўздыхаўшы і дацадзіўшы мёду з куфля, юны мянянін ускідваў торбу на плячо і цягнуўся ў Шкалярыум — слухаць дзённыя лекцыі.

Па дарозе Станкевіч звычайна спыняўся каля прыстані. Сярод навучэнцаў Акадэміі з даўняе пары ўкаранілася традыцыя спаборніцтва: хто даўжэй пусціць струмень у Прэгель? Лічылася, што пераможца лёгка здасць экзамен нават самому доктару Зітцэру. Дык пры любой нагодзе шкаляры практыкаваліся ў такой важнай справе.

Колькі разоў юны мянянін далучаўся да чарады «філосафаў», якая гуртавалася тут паўдзённаю парой, развязваў тасёмкі на штанах і прымаў чынны ўдзел у спаборніцтве — і часта зведваў няўдачу, пускаючы найкарацейшы струмень. Астатнія ўдзельнікі жартавалі з «нікчэмнасці» ў яго паміж ног. Юнак пакрыўджана бляднеў і ўсё не мог прыдумаць, як з'едліва адрэзаць у адказ на кпіны…

Саборны звон адбіваў трэцюю гадзіну, калі навучэнцы збіраліся ў аўдыторыі Шкалярыума. За кафедру падымаўся новы лектар. Зноў настаўніцкі строгі голас ляцеў ва ўважлівую цішыню.

Кожны выкладчык меў сваю адметнасць.

Прафесар Крыпфэр, які вёў курс рыторыкі, знарок чытаў свае лекцыі так паспешліва, каб шкаляры не паспявалі іх канспектаваць. Ён непакоіўся, што калі слухачы зразумеюць сутнасць яго навукі ды прывучацца думаць самастойна, то непазбежна прыдбаюць пыху ў сэрца і страцяць веру ў аўтарытэты. Такой методыкі выкладання, дарэчы, патрабаваў ад настаўнікаў тагачасны статут Парыжскага ўніверсітэта. У ягоных сценах Крыпфэр паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю.

Прафесар метафізікі Прудэнціус, наадварот, лічыў, што годнасць вучонага дзеяча праяўляецца ў тым, каб самае складанае растлумачыць як мага прасцей. Таму часта вынікі сваіх лекцый рыфмаваў вершамі, каб лягчэй запаміналіся. А яшчэ ўмеў падбіраць красамоўныя параўнанні, апісваючы навуковыя або натуральныя з'явы. Аднойчы, гаворачы пра разумовыя здольнасці кабет, Прудэнціус жартаўліва ацаніў слабы пол з пункту гледжання ганчара або вінароба:

— Вонкава ўсе жанчыны нагадваюць збаны. Тонкая шыя, гнуткі стан, шырокія клубы... Адметнасць посуду надае яго змесціва. Я маю на ўвазе, жаночы розум і нораў. У гліняным збане можа знаходзіцца салодкае ці кіслае віно. А можа воцат. Ці нават атрута. Ёсць людзі, якія ў пошуку адмысловага пітва каштуюць змест многіх збаноў, гарлачыкаў і куфляў. Аднак юрлівасць не дорыць карысці ані розуму, ані целу. Улічвайце, што жаночы розум — прымітыўны і паглыблены ў бытавыя драбніцы. Дык калі прагнеце прысвяціць сябе навуцы або слугаванню дзяржаўным інтарэсам, трымайце сваё цела лепш у цноце!..

Не дзіва, што лекцыі Прудэнціуса шкаляры слухалі з надзвычайным інтарэсам. Хоць, праўда, яго заклікі да цнатлівасці потым ігнаравалі...

Доктар Зітцэр знаёміў вучняў з матэрыялам грунтоўна, на працягу гадзіны тлумачачы тую ці іншую багаслоўскую канцэпцыю. Напрыканцы яго лекцыі цяжка было прыгадаць, пра што ішла гаворка на пачатку.

Магістр Люцыус Герберус пачынаў свае заняткі аб'яваю, што, маўляў, новы канспект ягоных лекцый па граматыцы каштуе не так ужо дорага і набыць яго можна ў асістэнта-ліцэнцыята Кранаўра. Інакш не варта і думаць пра паспяховую здачу іспыту!

У суботу лекцый не было, аднак Шкалярыум не пуставаў. Тут адбываліся *рэпетыцыі* — дадатковыя курсы, на якія шкаляры мусілі запісвацца да таго ці іншага выкладчыка. Толькі на рэпетыцыі шкаляр мог задаць пытанне настаўніку або папрасіць, каб той растлумачыў вучэбны матэрыял — у час лекцыі такое забаранялася.

Станкевіч запісаўся да Якаба Прудэнціуса і на занятках у яго цікавіўся не толькі пастулатамі метафізікі, але і ўсім, чаго не змог спасцігнуць на лекцыях Крыпфера, Герберуса і Зітцэра. Прафесар паблажліва тлумачыў яму прынцыпы Цыцэронавай рыторыкі ды першаасновы граматыкі, а яшчэ ўказваў на прыкметы ў трактатах Платона і Арыстоцеля, якія сведчылі пра знаёмства мудрых элінаў са Старым Запаветам.

Юны мянянін у малітвах часта дзякаваў Богу за тое, што даслаў Якаба Прудэнціуса яму ў настаўнікі. Станкевічу падабаўся пранікілвы розум, які свяціўся ў задуменным позірку выкладчыка. Падабалася, як нягучна, але выразна гаварыў Прудэнціус, і кожнае яго слова было добра чуваць у вялікай аўдыторыі. Шкаляры і студэнты мусілі звяртацца да выкладчыкаў «мой гаспадар», па-нямецку — «экселенц». Аднак толькі Прудэнціусу юны ліцвін казаў «мой экселенц» з сапраўднай пашанай і ў час размовы з ім пачуваўся, бы гутарыць з родным бацькам.

Суботнім ранкам у пакоях Шкалярыума бруілася нетаропкая гаворка настаўнікаў з вучнямі, а ўвечары тутэйшыя сцены дрыжэлі ад тупату, свісту і крыкаў — на працягу трох гадзін у найбуйнейшай аўдыторыі доўжыўся публічны дыспут.

Для навучэнцаў ён быў чымсьці накшталт папярэдняга экзамену: ад кожнага курса выстаўляўся найбольш падрыхтаваны ўдзельнік і пераможцу ў спрэчцы гарантавалася высокая адзнака на іспыце. Аднак палемізавалі паміж сабой не толькі шкаляры або студэнты, але і бакалаўры, якія жадалі стаць ліцэнцыятамі, і ліцэнцыяты, якія марылі пра ступень магістра, і магістры, якія прагнулі стаць дактарамі.

Пытанні для дыскусіі зацвярджаліся самім рэктарам. Для шкаляроў яны былі прымітыўныя, напрыклад: «Колькі чарцей змесціцца на вастрыі іголкі?» Для ліцэнцыятаў — больш складаныя: «Як распазнаць вядзьмарку?» Для магістраў фармуляваліся праблемы, якія патрабавалі грунтоўнай падрыхтоўкі: «Чаму Ева спакусілася яблыкам, а не грушай?»

Удзельнічалі ў дыспуце двое, судзіла рада з дванаццаці прафесараў, а слухала і каментавала сотня навучэнцаў з розных курсаў.

Пачыналіся дыскусія з агульнай малітвы. Затым старэйшы з выкладчыкаў мовіў: «Калі хтосьці з прысутных забудзе страх Боскі і не паслухаецца суддзі, то мусіць аплаціць кварту піва кожнаму прафесару пасля заканчэння дыспуту». Шкаляры і студэнты палахліва схілялі галовы — грашовае спагнанне палохала іх болей, чым лупцоўка.

Звычайна прамоўца выступаў чвэрць гадзіны, затым слухаў апанента. Прамовы шчодра насычаліся цытатамі з твораў антычных і хрысціянскіх мысляроў — перамагаў звычайна той, хто болей ведаў іх на памяць.

Шкаляры, якія спярша сядзелі, бы мышы пад венікам, пакрысе пачыналі ёрзаць і перамаўляцца, а неўзабаве ўскаквалі з лаваў і крыкамі «Зіг! Перамога!» або «Хох!» ухвалялі прамоўцу ад свайго факультэта.

Праз гадзіну-другую дэбатаў выступоўцы так распаляліся, што за грудкі адзін аднаго хапалі. У аргументы ўсё часцей уплятаіся выразы кшталту «дурная галава!» або «каб ты здох!». Шал ахопліваў і слухачоў. У хуткім часе багасловы ўжо апантана дубасілі юрыстаў. Сярод агульнай тумульны ніхто ўжо і не чуў, пра што крычаць палемісты.

Нарэшце ліцэнцыяты аднаўлялі парадак, хвошчучы дубцамі кожнага, хто трапляўся пад руку. Усталёўвалася цішыня, якую парушалі хіба што стогны збітых і скалечаных. Суддзі, параіўшыся, прысуджалі перамогу ў дэбатах бакалаўру або магістру, які найбольш уразіў іх красамоўствам і эрудыцыяй. На галаву пераможца ўскладвалі вянок з сярэбранага дроту, а той, хто прайграў, мусіў аплаціць выпіўку яму і прафесарам-суддзям. Шкаляры і студэнты таксама разыходзіліся па корчмах і паграбках, дзе бурна абмяркоўвалі дыспут.

***Працяг будзе***





## Фрыдрых Дзюрэнмат

Friedrich Dürrenmatt

**Фрыдрых Дзюрэнмат — швейцарскі пісьменнік і драматург XX стагоддзя. Ён стаў вядомым праз свае крымінальныя раманы і п’есы. У сваіх творах Фрыдрых Дзюрэнмат закранае вельмі вострыя праблемы нашай сучаснасці: маральны абавязак, барацьба чалавека за жыццё, змаганне за справядлівасць. У 1967 годзе Дзюрэнмат наведаў з’езд пісьменнікаў у Маскве, і, як ён пасля ўспамінаў, быў расчараваны пустатой таго, што там адбывалася, тым, як мала размова ішла пра літаратуру і як дбайна хвалілі кіруючыя колы. Свае цалкам негатыўныя ўражанні пісьменнік апісаў у аповесці «Зваржэнне».**

*Юрый Галамака*

## *Der Sturz*
## 1971

## Зваржэнне
## 1971

*Да Фрэда Шэртэнляйба*

Пасля халоднага буфета з фаршыраванымі яйкамі, вяндлінай, тостамі, ікрой, шнапсам і шампанскім, якім звычайна частаваўся ва ўрачыстай зале палітычны сакратарыят перад нарадай, першым у пакой для пасяджэнняў увайшоў Н. Пасля таго, як яго прынялі ў вышэйшы орган краіны, ён адчуваў сябе ў бяспецы толькі ў гэтым памяшканні, нягледзячы на тое, што ён быў усяго міністрам пошты і паштовыя маркі да мірнай канферэнцыі спадабаліся А, чутку пра гэта ён ведаў з асяроддзя Д, а, дакладней, ад Е; аднак яго папярэднікі, нягледзячы на хутчэй падпарадкаванае становішча пошты ў колах дзяржаўнай машыны, зніклі без вестак, і нават калі шэф тайнай паліцыі С прыязна з ім абыходзіўся, пажаданым гэта не было — шукаць тых, хто знік. Перад уваходам ва ўрачыстую залу і перад уваходам у пакой для пасяджэнняў Н ужо абшукалі, спачатку старэйшы падпалкоўнік спартовага целаскладу, які рабіў гэта заўсёды, пасля бялявы палкоўнік, якога Н яшчэ ніколі не бачыў; палкоўнік, які звычайна абшукваў яго перад пакоем для пасяджэнняў, быў лысым, мабыць, ён быў на адпачынку, ці яго перавялі, ці звольнілі, ці разжалавалі, ці расстралялі.

Н палажыў сваю папку на стол для пасяджэнняў і сеў. Каля яго сеў Л. Пакой для пасяджэнняў быў доўгім і не нашмат шырэйшым за стол. Сцены былі напалову абліцаваныя карычневымі панэлямі. Неабліцаваная частка і столь былі белага колеру. Кожны займаў сваё месца паводле іерархіі ў сістэме. А сядзеў уверсе. Над ім, на белай частцы сцяны, вісеў сцяг партыі. Насупраць яго за другім канцом стала ніхто не сядзеў, і там было адзінае акно ў пакоі. Акно было высокім, круглым уверсе, падзеленым на 5 шыб і не мела штор. Б, Д, Ф, Х, К, М сядзелі (калі глядзець з месца А) за правай паловай стала, насупраць іх С, Е, Г, І, Л, Н, каля Н яшчэ сядзеў шэф моладзевых звязаў П і міністр атамнай энергетыкі О, аднак П і О не мелі права голасу. Л быў самым старым у сакратарыяце і, перад тым як А стаў кіраваць партыяй і краінай, некалі выконваў функцыю, якую зараз выконваў Д. Л быў кавалём, перад тым як стаў рэвалюцыянерам. Ён быў высокім з шырокімі плячыма, ні кроплі тлушчу. Яго твар і рукі былі грубыя, яго сівыя валасы былі яшчэ густымі і коратка пастрыжанымі. Ён заўсёды быў непаголеным. Яго шэры гарнітур быў падобны да нядзельнага гарнітура працоўнага. Ён ніколі не насіў гальштук. Каўнер яго белай кашулі быў заўсёды зашпілены. Л быў папулярны ў партыі і ў народзе, пра яго ўчынкі падчас чэрвеньскага паўстання склаліся легенды; аднак гэты час быў так даўно, што А называў Л «помнікам». Л лічыўся справядлівым і быў героем, таму яго заняпад быў не прыцягваючым увагу падзеннем, а «увесь-час-ніжэй-апускацца» ў іерархіі. Страх перад абвінавачваннем знішчаў яго. Ён ведаў, што аднойчы яго зрынуць. Як і абодва маршалы Х і К, ён часта быў п’яным, нават на нарады сакратарыята ён болей не з’яўляўся цвярозым. І зараз ад яго смярдзела шнапсам і шампанскім, аднак яго грубы голас быў спакойным, а яго вадзяністыя, налітыя крывёю вочы кідалі здзеклівыя позіркі: «Таварыш, — звярнуўся ён да Н, — нам канец. О не прыйшоў». Н нічога не адказаў. Ён нават не паціснуў плячыма. Ён гуляў абыякавага. Магчыма, арышт О — пагалоска, магчыма, Л памыліўся, а калі Л не памыліўся, становішча Н было, магчыма, не такім безнадзейным, як у Л, які адказваў за транспарт. Калі ў цяжкай прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, звычайнай ці атамнай энергетыцы нешта не атрымлівалася (а нешта не атрымлівалася заўсёды), заўсёды была магчымасць прыцягнуць да адказу міністра транспарту. Аварыі, спазненні, затрымкі. Адлегласці былі вялікія, кантроль — замаруджаны.

Увайшлі партыйны сакратар Д і міністр І. Партыйны сакратар быў тлустым, магутным і меў розум. Ён насіў па-армейску пашыты гарнітур, чым капіраваў А, з пакоры, як думалі адны, ці дзеля здзеку, як думалі іншыя. І меў рудыя валасы і быў кволым. Пасля прыхода А да ўлады ён быў генеральным пракурорам і вельмі рашучым хлопцам. Падчас першай вялікай партыйнай чысткі ён дамогся смяротных выракаў для многіх старых рэвалюцыянераў, пры гэтым у яго атрымалася памылка. Па жаданні А І патрабаваў смяротны вырак для яго зяця, і калі А нечакана ўмяшаўся ў справу, каб усё ж такі дараваць свайму зяцю, той ужо быў расстраляны, памылка, якая не толькі не каштавала І месца генеральнага пракурора: яшчэ горш — ён прыйшоў да ўлады. Ён быў прызначаны чальцом палітычнага сакратарыята і, такім чынам, патрапіў у самы зручны з усіх магчымых расстрэльных спісаў. Ён дасягнуў пасады, на якой яго маглі кокнуць толькі па палітычных прычынах, а палітычныя прычыны знаходзіліся заўсёды. У выпадку І яны ўжо былі. Хоць ніхто і не верыў, што А хацеў выратаваць свайго зяця. Смяротнае пакаранне свайго зяця дакладна не было недапасаваным да намераў А (дачка А ўжо тады скокнула ў ложак з П); аднак у А зараз была падстава ў вачах грамадства, каб знішчыць І, калі ён яго калі-небудзь пажадае знішчыць, і таму, што яшчэ ніколі не здаралася выпадкаў, каб А такую падставу не выкарыстаў, І болей ніхто не даваў шанцаў. І гэта ведаў і паводзіў сябе, як быццам ён гэтага не ведае, нават калі і нязграбна. Таксама і зараз. Ён занадта відавочна спрабаваў схаваць сваю няўпэўненасць.

Ён расказваў партыйнаму сакратару пра пастаноўку дзяржаўнага балета. І на кожнай нарадзе расказваў пра танцулькі і сыпаў вакол сябе прафесійнымі выразамі з балетнага мастацтва, асабліва з таго моманту, як ён яшчэ і быў вымушаны стаць кіраўніком міністэрства сельскай гаспадаркі, нягледзячы на тое, што ён, як юрыст, нічога не разумеў у сельскай гаспадарцы. Да таго ж міністэрства сельскай гаспадаркі было, мабыць, яшчэ болей падступным за міністэрства транспарту і з часам яшчэ і прыносіла шкоду; таму што ў сельскай гаспадарцы партыя была вымушана атрымаць паразу. Сялян нельга было выхаваць, яны былі самаўлюбёныя і лянівыя. Таксама і Н ненавідзеў сялян, не як людзей, а як невырашальную праблему, праз якую планіроўшчыкі цярпелі няўдачы, а таму, што няўдачы былі небяспечнымі для жыцця, Н ненавідзеў сялян удвая болей, і праз сваю нянавісць ён нават разумеў паводзіны І: хто ж жадае размаўляць пра сялян? Толькі міністр цяжкай прамысловасці Ф, які вырас у вёсцы і, як і свой бацька, быў вясковым настаўнікам і меў абы як зляпаную прымітыўную паўадукацыю, набытую на мясцовым настаўніцкім семінары, які выглядаў, як селянін, і размаўляў, як селянін, распавядаў у палітычным сакратарыяце пра сялян, вывальваў свае сялянскія жарты, якія весялілі толькі яго, прамаўляў сялянскія прыказкі, якія разумеў толькі ён, у той час як адукаваны юрыст І, які цёрся з сялянамі і страціў надзею на паразуменне з імі, каб не быць вымушаным размаўляць пра іх, балбатаў свае балетныя гісторыі і чапляўся з імі да кожнага, больш за ўсё да А, які называў міністра сельскай гаспадаркі «наша балерына» (да гэтага ён называў яго «нашым узнясенцам на нябёсы»). Нягледзячы на гэта, Н пагарджаў былым генеральным пракурорам, морда якога ў рабацінні выклікала агіду. Занадта хутка ён са жвавага ката пераўтварыўся ў палахлівага падлізніка. Насупраць, вытрымка Д здзіўляла Н. Пры ўсёй сваёй уладзе ў партыі і пры ўсім сваім палітычным майстэрстве «дзікая свіння», як яго абазваў А, таксама адчуваў страх, калі навіны пра тое, што О не з’явіцца, спраўдзяцца, аднак жа Д трымаў сябе. Ён ніколі не страчваў свайго спакою. Партыйны сакратар таксама і падчас небяспекі заставаўся стрыманым. Аднак яго становішча была незразумелым. Арышт О (калі гэта не простая чутка, выкліканая тым, што ён не з’явіўся), мог стаць падставай для нападу на Д, таму што О падпарадкоўваўся ў партыі Д, але таксама ж гэта магло мець мэтай зрынуць галоўнага ідэолага Г, чыім асабістым пратэжэ лічыўся О: тое, што ліквідацыя О (калі гэта праўда), пагражала адначасова Д і Г, было магчыма, але малаверагодна.

Галоўны ідэолаг Г ужо зайшоў у пакой для пасяджэнняў. Ён быў нязграбны, насіў запыленыя акуляры без аправы і нахілена трымаў сваю прафесарскую галаву с белай грывай. Ён быў былым настаўнікам гімназіі з правінцыі — А называў яго «гарбатным святым». Г быў тэарэтыкам партыі. Ён быў непітушчым і аскетам з каўняром, як у Шылера, хударлявым інтравертам, які таксама ўзімку насіў сандалі. Калі партыйны сакратар Д быў жвавым геданістам і героем жанчын, кожны крок галоўнага ідэолага Г быў тэарэтычна абдуманы і шмат калі вёў да абсурду і праліцця крыві. Абодва былі ворагамі. Замест таго, каб дапаўняць адзін аднаго, яны марнавалі свае сілы адзін на адным, спрабуючы стварыць пастку для другога і зрынуць яго: партыйны сакратар як тэхнік улады супраць галоўнага ідэолага як тэарэтыка рэвалюцыі. Д імкнуўся да сцвярджэння ўлады любымі сродкамі, Г імкнуўся любымі сродкамі захаваць уладу ў яе некранутым выглядзе, як стэрыльны скальпель у руках чыстага вучэння. У звязе з дзікай свіннёй былі міністр замежных спраў Б, міністр выхавання М і міністр транспарту Л, на баку гарбатнага святога былі міністр сельскай гаспадаркі І і прэзідэнт К, а таксама міністр цяжкай прамысловасці Ф, які амаль не саступаў Д у сваёй гвалтоўнай дзейнасці, аднак жа з гідлівасці апантанага ўладай у дачыненні да іншага апантанага ўладай знаходзіўся ў лагеры Г, нягледзячы на тое, што былы вясковы настаўнік быў абцяжараны комплексам непаўнацэннасці праз тое, што Г — былы настаўнік гімназіі, і, верагодна, таемна ненавідзеў і яго.

Насамрэч Г болей не вітаўся з Д. Тое, што галоўны ідэолаг зараз павітаўся з партыйным сакратаром, як спалохана заўважыў Н, казала пра тое, што Г баіцца, што знікненне О датычыцца яго, гэтаксама як і акалічнасць, што Д павітаўся ў адказ, казала пра яго страх, пра тое, што ён у небяспецы. Тое, што ўсё ж такі баяліся абое, значыла, што О сапраўды арыштавалі. Аднак жа момант таго, што гарбатны святы павітаўся сардэчна, а дзікая свіння толькі ветліва, быў паказчыкам таго, што пагроза галоўнаму ідэолагу была крыху болей магчымай, чым партыйнаму сакратару. Н з палёгкай уздыхнуў. Звяржэнне Д значыла б цяжкае становішча і для Н. Н быў прыняты ў сакратарыят у якасці чальца с правам голасу па прапанове дзікай свінні і лічыўся яго асабістым пратэжэ, перспектыва, якая магла стаць небяспечнай, нават калі гэта не зусім адпавядала рэчаіснасці: па-першае, Н не належаў ні да адной з груповак, па-другое, тады галоўны ідэолаг, які дапамог міністру атамнай энергетыкі О, чакаў перад выбарамі, што партыйны сакратар прапануе свайго пратэжэ П, шэфа моладзевых звязаў. Аднак жа дзікая свіння зразумеў, што прасцей будзе выбраць у сакратарыят нейтральнага кандыдата, чым аднаго са сваіх партыйных паплечнікаў ці паплечнікаў свайго ворага — акрамя таго дачка А ў той час ужо зноў кінула П, каб спаць з адным ушанаваным партыяй пісьменнікам-раманістам, — на што Д дазволіў свайму кандыдату праваліцца, каб прапанаваць Н, што дазволіла яму абыграць гарбатнага святога і вымусіла таго таксама галасаваць за Н. Па-трэцяе, Н быў нічым іншым, як знаўцам у сваім аддзеле і бясшкодным для Д і Г. Для А ён быў такім нязначным, што нават не атрымаў мянушкі.

Канешне, гэта датычылася таксама міністра знешняга гандлю Е, які зайшоў у пакой за Г і адразу сеў — у той час як галоўны ідэолаг, разгублена ўсміхаючыся, праціраючы круглыя настаўніцкія акуляры, абцяжараны балбатнёй міністра сельскай гаспадаркі пра першага сольнага танцора, усё яшчэ стаяў каля партыйнага сакратара, які спакойна усміхаўся, — Е быў свецкім і элегантным. Ён насіў ангельскі гарнітур з нядбайна складзенай у кішэні хустачкай і паліў амерыканскую цыгарэту. Міністр знешняга гандлю, як і Н, стаў чальцом сакратарыята супроць сваёй волі, барацьба за ўладу ўнутры партыі аўтаматычна падштурхнула яго да кіраўнічага органа, іншыя, болей амбіцыйныя за яго, сталі ахвярамі барацьбы за першыя месцы і, такім чынам, ахвярамі саміх сябе, а Е па-майстэрску перажыў усе чысткі, таму А зрэдку даваў яму мянушку «лорд Вечназялёны». Калі Н супраць сваёй волі быў 13 па магутнасці, Е супраць сваёй волі быў ужо пятым па магутнасці чалавекам у імперыі. Шляху назад не было. Памылковыя паводзіны, неразважлівае выказванне маглі значыць канец, арышт, допыты, смерць, таму Е і Н павінны былі мець добрыя адносіны з усімі, хто быў ці мог быць болей магутным за іх. Яны павінны былі быць разумнымі, адчуваць магчымасці, ліслівіць у выпадку небяспекі і выкарыстоўваць чалавечыя слабасці іншых. Яны былі вымушаны шмат да чаго, што было нявартым і смешным.

Канешне. 13 чальцоў палітычнага сакратарыята валодалі надзвычайнай уладай. Яны вызначалі лёс велізарнай імперыі, адпраўлялі незлічоных у выгнанне, у вязніцу і на смерць, умешваліся ў жыццё мільёнаў людзей, сваім поступам знішчалі прамысловасць з твару зямлі, перасялялі сем'і і народы, па іх загадзе паўставалі магутныя гарады, яны рыхтавалі незлічоныя войскі, вырашалі пра вайну і мір, аднак, таму што інстынкт самазахавання прымушаў іх цікавацца адзін за адным, іх сімпатыі і антыпатыі, якія аны адчувалі адзін да аднаго, мелі на іх рашэнні ўплыў куды большы за палітычная канфлікты і эканамічныя праблемы, якім яны супрацьстаялі. Улада, а з ёю і страх адзін перад адным, былі занадта вялікімі, каб проста займацца чыстай палітыкай. Розуму, наадварот, месца ў ёй не было.

З адсутных чальцоў зайшлі абодва маршалы, міністр абароны Х і прэзідэнт К, абодва апухлыя, абодва бледныя, абодва нягнуткія, абодва з налепленым ордэнам, абодва старыя і потныя, абодва смярдзелі тытунём, шнапсам і парфумай «Данхіл», два туга набітыя тлушчам, мясам, мачой і страхам мяшкі. Яны адначасова селі адзін каля аднаго, ні з кім не вітаючыся. Х і К заўсёды заходзілі ўдваіх. А, намякаючы на любімае пітво абодвух, назваў іх «Джын-гіс-ханы». Маршал К, прэзідэнт і герой грамадзянскай вайны, драмаў; маршал Х, няўдаліца ў ваенных справах, які прабіўся на пасаду маршала толькі праз сваю партыйную нягнуткасць, адпраўляючы сваіх папярэднікаў адзін за адным, як здраднікаў, пад нож А, які гуляў легкавернага, яшчэ раз падняўся і, перад тым, як уткнуцца позіркам перад сабой, закрычаў: «Знішчыць ворагаў ва ўлонні партыі!» — і такім чынам даў зразумець, што яму вядома пра арышт О. Аднак на яго ніхто не звярнуў увагі. Усе ўжо прывыклі да таго, што страх выціскае з яго словы. На кожнай нарадзе палітычнага сакратарыята ён бачыў сябе зрынутым, захлынаўся ў самаабвінавачваннях і дзіка на некага нападаў, не ўдакладняючы, каго ён мае на ўвазе.

Н глядзеў на міністра абароны Х, на ілбе якога блішчэў пот, і адчуваў, як і яго лоб пачынае рабіцца вільготным. Ён думаў пра бардо, якое ён збіраўся падарыць Ф, але яшчэ не мог яго падарыць, таму што яго ў яго яшчэ не было. Усё пачалося з таго, што шэф партыі Д любіў бардо, а Н тры тыдні назад з нагоды міжнароднага пасяджэння міністраў пошты ў Парыжы арганізаваў некалькі паставак віна; парыжскі калега любіў мясцовы шнапс, які яму за гэта даслаў Н. Не тое каб Н быў адзіным, хто забяспечваў магутнага Д бардо. Таксама і міністр замежных спраў Б гэта рабіў. Аднак паслуга Н мела да высновы тое, што ён таксама атрымаў бардо ў якасці падарунка ад Б, з той простай нагоды, што Н, каб не здавацца карыслівым, таксама выдаў сябе за прыхільніка бардо, нягледзячы на тое, што віно было яму абыякава. Аднак жа, калі Н даведаўся, што вядомы нацыянальны аматар шнапсу, уладар цяжкай прамысловасці Ф, якога А ахрысціў «чысцільшчыкам ботаў», з парады сваіх дактароў, таму што ён быў дыябетыкам, таемна піў толькі бардо, ён шмат часу вагаўся, ці падарыць бардо таксама і Ф, таму што так ён быў бы вымушаны прызнаць, што ён ведае пра хваробу Ф. Але ён сказаў сабе, што і іншыя чальцы сакратарыята дакладна ведаюць пра гэта. Ён даведаўся пра гэта ад шэфа тайнай паліцыі С, і здавалася мала верагодным, што ён не распавёў пра гэта астатнім. Таму ён усё ж такі вырашыў перадаць Ф скрынку лафіту 45. Міністр цяжкай прамысловасці адразу ж зрабіў падарунак у адказ. Пра падарункі міністра цяжкай прамысловасці хадзілі дрэнныя чуткі. Н неасцярожна адкрыў пасылку за сямейным сталом. У ёй быў скрутак плёнкі, якую Н, не ведаючы пра тое, што на ёй, і збіты подпісам «Сцэны французскай рэвалюцыі» па просьбах сваёй жонкі і сваіх 4 дзяцей паставіў у хатнім кінатэатры. Гэта была парнаграфічная стужка. Такія ж самыя падарункі атрымлівалі час ад часу і астатнія чальцы палітычнага сакратарыята, як пасля даведаўся Н. Пры гэтым усе ведалі, што Ф абыякава ставіцца да парнаграфіі. Ён дарыў гэтыя стужкі, каб мець сродак уплыву, і паводзіў сябе так, як быццам адараны любіў парнаграфію. «Ну, і як Вам спадабалася маленькая бруднота? — спытаў ён аднойчы ў Н, — хоць яна і не ў маім гусце, я ведаю, што Вам падабаюцца такія рэчы». Н не асмеліўся супярэчыць. У якасці падзякі ён даслаў чысцільшчыку ботаў скрыню Шато Клемент 34. Так у цвярозага і эратычна памяркоўнага Н збіраўся парнаграфічны матэрыял, і адначасова ён бачыў сябе вымушаным далей шукаць бардо, таму што пастаўкі з Парыжа прыходзілі толькі раз у паўгода, а бутэлькі, якія яму дарыў Б, дарыць Ф ён не наважваўся. Мабыць, міністр замежных спраў і міністр цяжкай індустрыі былі ворагамі, аднак магла адбыцца змена франтоў. Ужо шмат разоў не асабістыя ворагі праз нечаканыя агульныя цікавасці рабіліся неразрыўнымі сябрамі. Н быў вымушаны даверыцца міністру знешняга гандлю Е. Высветлілася, што і ён таксама дарыў бардо дзікай свінні і чысцільшчыку абутку. Е дапамагаў Н праз свае знешнегандлёвыя сувязі, але не ўвесь час. Н меркаваў, што і іншыя дарылі бардо Д і Ф і былі ўзнагароджаны кампраматам ад Ф.

Насупраць Н села «партыйная муза» М. Міністр выхавання была бялявай і поўнай. Пра яе грудзі А аднойчы падчас пасяджэння сакратарыята прадказаў, што гэта горы, з вяршынь якіх шэф партыі ўпадзе і разаб'ецца насмерць. Партыйная муза з'явілася ў асабліва элегантным выглядзе, і А пагражаў дзікай свінні сваёй бестактоўнай пахабнасцю. Лічылася, што Д з'яўляецца прыхільнікам М. З таго часу М з'яўлялася на пасяджэнні сакратарыята толькі ў простай шэрай сукенцы. Тое, што зараз яна з'явілася ў чорнай вечаровай сукенцы з глыбокім выразам, засмуціла Н, тым болей, што яна была ва ўпрыгожаннях. Нагода для гэтага дакладна асаблівая. І яна ведае пра арышт О. Пытанне было толькі, ці жадае партыйная муза сваёй сукенкай дыстанцавацца ад Д, гуляючы бесклапотнасць, ці яна збіралася з мужнасцю расчаравання дэманстратыўна прызнаць сябе яго каханкай. Ад шэфа партыі Д Н не атрымаў адказу, таму што той, здавалася, не звярнуў увагі на М. Зараз ён сядзеў на сваім месцы і нешта чытаў.

Выбар сукенкі М стаў яшчэ болей двухсэнсоўным, калі ў пакой зайшоў чысцільшчык ботаў Ф, нізкі тлусты міністр цяжкай прамысловасці. Ён хутка, не клапоцячыся пра астатніх, падбег да партыйнай музы і ўскрыкнуў, чорт падзяры, вось гэта сукенка, захапляльна, фантастычна, нешта іншае за вечныя старыя лахі, якія носяць у партыі. Да д'ябла ўніформы. Усе глядзелі на Ф, які працягваў далей, чаму насамрэч адбылася рэвалюцыя, былі вынішчаны плутакраты і крывапіўцы, а заможныя сяляне развешаны на вішнёвых дрэвах. «Каб усталяваць прыгажосць, — закрычаў ён, абняў і пацалаваў міністра выхавання, як быццам тая была простай сялянкай. «Слава працоўным», — пасля чаго ён сеў на сваё месца паміж Д і Х, якія абодва адсунуліся ад яго, усё ж такі яны, як і Н, вымушаны былі сказаць сабе, што з боку міністра цяжкай прамысловасці гэта быў зараз гумар тапельца, і відавочна, што ён разлічваў на тое, што знікненне О пагражае галоўнаму ідэолагу, але таксама і яму самому, нават калі было магчыма, што залішняя весялосць Ф не была фальшывай, таму што ў яго былі дакладныя навіны пра тое, што можна разлічваць на зварэжэнне партыйнага сакратара.

Зайшоў Б. (Толькі зараз Н заўважыў, што шэф моладзевых звязаў П ужо даўно сеў каля яго, бледны, пудлівы, дбайны партыец у акулярах, прыход якога застаўся незаўважаным.) Б спакойна падышоў да свайго месца, паклаў сваю папку на стол і сеў. Галоўны ідэолаг і міністр сельскай гаспадаркі І, якія ўсё яшчэ стаялі, таксама селі. Аўтарытэт міністра знешніх спраў быў бясспрэчным, хоць яго ўсе ненавідзелі. Ён перасягаў усіх астатніх. Насамрэч, ён здзіўляў Н. Калі партыйны сакратар быў кемлівым арганізатарам, міністр цяжкай прамысловасці — лісліваым на інстынктыўным узроўні гвалтаўнікам, галоўны ідэолаг тэарэтыкам, міністр знешніх спраў быў амаль што незразумелым элементам улады. Яна яднала з Е і Н дасканалае валоданне сваёй прафесійнай сферай. Ён быў ідэальным міністрам замежных спраў. Аднак жа, у адрозненне ад Е і Н, ён стаў магутным у партыі, але не ўвязаўшыся, як Д і Г, ва ўнутраную барацьбу. Ён меў уплыў за межамі партыі і не ведаў нічога, акрамя свайго абавязку. Гэта зрабіла яго магутным. Ён не быў няверным, аднак жа не звязваў сябе, таксама і ў прыватным жыцці ён не ажаніўся. Ён еў у меру і піў у меру, на банкетах адзін келіх шампанскага, на гэтым усё. Яго нямецкая, яго ангельская, яго французская, яго італьянская былі бездакорнымі, яго даследаванне пра Мазарыні і яго апісанне ранніх буйных дзяржаў Індыі было перакладзена на шмат моў, гэтаксама як і яго эсэ пра паняцце ліку ў кітайскай мове. Таксама туды-сюды хадзілі яго пераклады Рыльке і Стэфана Георге. Аднак жа самай вядомай было яго «вучэнне дзяржаўнага перавароту», чаму яго называлі Клаўзевіцам рэвалюцыі. Без яго нельга было абысціся, і таму яго ненавідзелі. Асабліва яго ненавідзеў А, які называў яго «еўнухам», мянушка, якую пераняялі ўсе, аднак жа нават А не наважваўся яго так называць, калі Б быў прысутным. Тады А называў яго толькі «сябар Б», ці, калі ён выходзіў з сябе, «наш геній». Б, насупраць, звяртаўся да сакратарыята «шаноўнае

спадарства», нібыта ён размаўляў з нейкім грамадскім аб’яднаннем. «Шаноўнае спадарства, — таксама пачаў ён, ледзь паспеўшы сесці, насуперак сваёй звычцы нічога не казаць, пакуль яго не папросяць, — Шаноўнае спадарства, магчыма, вас можа зацікавіць, што міністр атамнай энергетыкі О не з’явіўся». Маўчанне. Б дастаў са сваёй папкі нейкія паперы і пачаў іх чытаць, нічога болей не кажучы. Н адчуваў, як усе палохаюцца. Арышт О быў не чуткай. Нешта іншае Б не мог мець на ўвазе. Ён заўсёды ведаў, што О — здраднік, абвясціў прэзідэнт К, О — інтэлектуал, а ўсе інтэлектуалы — здраднікі, і маршал Х зноў прароў: «Знішчыць ворагаў ва ўлонні партыі!». Абодва Джын-гіс-ханы былі адзінымі, хто зрэагаваў, астатнія трымаліся так, нібыта ім абыякава, акрамя Д, які чутно для ўсіх сказаў «Ідыёты», аднак астатнія, здавалася, не звярнулі на гэта ўвагі. Партыйная муза адкрыла сумачку і пудрылася. Міністр знешняга гандлю вывучаў паперы, міністр цяжкай прамысловасці — свае пазногці, міністр сельскай гаспадаркі глядзеў перад сабой, галоўны ідэолаг рабіў запісы, а міністр транспарту Л быў падобны да таго, чым яго назвалі, да нерухомага помніку.

А і С зайшлі ў пакой для пасяджэнняў. Не праз дзверы, што былі за міністрамі цяжкай прамысловасці і абароны, а праз тыя, што былі за галоўным ідэолагам і міністрам сельскай гаспадаркі. С, як заўсёды, быў у неахайным блакітным гарнітуры. А быў ва ўніформе, але без ордэна. С сеў, А застаўся стаяць за сваім фатэлем і асцярожна набіваў сваю люльку. С пачаў сваю кар’еру ў моладзевай арганізацыі, стаў яе шэфам, пасля яго выдалілі з пасады. Не па палітычных падставах, абвінавачванні былі іншага характару. Пасля гэтага ён знік. Па чутках, ён гніў у лагеры, ніхто не ведаў нічога дакладнага, раптоўна ён зноў з’явіўся і адразу стаў шэфам тайнай паліцыі. Было дакладна, што ён быў ублытаны ў гомасексуальныя сувязі. А груба называў яго «дзяржаўная цётухна», аднак ніхто не наважваўся пратэставаць супраць С. С быў вялікага росту, крыху тлусты і лысы. Першапачаткова ён быў музыкантам і меў дыплом. Калі Б быў вяльможам, С — багемай сакратарыята. Яго першыя крокі ў партыі заставаліся цьмянымі. Пра жорсткасць яго метадаў хадзілі чуткі, тэрор, які ён распаўсюджваў, быў відавочным. На яго сумленні былі незлічоныя, тайная паліцыя пад яго кіраўніцтвам была магутней, а шпіянаж больш распаўсюджаным, чым калі-небудзь да гэтага. Шмат хто лічыў яго садыстам, шмат хто не згаджаўся. Яны сцвярджалі, у С няма выбару, А трымае яго ў руках. Калі С не будзе слухацца, судовы працэс мог пачацца зноў. Бос тайнай паліцыі на самай справе эстэт, які пагарджае сваёй пасадай і ненавідзіць свой занятак, але вымушаны займацца гэтым, каб выратаваць жыццё сабе і сваім сябрам. Асабіста ён быў ветлівым. Ён здаваўся прывабным, нават шмат калі сарамлівым. С, які выконваў свае абавязкі ў партыі найбольш зацята, здаваўся не тым чалавекам не на тым месцы і, магчыма, таму такім карысным.

А, наадварот, быў нескладаным. Яго простасць была яго моцай. Для яго, які вырас у стэпе і паходзіў ад качэўнікаў, улада не была праблемай, гвалт быў нечым натуральным. Шмат гадоў ён жыў у простым, падобным да бункера будынку, схаваным ў лесе за сталіцай, пад аховай роты салдат, карыстаючыся паслугамі старой паварыхі, і салдаты, і паварыха былі адтуль, адкуль і ён сам. Ён з’яўляўся ў палац урада толькі падчас візітаў кіраўнікоў ці шэфаў партый іншых дзяржаў, на нешматлікія прыёмы і на нарады палітычнага сакратарыята, аднак кожны член сакратарыята быў абавязаны тры разы на тыдзень з’яўляюцца да А ў дом з дакладам, дзе той прымаў выкліканага ўлетку на верандзе з плеценай мэбляй, а ўзімку ў сваім працоўным пакоі, у якім не было нічога, акрамя велізарнай карціны на ўсю сцяну, на якой была намалявана яго родная вёска з парай сялян, і яшчэ большага пісьмовага стала, за якім ён сядзеў, падчас таго як наведвальнік павінен быў стаяць. У А было 4 жонкі. Тры з іх памерлі, пра чацвёртую

ніхто не ведаў, ці жыве яна яшчэ, і, калі яшчэ жыве, дзе яна жыве. Акрамя сваёй дачкі, у яго не было дзяцей. Часамі ён загадваў прывесці яму дзяўчат з горада, якім ён толькі ківаў і якім больш не трэба было нічога рабіць, акрамя як сядзець каля яго і гадзінамі глядзець амерыканскія фільмы. Пасля ён засынаў у сваім фатэлі, і дзяўчыны маглі ісці. Таксама раз у месяц па яго загадзе зачыняўся нацыянальны музей, дзе ён гадзінамі адзін вандраваў па залах. Аднак ён ніколі не разглядаў творы сучаснага мастацтва. Ён засяроджана стаяў каля познебуржуазных карцін на гістарычныя тэмы, перад выявамі бітваў, перад змрочнымі імператарамі, якія асуджаюць сваіх сыноў на смерць, перад оргіямі п'яных гусараў і перад запрэжанымі коньмі санямі, якія імчаць праз стэп ад воўчай пагоні. Гэтакім сама прымітыўным быў яго музычны густ. Яму падабаліся чуллівыя народныя песні, якія яму павінен быў на Дзень народзінаў спяваць народны хор яго роднага мястэчка. А паліў сваю люльку і задуменна глядзеў на тых, хто сядзеў ў пакоі. Н заўсёды здзіўляла, якім хударлявым і мізэрным А быў у рэчаіснасці, але на здымках і на тэлебачанні ён здаваўся шырокім і прысадзістым. А сеў і пачаў гаварыць, павольна, спыняючыся, грунтоўна, паўтараючы некалькі разоў, з пранізлівай логікай. Ён пачаў з агульных назіранняў. Дванаццаць астатніх чальцоў палітычнага сакратарыята і кандыдат П сядзелі нерухома, нібы маскі, пільна сочачы. Яны былі папярэджаныя. Калі А нешта планаваў, ён пачынаў з падрабязных назіранняў пра ход рэвалюцыі. Здавалася, што яму нібы трэба адпачыць, каб пачаць наносіць свае смяротныя ўдары. Гэтаксама ён рабіў і зараз, як заўсёды нешта расказваючы. Мэта партыі — змяненне грамадства, дасягненні велізарныя, асновы, якія дазволілі новы парадак, сцвердзілі сябе, але яны яшчэ не сталі натуральнымі для людзей, а толькі навязанымі, народ яшчэ думаў старымі катэгорыямі, знаходзячыся ў палоне забабонаў і прымхаў, атручаны індывідуалізмам, усё яшчэ спрабуючы вырвацца з новага парадку і ўсталяваць новую эру эгаізму, ён усё яшчэ не выхаваны, рэвалюцыя ўсё яшчэ застаецца справай нешматлікіх, занадта справай рэвалюцыйных галоў і замала справай мас, якія хоць і ўсталі на шлях да рэвалюцыі, гэтак жа лёгка могуць зноў з яго сысці. Рэвалюцыйны парадак усё яшчэ можа быць зацверджаны толькі праз гвалт, рэвалюцыя можа прабіцца толькі праз дыктатуру партыі, аднак жа і партыя б развалілася, калі б яна не была арганізавана зверху ўніз, такім чынам стварэнне палітычнага сакратарыята было гістарычнай неабходнасцю. А спыніў сваю прамову і зноў пачаў завіхацца са сваёй люлькай, зноў распальваць яе. Тое, што расказваў А, было папулярнай партыйнай дактрынай, чаму гэта заўсёды была павінна быць, як у партыйнай школе, пакуль пачнецца сапраўднае, небяспечнае, думаў Н. Дзе б ты ні быў, усё заўсёды ідзе фармальна. Як бясконцую малітву, манатонна далдоніў А палітычныя максімы, якімі ён ад імя партыі абгрунтоўваў сваю ўладу. Між тым А падышоў да справы. Ён пачаў свой удар. Кожны крок на шляху да галоўнай мэты, вучыў А, знешне бяскрыўдна, не змяняючы голасу, патрабуе зменаў у партыі. Новая дзяржава сцвердзіла сябе, для кожнай галіны было створана міністэрства, новая дзяржава была па сваёй сутнасці прагрэсіўнай, а па форме дыктатарскай. Гэта водгук на практычныя неабходнасці, накіраваныя на ўнутраныя і знешнія праблемы, якім супрацьстаіць партыя; аднак жа, сутыкнуўшыся з практычнымі патрэбамі, партыя прызваная ў якасці ідэалагічнага інструмента змяніць дзяржаву, калі прыйдзе час: дзяржава як зададзеная велічыня не можа рэвалюцыяніраваць, гэта можа толькі партыя, якая кантралюе дзяржаву. Толькі праз яе могуць быць дасягнуты неабходныя рэвалюцыйныя змяненні: менавіта таму партыя не можа быць нязменлівай, яе структура павінна дапасоўвацца згодна дасягнутых этапаў рэвалюцыі. Зараз структура партыі яшчэ іерархічная і накіраваная зверху ўніз, што адпавядала часам барацьбы, у якіх была партыя; аднак гэтыя часы ўжо мінулі, партыя перамагла, улада належыць ёй, наступны крок — дэмакратызацыя партыі, якая пачне дэмакратызацыю дзяр-

жавы: але дэмакратызаванай партыя можа стаць толькі тады, калі будзе адменены палітычны сакратарыят, а яго ўлада будзе перададзена пашыранаму парламенту, таму што адзіная мэта палітычнага сакратарыята была ў тым, каб выкарыстаць партыю ў якасці смяротнай зброі супраць старога парадку, задача, якая выканана, стары парадак болей не існуе, таму зараз можна распусціць палітычны сакратарыят.

Н зразумеў небяспеку. Яна ўскосна пагражала ўсім і нікому канкрэтна. Прапанова была здзіўляючай. Нічога не казала пра тое, што А зробіць такую прапанову, прапанова адпавядала тактыцы, якая прадугледжвае нечаканасці. Прамова А была двухсэнсоўнай, намеры аднасэнсоўнымі. Яго словы здаваліся лагічнымі, вытрыманымі ў традыцыйным рэвалюцыйным стылі, адшліфаванымі ў незлічоных таемных і грамадскіх сходах часоў барацьбы. Насамрэч жа ў гэтых словах была супярэчнасць, і ў гэтай супярэчнасці была схавана праўда: А хацеў пазбавіць партыю ўлады, дэмакратызаваўшы яе, працэс, які даў бы яму магчымасць зрынуць палітычны сакратарыят і канчаткова зацвердзіць сваё аднаўладдзе. За шырмай падстаўнога парламента ён бы стаў болей магутным, чым калі-небудзь дагэтуль, таму ён і казаў напачатку пра неабходнасць гвалту. Тое, што пагражае новая чыстка, аднак не было дакладным. Роспуск палітычнага сакратарыята мог адбыцца і без чысткі. Аднак А схіляўся да ліквідацыі тых элементаў, якіх ён падазраваў ці якіх падазравалі ў тым, што яны могуць аказаць супраціў яго аднаўладдзю. Тое, што А меркаваў пра тое, што такія элементы ёсць у палітычным сакратарыяце, было верагодным праз арышт О. Аднак перад тым, як падумаць пра тое, ці з'яўляецца ён небяспекай для А і ў якой ступені з роспускам палітычнага сакратарыята магчыма страта ім месца міністра пошты — на яго карысць ён мог зараз прывесці толькі маркі да мірнай канферэнцыі — адбылося нешта нечаканае.

А толькі вытрас сваю люльку, што заўсёды было знакам таго, што ён лічыць пасяджэнне палітычнага сакратарыята скончаным і не жадае болей дыскусій, як міністр транспарту Л узяў слова, не папрасіўшы яго перад гэтым. Міністр транспарту марудна ўзняўся. Відавочна, ён сп'янеў яшчэ больш. Ён сказаў пра тое, злёгку ляпечучы і пачаўшы два разы, што О адсутнічае і што таму пасяджэнне палітычнага сакратарыята зусім не магло пачацца. Вельмі шкада шыкоўнай прамовы А, аднак статут ёсць статут, таксама і для рэвалюцыянераў. Усе разгублена глядзелі на помнік, што, нахіліўшыся над сталом і абапёршыся на рукі, усё роўна качаўся і свавольным позіркам вывучаў А, на твар з сівымі, кусцістымі брывамі і шэрым шчаціннем, бледны, нібы маска. Пярэчанне Л было бессэнсоўным, калі нават і фармальна правільным. Бессэнсоўнасць была ў тым, што гэтае пярэчанне было залішнім, таму што пасяджэнне пачалося праз падрабязную прамову А, а таксама ў там, што міністр транспарту сваім пратэстам рабіў выгляд, нібыта ён нічога не ведае пра О і пра свой уласны арышт, які мог яго чакаць. Што, аднак, здзівіла Н, дык гэта хуткі позірк, які А, зноў набіваючы люльку, кінуў С. У позірку А было рэдкае здзіўленне, што дазволіла Н меркаваць, што А адзіны не ведае, што ўсе ведаюць пра арышт О, і тут узнікае пытанне, ці не пайшла навіна пра арышт О ад самога шэфа тайнай паліцыі і ці не было гэта супраць волі А, але таксама ці не заключыў міністр знешніх спраў Б, які перад усімі чальцамі палітычнага сакратарыята згадаў нез'яўленне О, звяз з С. Меркаванні Н не былі цалкам разбіты адказам А. Гэта не мае значэння, адказаў А, зноў пускаючы перад сабой аблокі свайго ангельскага тытуню «Балкан Собраніе Смокінг Мікст», гэта не мае значэння, з'явіўся О ці не, і прычына яго адсутнасці таксама не грае ніякай ролі. О толькі кандыдат без права голасу, і сённяшняя нарада не павінна нічога вырашаць, акрамя роспуску палітычнага сакратарыята, пра што на ёй і вырашылі, таму што не ўзнялося галасоў супраць, пытанне, для якога прысутнасць О не была неабходнай.

Л, раптам разгубіўшыся, як гэта здараецца з п'янымі, хацеў стомлена зноў сесці ў свой фатэль, калі шэф тайнай паліцыі суха заўважыў, што міністр атамнай энергетыкі, відавочна, не змог прыйсці праз прастуду, нахабная хлусня, якая, калі С сапраўды распаўсюдзіў навіну пра арышт О, магла мець мэтай толькі зноў падбухторыць Л, каб падрыхтаваць яго арышт. «Хворы? — закрычаў Л, абапіраючыся на левую руку і б'ючы правым кулаком па стале, — хворы, сапраўды хворы?» — «Верагодна», — зноў спакойна заўважыў С і ўпарадкаваў нейкія паперы. Л перастаў біць кулаком па стале, сеў, агаломшаны ад раз'юшанасці. У дзвярах за Ф і Х з'явіўся палкоўнік, што парушала ўсё звычкі, ні ў кога не было права падчас пасяджэння палітычнага сакратарыята заходзіць у пакой. З'яўленне палкоўніка мусіла абвесціць нешта асаблівае, трывогу, няшчасны выпадак, паведамленне самай высокай ступені важнасці. Таму гэта было яшчэ больш дзіўным, калі палкоўнік зайшоў, каб запрасіць Л выйсці па тэрміновым прыватным пытанні. «Знікні!» — зароў Л на палкоўніка, які марудзячы паслухаўся, аднак кінуўшы позірк на шэфа тайнай паліцыі С, нібыта чакаючы ад яго дапамогі, але С усё яшчэ займаўся сваімі паперамі. А зарагатаў, Л, мабыць, зноў занадта шмат выжлукціў, лагодна сказаў А ў сваёй грубай развязнай манеры, у якой ён размаўляў, калі ён быў у добрым настроі, Л лепш выйсці і разабрацца са сваімі прыватнымі праблемамі, ці не памерла адна з яго каханак? Усе гучна зарагаталі, не таму, што знайшлі словы А смешнымі, аднак напружанне было такім вялікім, што кожны шукаў выйсця, таксама кожны неўсвядомлена імкнуўся палегчыць шлях Л для адступлення. А па тэлефоне зноў выклікаў палкоўніка. Палкоўнік з'явіўся зноў. «Што там здарылася?» — спытаў А. «Жонка міністра транспарту памірае», — адказаў палкоўнік, аддаючы чэсць. «Знікніце», — сказаў А. Палкоўнік выйшаў. «Ідзі, Л! — сказаў А, — жарт з каханкамі быў грубым, я бяру свае словы назад. Я ведаю, што твая жонка важная для цябе. Ідзі да яе, да таго ж, пасяджэнне ўжо скончанае». Як па-чалавечы ні гучалі словы А, страх міністра транспарту быў занадта вялікім, ён не верыў ім. Помнік у сваім адчаі і сваёй спітасці бачыў шлях да ўцёкаў толькі наперадзе. Ён стары рэвалюцыянер, закрычаў ён, зноў узняўшыся, яго жонка ў шпіталі, гэта ўсе ведаюць, аднак яна добра вытрывала аперацыю, ён не пойдзе ў пастку. З самага пачатку ён у партыі, раней за А, за С і за Б, якія толькі вартыя жалю выскачкі. Ён дзейнічаў у партыі яшчэ тады, калі гэта было небяспечна для жыцця, быць у ёй. Ён сядзеў у смярдзючых турмах, закаваны ў ланцугі, нібы жывёла, і пацукі кусалі яго скрываўленыя ногі. Пацукі, крычаў ён зноў і зноў, пацукі! Ён зруйнаваў сваё здароўе на службе ў партыі, праз яе яго асудзілі на смерць. «Расстрэльная каманда ўжо прыбыла, таварышы, — выў ён, — яны ўжо стаялі насупраць мяне». Пасля сваіх уцёкаў, лапатаў ён далей, ён схаваўся, ён заўсёды хаваўся, пакуль не прыйшла вялікая рэвалюцыя, пакуль ён на чале рэвалюцыянераў з рэвальверам і гранатай у руцэ не штурмаваў палац. «З рэвальверам і гранатай я зрабіў гісторыю, сусветную гісторыю», — роў ён далей, яго ўжо было не ўтаймаваць, яго адчай і раз'юшанасць мелі нешта вялікаснае; нягледзячы на свае п'янства і дэградацыю, зараз ён зноў здаваўся старым вядомым рэвалюцыянерам, якім ён некалі быў. Ён змагаўся супраць хлуслівага карумпіраванага парадку і ахвяраваў сваім жыццём дзеля праўды, працягваў ён у сваёй шалёнай тырадзе. Ён змяніў свет, каб зрабіць яго лепшым, гэта нічога яму не каштавала, пакуты і голад, пагоня і катаванне, ён ганарыўся гэтым, таму што ведаў, што стаіць на баку бедных і прыгнечаных, і гэта было цудоўнае пачуццё, аднак зараз, калі перамога дасягнута, калі ўладу пераняла партыя, зараз ён раптам болей не стаіць на правільным баку, зараз ён стаіць на баку магутнага. «Улада спакусіла мяне, таварышы, — выгукнуў ён, — за якімі толькі злачынствамі я не назіраў моўчкі, якім толькі сябрам я не здраджваў і не выдаваў іх тайнай паліцыі? Я павінен далей маўчаць?» О арыштавалі, працягваў ён, раптам збялеўшы, стомлена і ціха, гэта праўда, якая вядома кожнаму, і ён не

выйдзе з пакоя, таму што яго таксама збіраюцца арыштаваць у пярэднім пакоі, таму што ўяўнае паміранне яго жонкі толькі хлусня, каб гэтымі словамі выманіць яго з пакоя для пасяджэнняў. З гэтымі словамі, якія выказвалі падазрэнне, якое для ўсіх не было неабгрунтаваным, ён зваліўся назад у фатэль.

Пакуль Л у сваёй шаленскай непакоры пратэставаў, усведамляючы сваё безнадзейнае становішча, пазбаўлены любой асцярожнасці, якая здавалася яму бессэнсоўнай; пакуль усе скамянела назіралі за гэтай прывіднай гульнёй, якую прапанаваў ім велікан перад сваім канцом; пакуль у кожнай паўзе паміж жудаснымі сказамі, якія выціскаў з сябе Л, маршал Х праз свой нікчэмны страх знайсці свой канец разам з помнікам, раз за разам крычаў: «Знішчыць ворагаў ва ўлонні партыі»; пакуль напрыканцы прэзідэнт, маршал К, ледзь Л скончыў, зрабіў залішнюю заяву пра сваю вечную вернасць А; Н падчас усяго гэтага думаў пра тое, як сябе будзе паводзіць А. А сядзеў спакойна і паліў сваю люльку. Па ім нічога не было відно. І, аднак жа, нешта ў ім адбывалася. Хоць Н яшчэ не ведаў дакладна, наколькі пратэст Л можа пагражаць А, ён адчуваў, што развагі А пра яго месца ў будучыні і пра будучае развіццё партыі будуць вырашальнымі і зараз яны знаходзяцца перад паваротным пунктам, толькі Н не ведаў, перад якім, гэтаксама як ён не наважыўся б нешта сказаць пра тое, як будзе дзейнічаць А. А быў хітрым тактыкам, да ўзроўню яго нечаканых хадоў у гульні за ўладу не дарос ніхто, нават Б. Ён на ўзроўні інстынктаў ведаў людзей і слабасць кожнага ворага і карыстаюся ёю, ён разумеў у зняволенні людзей і паляванні на іх больш, чым кожны астатні ў палітычным сакратарыяце, аднак ён не быў чалавек адкрытай барацьбы адзін супраць аднаго, яму была патрэбна барацьба ў схованках, атакі з нечаканых месцаў. Свае пасткі ён ставіў у джунглях партыі з яе тысячамі аддзелаў і пададдзелаў, адросткамі і пададросткамі, групамі, вышэйшымі групамі і падгрупамі; адкрытага пратэсту, нападу адзін на аднаго яму, дакладна, даўно не даводзілася перажываць. Пытанне было, ці дазволіць А заблытаць сябе, ці не згубіць ён арыентацыю, ці будзе дзейнічаць паспешліва, ці прызнае ён арышты ці будзе і далей хлусіць, усё пытанні, на якія Н не мог адказаць, таму што ён і сам не ведаў, што б ён рабіў бы на месцы А; аднак у Н не атрымалася працягнуць свае развагі пра верагодныя паводзіны, таму што ледзь маршал А спыніўся, каб набраць паветра, набрацца сіл і яшчэ больш жвава распавядаць пра сваю вернасць А, яго перабіў Ф і пачаў казаць. Насамрэч Ф перабіў не толькі прэзідэнта К, але і міжволі А, які, калі К зрабіў паўзу, дастаў з рота люльку, каб у рэшце рэшт адказаць Л, але Ф, які гэта не заўважыў ці пажадаў не заўважыць, быў хутчэй. Ён пачаў казаць, яшчэ не ўстаўшы, пасля ён стаяў нерухома, нізкі, тоўсты, жудасна брыдкі, з бародаўкамі на твары, склаўшы рукі на жываце, нібы нязграбны селянін за малітвай у сваім нядзельным уборы, і казаў і казаў. Н адразу зразумеў чаму. Спакой міністра цяжкай прамысловасці падманваў. Чысцільшчык ботаў дзейнічаў з простага страху перад учынкам Л, ён бачыў шал А, які закране ўсіх, будучы арышт усяго палітычнага сакратарыята. Сын вясковага настаўніка, ён марудна выграбся ў правінцыі наверх. Рана ўступіў у партыю, дзе яго высмейвалі, ніколі не ўспрымалі сур'ёзна, зневажалі, выкарыстоўвалі лакеем, пакуль ён не прабіўся ўверх (пра што шмат каму прыйшлося пашкадаваць), таму што ў яго не было гонару (таму што ён не мог сабе яго дазволіць), а толькі пыха, і таму што ён быў здольны да ўсяго, і ён быў здольны да ўсяго. Ён рабіў самыя брудныя працы (самыя крывавыя), слепа слухаючыся, падрыхтаваным да здрады, у шмат якіх рэчах самы жудасны ў партыі, нават яшчэ жудасней за А, які быў жудасным праз свае ўчынкі, але значным праз сваю асобу. А не быў дэфармаваным ні барацьбой, ні ўладай. А быў такім, як ён быў, часткай прыроды, выразам магутнай заканамернасці, зроблены самім сабой, а не іншымі. Ф быў толькі жудасным, адсутнасць годнасці так і засталася з ім, ён не мог ад гэтага пазбавіцца,

гэта прыстала да яго, нават абодва Джын-гіс-ханы каля яго здаваліся арыстакратамі, нават А, якому ён быў патрэбен, называў яго перад усімі не толькі чысцільшчыкам абутку, але і лізуном сракі; таму яго страх зараз быў большым за страх астатніх. Ф зрабіў усё, каб прабіцца наверх. Зараз, дасягнуўшы сваёй мэты, ён бачыў пагрозу для сваіх бесчалавечных і нягодных намаганняў з боку шалёных выбрыкаў Л, усе яго гратэскныя самаабвінавачванні бессэнсоўнымі, а свае бессаромную ліслівасць дарэмнай; панічны страх апанаваў яго так моцна, што ён нават, нічога не ўсведамляючы ад страху, перарваў А (у чым зараз быў упэўнены Н), аднак Ф, мабыць, жадаў вельмі хутка, нібыта гэта магло яго выратаваць, дадаць да абвяшчэння вернасці К сваё, канешне, на свой лад. Ён не хваліў А, як гэта, не ведаючы меры, рабіў прэзідэнт, ён яшчэ болей без меры кінуўся на Л. Па сваёй звычцы, ён пачаў са сваіх вечных сялянскіх прыказак, якія ён вывучыў, абыякава, ці пасавалі яны, ці не. Ён сказаў: «Пакуль лісіца не прыйдзе, куры дзёрзкія». Ён сказаў: «Селянін мые сваю бабу толькі тады, калі пан жадае з ёю спаць». Ён сказаў: «Лямант прыходзіць перад шыбеніцай». Ён сказаў: «І заможны селянін можа патрапіць у канаву з гноем», і яшчэ ён сказаў: «Служанка зацяжарвае ад селяніна, а сялянка ад служкі». Тады ён пачаў казаць пра сур’ёзнасць становішча, разважліва не пра сур’ёзнасць унутрыпалітычнага становішча — як міністр цяжкай прамысловасці, ён быў занадта ўблытаны ў гэта, — а пра сур’ёзнасць знешнепалітычнага становішча, дзе ён бачыў «смяротную небяспеку для нашай любімай бацькаўшчыны» — што было яшчэ болей дзіўным таму, што пасля мірнай канферэнцыі знешняя палітыка было болей спакойнай, чым калі-небудзь дагэтуль. Міжнародны капіталізм зноў падрыхтаваны адабраць у рэвалюцыі яе плады, і ў яго ўжо атрымалася затапіць краіну сваімі агентамі. Ад знешняй палітыкі ён перайшоў да неабходнасці дысцыпліны, ад неабходнасці дысцыпліны ён перайшоў да неабходнасці даверу. «Таварышы, мы ўсе браты, дзеці адной вялікай рэвалюцыі!» Пасля ён сцвярджаў, што гэты неабходны давер без неабходнасці быў парушаны Л, які засумняваўся ў словах А, насупраць запэўнівання А мяркуючы, што хворы О арыштаваны, недавер міністра транспарту, «гэтага помніка, які даўно ўжо стаў ганебнай плямай», настолькі вялікі, што ён нават не наважваецца выйсці з пакоя для пасяджэнняў, каб пасядзець са сваёй паміраючай жонкай, бесчалавечнасць, якая кожнага рэвалюцыянера, для якога шлюб яшчэ святы — і нават калі не святы — павінна прыводзіць у жах. Такое падазрэнне не толькі крыўдзіць А, гэта таксама ўдар у твар палітычнаму сакратарыяту (Н разважаў: А нічога не сказаў пра ўяўную хваробу О. Гэтая хлусня сыходзіць ад міністра бяспекі С, прыпісваючы хлусню А, Ф пераклаў адказнасць на яго, яшчэ адна памылка, якую можна было растлумачыць толькі вартым жалю страхам міністра цяжкай прамысловасці — аднак у той жа момант у Н з’явілася падазрэнне, ці не з’яўляецца хвароба О праўдай, а яго арышт — хлуснёй, распаўсюджанай, каб заблытаць палітычны сакратарыят, падазрэнне, ад якога Н, аднак жа, у той жа момант адмовіўся.) Чысцільшчык ботаў між тым, неразважліва захапіўшыся спробай зрабіць бяспечным сваё становішча, цяпер перайшоў у напад на свайго старога сябра Д, мабыць, таму што ён думаў, што разам з міністрам транспарту аўтаматычна зрынуць і партыйнага сакратара, не думаючы пра тое, што міністра транспарту ў плане палітыкі ўжо даўно ўсе спісалі, Д, насупраць, знаходзіўся на пасадзе, з якой яго нельга было зняць, не скалыхнуўшы моцна партыю і дзяржаву. Але гэтая падзея для Ф , відавочна, ужо адбылася, інакш яму б кінулася ў вочы, што падчас яго нападу нават міністр абароны Х паводзіў сябе ціха і не падтрымліваў яго. Чысцільшчык ботаў крычаў, калі сяляне галодныя, святар ад’ядаецца, крычаў, калі ў пана мерзнуць ногі, ён паліць усю вёску, сцвярджаў, Д здрадзіў рэвалюцыі, дазволіўшы сабе заснуць і ператварыўшы партыю ў буржуазны звяз. У сваёй адчайнай дзёрзкасці ён пайшоў яшчэ далей. Пасля Д ён кінуўся на яго паплечнікаў, жартаваў з міністра выхавання, ідуць у дом да гандляраконьмі нявінніцай, а выходзяць шлёндрай, старая сялянская прыказка, а для міністра знешніх спраў было «Хто сябруе з

шалудзівым воўкам, сам робіцца шалудзівым воўкам»; аднак Ф, перад тым як ён мог працытаваць яшчэ адну прыказку і ўдакладніць свае абвінавачванні, быў перарваны палкоўнікам. Бялявы афіцэр другі раз да агульнага здзіўлення зайшоў у пакой, аддаў чэсць, перадаў міністру цяжкай прамысловасці цэтлік, зноў драўляна аддаў чэсць і выйшаў.

Ф, збіты тым, што яго перапынілі, і спужаны гэтай вайсковай тэатральнай гульнёй, захваляваўся, хутка прагледзеў цэтлік, скамячыў яго, паклаў у кішэню на правым баку, прамармытаў, ён меў на ўвазе не гэта, сеў, ахоплены раптоўным недаверам, як адчуваў Н, і маўчаў. Астатнія не варушыліся. Другое з’яўленне палкоўніка было занадта незвычайным. Гэта здавалася інсцэніроўкай. Выпадак быў пагражальным. Толькі М, якая востра глядзела на Ф падчас яго прамовы, паводзіла сябе так, быццам нічога не здарылася. Яна адкрыла сваю сумачку і пудрылася, на што яна яшчэ ніколі не наважвалася падчас пасяджэння. А ўсё яшчэ маўчаў, не ўмешваўся, здаваўся абыякавым. Б і С, якія сядзелі бліжэй за ўсіх да А, кінулі позіркі адзін на аднаго, хутка і нібы выпадкова, як заўважыў Н, міністр знешніх спраў пры гэтым пагладзіў сваю акуратна пастрыжаную бараду. Шэф тайнай паліцыі паправіў свой шаўковы гальштук і халодна спытаў, ці скончыў Ф са сваёй лухтой, палітычны сакратарыят павінен працаваць. Н зноў падумаў, ці не заключылі Б і С таемны звяз. Яны лічыліся ворагамі, але мелі шмат агульнага: адукацыя, перавага над астатнімі, паходжанне з вядомых сямей краіны. Бацька С быў міністрам буржуазнага ўрада, а Б быў незаконным сынам князя, некаторыя лічылі яго, як і С, гомасексуалістам. Магчымасць таемнай дамоўленасці паміж абодвума таксама яшчэ і таму другі раз прыйшла ў галаву Н, што папрокам, накіраваным С міністру цяжкай прамысловасці, ён відавочна прыйшоў на дапамогу Б і не толькі міністру знешніх спраў, але і Д і М, нават Л быў ім падтрыманы. Ф, зблытаны гэтай паразай, яшчэ болей праз тое, што ён, мабыць, меркаваў убачыць С на сваім баку, няўпэўнена адказаў, яму трэба патэлефанаваць у міністэрства, тэрмінова, яму няёмка, нейкая справа патрабуе яго вырашэння. А ўзняўся. Ён павольна падышоў да буфета за сабой, асцярожна наліў сабе каньяк, застаўся стаяць. Ён сказаў, патэлефанаваць Ф можа ў пярэднім пакоі і таксама Л пажадана знікнуць як мага хутчэй і хоць бы патэлефанаваць у шпіталь, ён аб’яўляе пяціхвілінны перапынак, таму што, хоць партыйная дысцыпліна патрабуе, каб пасяджэнне пасля гэтых дурных і цалкам асабістых нападаў не перарывалася, ён не жадае болей, каб ім перашкаджалі, хто гэты асёл палкоўнік. Намеснік старога палкоўніка, адказаў шэф тайнай паліцыі, той у адпачынку, але ён яшчэ раз усё патлумачыць, адказаў С. Ён выклікаў палкоўніка па тэлефоне. С загадаў палкоўніку, які зноў з’явіўся, аддаючы чэсць, каб той болей не з’яўляўся, што б не здарылася. Палкоўнік сышоў. Ні Ф, ні Л не выйшлі з пакоя, яны засталіся сядзець, як быццам нічога не здарылася. Д з ухмылкай глядзеў на міністра цяжкай прамысловасці, падняўся, падышоў да А, таксама наліў сабе каньяку, спытаў, што э гэта такое, чаму Ф не ідзе ў пярэдні пакой, да д’ябла, калі міністэрства цяжкай прамысловасці ўжо загадвае спыніць пасяджэнне палітычнага сакратарыята, у іх там павінна быць сапраўднае пекла; хоць гэта і варта пахвалы, што сябру Ф блізкі да сэрца дабрабыт партыі і рэвалюцыі, аднак менавіта для гэтага дабрабыту было б пажадана, калі б ён, у рэшце рэшт, паклапаціўся пра свае абавязкі і як мага хутчэй патэлефанаваў у сваё ведамства, гэта нікому не прынясе карысці, калі цяжкая прамысловасць патрапіць у бязладдзе.

Н разважаў. Самым важным яму здавалася, што А раптам вырашыў працягваць пасяджэнне палітычнага сакратарыята. Спасылка на партыйную дысцыпліну павінна была кожнаму ўсё растлумачыць. Дагэтуль яшчэ ніколі не было галасавання, усе моўчкі згаджаліся, суаднясенне сіл паміж абедзвюма варожымі групоўкамі было занадта роўным. Таксама і ў А ўвесь час была маг-

чымасць вынесці пытанне на партыйны з'езд і, такім чынам, адкрыта ліквідаваць непапулярны палітычны сакратарыят. Вырашэнне А мела іншыя падставы. Ён, дакладна, зразумеў, што зрабіў памылку, збіраючыся адначасова і распусціць сакратарыят, і правесці чыстку сярод яго чальцоў. Яму трэба было ці спачатку правесці чыстку, а пасля роспуск, ці спачатку распусціць сакратарыят, а пасля ліквідаваць асобных чальцоў. Зараз супраць яго ўтварыўся фронт. Арыштам О ён занадта паспешліва папярэдзіў усіх, нежаданне Ф і Л выйсці з пакоя былі знакам таго, што яны баяцца. Перад з'ездам партыі А быў вольным і ўсёмагутным, у палітычным сакратарыяце, як і ўсе астатнія, вязень сістэмы. Калі ўсе баяліся А, у А павінен быў быць калі не страх, якога ён не ведаў, то хоць бы недавер. Скліканне партыйнага з'езду патрабуе часу, і ў гэты час усе чальцы сакратарыята заставаліся магутнымі і маглі дзейнічаць. Таму і А павінен быў дзейнічаць. Ён павінен зноў вызначыць, на каго ён можа разлічваць, а на каго не, і пасля змагацца. Напышлівая пагарда людзьмі з боку А не толькі змяшала ўсе франты. Сутычка нечакана пагражала стаць рашучай бітвай.

Спачатку нічога не адбывалася. Ніхто не дзейнічаў. Ф сядзеў, міністр транспарту таксама, закрыўшы твар рукамі. Н з вялікай ахвотай выцер бы сабе пот з ілба, але не намагаўся зрабіць гэта. Каля яго склаў рукі П. Здавалася, што ён моліцца, каб сысці адсюль з цэлай шкурай, калі нават і было малаверагодна, што чалец палітычнага сакратарыята ўвогуле можа маліцца. Міністр знешняга гандлю запаліў адну са сваіх амерыканскіх цыгарэт. Міністр абароны Х устаў, злёгку хістаючыся на нагах, знайшоў у буфеце бутэльку джыну, ляпнуўся каля А і Б, урачыста сказаў тост А: «За рэвалюцыю», і зрабіў глыток, у сваім здранцвенні не заўважаючы, што А не глядзіць на яго. М дастала са сваёй сумачкі залаты партсігар, Д падышоў да яе, даў ён прыкурыць ад сваёй залатой запальнічкі, застаўся стаяць за ёю. «Гэй, вы двое, — спакойна спытаў А, — дык вы спіцё адзін з адным?» — «Мы спалі разам раней», — нахабна адказаў Д. А зарагатаў, гэта заўсёды добра, калі яго калегі могуць паразумецца, пасля ён павярнуўся да Ф. «Давай, чысцільшчык ботаў, — загадаў ён, — давай, лізун сракі, да тэлефона!» Ф застаўся сядзець. «Не ў іншым пакоі», — сказаў ён ціха. А зноў зарагатаў. Гэта быў заўсёды аднолькавы павольны, амаль што ласкавы смех, які чуўся ад яго, незалежна ад таго, жартаваў ён ці пагражаў, таму заўсёды было незразумела, што ён мае на ўвазе. Ён сапраўды думае, што хлопец наклаў у штаны, заўважыў ён. «Так, — адказаў Ф, — я наклаў у штаны, мне страшна». Усе моўчкі глядзелі на Ф, гэта было жудасна — прызнаць свой страх. «Мы баімся ўсе, — працягнуў міністр цяжкай прамысловасці і спакойна паглядзеў на А, — не толькі я і міністр транспарту, усе». «Лухта», — прамовіў галоўны ідэолаг, узняўся і падышоў да акна. «Лухта, поўная лухта», — сказаў ён зноў, стоячы спінай да астатніх. «Тады выйдзі з пакоя», — патрабаваў ад яго Ф. Галоўны ідэолаг павярнуўся і недаверліва паглядзеў на Ф. Навошта яму выходзіць, спытаў ён. Галоўны ідэолаг таксама не наважваецца выйсці, спакойна зацвердзіў Ф. Г дакладна ведае, што толькі тут ён у бяспецы. «Лухта», — зноў адгукнуўся Г. «Лухта, поўная лухта». Ф заставаўся ўпартым: «Дык выйдзі», — зноў патрабаваў ён ад гарбатнага святога. Г застаўся каля акна. Ф зноў звярнуўся да А: «Бачыш, мы ўсе наклалі ў штаны». Ён выпрастаны сядзеў у сваім фатэлі, паклаўшы рукі на стол, і ўся бруднота сышла з яго. Ф дурань, сказаў А, паставіў чарку з каньяком назад на буфет, падышоў да стала. «Дурань, — адказаў Ф, — сапраўды? Ты так упэўнены?» Ён казаў ціха, чаго ён у іншым выпадку ніколі не рабіў. Акрамя Л у палітычным сакратарыяце няма старых рэвалюцыянераў, сказаў ён, дзе яны засталіся? Пасля ён пачаў лічыць прозвішчы ліквідаваных, грунтоўна, павольна, не забываючыся пра імёны, называў людзей, якія некалі былі вядомымі, якія зрынулі стары парадак. Гэта быў першы раз за доўгія часы, калі гэтыя імёны былі названы зноў. Н пахаладзеў. Яму падалося, што ён на могілках. «Здраднікі, — закрычаў А, — гэта былі

здраднікі, ты ведаеш гэта дакладна, чортаў лізун сракі». Ён замаўчаў, зноў супакоіўся, задуменна паглядзеў на чысцільшчыка ботаў. «І ты таксама такая ж свіння», — прамовіў на гэта А. Н адразу зразумеў, што А зноў зрабіў памылку. Канешне, гэта была правакацыя з імёнамі, аднак Ф праз прызнанне свайго страху стаў ворагам, якога А трэба было б успрымаць усур'ёз. Замест гэтага А дазволіў сябе падбухторыць, пачаў пагражаць, замест таго, каб супакойваць. Ветлівыя словы, жарт зноў вярнулі б Ф да розуму, аднак А пагарджаў Ф, і таму, што ён пагарджаў ім, ён не бачыў небяспекі і стаў бестурботным. У Ф, наадварот, шляху назад не было. У сваім адчаі ён паставіў на карту ўсё і паказаў характар, здзівіўшы ўсіх. Ён быў вымушаны змагацца і, натуральна, стаў саюзнікам міністра транспарту, які, аднак, у сваёй апатыі не разумеў гэтага. «Той, хто супраціўляецца рэвалюцыі, будзе знішчаны, — абвясціў А, — знішчаны ўсе, хто спрабаваў гэта». Ці сапраўды яны спрабавалі, непахісна спытаў чысцільшчык ботаў, у гэта не верыць і сам А. Мужчыны, якіх ён пералічыў і якія загінулі, заснавалі партыю і здзейснілі рэвалюцыю. Яны шмат у чым памыляліся, дакладна, аднак здраднікамі яны не былі, гэтаксама, як і міністр транспарту. Яны прызналі сваю віну і былі асуджаны судамі, супярэчыў А. «Прызналі! — рагатаў Ф, — Прызналі! Як яны прызналі. Пра гэта нам няхай раскажа шэф тайнай паліцыі!» А раззлаваўся. Рэвалюцыя — крывавая справа, адказаў ён, і на яе баку ёсць вінаватыя і несці ім адказ. Той, хто не трымаецца гэтага ўсведамлення, сам здраднік. У астатнім, здзекаваўся ён, бессэнсоўна весці дыскусію, таму што чысцільшчыку ботаў, верагодна, стукнулі ў галаву яго брудныя стужкі, якія ён распаўсюджвае паміж калегамі, відавочна лічачы партыю бардэлем, і А павінен вельмі папрасіць галоўнага ідэолага Г, сябра Ф, падумаць пра тое, з кім у яго сяброўскія зносіны. Пасля гэтай імпульсіўнай і залішняй пагрозы гарбатнаму святому — магчыма, са злосці, што галоўны ідэолаг таксама не наважыўся выйсці з пакоя — А зноў сеў на сваё месца. Тыя, хто яшчэ стаяў, таксама селі, Г апошнім. Ён пачынае пасяджэнне зноў, сказаў А.

Гарбатны святы адпомсціў адразу. Магчыма, таму што ён лічыў, што патрапіў у няміласць разам з Ф, магчыма толькі праз тое, што неасцярожныя словы А пакрыўдзілі яго. Як і многія крытыкі, ён не зносіў крытыку. Ужо падчас таго, як ён быў настаўнікам у гімназіі, гарбатны святы публікаваў у нязначных местачковых газетах літаратурную крытыку з такой вернай лініі партыі ўедлівасцю, што А, які пагарджаў большасцю пісьменнікаў краіны як буржуазнай інтэлігенцыяй, напачатку другой вялікай чысткі загадаў Г пераехаць у сталіцу, дзе ён стаў займацца культурным кірункам у газеце ўрада і праз кароткі час з неабсяжнай пчалінай руплівасцю знішчыў літаратуру і тэатр краіны, згодна з ідэалагічнай схемай абвясціўшы класікаў здаровымі і станоўчымі, пісьменнікаў сучаснасці — хворымі і адмоўнымі: у той жа ступені, у якой асноўная думка яго крытыкі была прымітыўнай, форма, якую ён прапаноўваў, была лагічнай і інтэлектуальнай, гарбатны святы пісаў больш заблытана за сваіх літаратурных і палітычных ворагаў. Ён быў усёмагутным. Таму, каго ён знішчаў сваёй крытыкай, быў канец, ён нярэдка трапляў за калючы дрот ці знікаў. Як чалавек, Г быў непераўзыдзена прастадушным. Ён быў шчаслівым у шлюбе, як ён усіх папракаў, бацькам васьмі, праз роўныя прамежкі часу народжаных сыноў. Яго ненавідзелі ў партыі, але вялікі практык А, які ахвотна выдаваў сябе за тэарэтыка, падсунуў настаўніку сярэдняй школы яшчэ болей улады. Ён зрабіў яго духоўным бацькам ідэалогіі партыі, і таму палітычны сакратарыят вымушаны быў безабаронна слухаць шматслоўныя даклады Г, калі нават некаторыя адкрыта кпілі з іх, напрыклад, Б, які аднойчы пасля асабліва доўгай прамовы гарбатнага святога на тэму знешняй палітыкі выказаў меркаванне, што хоць галоўны ідэолаг павінен клапаціцца пра тое, каб рашэнні сакратарыята ў пытаннях знешняй палітыкі былі ідэальна абгрунтаваны, аднак жа ён не можа патрабаваць, каб сакратарыят яшчэ і верыў у гэтыя абгрунтаванні. Аднак

жа ўсе добра рабілі, што не недаацэньвалі Г. Гарбатны святы быў чалавекам улады, які абараняе сваю аднойчы дасягнутую пазіцыю сваімі сродкамі, як давялося зараз даведацца А, таму што Г першы запатрабаваў слова. Ён падзякаваў А за тлумачэнні напачатку пасяджэння, якія выдавалі вялікага дзяржаўнага дзеяча. Ён па-майстэрску прааналізаваў стан рэвалюцыі і стан дзяржавы і зрабіў патрэбную выснову пра неабходнасць у дадзены момант развіцця распусціць палітычны сакратарыят. Як ідэолаг, Г толькі павінен зрабіць адну заўвагу. Як паказаў А, яны сутыкнуліся з пэўным канфліктам, які ў тым, што хоць рэвалюцыя і супярэчыць дзяржаве, але яна таксама ў рэчаіснасці супярэчыць і партыі. Рэвалюцыя і партыя не тое ж самае, як лічаць некаторыя. Рэвалюцыя — дынамічны працэс, партыя — статычнае ўтварэнне. Рэвалюцыя змяняе грамадства, партыя ўсталёўвае змененае грамадства ў дзяржаве. Таму партыя — носьбіт рэвалюцыі і адначасова носьбіт дзяржаўнай улады. Гэтая ўнутраная супярэчнасць спакушае партыю схіліцца болей да дзяржавы, чым да рэвалюцыі, і прымушае рэвалюцыю зноў і зноў рэвалюцыянаваць партыю; рэвалюцыя распальваецца праз чалавечую недасканаласць, якая ўласціва партыі як статычнаму ўтварэнню. Такім чынам атрымліваецца, што рэвалюцыя праглынае перш за ўсё тых, хто ад імені партыі стаў ворагам рэвалюцыі. Мужчыны, якія пералічыў міністр цяжкай прамысловасці, першапачаткова былі сапраўднымі рэвалюцыянерамі, дакладна, ніхто не сумняваецца пра гэта, аднак праз сваю памылку, тое, што яны лічылі рэвалюцыю скончанай, яны сталі ворагамі рэвалюцыі і павінны былі быць знішчанымі. Гэта адпавядае і сённяшняй сітуацыі: праз тое, што палітычны сакратарыят узяў усю ўладу, партыя зрабілася нязначнай і болей не можа быць носьбітам рэвалюцыі, аднак жа і палітычны сакратарыят болей не ў стане выконваць гэты абавязак, таму што ён мае дачыненне толькі да ўлады і ніякага дачынення да рэвалюцыі. Палітычны сакратарыят адмежаваўся ад рэвалюцыі. Захаванне сваёй улады для яго стала болей важным за змяненне свету, таму што кожная ўлада схіляецца да таго, каб стабілізаваць дзяржаву, якой яна валодае, і партыю, якую яна кантралюе. Таму барацьба супраць палітычнага сакратарыята непазбежная для працягу рэвалюцыі. Палітычны сакратарыят павінен прызнаць гэта і прыняць рашэнне пра самароспуск. Сапраўдны рэвалюцыянер ліквідуе сябе сам, скончыў ён сваю прамову. Таксама менавіта страх перад чысткай, які апанаваў некаторых чальцоў палітычнага сакратарыята, з’яўляецца доказам, што такая ліквідацыя патрэбна і што палітычны сакратарыят зжыў сябе.

Прамова Г была асабліва падступнай. Гарбатны святы казаў па сваёй звычцы павучаючы, безгуморна, суха. Н толькі праз некаторы час зразумеў хітрасць Г, які абстрактнымі сказамі болей дакладна перадаваў намеры А, што павінна было прымусіць палітычны сакратарыят заняць абарону. Чыстку, якой усе баяліся, гарбатны святы маляваў як неабходны працэс, які ўжо пачаўся. Апраўдваючы знікненне старой гвардыі, усе паказальныя працэсы, прыніжэнні і смяротныя пакаранні як палітычна правільныя, ён апраўдваў і надыходзячую чыстку. Аднак жа такім чынам ён паклаў рашэнне, ці будзе гэтая чыстка, у рукі яе магчымых ахвяр і стварыў сапраўдную небяспеку для А.

Н было дастаткова аднаго позірку на А: А заўважыў пастку, у якую яго завабіў Г. Аднак жа перад тым, як А закрычаў, здарылася яшчэ нешта. Міністр выхавання М, якая сядзела каля прэзідэнта К, падскочыла і закрычала, што маршал К свіння. Таксама Н, які сядзеў наўскасяк насупраць прэзідэнта, адчуў, што яго чаравікі стаяць у лужыне. Кіраўнік дзяржавы, стары і хворы, спусціў ваду. Азызлы Джын-гіс-хан стаў паводзіць сябе агрэсіўна, зароў, што тут такога, назваў М далікатнай казой, роў, ці сапраўды яго лічаць такім ідыётам, каб ён выйшаў, каб пасцаць, ён не жадае, каб яго арыштавалі, ён болей не выйдзе з гэтага пакоя, ён стары рэвалюцыянер, ён

змагаўся для партыі і перамог, яго сын загінуў падчас грамадзянскай вайны, а яго зяць і ўсе старыя сябры былі арыштаваны і знішчаны па загадзе А, нягледзячы на тое, што яны, як і ён, усе былі перакананымі рэвалюцыянерамі, і таму ён спускае ваду тады і там, дзе ён жадае.

Шалёная рэакцыя А на гэты мярзотны і гратэскны выпадак здзівіла Н менш сваёй палкасцю, з якой той умяшаўся ў справу, а болей праз тое, што Н успрымаў напад А як амаль што бязглузды, так, як быццам А думае зусім не пра тое, каб атакаваць некага канкрэтнага, а пра тое, каб проста ўвогуле атакаваць, атакаваць любога. Яго лютыя напады накіроўваліся незразумелым чынам не супраць Ф, Г ці К, а супраць С, якому ён быў абавязаны болей за астатніх, як жа ён змог бы кіраваць без шэфа тайнай службы. Нягледзячы на гэта, ён папракаў С у тым, што той арыштаваў О без ведама А, і загадаў рэабілітаваць міністра атамнай энергетыкі, калі гэта яшчэ магчыма. Верагодна, таго, згодна з метадамі С, ужо і без гэтага даўно расстралялі. А пайшоў яшчэ далей. Ён запатрабаваў у шэфа тайнай паліцыі сысці з пасады. Расследаванне супраць яго і яго аблудных схільнасцей ужо даўно павінна быць праведзена. «Я арыштоўваю цябе», — шалеў А і закрычаў ў тэлефон, выклікаючы палкоўніка. Мёртвая цішыня. С заставаўся спакойным. Усе чакалі. Прайшло некалькі хвілін. Палкоўнік не з’явіўся. «Чаму палкоўнік не ідзе? » — закрычаў А на С. «Таму што мы загадалі яму не з’яўляцца зноў ні пры якіх абставінах», — спакойна адказаў шэф тайнай паліцыі і вырваў кабель з сцяны. «Д’ябал», — адказаў А гэтаксама спакойна. «Ты паставіў шах і мат самому сабе, А, — заўважыў міністр знешніх спраў Б, сцягнуўшы рукавы свайго выдатна скроенага пінжака ўніз, — загад палкоўніку болей не з’яўляцца сыходзіць ад цябе». — «Д’ябал», — прамармытаў А, тады зноў вытрас сваю люльку, нягледзячы на тое, што яна яшчэ гарэла, дастаў з кішэні новую, загнутую Данхіл, набіў яе і запаліў. «Прабач, С», — сказаў ён. «Калі ласка, калі ласка», — усміхнуўся дзяржаўная цётухна, і Н зразумеў, што А канец. Гэта было, нібы тыгр, звыклы біцца ў джунглях, раптам бачыць сябе ў стэпе акружаным статкам шалёных буйвалаў. У А болей не было зброі. Ён быў бездапаможным. Першы раз ён быў для Н не таямніцай, не геніем і не звышчалавекам, а уладаром, які быў не болей чым прадукт свайго палітычнага асяроддзя. Гэты прадукт быў схаваны за малюнкам калоса сялянскага выгляду, які быў выстаўлены на кожнай вітрыне, вісеў у кожнай установе і з’яўляўся ў кожным дзённым ці тыднёвым выпуску навін, прымаў парады, аглядаў сіроцкія і старэчыя дамы, урачыста адкрываў фабрыкі і грэблі, абдымаў дзяржаўных дзеячаў і раздаваў ордэны. Ён быў сімвалам патрыятызму для народа, сімвалам незалежнасці і велічы бацькаўшчыны. Ён быў рэпрэзентантам усеўладдзя партыі, ён быў мудрым і суворым бацькам краіны, творы якога (якія ён ніколі не пісаў) чыталі і вучылі на памяць усе, да якога мела дачыненне кожная сказаная прамова і кожны напісаны артыкул; аднак жа у рэчаіснасці ён быў невядомым. У А ўкладвалі ўсе магчымыя віды дабрадзейнасці і рабілі яго такім чынам безасабовым. Ператварыўшы яго ў ідала, яму далі дазвол на ўсё, і ён дазваляў сабе ўсё. Аднак абставіны змяніліся. Мужчыны, якія здзейснілі пераварот, былі індывідуалістамі, дакладна таму, што яны змагаліся супраць індывідуалізму. Узбурэнне, якое рухала іх, і надзея, якая натхняла, былі сапраўднымі і патрабавалі рэвалюцыйнага індывідуалізму; рэвалюцыянеры не функцыянеры, яны намагаюцца быць такімі, але іх спробы марныя. Яны былі збеглымі святарамі, п’янымі эканамістамі, фанатычнымі вегетарыянцамі, адвакатамі, якія хаваліся, звольненымі журналістамі, яны жылі ў схованках, іх праследавалі і кідалі ў турмы, яны баставалі, сабатавалі і забівалі, пісалі лістоўкі і таемныя брашуры, заключалі тактычная звязы са сваімі ворагамі і зноў парушалі іх, аднак, як толькі яны перамаглі, рэвалюцыя з новым грамадскім ладам стварыла і новую дзяржаву, улада якой была неверагодна большай за тую, што была пра старым парадку і старой дзяржаве. Іх паўстанне праглынула бю-

ракратыя, рэвалюцыя стала арганізацыйнай праблемай, якую яны не здолелі вырашыць, таму што былі рэвалюцыянерамі. Яны былі бездапаможнымі супраць мужчын, якія былі патрэбны зараз. Яны не дараслі да тэхнакратаў: іх правал стаў шанцам для А. У той жа ступені, як дзяржава была апанаваная змяненнямі, павінна была захоўвацца фікцыя рэвалюцыі; стварэнне адміністрацыйнага апарату не натхняе ні адзін народ, тым болей што партыя таксама стала ахвярай бюракратыі. У А безасабовая машына ўлады набыла твар, аднак вялікі бос не здаволіўся роллю рэпрэзентанта, ён пачаў у імя рэвалюцыі знішчаць рэвалюцыянераў. Уся старая гвардыя патрапіла такім чынам пад колы — за выключэннем прэзідэнта К і Л — аднак не толькі героі рэвалюцыі, таксама і тыя, што пасля іх прабіўся да ўлады і ўвайшоў у палітычны сакратарыят, праз некаторы час былі ліквідаваны, нават шэфы тайнай паліцыі змяняліся, якія былі патрэбны А для гэтых чыстак, таксама і яны не збеглі ад ката. Менавіта таму А быў папулярны. Народ жыў дрэнна, часта адсутнічала самае неабходнае, адзенне, абутак былі вартай жалю якасці, старыя кватэры разбураліся, новыя гэтаксама. Каля прадуктовых крамаў стаялі чэргі. Штодзённасць была шэрай. Наадварот, партыйныя функцыянеры карысталіся прывілеямі, пра якія хадзілі фантастычныя чуткі. У іх былі вілы, машыны, кіроўцы, яны набывалі рэчы ў крамах, якія былі прызначаны толькі для іх і дзе можна было набыць кожны прадмет раскошы. Не было толькі аднаго — бяспекі. Мець уладу было небяспечным. Калі народ у цэлым заставаўся бесклапотным, таму што яму, апатычнаму ў сваёй галечы і безуладнасці, не было чаго страчваць, бо ён нічога не меў, прывілеяваныя жылі ў страху страціць усё, бо іх было ўсё. Народ бачыў, як магутныя ўздымаюцца праз міласць А і зрынаюцца праз яго шал. Народ у якасці гледача ўдзельнічаў у крывавым спектаклі, які яму прапаноўвала палітыка. Ніколі зрынанне некага магутнага не праходзіла без публічнага суда, без вытанчанага спектаклю, без таго, каб на сцэне з помпай не з'явілася справядлівасць, без урачыстага прызнання сябе вінаватым з боку абвінавачанага. Для мас гэта былі злачынцы, якіх каралі смерцю, сабатажнікі, здраднікі; галеча народа была іх памылкай, а не памылкай сістэмы, і іх знікненне абуджала новую надзею на ўвесь час абяцаную лепшую будучыню, абуджала прывіднае ўражанне, што рэвалюцыя працягваецца пад мудрым кіраўніцтвам магутнага, добрага, геніяльнага і ўсё ж такі ўвесь час падманутага А.

Першы раз А здолеў убачыць механізм палітычнай машыны, рычагамі якой кіраваў А і якая вызначалася ім. Машына толькі здавалася складанай, насамрэч яна была такой простай, як гэта толькі магчыма. Сваю гвалтоўную ўладу А мог утрымліваць, толькі калі радцы палітычнага сакратарыята змагаліся адзін з адным. Гэтая барацьба для А была ўмовай яго ўлады. Просты страх вымушаў кожнага дзейнічаць на карысць А, даносячы на іншых. Такім чынам групоўкі, як вакол Д, якія жадалі захаваць уладу, заўсёды супрацьстаялі фармацыям, накшталт тых, якія стварыліся вакол Г, што імкнуліся працягнуць рэвалюцыю, прычым ідэалагічная пазіцыя А была такой незразумелай, што абодва бакі лічылі, што дзейнічаюць ад яго імя. Тактыка А была жорсткай, аднак менавіта праз гэта з часам яна стала нядбалай. Ён гуляў у рэвалюцыянера толькі тады, калі гэта здавалася яму карысным, яго цікавіла толькі яго ўлада, ён уладарыў, сутыкаючы астатніх адзін з адным, аднак ён лічыў, што ён сам у бяспецы. Ён забыў, што ў палітычным сакратарыяце болей не перакана용ныя рэвалюцыянеры, якія часта прызнавалі на паказальных працэсах сваю віну толькі таму, што лепш страціць жыццё, чым веру ў сэнс рэвалюцыі. Ён забыўся, што знаходзіцца ў коле людзей улады, для якіх ідэалогія партыі была толькі сродкам зрабіць кар'еру. Ён забыўся, што ізаляваў сябе, таму што страх не толькі раздзяляе. Страх таксама яднае, закон, які зараз стаў лёсавызначальным для А. Раптоўна ён стаў бездапаможным, як аматар, які супрацьстаіць выключна прафесіяналам улады. Спрабуючы распусціць палітычны сакратарыят,

каб стаць яшчэ болей магутным, ён пагражаў усім, атакаваўшы міністра бяспекі і папракнуўшы яго ў тым, што той арыштаваў О, ён зноў стварыў сабе новага ворага. А страціў інстынкт, якім ён уладарыў, машына яго ўласнай улады павярнулася супраць яго. Таксама зараз пачалі помсціць яго няведанне меры і ўсе выпадкі, якія маглі адпомсціць толькі зараз, таму што толькі зараз надышоў час помсты. А быў наравістым. Ён выкарыстоўваў сваю ўладу бессэнсоўна, ён аддаваў загады, якія павінны былі прыніжаць, яго жаданні былі гратэскнымі і варварскімі, яны сыходзілі з яго пагарды да людзей, таксама з яго неўтаймаванага гумару, яму падабаліся зларадныя жарты, але ніхто не атрымліваў задавальнення ад іх, усе іх баяліся і бачылі ў гэтых жартах нічога болей, як падступныя пасткі. Н міжвольна падумаў пра выпадак, які зняважыў Д, магутнага партыйнага сакратара. Н заўсёды лічыў, што Д калі-небудзь ударыць у адказ. Д не забываў прыніжэнняў і мог чакаць. Магчымасць адпомсціць прыйшла зараз. Справа была смешнай і жудаснай. Дзікая свіння атрымаў тады ад А дзіўны загад знайсці жаночую капэлу, якая сыграе перад А без адзення актэт Шуберта. Д, захлынаючыся ад шалу праз гэты ідыёцкі загад і занадта баязлівы, каб яго адхіліць, вымушаны быў звярнуцца да міністра выхавання і культуры, партыйная муза гэтаксама абурана і баязліва, як Д, звярнулася ў кансерваторыі і музычныя школы; дзяўчынкі павінны былі не толькі мець добрую музыкальную адукацыю, але і быць добра складзенымі. Адбыліся хваробы і катастрофы, сутаргавыя крыкі, прыпадкі шалу. Адна з самых таленавітых віяланчэлістак краіны скончыла жыццё самагубствам, іншыя жадалі іграць, але былі занадта непрыгожыя; у рэшце рэшт быў сабраны аркестр, не хапала толькі адной фагатысткі. Дзікая свіння і партыйная муза спыталі парады ў дзяржаўнай цётухны. С адразу загадаў прывесці з папраўчага дома ў кансерваторыю прыгожую сялянку з ладнай дупай, прыгажуня была цалкам музыкальна не адоранай, але неверагодны акт дрэсуры прывіў ёй навыкі ігры на фагоце, патрэбныя для актэта, таксама астатнія дзяўчаты рэпеціравалі на не жыццё, а на смерць. У рэшце рэшт яны сядзелі без адзення ў халоднай зале філармоніі, прыціснуўшы да цела інструменты. У першым радзе партэра ў шубах з каменнымі тварамі сядзелі Д і М і чакалі А, але той не прыйшоў. Замест гэтага памяшканне ў стылі барока запоўнілася сотнямі глуханямых, якія без разумення прагна глядзелі на голых дзяўчат, якія адчайна ігралі і дудзелі. А на наступным пасяджэнні шалёна рагатаў з канцэрта і абазваў Д і М дурнямі, таму што яны выканалі такі загад.

Час Д прыйшоў. Звяржэнне А праходзіла цалкам будзённа, нескладана, паважна, адначасова бюракратычна. Дзікая свіння загадаў зачыніць дзверы. Помнік марудна ўзняўся, спачатку зачыніў дзверы за чысцільшчыкам ботаў і малодшым з Джын-гіс-ханаў, потым за гарбатным святым і балерынай. Пасля гэтага ён кінуў ключ на стол паміж дзікай свіннёй і лордам Вечназялёным. Помнік зноў сеў. Некаторыя радцы палітычнага сакратарыята, якія падскочылі — нібы хацелі затрымаць помнік, аднак не наважыліся гэта зрабіць — зноў селі. Усе сядзелі, трымаючы перад сабой на сталах папкі. А глядзеў на аднаго, другога, адкінуўся назад, зрабіў зацяжку ад сваёй люлькі. Ён кінуў гульню. Пасяджэнне працягваецца далей, сказаў дзікая свіння, было б цікава даведацца, хто ж насамрэч даў загад арыштаваць О. Дзяржаўная цётухна заўважыў, што гэта можа быць толькі А, О не стаіць у спісе, і ў яго, як шэфа тайнай паліцыі, не было ніякай падставы арыштоўваць О, які ўсяго няўважлівы навуковец. О быў міністрам-спецыялістам, яго нельга было замяніць, сучаснай дзяржаве навукоўцы патрэбныя болей за ідэолагаў. Гэта павінен павольна зразумець нават гарбатны святы. Толькі А гэтага, відавочна, ніколі не зразумее. Твар гарбатнага святога не варухнуўся. «Спіс! — запатрабаваў ён паважна, — ён усё нам растлумачыць». Дзяржаўная цётухна адкрыў сваю папку. Спачатку ён перадаў паперу лорду Вечназялёнаму, які, хутка яе прачытаўшы, перадаў гарбатнаму святому. Гарбатны святы збялеў. «Я ў

спісе, — ціха мармытаў ён, — я ў спісе. Пры гэтым я заўсёды заставаўся верным лініі партыі рэвалюцыянерам. Я ў спісе». Пасля ён раптам закрычаў: «Я быў самым верным з вас усіх, і зараз я павінен быць ліквідаваны. Нібы здраднік!» Лінія стала крывой, суха заўважыў Д. Гарбатны святы перадаў спіс балерыне, які, таму што яго імя, відавочна, там не стаяла, адразу перадаў яго помніку. Помнік утаропіўся ў яго, чытаў яго раз за разам, каб у рэшце рэшт завыць: «Мяне тут няма, мяне тут няма. Нават ліквідаваць мяне гэтая свіння не збіраецца, мяне, старога рэвалюцыянера!» Н прагледзеў спіс. Яго імя там не было. Ён перадаў яго далей шэфу моладзевых звязаў. Збялелы партыец разгублена ўстаў, нібыта ён на экзамене, працёр свае акуляры. «Я прызначаны генеральным пракурорам», — запінаючыся, сказаў ён. Усе зарагаталі. «Сядай, сынок», — па-бацькоўску сказаў дзікая свіння, а чысцільшчык ботаў дадаў, яны не з’ядуць смелага рыцара моладзевых звязаў. П зноў сеў і дрыготкай рукой працягнуў паперу праз стол партыйнай музе. «Я ў спісе», — сказала яна і падсунула спіс старэйшаму Джын-гіс-хану, які аднак драмаў, таму яго ўзяў малодшы. «Маршала К у спісе няма, — сказаў ён, — але маё імя стаіць там», і аддаў паперу чысцільшчыку ботаў. «Маё таксама», — сказаў ён, і тое самае сказаў дзікая свіння. Апошнім спісў атрымаў еўнух. «Не ў спісе», — сказаў міністр знешніх спраў і зноў працягнуў спіс дзяржаўнай цётухне. Шэф тайнай паліцыі дбайна склаў паперу і схаваў яе ў сваю папку. О сапраўды не ў спісе, пацвердзіў лорд Вечназялёны. Чаму тады яго арыштавалі па загадзе А, здзівіўся балерына і недаверліва паглядзеў на дзяржаўную цётухну. Той адказаў, што не мае ніякага разумення; ён толькі меркаваў, што міністр атамнай энергетыкі хворы, аднак А звыклы кіравацца сваімі думкамі. «Я не даваў загад арыштаваць О», — сказаў А. «Не расказвай казкі — гыркнуў малодшы Джын-гіс-хан, — тады б ён быў тут». Усе маўчалі. А спакойна зрабіў зацяжку ад свайго Данхіла. «У нас болей няма шляху назад, — суха заўважыла партыйная муза, — спіс — гэта факт». Спіс складзены для надзвычайнага выпадку, растлумачыў А, не абараняючыся. Ён з асалодай паліў, нібыта размова ішла не пра яго жыццё, і дадаў, што спіс складзены толькі на той выпадак, калі палітычны сакратарыят будзе супраціўляцца свайму роспуску. «Выпадак надышоў, — суха заўважыў гарбатны святы, — сакратарыят супраціўляецца». Еўнух зарагатаў. Чысцільшчык ботаў зноў успомніў свае сялянскія прыказкі, маланка б’е і ў заможных сялян. Дзікая свіння спытаў, ці не выклікаецца нехта добраахвотна. Усе глядзелі на помнік. «Вы чакаеце, што я заб’ю яго», — сказаў ён. «Табе трэба толькі прывязаць яго да акна», — адказаў дзікая свіння. «Я не кат, як вы, — прамовіў помнік, — я шчыры каваль і зраблю гэта па-свойму». Помнік узяў свой фатэль і паставіў яго між сталом і акном. «Ідзі сюды, А», — спакойна загадаў помнік. А ўстаў. Як і заўсёды, ён здаваўся спакойным і ўпэўненым. Калі ён падышоў да ніжняга канца стала, шлях яму загарадзіў гарбатны святы, падсунуўшы свой фатэль да дзвярэй, што былі за ім. «Прабачце, — сказаў А, — я думаю, я павінен тут прайсці». Гарбатны святы пасунуўся да стала і прапусціў А, які апынуўся каля помніка. «Сядай», — сказаў помнік. А паслухаўся. «Дай мне тваю папружку, прэзідэнт», — загадаў помнік. Старэйшы Джын-гіс-хан механічна выканаў загад, не разумеючы, што збіраецца зрабіць помнік. Астатнія моўчкі глядзелі перад сабой, нават не кідаючы позіркі адзін на аднаго. Н думаў пра апошнюю дзяржаўную падзею, пры якой палітычны сакратарыят паказаўся грамадскасці. Глыбокай зімой. Яны хавалі «непадкупнага», аднаго з апошніх вялікіх рэвалюцыянераў. Пасля звяржэння помніка непадкупны заняў пасаду шэфа партыі. Пасля ён трапіў у няміласць. Дзікая свіння пасунуў яго. Аднак непадкупнаму А не арганізаваў працэс, як астатнім. Яго зрынулі болей гвалтоўна. А загадаў аб’явіць яго шалёным і завезці ў псіхічную бальніцу, дзе дактары гадамі каталі яго, пакуль ён не памёр. Тым болей урачыстым было пахаванне. Палітычны сакратарыят, акрамя партыйнай музы, на плячах нёс труну,

пакрытую партыйным сцягам, праз дзяржаўныя могілкі каля пакрытых снегам, безгустоўных мармуровых скульптур і магільных камянёў. Дванаццаць самых магутных мужчын партыі цяжка ішлі праз снег. Нават гарбатны святы быў у ботах. Наперадзе насілкі каля еўнуха нёс А, ззаду, пасля ўсіх астатніх, Н каля помніка. Снег вялікімі камякамі падаў з белага неба. Сярод магіл вакол новай магілы стаяў шчыльна збіты натоўп партыйных функцыянераў у доўгіх паліто і цёплых мехавых капелюшах. Калі труну пад гукі прамерзлай вайсковай капэлы, якая іграла гімн партыі, апускалі ў магілу, помнік прашаптаў: «Д’ябал, я буду наступным». І вось зараз ён не быў наступным. А падняў позірк. Помнік абвязаў папружку старэйшага Джын-гіс-хана вакол шыі А. «Гатовы?» — спытаў помнік. «Толькі тры зацяжкі», — адказаў А, спакойна тры разы пусціў дым, пасля паклаў загнуты Данхіл на стол. «Гатовы», — сказаў ён. Помнік зацягнуў папружку. А застаўся бязгучным, хоць яго цела ўздыбілася, таксама некалькі разоў дрыгануліся яго рукі, аднак вось ён ужо сядзіць нерухома, з зацягнутай помнікам назад галавой, шырока разявіўшы рот: помнік зацягнуў папружку з нечалавечай сілай. Вочы А былі шкляныя. Старэйшы Джын-гіс-хан зноў спусціў ваду, нікому гэта не перашкодзіла. «Знішчыць ворагаў ва ўлонні партыі, слава нашаму вялікаму А!» — закрычаў маршал Х. Помнік аслабіў свой хват толькі праз 5 хвілін, паклаў папружку старэйшага Джын-гіс-хана на стол каля люлькі Данхіл, пайшоў да свайго месца і сеў. А мёртвы сядзеў у фатэлі каля акна, з тварам, накіраваным у столь, з вісячымі рукамі. Астатнія моўчкі глядзелі на яго. Лорд Вечназялёны запаліў амерыканскую цыгарэту, пасля другую, пасля трэцюю. Яны чакалі дзесьці чвэрць гадзіны.

Нехта спрабаваў адчыніць звонку дзверы за Ф і Х. Д устаў, падышоў да А, пільна на яго паглядзеў і памацаў твар. «Ён памёр, — сказаў Д, — Е, дай мне ключ». Міністр знешняга гандлю моўчкі паслухаўся, пасля Д адчыніў дзверы. На парозе стаяў міністр атамнай энергетыкі О і прасіў прабачэння за сваё спазненне. Ён пераблытаў даты. Пасля ён хацеў сесці на сваё месца, у спешцы выраніў сваю папку, і, толькі ўзняўшыся, заўважыў задушанага А і аслупянеў. «Я новы старшыня», — сказаў Д і праз дзверы выклікаў палкоўніка. Палкоўнік аддаў чэсць, нічога не варухнулася на яго твары. Д загадаў яму ўбраць А. Палкоўнік зайшоў з двума салдатамі, і фатэль зноў стаў пустым. Д зачыніў дзверы. Усе ўзняліся. «Пасяджэнне палітычнага сакратарыята працягваецца, — сказаў Д, — вызначым новую схему месцаў». Ён сеў на месца А. Каля яго селі Б і С. Каля Б Ф і каля С Е. Каля Ф села М. Пасля Д паглядзеў на Н і зрабіў запрашальны жэст. Халадзеючы, Н сеў каля Е: цяпер ён стаў сёмым па магутнасці чалавекам у краіне. На вуліцы пачаў ісці снег.

*Пераклад з нямецкай Юрыя Галамакі*

Крыніца: Friedrich Dürrenmatt, «Der Sturz, Abu Chanifaund Anan ben David, Smithy, Das Sterben der Pythia», Diogenes Verlag AG Zürich, 1985.

**Алесь Карлюкевіч**

# Сучасная кітайская дзіцячая літаратура. Пачатак XXI стагоддзя

Расказваць пра літаратуру іншай краіны — задача дастаткова няпростая. Нават пры ўмове, што гэтая літаратура актыўна перакладаецца на тваю родную мову. А што ўжо казаць пра прозу, паэзію, драматургію той краіны, таго народа, якія абыдзены ўвагай нашых айчынных перакладчыкаў. Так, мы шмат, здавалася б, ведаем пра Кітай і кітайцаў сённяшніх. Кніжны рынак запоўнены выданнямі па гісторыі і культуры Паднябеснай. Нямала ў гэтым кніжным моры і мастацкай літаратуры. Зразумела, на рускай мове. Імёны Лі Бо, Ду Фу і іншых класікаў, а таксама сучаснага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Мо Яня падаюцца знаёмымі для дзясяткаў тысяч чытачоў. Сёе-тое перакладаецца і выдаецца па-беларуску. Ёсць прыклады перакладу на беларускую мову з арыгінала (як кніга вершаў Лі Хэ «Песня бамбукавай флейты» ў серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая», якой апякуецца Выдавецкі дом «Звязда»). І ўсё ж…

І ўсё ж кітайская літаратура пакуль малавядомая ў Беларусі. Асабліва гэта датычыцца дзіцячай літаратуры Кітая. А між тым: «Сусветная дзіцячая літаратура — значная і неад'емная частка сусветнай літаратуры ўвогуле. Гэта значыць, па-першае, што ў літаратуры кожнай краіны ёсць асаблівая галіна — дзіцячая літаратура, у сваёй сукупнасці творы дзіцячай літаратуры ўсіх краін і збіраюць сусветную дзіцячую літаратуру. Па-другое, што развіццё сусветнай дзіцячай літаратуры падначальваецца законам развіцця літаратуры ўвогуле: змена літаратурных эпох заўсёды прыцягвае змену мастацкай мовы, на якой пісьменнікі вядуць дыялог з чытачом, і гэта непазбежна адлюстроўваецца на дзіцячай літаратуры адпаведнага перыяду. Іншымі словамі, пісьменнікі, якія жылі, напрыклад, у эпоху рамантызму, успрымаюць і апісваюць свет, падначальваючыся адным і тым самым светапоглядным прынцыпам, незалежна ад таго, пішуць яны для дарослых ці для дзяцей». (Т. Аўтуховіч)

Так, у 1950—1960-я гады на грабеньчыку вітка савецка-кітайскай дружбы была зроблена выразная спроба прадставіць кітайскую дзіцячую літаратуру па-беларуску. Выйшлі кнігі некалькіх аўтараў, якія адлюстравалі ўдзел, прысутнасць кітайскіх хлопчыкаў і дзяўчынак у сацыяльным, грамадскім жыцці Паднябеснай. І пасля на доўгія дзесяцігоддзі ўзнікла паўза. Працягваецца яна ў дачыненні да прысутнасці кітайскай дзіцячай літаратуры ў беларускай прасторы і зараз.

Дык, можа быць, хоць бы зазірнём у далёкія ад нас абсягі? Хоць бы паспрабуем даведацца, хто і над чым працуе, хто зараз у Кітаі піша для дзяцей, падлеткаў. Ведаем жа шмат пра пісьменнікаў скандынаўскіх краін. Выходзяць у Беларусі кнігі фінскай шведскамоўнай пісьменніцы Тувэ Янсан «Маленькія тролі і вялікая паводка», «Камета над далінай мумітроляў», «Капялюш чарадзея» (перакладчыкі — Наста Лабада, Алеся Башарымава), шведскай пісьменніцы Юі Вісландэр «Малы і мядзведзь», «Малы і Білан», «Мама Му чытае» (перакладчыца на беларускую мову — Надзея Кандрусевіч). А з апошніх творчых праектаў — серыя кніг балгарскай пісьменніцы Галіны Злацінай, што ў 2016 годзе пачала выходзіць у «Мастацкай літаратуры» (кнігі «Прыгоды на сонечнай ферме. Закапаны скарб» і «Прыгоды на сонечнай ферме. Паламаная агароджа» — цікавыя вясёлыя гісторыі, героямі якіх з'яўляюцца парсючок Балённік, кацяня Цімох, шчаня Баніфацый і іншыя жыхары казачнай фермы.

У 1950—1960-я гады на грабеньчыку вітка савецка-кітайскай дружбы была зроблена выразная спроба прадставіць кітайскую дзіцячую літаратуру па-беларуску. Выйшлі кнігі некалькіх аўтараў, якія адлюстравалі прысутнасць кітайскіх хлопчыкаў і дзяўчынак у сацыяльным, грамадскім жыцці Паднябеснай

Каб уяўляць, каго можна перакладаць з кітайскіх дзіцячых пісьменнікаў, давайце і паспрабуем зазірнуць у Кітай, даведацца, хто што напісаў з разлікам на юнага чытача ў апошнія дзесяцігоддзі.

Перш-наперш — пра Цаа Вэнсюэ. Прафесар Пекінскага ўніверсітэта. Працуе на факультэце кітайскай мовы. З'яўляецца намеснікам старшыні Усекітайскай асацыяцыі дзіцячых пісьменнікаў. Першая яго кніга пабачыла свет у 1978 годзе. Вось назвы некаторых яго раманаў: «Галоўныя птушкі», «Пахаваны пад снегам хацін», «Трава каля дома», «Козы ядуць траву». Займаецца літаратурнай крытыкай. Аўтар кнігі «Феномен кітайскай літаратуры васьмідзясятых гадоў». Лаўрэат Міжнароднай прэміі Г.Х. Андэрсена.

Чан Шынкан.

Член Усекітайскага Саюза пісьменнікаў. Аўтар кніг «Ступень маладосці», «Летнія пакуты», «І дурань таксама сімпатычны». Яго творчасць адзначана прэміяй «Вінд Хік» (Дзіцячая кніжная прэмія). Некаторыя апавяданні перакладзены на мовы народаў свету.

Чжан Джылу.

Вядомы пісьменнік, сцэнарыст. Надрукаваў раманы «Чарлі Ваве» (па ім зняты аднайменны фільм), «Трэцяя армія», «Чароўны гадзіннік», «Незаконны розум», «Ці ёсць у наяўнасці алоўкі мышынага колеру? », «Герой у футболе» і інш. Лаўрэат Кніжнай прэміі, Дзіцячай кніжнай прэміі імя Бін Сіня, Дзіцячай прэміі па літаратуры імя Сунь Цінліня.

Цінь Вэньцзюнь — намеснік старшыні Шанхайскай асацыяцыі пісьменнікаў, член камісіі Кітайскай асацыяцыі пісьменнікаў. Аўтар раманаў «Біяграфія хлопчыка Джарэд», «Гісторыя душы дзяўчыны», «Непаслухмяныя дні», ды яшчэ больш чым 50 кніг. Яго творы адзначаны прэстыжнымі міжнароднымі і кітайскімі ўзнагародамі.

Шэнь Шысі.

Часам пісьменніка называюць «Цар кітайскіх жывёльных раманаў». Літаратар з'яўляецца членам Асацыяцыі кітайскіх пісьменнікаў, членам праўлення Юньнаньскай асацыяцыі пісьменнікаў. Асноўныя тэмы ў творчасці — жывёльны свет. Найболей вядомыя кнігі: «Апошні баявы слон», «Прынц вярблюдаў», «Сёмы паляўнічы сабака». Многія творы Шэнь Шысі змешчаны ў школьных падручніках па кітайскай літаратуры.

Цзінь Бо.

Празаік, паэт. Нарадзіўся ў Пекіне ў 1935 годзе. Пісаць для дзяцей пачаў яшчэ ў студэнцкія гады. Выдаў зборнікі казак «Нечаканая сустрэча ў Ву Дзюдзю», «Няхай у сонца вырастуць крылы», «Пойдзем глядзець мора», кнігу апавяданняў «Прыслухацца да шчабятання». З'яўляецца аўтарам літаратурна-крытычных кніг «Пісьмёны — гэта здольнасць спяваць і танцаваць», «Літаратурная адукацыя дашкольніка».

Чжоу Руі.

Цікавы факт: за 30 гадоў атрымаў за свае творы больш як 100 (!) прэстыжных прэмій, узнагарод. Найболей піша гумарыстычныя творы, «з кітайскай спецыфікай». Як прыклад: «Гумарыстычны слон у Чырвоным цераме» (нагадаем: «Сон у Чырвоным цераме» — адзін з пяці класічных раманаў, якія ведае кожны кітаец).

Сунь Юй Цзунь.

Нарадзіўся ў Харбіне (правінцыя Хэйлунцзян) у 1933 годзе. Служыў у войску да 1954 года. Закончыў Пекінскі ўніверсітэт, філалагічны факультэт (у 1960 годзе). Аўтар серый казак: «Дзіўныя стары», «Балбатлівае парася», «Будка для сабак» і інш. Творчасць адзначана многімі ўзнагародамі. Памёр у 2005 годзе.

Сін Хэ.

Член Саюза кітайскіх пісьменнікаў. Распарадчы дырэктар Саюза кітайскіх пісьменнікаў навукова-папулярнай літаратуры, член праўлення Пекінскага мастацка-літаратурнага Саюза, член праўлення Пекінскага Саюза пісьменнікаў, ганаровы член Пекінскага маладзёжнага саюза. Сін Хэ ў асноўным піша навукова-фантастычныя раманы і навукова-папулярныя творы. Агульны аб'ём напісаных Сін



Лаўрэат Міжнароднай прэміі Г.Х. Андэрсена прафесар Цаа Вэнсюэ.

Хэ твораў — больш за 10 мільёнаў іерогліфаў. Папулярнасцю ў чытачоў карыстаюцца такія раманы Сін Хэ: «Ты толькі паддоследная жывёліна», «Пашкоджаны магнітны шрам», «Ціха забіты хакер». Вядомыя і яго зборнікі навуковай фантастыкі, складзеныя з твораў розных жанраў: «Развітанне перад вяртаннем левага кулака», «Мёртвы вузел часу і прасторы». Пісьменнік сцвердзіў сябе і ў галіне навукова-папулярнай літаратуры. Найперш — кнігамі «Даследаванне гісторыі навукі карыкатуры». Сін Хэ — укладальнік, галоўны рэдактар перыядычных зборнікаў, альманахаў «Шэдэўры новага пакалення кітайскай навуковай фантастыкі», «Год навукова-фантастычнага рамана» і інш. Пісьменнік адзначаны прэміяй «Пяць праектаў» Аддзела прапаганды ЦК Камуністычнай партыі Кітая, прэміяй Сунь Ціньліня, прэміямі Бін Сіня і Чэн Бачуя, а таксама Кітайскай нацыянальнай прэміяй за лепшы навукова-папулярны твор.

Ян Пэн.

Знакаміты пісьменнік у галіне навукова-фантастычнай літаратуры для дзяцей і моладзі. Першы кітайскі пісьменнік, творы якога экранізавалі на студыі Дзіснея. Малодшы навуковы супрацоўнік аддзялення літаратуры Акадэміі грамадскіх навук КНР. Выдаў больш за 100 кніг, агульны аб'ём напісаных тэкстаў — больш як 10 мільёнаў іерогліфаў. Сярод найбольш вядомых твораў — «Навукова-папулярная серыя Ян Пэна», «Серыя пра тату ў кішэні», «Серыя кампус «Тры мушкецёры», «Кунг-фу Мікі Маус» і інш. Ян Пэн — аўтар мастацтвазнаўчых і літаратуразнаўчых манаграфій — «Навука апавядання ў мультыплікацыі», «Тыпалогія навуковай фантастыкі», «Канструктывізм і посткантруктывізм у Кітаі» і інш. Адзначаны прэміяй «Пяць праектаў», прэміяй Сунь Ціньліня ў галіне дзіцячай літаратуры, Нацыянальнай літаратурнай прэміяй, прэміяй Інь Хэ — самай прэстыжнай узнагародай у галіне навукова-фантастычнай літаратуры, Нацыянальнай прэміяй у галіне навукова-папулярнай літаратуры і інш. Творы Ян Пэна перакладзены на англійскую, японскую, карэйскую і іншыя мовы народаў свету.

Згадаўшы толькі дзесяць кітайскіх пісьменнікаў, якія пішуць найперш для дзяцей і падлеткаў, мы паказалі толькі вяршыню айсберга кітайскай дзіцячай літаратуры. І гэта пры ўмове, што яшчэ ў 1958 годзе савецкі літаратуразнаўца Ю. Осіпаў у артыкуле «Кітайская проза для дзяцей» пісаў, што найбуйнейшы празаік XX стагоддзя Чжан Цяны заклікаў развіваць кітайскую дзіцячую літаратуру, якой, на яго погляд, фактычна не было ці яна знаходзілася ў зародкавым стане. «Абавязкова трэба, каб кожны пісаў хоць бы па 5 тысяч іерогліфаў у год», — настойваў Чжан Цяны. Пісалі, зразумела, для дзяцей. Прайшло болей за паўстагоддзя — і кітайская дзіцячая літаратура расквітнела. Не заўважаць яе нельга. Як і нельга, немагчыма не заўважаць магутную кітайскую цывілізацыю.

Галоўную ўдарную сілу складала рыцарская конніца ў колькасці 200 вершнікаў. У нямецкім войску знаходзіліся таксама дацкія і шведскія наёмнікі на чале з прынцам Карлам.

Генеральная бітва з крыжакамі адбылася каля возера *Дурбе**. Раніцай, *13 ліпеня 1260 года*, як толькі сышоў туман, Міндоўг аддаў каманду атакаваць. Затрубілі баявыя дуды, рыцары прышпорылі коней і рушылі ўперад.

Міндоўг быў упэўнены ў перамозе. Апрача адборнага, вышкаленага войска, ён меў папярэднія дамоўленасці з куршамі і эстамі, якіх германцы змусілі стаць пад іх сцягі. Пасланнікі ад куршаў і эстаў, падчас таемных перамоваў з Міндоўгам, выказалі гатоўнасць перайсці на яго бок. Са свайго боку ён паабяцаў ім пасля разгрому германцаў значныя свабоды.

Як толькі Міндоўг атакаваў, куршы і эсты напалі на крыжакоў ззаду. Магістр і яго хаўруснікі не чакалі такога павароту падзей. У іх войску пачалася паніка. Неўзабаве баявыя парадкі крыжакоў пабурыліся і яны пачалі ліхаманкава шукаць паратунку.

Міндоўг ушчэнт разграміў крыжацкае войска. Загінулі 150 нямецкіх рыцараў і мноства простых воінаў. Былі забіты галоўныя военачальнікі — магістр Буркхард фон Хорнхаўзен, маршал Прусіі Генрых Ботэль і прынц Карл. 15 рыцараў трапілі ў палон. У знак помсты за палеглых, дружыннікі Міндоўга васьмярых рыцараў спалілі жывымі. Іх моцна прывязалі да дрэў металічнымі ланцугамі, а знізу расклалі вогнішчы. Палонныя курчыліся ад болю, стагналі і вылі, пакуль не страцілі прытомнасць. Саладжавы пах паленага чалавечага цела доўга разносіўся над наваколлем.

Перапалоханыя рэшткі крыжакоў збеглі і схаваліся ў *Мемелі*** — найбліжэйшай мураванай крэпасці ад месца пабаявішча.

Планы лівонскага магістра і прускага маршала па ўсталяванні кантролю на ўсім узбярэжжы Балтыйскага мора сышлі ў нябыт. Урон крыжакоў быў настолькі значным, што на працягу наступных дваццаці гадоў яны не зрабілі аніводнай значнай вылазкі супраць славян.

Мужныя куршы і эсты атрымалі значныя палёгкі. Яны пачалі адраджаць жыццё, аднаўляць свае гарады і паселішчы.

Разгром крыжакоў каля возера Дурбе актывізаваў жамойцкую знаць. Неўзабаве жамойты ўзброіліся і таксама паўсталі супраць германскіх нобеляў. На чале іх партыі стаяў Транята. Не маючы дастатковых сіл самастойна адужаць германцаў, жамойты зноўку звярнуліся да Міндоўга з просьбай дапамагчы ім.

Міндоўг злітасціўся над імі і ў 1260 годзе, адразу пасля пераможнай бітвы каля Дурбе, накіраваў харугвы на Жамойць. Яго войска не мела літасці да захопнікаў. Няшчадна забівалі немцаў разам з іх сем'ямі, захопленых у палон катавалі — секлі, палілі, вешалі, разрывалі коньмі на часткі, закопвалі жывымі ў зямлю. Жамойць была цалкам вызвалена ад нямецкага панавання. Яшчэ адзін народ пазбавіўся залежнасці ад агрэсіўных і сквапных крыжакоў.

Пасля доўгіх угавораў Міндоўг згадзіўся з просьбай жамойцкіх феадалаў прызначыць ім у якасці намесніка *Траняту*. Навагрудскі валадар не любіў неахайнага і нахабнага Траняту. Ён выклікаў у яго агіду. Траняту ўсяляк пазбягалі жанчыны, бо ён не мог задаволіць іх цялесных жарсцяў і фізічных патрэб. Здрадлівы і брыдкі, з вісклівым голасам, ён, аднак, неверагодна прагнуў улады, каб сцвердзіць сябе, перадусім, як мужчына.

У Міндоўга было жаданне абаперціся на больш надзейнага чалавека, але жамойты кляліся ў вечнай адданасці. Хлуслівы Транята навыперадкі прысягнуў на вернасць. Празорлівы навагрудскі валадар ведаў, што абяцанні непаслядоўнага і хцівага жамойта — не болей, чымся пусты гук. Але, урэшце, пагадзіўся на ўгаворы, прыняў багатыя паднашэнні і прызначыў Траняту намеснікам у Жамойці.

24

Землі *латгалаў і ліваў* сцякалі крывёй. Паняволеныя народы цярпелі неверагодныя здзекі і страшэнны ўціск з боку крыжакоў, якія ўжо амаль шэсць дзесяцігоддзяў панавалі на іх землях. За гэты час тэўтоны здолелі вынішчыць практычна ўсе славянскія гарнізоны і завалодаць крэпасцямі, якія ўзводзіліся полацкімі князямі на працягу двух папярэдніх стагоддзяў. У час, калі

*Знаходзіцца на захадзе Латвіі.
**Цяпер горад Клайпеда ў Літве.

славяне кантралявалі Латгалію і Лівонію, яны мірна ўжываліся з мясцовым насельніцтвам. Прыход немцаў паставіў іх на грань выжывання.

Старэйшыны латгалаў і ліваў неаднаразова дасылалі да Міндоўга паслоў з просьбай вызваліць іх ад нямецкага панавання. Мясцовая знаць прагнула самастойнасці, а простыя людзі — волі і абароны ад агрэсараў.

У 1261 годзе Міндоўг рашыўся і здзейсніў паход на далёкі *Вендэн*. Магутны мураваны замак, пабудаваны ў 1209 годзе, стаяў над ракой *Гаўяй*. Ён з'яўляўся рэзідэнцыяй ландмайстраў Лівонскага ордэна з часоў Германа фон Балка. Адсюль ажыццяўлялася кіраўніцтва захопленымі землямі.

Міндоўг некалькі тыдняў стаяў пад Вендэнскім замкам. Прывезенымі катапультамі, на якія быў асноўны разлік, закідвалі горад гаручымі шарамі, вырабленымі са смалы. Здзейснілі некалькі адчайных штурмаў. Але ўсё безвынікова. Ландмайстар *Юрген фон Вюрцбург* арганізаваў бездакорную абарону. Узвінчаны і злы Міндоўг ужываў усе наяўныя сродкі, каб узламаць абарону. Горад, аднак, супраціўляўся.

Праз нейкі час Міндоўг са скрухай зразумеў, — узяць цвержу не ўдасца. Расчараваны няўдачай, ён даў каманду здымацца і адступаць. Па дарозе дамоў у адчаі знішчалі, дзе толькі маглі, германскіх феадалаў, забіралі іх дабро. Аднак, вынікі не суцяшалі Міндоўга. Галоўная мэта кампаніі — захапіць ключавы ордэнскі замак Вендэн — не была дасягнута.

Асечка пад Вендэнам стала для Міндоўга добрым урокам, прымусіла яго змяніць тактыку барацьбы. Ён яскрава зразумеў: без падтрымкі іншых славянскіх князёў, гарадоў і княстваў, найперш, магутнага Ноўгарада Вялікага, Пскова і Цверы, — разбіць германцаў не ўдасца.

Вярнуўшыся дадому Міндоўг загадаў ваяводзе Мірону рыхтаваць сустрэчу з Аляксандрам Яраславічам Неўскім. Неўзабаве ўсе неабходныя прыгатаванні былі зроблены.

З'езд караля Міндоўга і князя Аляксандра Неўскага адбыўся ў 1262 годзе ў Смаленску. Першым прыехаў Міндоўг. Волатаўскі вараны жарабец пад Міндоўгам сведчыў пра яго выключнае месца ў дзяржаўнай іерархіі. Мяккае сядло, расшытае дарагімі ўзорамі, пагойдвалася пад цяжарам вершніка. Жыхары сустрэлі караля хлебамсоллю, хор спяваў ў яго гонар песні. Усе вельмі цешыліся, жылі прадчуваннем міру і згоды.

Міндоўг выступаў у якасці гаспадара, аказваў належнае ўшанаванне высокаму госцю. Яны абодва разумелі дзеля чаго сабраліся.

Сустрэча праходзіла без дыпламатычных умоўнасцяў і хітраванняў. Міндоўг зусім адкрыта звярнуўся да Аляксандра Неўскага:

— Час прымірыцца, спыніць міжусобіцы. Колькі ты будзеш плаціць даніну Ардзе і цярпець здзекі ад іх!? Узаемнай варажнечай мы толькі аслабляем нашы сілы, а ворагі — немцы і ардынцы — напоўніцу карыстаюцца з нашай дурноты. Калі не перастанем варагаваць, яны даб'юць нас паасобку. Трэба як мага хутчэй гуртаваць сілы, аб'ядноўвацца. Толькі супольна зможам абараніць нашы землі і сваіх людзей ад варожай напасці!

Аляксандр Неўскі не пярэчыў. Ён уважліва слухаў, а напрыканцы прамовіў:

— Няхай будзе мір паміж нашымі землямі. Адкінем старыя крыўды і будзем біць ворагаў разам!

На працягу дня, хутка і без спрэчак, дамовіліся пра сумесную барацьбу супраць тэўтонаў. Сустрэча завяршылася, як і належыць, добрым пачастункам.

Зусім відавочна, добрай справе паразумення двух славянскіх валадароў спрыялі абставіны і дапамагалі зоркі. Паміж валадарамі сапраўды ўсталяваўся глыбокі асабісты давер. Раз'ехаліся задаволеныя, з упэўненасцю ў добрым выніку распачатай справы.

25

Неўзабаве рашэнне Міндоўга і Аляксандра Неўскага ўвасобілася ў жыццё. Аб'яднаныя войскі Вялікага Княства Літоўскага, Ноўгарада Вялікага і Цверы здзейсніла сумесны паход супраць Лівонскага ордэна.

Месцам збору і адпраўкі свайго войска Міндоўг прызначыў *Полацк*. Адсюль у чэрвені 1262 года ён выступіў у паўночным кірунку.

Харугву Полацкага княства ўзначальваў князь *Таўцівіл*. Побач з ім быў яго сын *Канстанцін*, які толькі што стаў валадаром Віцебскага княства. Даўмонт ішоў на чале нальшанскай харугвы.

Належным чынам падрыхтаванае войска рушыла з надзеяй на перамогу. На шляху знішчалі крыжацкія гарнізоны, вызвалялі латгалаў з няволі.

На паўдарозе аб'ядналіся з дружынамі Ноўгарада Вялікага і Цверы, фармальнае кіраўніцтва якімі ажыццяўляў 12-гадовы *Дзімітрый Аляксандравіч* — сын Аляксандра Неўскага.

Пайшлі на горад *Юр'еў* — замак на рацэ Амоўжы, які быў узведзены на спрадвечнай зямлі *эстаў,* на месцы іх колішняга паселішча Тарбату*. Некалькі тыдняў войскі Міндоўга і Дзімітрыя Аляксандравіча трымалі Юр'еў ў аблозе. Спалілі амаль увесь пасад. Аднак цвярдыні так і не здолелі ўзяць.

Міндоўг мусіў вяртацца назад. У роспачы ён павярнуў войска на *Кукейнос* — замак на правым беразе Дзвіны, які калісьці належаў Полацкаму княству. Падчас аднаго са штурмаў, выпушчанай са сцяны стралой, па ўсім відаць, атручанай, конь Міндоўга быў паранены. Навагрудскі валадар успрыняў гэта як трывожнае папярэджанне, знак нябёсаў. Ён загадаў ваяводу Мірону неадкладна здымаць аблогу і адступаць.

Добра правучыўшы германцаў, кароль з войскам вярнуўся ў сваю зямлю.

26

Міндоўга раздражняла новае хаўрусаванне *ляхаў* з ненавіснымі тэўтонамі. З горыччу ў сэрцы ён часта думаў: «Палякі — нашы суседзі і браты! Але паводзяць сябе горш за клятых ворагаў. Агрэсіўныя і злыя, яны гатовыя ў любы момант уджаліць, нібы, ядавітыя змеі. Трэба спыніць іх нахабныя ўчынкі, палажыць канец здрадзе!» Міндоўг доўга цярпеў іх выхадкі.

Самаўпэўненасць ляхаў пераўзыходзіла ўсе межы. 15 ліпеня 1260 года яны адкрыта заключылі з германцамі дамову аб міры і пачалі рыхтавацца да супольнага паходу на ўладанні Міндоўга.

Навагрудскі валадар не стрымаўся і ўвесну 1262 годзе пайшоў вайной супраць польскага князя Земавіта. Разам з Міндоўгам у паходзе браў удзел Астап Канстанцінавіч, які калісьці ўцёк з Разані.

Спачатку рушылі на сталіцу Мазавецкага княства — *Плоцк*. Замак стаяў на высокім беразе Віслы і меў выключнае стратэгічнае значэнне. Абарончыя збудаванні былі даволі моцныя. Стаяла паганае надвор'е, ішлі праліўныя дажджы. Войска Міндоўга, не зважаючы на непагадзь, здолела ўзяць горад штурмам. Надзвычай прыдалося вайсковае майстэрства, набытае падчас рэгулярных трэніровак дружыны і папярэдніх баталій. Таранам прабілі браму і ўварваліся ў крэпасць. Гарнізон аказваў супраціўленне, але яго зламалі, а абаронцаў жорстка перабілі. Плоцк дарэшты абрабавалі і спалілі.

Затым Міндоўг фарсіраваў Віслу і пайшоў на крэпасць *Уяздоў*. Там зачыніўся князь *Земавіт I Мазавецкі* з яго старэйшым сынам *Конрадам*. Жыхары горада не любілі Земавіта. На самае Купалле ўначы яны адчынілі Міндоўгу браму і ён здолеў захапіць крэпасць. Падчас сутычкі 23 чэрвеня 1262 года, дружыннікі Міндоўга забілі польскага князя Земавіта. Яго сына Кондрада ўзялі ў палон і павялі ў Літву. Так Міндоўг адпомсціў Земавіту і палякам за хаўрус з тэўтонамі.

Дома караля чакалі непрыемнасці. Амаль перад самым яго вяртаннем памерла Марфа. Міндоўг доўга сумаваў. Упершыню ён адчуў, што часу для зямных спраў у яго засталося зусім не шмат.

27

Канкурэнты падціскалі. Асабліва дапякаў Даўмонт. Ён сябраваў з пскоўскімі князямі, умела апекаваўся купцамі і меў дастаткова багаццяў. Даўмонт імкнуўся да лідарства, прагнуў прызнання і славы, а галоўнае — больш не жадаў нікому падпарадкоўвацца. Каб зламаць яго волю, Міндоўг пакінуў пры сваім двары маладую жонку Даўмонта, якая прыязджала на пахаванне Марфы. Абражаны нальшанскі князь не мог сцярпець такой знявагі і ганьбы. Ён пачаў шукаць сродкі, каб адпомсціць навагрудскаму валадару.

Якраз у 1263 годзе з новай сілай разгарэўся канфлікт Міндоўга з *Васількам Раманавічам*, які княжыў у Берасці. Васілька Раманавіч знаходзіўся

*Тарбату перакладаецца як першабытны бык. Паселішча Тарбату было заснавана блізу V стагоддзя. Пасля заваявання немцамі горад атрымаў назву Дэрпт і стаў буйным гандлёвым цэнтрам, вайсковым і палітычным апірышчам нямецкай каланізацыі. Тут таксама размяшчалася рэзідэнцыя каталіцкага біскупа.

ў палітычнай залежнасці ад Арды, бездакорна выконваў даручэнні ардынцаў.

Міндоўг загадаў ваяводзе Мірону:

— Мярзотнікі, якія служаць ворагу, павінны быць знішчаны! Альбо мы, альбо яны! Іншага не дадзена.

Міндоўг распачаў з Васількам Раманавічам вайну. Ён гарэў жаданнем знішчыць здрадлівага князя і вярнуць пад сваю ўладу Берасце — важны фарпост на захадзе краіны.

Аднак Даніла Раманавіч Галіцкі апярэдзіў. Ён прыслаў на дапамогу брату свежыя войскі. Адбылася сеча. Харугвы Міндоўга былі ўшчэнт разбіты.

Дадому кароль Міндоўг вяртаўся змрочны. Сэрца разрывалася на кавалкі, зло засталося без пакарання, а ворагі святкавалі перамогу. Спыніўшыся ля вялізнага пляскатага каменя, каб падсілкавацца, Міндоўг моцна задумаўся. У галаве раілася мноства думак пра ўладу і дзяржаву. «Можа сапраўды варта спыніцца і жыць з таго, што Бог паслаў? Можа не трэба новыя ўладанні? Распусціць войска, адмяніць суды, спустошыць дзяржаўны скарб і жыць як птушкі нябесныя! А што наўзамен? Ворагі раструшчаць краіну, знішчаць людзей, жанчын і дзевак павядуць у рабства. Не, усё робіцца правільна. Нельга папускаць ворагам! Нельга аслабляць краіну! Кожны дзень належыць дбаць пра дзяржаву, пра ўмацаванне войска, пра дабрабыт зямлі. Адпусціш лейцы, усё пойдзе прахам! Ніколі нельга здавацца. Кожны раз, пасля няўдачы, неабходна ўздымацца з каленяў, ісці наперад, з усіх сіл бараніць трон і пашыраць уладу!»

Хваробы, аднак, не адпускалі. Кароль Міндоўг адчуваў набліжэнне смерці. Нешта ўнутры падказвала, —зямны шлях падыходзіць да завяршэння. У размове з пасцельнічым ён загадаў, каб у выпадку раптоўнай смерці, яго цела, паводле старадаўняга славянскага звычаю, спалілі.

Навагрудская дзяржава панесла вялікія людскія страты. Працяглае змаганне з крыжакамі і ардынскімі наймітамі — галіцка-валынскімі князямі, а таксама залежнымі ад ардынцаў валадарамі ўсходнеславянскіх зямель, запатрабавала неверагодных высілкаў, знясіліла дзяржаўны арганізм.

Знешнія і ўнутраныя ворагі не замарудзілі скарыстацца аслабленнем краіны і хваробамі караля.

28

Састарэлы і аслабелы Мідоўг не збіраўся здавацца, адступаць ад сваіх прынцыпаў. У канцы лета 1263 года ён загадаў склікаць войска і ісці вайной супраць бранскага князя *Рамана Міхайлавіча Старога*. Той хацеў парадніцца з галіцка-валынскімі князямі, што якраз і выклікала неверагодны гнеў з боку Міндоўга.

Войска навагрудскага валадара ўжо фарсіравала Дняпро, як раптам да караля прыскакаў ганец на ўзмыленым кані і паведаміў, што ляхі рыхтуюцца нанесці ўдар па Княству. Міндоўг не меў іншага выйсця, як вярнуцца назад, каб у выпадку чаго — арганізаваць супраціўленне. Ён накіраваў асноўную частку войска на чале з Таўцівілам на Чарнігаў, а з астаткамі рушыў дадому.

Міндоўг не здагадваўся, што гэта была пастка, загадзя падрыхтаваная Транятам і Даўмонтам. Чуткі пра падрыхтоўку ляхаў да нападу на Навагрудак зыходзілі менавіта ад Траняты. Ён падбухторыў жамойцкіх феадалаў адкрыта выступіць супраць Міндоўга, каб выйсці з-пад улады Навагрудка. Менавіта таму Траніята спачатку адмовіўся ўдзельнічаць у паходзе, спаслаўшыся на пагрозы з боку крыжакоў. Тым часам, ён рыхтаваў войска, каб выступіць супраць Навагрудскай дзяржавы і Полацка.

Як толькі Міндоўг прыняў рашэнне вярнуцца, Даўмонт следам за ім адмовіўся ісці за Дняпро. На запытанне ваяводы ён адказаў, што варажбіты праракуюць яму нядобрае. Насамрэч, ён развярнуў войска і пагнаўся ўслед за Міндоўгам.

Адарвацца ад праследу Міндоўгу было не надта складана. Рухаліся хутка, з кароткімі перапынкамі на адпачынак. Уначы скакалі з запаленымі паходнямі. Абураны нахабным учынкам Даўмонта, яго здрадлівымі паводзінамі, Міндоўг усё ж такі вырашыў даць бой. Ён выдатна разумеў, што сілы няроўныя, але гнеў авалодаў усёй істотай вялікага князя. Уцякаць далей, нібы палахлівы заяц, не дазваляў гонар. Нарэшце,

прыгледзеўшы зручнае месца для бітвы, спыніўся. Наколькі змог, падрыхтаваўся.

Даўмонт атакаваў на досвітку. Пачалася злая і крывавая сеча. У бітву ўступілі пешыя воіны. Міндоўг сышоўся з Даўмонтам у двубоі і падчас сутычкі атрымаў смяротную рану. Пад прыкрыццём узброеных вершнікаў ахоўнікі вынеслі акрываўленае цела князя і паімчалі далей ад небяспекі. Лекары аказвалі дапамогу, але па дарозе Міндоўг усё адно памёр ад атрыманых ран.

Цела князя прывезлі ў Навагрудак, і, выконваючы яго апошнюю волю, спалілі на бярозавай скірце. У тую ноч пушча вакол Навагрудка скаланулася ад выцця ваўкоў. Зграі вылі як ніколі доўга. Людзі разумелі, Гай і ўсе воўчыя зграі гэтак выказваюць свой сум, назаўжды развітваючыся з Міндоўгам.

На месцы здзяйснення жалобнага рытуалу маўклівыя дружыннікі ў знак павагі да караля Міндоўга насыпалі вялікі курган, дбаючы пра тое, каб яго імя ніколі не сцерлася з памяці нашчадкаў.

***

Полацкі князь Таўцівіл падчас кампаніі 1263 года заваяваў Чарнігаў, правёў генеральную бітву з Раманам Міхайлавічам Старым, у якой бранскі князь быў паранены. Даведаўшыся пра здраду і смерць Міндоўга, Таўцівіл спыніў наступ і тэрмінова вярнуўся дадому.

Пасля забойства навагрудскага валадара *Транята* абвясціў сябе гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага. Але панаваў не вельмі доўга, можа толькі адзін год. За гэты час ён знішчыў свайго галоўнага палітычнага апанента — Таўцівіла. Транята запрасіў полацкага князя ў Навагрудак, нібыта з мэтай падзелу спадчыны Міндоўга, і там забіў госця. Затым накіраваў сваіх людзей у Віцебск, каб забіць і сына Таўцівіла — Канстанціна. Але той своечасова збег у Вялікі Ноўгарад і толькі гэтак здолеў выратавацца ад немінучай пагібелі.

За свае ўчынкі Транята неўзабаве атрымаў па заслугах. Колішнія людзі Міндоўга ў 1264 годзе падсцераглі яго, калі ён ішоў у лазню, і зарэзалі нажамі. Мсціўцы ўцяклі да Войшалка і паведамілі яму пра пакаранне галоўнага ворага. Нашчадак навагрудскага валадара ў гэты час знаходзіўся ў Ляшчынскім манастыры, што непадалёк ад Пінска. Туды ён уцёк пасля забойства бацькі.

Войшалк імкліва згуртаваў войска і вярнуўся ў Навагрудак. Там ён жорстка расправіўся з забойцамі бацькі і іх прыхільнікамі. Пэўна, Войшалк шкадаваў, што бацьку не пахавалі паводле хрысціянскага звычаю, у труне. Аднак нічога змяніць не мог, бо такой была апошняя бацькава воля. У 1264 годзе Войшалк здзейсніў карныя экспедыцыі на Нальшаны і Дзяволту. Ён разбіў князя Даўмонта і заваяваў Нальшанскую зямлю. Неўзабаве скарыў і Дзяволту.

Пасля атрыманай паразы Даўмонт з атачэннем уцёк у Пскоў. Там ён прыняў хрышчэнне, а ў 1266 годзе пскавічы ўзвялі яго на княжанне. Даўмонт атрымаў перамогу падчас бітвы з войскам Вялікага Княства Літоўскага на Дзвіне і спустошыў вотчыну Гердзеня Давыдавіча — сыны віцебскага князя Давыда Расціславіча. Ён шмат ваяваў з крыжакамі і памёр ад хваробы ў 1299 годзе.

Галіцка-валынскі валадар Даніла Раманавіч не змог ажыццявіць сваіх грандыёзных планаў. Ён не атрымаў чаканай дапамогі ад «лацінян» і не здолеў вызваліцца ад улады Арды. У 1264 годзе ён памёр.

Князь Аляксандр Неўскі, з якім Міндоўг заключыў саюз, скончыў зямны шлях 14 лістапада 1263 года, адразу пасля наведвання Арды, дзе ён моцна захварэў. Магчыма, яго там атруцілі, як некалі бацьку, за тое, што не папярэдзіў і не прадухіліў паўстанняў ва Уладзіміры, Суздалі, Пераяслаўлі, Яраслаўлі і іншых гарадах, жыхары якіх у 1262 годзе адмовіліся плаціць даніну Ардзе і перабілі ханскіх збіральнікаў подаці.

У апошнія гады жыцця князь Войшалк зблізіўся са Сварамірам Данілавічам, разам з ім здзяйсняў паходы на Польшчу і гарады Галіцка-Валынскага княства. 29 красавіка 1267 года Войшалка забіў Леў Данілавіч. Пахавалі яго ў царкве Святога Міхаіла Вялікага ў горадзе Уладзіміры-Валынскім. Пасля Войшалка новым валадаром Вялікага Княства Літоўскага стаў акурат Сварамір Данілавіч — яго надзейны паплечнік і саюзнік.

**Леанід Лаўрэш**

# Лідская гарадская электроўня, 1916—1939

У 1916 годзе па распараджэнні нямецкіх акупацыйных уладаў да прыватнай электроўні пастаяннага току магутнасцю 50 к.с., якая працавала ў вінакурні Крыгера, былі падключаны будынкі, дзе месцілася гарадская ўлада, і часткова дамы жылога сектара ў цэнтры горада. Адначасова пачалося будаўніцтва гарадской электроўні, і дзесьці ў тым жа годзе горад атрымаў станцыю з двума лакамабілямі, якія прыводзілі ў дзеянне дынамамашыны пастаяннага току.

Нягледзячы на тое, што ў 1920-я гады ў горадзе працавалі дзве адносна вялікія электроўні — чыгуначная і гарадская, жыхары Ліды мелі праблемы з асвятленнем. Адна частка горада — «Ферма» асвятлялася ад чыгуначнай электроўні. Чыгуначная электроўня працавала стабільна і прадавала электрычнасць па 60 гр. за кілаватгадзіну.

Увесь астатні горад забяспечваўся гарадской прыватнай электроўняй, арандатарам якой быў нейкі Цыдзяровіч. Электрычнасць у гэтай, большай, частцы горада часта знікала, лямпы гарэлі няроўна і пры гэтым абаненты плацілі 1 зл. 16 гр. за кілават-гадзіну. *«Не далей як учора, г. зн. 15 студзеня цэнтр горада да 10-й гадзіны вечара быў пагружаны ў цемру, разам з жыхарамі святла не мелі паліцыя, турма і т. д.»* — пісаў карэспандэнт «Слова» у артыкуле «Нашы балячкі» на пачатку 1926 года.

Далей журналіст паведамляў: *«Якім чынам электроўня патрапіла ў рукі прыватных уласнікаў? Вядома, што ў будынку, які належаў гораду, немцы ў часы вайны адчынілі электроўню, пасля ж нямецкай акупацыі горад планаваў пакінуць электроўню ва сваёй уласнасці. ... Але ў 1922 г. электроўню прыватызавалі за 100 000 марак, якія павінна была штогод плаціць нейкая суполка дэмабілізаваных. Але суполка збанкрутавала і перадала маёмасць нейкаму Раманоўскаму, а той перадаў яе яўрэю Цыдзяровічу. Выплаты пералічваюцца і зараз (пасля інфляцыі і скасавання польскай маркі. — Л.Л.) электроўня плаціць у скарб усяго 65 гр., яшчэ раз — 65 грошаў! Уладальнік мае даход, але не дбае пра кліента, скарб не атрымлівае выплаты, магістрат бяздарны, а гараджане плацяць вялікія грошы за асвятленне. Што аб гэтым думае пракуратура? Гэта адзін з прыкладаў нашага гаспадарання»*[1].

Праз некалькі тыдняў Цыдзяровіч даказаў карэспандэнту «Слова», што гарадская станцыя прадавала электрычнасць па 1 зл. 5 гр., а чыгуначная па 90 гр. за кілават-гадзіну, 60 гр. плацілі толькі работнікі чыгункі, якія жылі ў тым раёне горада. Адсутнасць электрычнасці 15 студзеня 1925 года Цыдзяровіч патлумачыў моцнай снежнай навальніцай. Уласнік электроўні паведаміў таксама, што апрача тых 65 гр. ён яшчэ штогод плаціць у скарб 500 злотых[2].

Праз паўгода газета «Слова» зноў звярнулася да гэтай тэмы: *«Нягледзячы на тое, што каштуе (электраэнергія. — Л.Л.) значна болей, чым у Вільні, электрычнасць часта псуецца і гараджане сядзяць пры свечах ці газавых лямпах. Адзіная надзея, што здзейсняцца энергічныя захады бургамістра горада Рудольфа Бергмана і гарадская электроўня пяройдзе з рук нейкага Цыдзяровіча ў маёмасць горада»*[3].

У красавіку 1928 года «Навагрудскае жыццё» папярэдзіла аб тым, што Лідзе пагражае «егіпецкая цемра», бо *«лакамабілі лідскай электроўні знаходзяцца ў такім стане, што прадстаўнік нагляду за катламі інж. Лябецкі забараніў іх далейшую эксплуатацыю. Але каб не пазбавіць лідзян электрычнасці на велікодныя святы, ён дазволіў электроўні працаваць яшчэ нейкі час. Прычына хуткага псавання катлоў — неадпаведная вада, якую патрэбна было апрацоўваць адмысловымі хімікатамі»*[4] У канцы 1928 года га-

Уладальнік мае даход, але не дбае пра кліента, скарб не атрымлівае выплаты, магістрат бяздарны, а гараджане плацяць вялікія грошы за асвятленне. Што аб гэтым думае пракуратура?

[1]Słowo №14(1024) 19 stycznia 1926.
[2]Słowo №45(1055) 25 lutego 1926.
[3]Słowo №161(1171) 14 lipca 1926.
[4]Życie Nowogródzkie №73(105) 21 kwietnia 1928.




Паштоўка 1917 года. Злева ідзе электрычная лінія пастаяннага току, якая мае два провады («+» і «-»).

радская рада дазволіла прадаць гэты лакамабіль у 80 к.с. [5], але толькі пасля рэканструкцыі станцыі, справа дайшла распрадажы ўсяго яе абсталявання. Менавіта дзякуючы аб'яве аб распродажы машын першай электроўні нашага горада, якая з'явілася на пачатку 1930 года ў прэсе[6], мы ведаем, якое абсталяванне тут працавала з 1916 года. Гэта:

• Лакамабіль фірмы «Assman et Stocker», 150 к.с., 165 аб/хв.

• Лакамабіль фірмы «Lanc», 80 к.с., 200 аб/хв, рабочы ціск у катле 10 атм.

• Дынама-машына «Siemens-Schuckert», 71 кВт, 310 А, 230 В, 850 аб/хв.

• Дынама-машына «Lahmer et C°, Frankfurt», 52 кВт, 240 А, 220 В, 750 аб/хв.

• Камплекты скураных рамянеў (лакамабілі злучаліся з дынама-машынамі раменнымі перадачамі).

• Размеркавальная мармуровая дошка.

Гарадскія улады дабіліся свайго, у красавіку 1928 года прэса паведамляла, што *«Ваяводская ўправа даслала з Міністэрства прамысловасці і гандлю праект умовы продажу электроўні ў Лідзе»*[7], а ў ліпені: *«Дзякуючы шматгадовым намаганням магістрата, лідская электроўня, якая з'яўлялася дзяржаўнай маёмасцю, але была перададзена ў арэнду прыватнікам, 13 ліпеня за невялікія грошы стала гарадской маёмасцю»*[8]. На пачатку 1929 года стала вядома аб ліквідацыі суполкі з абмежаванай адказнасцю «Лідская электроўня», юрыстам-ліквідатарам быў прызначаны Носаль Калмановіч (вул. Шкляная, 16)[9].

Аднак пераход электроўні на баланс магістрату спрыяў не зніжэнню, а павышэнню цэн на электрычнасць. На пачатку кастрычніка 1929 года павышэнне цэн тлумачылася тым, што магістрат пачаў траціць вялікія грошы на будаўніцтва гарадскіх размеркавальных сетак і на будаўніцтва новага гмаху станцыі[10]. Праз тры тыдні тарыфы на электрычнасць зноў павялічыліся[11].

У 1928 годзе на чыгуначнай электроўні прайшла рэканструкцыя, і 27 лістапада тут было апрабавана новае абсталяванне. Гэтая электроўня абслугоўвала чыгуначную станцыю, частку горада (раён Ферма) і да 1930 года, да рэканструкцыі гарадской электроўні, і вайсковыя кашары Паўночнага гарадка[12].

Яшчэ у ліпені 1928 года на пасяджэнні гарадской рады было вырашана ўзяць у Гаспадарчым Краёвым банку пазыку для будаўніцтва новай электроўні ў горадзе. Новую станцыю першапачаткова планавалі будаваць на плошчы імя ксяндза Фалькоўскага[13]. Але ў сакавіку 1929 года газета «Навагрудскае жыццё» паведаміла: *«З пачатку мая 1929 г. пачнецца будаўніцтва новай электроўні па вуліцы Сувальскай, недалёка да праваслаўных могілак. Кошт будоўлі склаў 800 000 зл. Станцыя павінна будзе атрымаць два рухавікі ў 260 і 150 к.с., у канцы зімы першы з рухавікоў ужо быў закуплены ў Варшаве»*[14]. І насамрэч, у маі 1929 года пачалося будаўніцтва новай электроўні коштам 800 000 злотых на старым месцы па вуліцы Сувальскай. Планавалася, што яна будзе мець два дызель-генератары ў 150 і 260 кВт[15]. Пра генератары такой магутнасці на Лідскай электроўні ў 1932 годзе пісаў часопіс «Асвета»[16]. Але ў 1936 годзе прэса паведамляла пра наяўнасць двух генератараў агульнай магутнасцю 220 кВт[17]. Пра

[5]Życie Nowogródzkie №297(331) 2 grudnia 1928.
[6]Słowo №9(2219) 12 stycznia 1930.
[7]Życie Nowogródzkie №77(111) 25 kwietnia 1928.
[8]Życie Nowogródzkie №158(192) 15 lipca 1928.
[9]Słowo №13(1923) 16 stycznia 1929.
[10]Kurjer Wileński №232(1577) 10 października 1929.
[11]Kurjer Wileński №251(1596) 1 listopada 1929.
[12]Życie Nowogródzkie №292(326) 27 listopada 1928.
[13]Kurjer Wileński №152(1199) 8 lipca 1928.
[14]Życie Nowogródzkie №74(431) 16 marca 1929.
[15]Kurjer Wileński №63(1408) 16 marca 1929.
[16]Oswiata №11-1932. S. 21.
[17]Kurjer Wileński № 353(3957) 24 grudnia 1936.

такую ж магутнасць лідскай станцыі паведамлялася ў публікацыях і ў наступныя гады[18].

У канцы жніўня прэса пісала: *«Гмах гарадской электроўні надбудоўваецца другім паверхам, працы будуць закончаны да канца восені»[19]*. 28 жніўня на гэтай будоўлі павалілася рыштаванне і прыціснула аднаго з будаўнікоў — Пятра Цярпілоўскага (у Лідзе жыў па адрасе Маставая, 56). У шпіталі канстатавалі пералом рэбраў[20].

Разам з рэканструкцыяй электроўні горад пераходзіў з пастаяннага на пераменны ток, таму трэба было будаваць новыя размеркавальныя электрычныя сеткі з трансфарматарнымі пунктамі. З прэсы даведваемся пра некаторыя цікавыя моманты: *«Пробашч парафіі лідскай кс. дэкан Баярунец напісаў пану ваяводу пратэст супраць планаў будоўлі трансфарматарнага пункта на пляцы, дзе раней месціўся касцёл кармелітаў і могілкі каля касцёла — каля сучаснага будынка Лідскага старостварства»[21]*. Як бачна з фотаздымкаў канца 1930-х гадоў, улады прыслухаліся да меркаванняў ксяндза, бо той самы трансфарматарны пункт 6/0.4 кВ быў пабудаваны на вуліцы Сувальскай насупраць староства. Тады ж былі пабудаваны тыпавыя трансфарматарныя пункты на Рынку і па вуліцы Варшаўскай, размеркавальны пункт насупраць вайсковага шпіталю. Гэты размеркавальны пункт з абсталяваннем фірмы «Ганц» існаваў да канца 1960-х гадоў. А тыпавы трансфарматарны пункт (падстанцыя 6/0,4 кВ) па вуліцы Варшаўскай захаваўся да нашага часу. Гэты тэхнічны будынак створаны па тыпавым праекце таго часу — на фотаздымках 1930-х гадоў такія ж трансфарматарныя пункты, крытыя дахоўкай, бачны каля рынкавай плошчы і каля староства. Падстанцыя па Варшаўскай была злучана з размеркавальным пунктам (які знаходзіўся каля ваеннага шпіталя) кабелем 6 кВ. Кабель з меднымі токаправоднымі жыламі быў выраблены на заводзе кабельных вырабаў у Быдгашчы ў 1929 годзе. Пры сучаснай рэканструкцыі трансфарматарнага пункта па вуліцы Варшаўская на старым кабелі была знойдзена злучальная муфта, зробленая таксама ў 1929 годзе (у муфце мелася закладная шыльда з прозвішчам манцёра, які рабіў муфту, і годам вырабу)[22].



Фотаздымак 1930-х гадоў. На электроўні бачна абсталяванне фірмы «Ганц».

У красавіку 1930 года венгерскай фірмай «Ганц» была закончана рэканструкцыя электроўні. На фотаздымку машыннага зала лідскай электроўні таго часу добра бачна шыльда фірмы «Ганц». Прэса паведамляла: *«Ліда мае электрычнасць. Нарэшце прыйшоў дзень, калі магістрат горада ў прысутнасці ваяводскіх улад афіцыйна адчыніў новапабудаваную гарадскую электроўню. На ёй усталяваны два дызелі агульнай магутнасцю 410 к.с. Выкладзена кабельная размеркавальная сетка класа 6 кВ, якая аб'яднала шэсць трансфарматарных пунктаў. Гэта павінна забяспечыць нармальнае электразабеспячэнне і ўзровень напружання. Вонкавыя размеркавальныя сеткі 0,4 кВ таксама рацыянальна перабудаваны. Галоўная і бакавыя вуліцы, на якіх апошнім часам павялічыўся дарожны рух, атрымаюць добрае асвятленне. Замест былых 75 ліхтароў на вуліцах горада зараз усталявана 185 і магістрат плануе усталяваць яшчэ 35 ліхтароў дадаткова.*

*Мантаж абсталявання, размеркавальных сетак і трансфарматарных пунктаў выканана фірмай «Ганц» якая згадзілася зрабіць для нашага горада работу ў крэдыт на 4 гады і верагодна гэты крэдыт будзе пралангіраваны яшчэ на паўгода.*

*Адначасова бюро электроўні прыступіла да замены ўводаў ад магістральных ліній да абанентаў. Усё гэта паменшыць страты электраэнергіі да*

[18]Kurjer Wileński № 116(4078) 29 kwietnia 1937.
[19]Kurjer Wileński №197(1542) 30 sierpnia 1929.
[20]Kurjer Wileński №200(1545) 3 września 1929.
[21]Życie Nowogródzkie №282(639) 15 października 1929.
[22]Інфармацыя прадстаўлена аўтару намеснікам начальніка гарадскога участка Лідскіх электрычных сетак М.Н. Ярмашуком.

*мінімуму. Таксама персанал электроўні ва ўсіх абанентаў упарадкаваў прыёмныя стаякі, дзе раней часта здараліся замыканні, што дрэнна ўплывала на работу генератараў.*

*Трэба заўважыць, што у Лідзе ёсць значная колькасць электрыкаў-аматараў, якія лічацца дасведчанымі людзьмі і самі выконваюць розныя рамонты і часта памыляюцца, што прыводзіць да розных пашкоджанняў у сетках. Таму вырак Электрычнай камісіі магістрата ўпарадкаваць прыёмныя стаякі будынкаў зрабіў немагчымым далейшыя эксперыменты аматараў.*

*Новая электроўня на працягу 6 гадоў будзе цалкам амартызаваная. Але на гэты тэрмін магістрат атрымаў магчымасць заняцца каналізацыяй і водазабеспячэннем горада.*

*Пры канцы, за выкананую працу, трэба выказаць падзяку перадусім кіраўніку Электрычнай камісіі магістрата, віцэ-бургамістру інжынеру М. Пупко, сябрам камісіі доктару Рамуальду Сапоцьку і Цукерніку, лідскаму раднаму Г. Чартоку, якія шмат зрабілі для таго, каб горад меў новую электроўню і сеткі»*[23].

На пачатак 1931 года паведамлялася пра 6 714 м кабельных ліній 6 кВ у горадзе[24].

У ліпені 1930 года газета «Навагрудскае жыццё» як прыклад дрэннай польскай мовы чыноўнікаў лідскага магістрата надрукавала аб'яву пра замену лічыльнікаў у абанентаў горада пасля пераходу на пераменны ток, з гэтай аб'явы мы даведваемся пра ўмовы гэтай замены:

*«Паведамленне для абанентаў. Падлік выплат за ўстаноўленыя лічыльнікі.*

*Адразу, гатоўкай: за лічыльнік — 40 злотых, на падключэнне — 2 злотыя, за канцылярскія расходы — 1 злоты. Разам — 43 злотыя.*

*Па частках, з падвышкай у 10%:*

*1) для абанентаў, якія маюць 1—2 кропкі асвятлення можна выплачваюць па 1/24 частцы, 23 часткі па 2 зл. = 46 і 1 частка па 1.85. Разам 47,85 зл.*

*2) для абанентаў, якія маюць больш за дзве кропкі, выплаты могуць быць разложаны на 13 частак: 1 частка — 4,15 зл., 6 частак па 4 зл. = 24 зл. і 6 частак па 2,95 = 17,7 зл. Разам 45,85 зл. Увага: за здадзеныя старыя лічыльнікі пастаяннага тока будзе налічвацца 25 зл. як частка выплаты за новы лічыльнік пераменнага току»*[25].

Пераход на пераменны ток выклікаў і праблемы ў пажарнай ахове горада: *«Ужо два гады як лідзяне прызвычаіліся да таго, што аб пажары ў горадзе яны даведваюцца пачуўшы гукі адмысловай сірэны, якая ўсталявана ў самым цэнтры горада, у доме 12 па вуліцы Сувальскай. Пажарная стража мела магчымасць хутка прыехаць да месца пажару. Сірэна прыводзілася ў дзеянне пастаянным токам ад гарадской электроўні. Але пасля пераводу электроўні на пераменны ток сірэна змоўкла»*[26].

Трэба адзначыць, што будаўніцтвам электроўні пераменнага току Ліда ў тэхналагічным сэнсе апярэдзіла суседнія гарады. Напрыклад, прэса паведамляла, што толькі ў 1932 годзе Гродна пачынаў пераход на пераменны ток, адным з першых праектаваўся трансфарматарны пункт па вуліцы Дамініканскай гэтага горада[27], а ў Вільні толькі ў жніўні 1933 года паведамлялася пра пераход з пастаяннага на пераменны ток па вуліцы Міцкевіча (ад 3-га Мая да моста)[28].

У 1938 годзе ў Лідзе было 13 электрастанцый: гарадская (220 кВт), чыгуначная (180 кВт), на фабрыцы «Ардаль» (300 кВт), на фабрыцы «Унігум» (117 кВт), на тартаку «Тарлас» (37 кВт), на тартаку пры бровары Пупко (12 кВт), на тартаку пры бровары Папірмайстра (12 кВт), на тартаку Мельніка (39 кВт), на фабрыцы па перапрацоўцы воўны братоў Г.Я. Жыжэмскіх і Я. Левіна (10 кВт), на фабрыцы сельскагаспадарчых машын братоў Шапіраў (5 кВт), на алейні «Шэмен» (3,4 кВт), на фабрыцы спружын «Звуй» (1,3 кВт)[29], на млыне «Аўтамат» (магутнасць не вядомая).

Сумарная магутнасць электрарухавікоў «Ардаля» была каля 250 кВт, а выпрацоўка энергіі электроўні «Ардаля» пераўзыходзіла выпрацоўку на гарадской электроўні: 750 тыс. кілават-гадзін у год на «Ардалі» супраць 500 тыс. кілават-гадзін у год на гарадской электроўні. Нават прыватная электроўня млына «Аўтамат» выпрацоўвала 500 тыс. кілават-гадзін у год.

На пачатку 1930-х гадоў гарадская гаспадарка патрапіла ў цяжкае становішча, на эканоміцы

[23]Kurjer Wileński №150(1792) 3 lipca 1930.
[24]Oswiata №11-1932. S. 21.
[25]Życie Nowogródzkie №167(881) 22 lipca 1930.
[26]Życie Nowogródzkie №140(854) 19 czerwca 1930.
[27]Słowo №211(3018) 29 sierpnia 1932.
[28]Słowo №182(3319) 6 lipca 1933.
[29]Западная Белоруссия. Статистический справочник. Минск, 1939. С. 67—70. 100.

горада адбіваўся і сусветны эканамічны крызіс. Праблемы эканомікі горада прывялі да крызісу самакіравання. Летам 1931 года паведамлялася: *«20 ліпеня ўправа магістрата ў асобах бургамістра Шчэпана Ардылоўскага, намесніка бургамістра Мейлаха Пупко і лаўнікаў Прыбыткі Антона і Карчмара Марэка, на бліжэйшым пасяджэнні, якое адбудзецца 25 ліпеня, фактычна вырашыла падаць у адстаўку.*

*21 ліпеня бургамістр у павятовым аддзеле дакладаў пра немагчымасць палепшыць фінансавы стан горада і немагчымасць супольнай працы з гарадской радай. Павятовы аддзел вырашыў звярнуцца да ваяводы з просьбай распусціць гарадскую раду і прызначыць камісара для часовага кіравання горадам. Фінансавы стан горада падкасіла будаўніцтва ў 1928-30 гг. двух аб'ектаў якія каштавалі каля 2 000 000 злотых, з гэтай сумы толькі каля 800 000 злотых у выглядзе доўгатэрміновых крэдытаў дала ўправа Віленскай вучэбнай акругі, а рэшту грошай магістрат атрымаў праз кароткатэрміновыя крэдыты ў прыватных асоб і банкаў, якія зараз патрабуюць аплаты. У выніку, розныя суды наклалі арышт на гарадскую нерухомасць коштам у 500 000 злотых.* ***Гэта вынік будоўлі гарадской электроўні і агульнаадукацыйнай школы****. Магістрат прасіў доўгатэрміновы крэдыт у 500 000 злотых і адтэрміноўку па выплатах крэдытаў»*[30]. У кастрычніку паведамлялася, што горад меў дэфіцыт бюджэту ў 1 149 410 злотых, а крэдыт у 500 000 злотых і адтэрміноўку па выплатах старых крэдытаў яшчэ не атрымаў[31].

У лістападзе 1931 года гарадской радай быў абраны магістрат і прыняты бюджэт на 1931—32 гады. Гораду было неабходна выплаціць для пагашэння пазыкаў 233 139 злотых на працягу года. Акрамя гэтага, трэба было плаціць адсоткі: па доўгатэрміновых крэдытах 61 256 злотых і 126 683 па кароткатэрміновых — разам 187 939 злотых, ці 515 злотых штодзённа. Радныя адзначылі, што нармальнае функцыянаванне гарадской гаспадаркі ў такіх умовах амаль што немагчыма і трэба працаваць над рэструктурызацыяй даўгоў. На пасяджэнні адзначаліся фінансавыя злоўжыванні пры бургамістру Бергману[32]. Заканчэннем крызісу гарадской улады можна лічыць вяртанне пры канцы жніўня 1934 года на пасаду бургамістра Юзафа Задурскага, за якога аднагалосна прагаласавалі ўсе радныя[33]. Задурскі заставаўся на гэтай пасадзе да верасня 1939 года.



Трансфарматарны пункт фірмы «Ганц» па вуліцы Варшаўскай.

Аднак ужо ў канцы жніўня 1932 года камісія гарадской рады вырашыла зменшыць цану на электрычную энергію, якая выкарыстоўваецца для прамысловых мэт, а таксама для дзяржаўных устаноў і на гаспадарчыя мэты (электрычныя пліты, чайнікі і г. д.) Тады ж магістрат змог выплаціць заробкі рабочым гарадской электроўні за чэрвень[34]. У лістападзе «Навагрудскі кур'ер» пісаў: *«Кошт электрычнасці ў Лідзе занадта вялікі. Кілават-гадзіна каштуе 1 злоты, калі ў іншых гарадах ад 0,5 да 0,6 злотага»*[35].

З 1935 года пачынаецца эканамічны рост.

Агульнае спажыванне электрычнасці 15 галоўнымі прамысловымі прадпрыемствамі ў 1936 годзе склала 2 220 тыс. кілават-гадзін, а разам з войскам і чыгункай 3 620 тыс. кілават-гадзін[36].

У 1937—1938 гадах электрычнасць прадавалася 2903 абанентам для асвятлення і 63 абанентам для прамысловых мэт, сумарная электрычная магутнасць спажыўцоў дасягнула 446,127 кВт[37].

[30] Życie Nowogródzkie №179(1192) 25 lipca 1931.
[31] Kurier Nowogródzki №26, 17 października 1931.
[32] Kurier Nowogródzki №48, 12 listopada 1931.
[33] Słowo №231(3723) 25 sierpnia 1934.
[34] Słowo №206(3013) 24 sierpnia 1932.
[35] Kurier Nowogródzki №295(381) 22 listopada 1932.
[36] Kurjer Wileński № 353(3957) 24 grudnia 1936.
[37] Zemia Lidzka. № 11. 1938.

## У красавіку 1928 года «Навагрудскае жыццё» папярэдзіла аб тым, што Лідзе пагражае «егіпецкая цемра»

Ужо ў 1936 годзе два дызельныя рухавікі гарадской электроўні адпрацавалі свой рэсурс, патрабавалі амаль штодзённага рамонту і шмат вельмі дарагіх запасных частак. Энергія, якая выпрацоўвалася на Лідскай гарадской электроўні, мела высокі сабекошт. Таму стала зразумела, што замест пастаяннага рамонту неабходна закупляць новае энергетычнае абсталяванне. Гэтую ініцыятыву высунуў бургамістр горада Задурскі. Пасля яго звароту ў Міністэрства прамысловасці і гандлю ў Ліду, каб вывучыць праблему, выехалі прадстаўнікі Міністэрства пад кіраўніцтвам дарадцы міністра Квінты. Камісія разам з інжынерам Наваградскай ваяводскай управы Жмігроўскім вывучыла праблемы і вырашыла хадайнічаць перад урадам аб перабудове Лідскай гарадской электрычнай станцыі[38].

На пачатку 1937 года са справаздачы гарадской рады вядома, што гарадская электроўня ў 1936 годзе дала 102 399 злотых даходу ў бюджэт горада. Тады ж гарадская рада вырашыла прасіць 100 000 злотых пазыкі на яе пашырэнне[39].

Ужо ў красавіку 1937 года паведамлялася, што *«гарадская электроўня атрымае новы камплект абсталявання. Зараз гарадская электроўня мае два дызель-рухавікі агульнай магутнасцю 220 кВт. З-за зносу гэтых машын і росту ўжывання электрычнасці гарадскія ўлады вырашылі купіць новы рухавік у 550 конскіх сіл. Новае абсталяванне будзе закуплена ў Калішы на грошы з доўгатэрміновай пазыкі ад Фонду Працы»[40]*. У чэрвені гарадская рада дазволіла ўзяць пазыку на рэканструкцыю электроўні ў памеры нават 142 000 злотых. Сума складалася з выдаткаў на: закупку новага рухавіка, рамонт старога абсталявання, пабудову новай машыннай залы, пабудову новага падмурка пад новы рухавік, пабудову сховішча газу, пераабсталявання рухавіка на газ і на розныя неспадзяваныя выдаткі[41]. Ужо праз некалькі дзён горад атрымаў гэтую пазыку[42].

З пачаткам мадэрнізацыі насельніцтва папярэдзілі, што могуць быць перапынкі ў падачы электрычнасці, і таму неабходна мець у запасе рэзервовыя сродкі асвятлення[43]. Прэса даводзіла, што пасля заканчэння работ гарадская электроўня зможа забяспечыць электрычнасцю ўсе прадпрыемствы горада, а насельніцтва зможа карыстацца электраэнергіяй не толькі для асвятлення жытла, але нават для кухонных мэт[44]. Павінен быў зменшыцца і сабекошт кілават-гадзіны[45].

У ліпені 1937 года за 60 000 злотых горад па аказіі купіў рухавік фірмы «Дызель» у добрым стане магутнасцю 550 к.с., у памяшканні электроўні пачалі будаваць падмурак пад новы энергетычны агрэгат. Планавалася закончыць усе працы да восені, у *«выніку сабекошт электрычнасці будзе значна зменшаны»[46]*. У тым жа месяцы Фонд Працы зрабіў для электроўні дадатковую пазыку ў 15 000 злотых[47].

Як ужо сказана вышэй, у канцы кастрычніка ў зале Лідскага старостава адбылася інфармацыйная сустрэча лідскага бургамістра Задурскага з прэсай і гараджанамі. Бургамістр зноў адзначыў, што гораду патрэбна грунтоўная перабудова электроўні, бо справа з электрычнасцю найгоршая: *«Зараз у Лідзе 13 электроўняў, з іх 11 прыватных, агульны выраб электраэнергіі 3,5 мільёна кілават-гадзін. Стан гарадской электроўні крытычны, горад часта паглынае цемра, старыя машыны выпрацавалі рэсурс. Новыя машыны знаходзяцца ў стане манціравання. Аднак уся рэканструкцыя зойме ад 4 да 5 гадоў. Гораду патрэбна вялікая электроўня, якая не толькі б асвятляла яго, але давала б ток для прамысловых мэт»[48]*. Як быццам у пацвярджэнне ў вечар 21 снежня 1937 года на электроўні адбылася чарговая аварыя, і ўвесь горад апынуўся ў цемры[49].

1 ліпеня 1938 года адбыўся пробны пуск новага энергетычнага абсталявання, пуск закончыўся выбухам[50]. Праз некалькі дзён адпаведная

---

[38]Kurjer Wileński № 353(3957) 24 grudnia 1936.
[39]Kurjer Wileński № 56(4018) 26 lutego 1937.
[40]Kurjer Wileński № 116(4078) 29 kwietnia 1937.
[41]Kurjer Wileński № 156(4119) 9 czerwca 1937.
[42]Słowo № 165(4729) 17 czerwca 1937.
[43]Kurjer Wileński № 176(4139) 29 czerwca 1937.
[44]Kurjer Wileński № 178(4141) 1 lipca 1937.
[45]Słowo № 179(4743) 1 lipca 1937.
[46]Kurjer Wileński № 193(4156) 16 lipca 1937.
[47]Kurjer Wileński № 206(4169) 29 lipca 1937.
[48]Kurjer Wileński № 291(4251) 22 października 1937.
[49]Kurjer Wileński № 353(4313) 24 grudnia 1937.
[50]Kurjer Wileński № 180(4498) 3 lipca 1938.

камісія высветліла, што з-за дрэннай зваркі труб і зборніка газу ў паліўнай апаратуры сістэма была негерметычнай, таму ўтварылася выбуховая газавая сумесь. Дрэнна звараныя трубы не вытрымалі ціску і здарыўся выбух. Шкоду ад выбуху ў некалькі сотняў злотых пакрыў вінаваты за выбух інжынер Трок з Вільні[51]. Такім чынам, першы этап рэканструкцыі закончыўся пры канцы лета 1938 года. Інфармацыі пра другі этап няма, найверагодней, што з-за пачатку вайны далейшыя работы пачаць не паспелі.

Дарэчы, пасля рэканструкцыі электроўні кошт электрычнасці для спажыўцоў у горадзе панізіўся з 1 да 0,8 злотага за 1 кілават-гадзіну. Аднак гэты кошт заставаўся вышэйшым, чым у суседніх гарадах[52]. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з нашым часам электрычнасць адносна заробкаў была надзвычай дарагой. Напрыклад, сярэднія сучасныя 100 і болей кілават-гадзін на кватэру за месяц абышліся б рабочаму з «Ардаля» ў яго добры па тым часе сярэдні заробак — 80—100 злотых. Таму людзі абыходзіліся запальваннем слабых электрычных лямпачак толькі ў вячэрні час, а пра выкарыстанне электранагравальнікаў не магло ісці гаворкі. Напрыклад, адна лямпачка на 25 ват, якая ўключалася на 4 гадзіны кожны дзень на працягу месяца, каштавала хатняй гаспадарцы 2,4 злотага па тарыфе, які склаўся пасля рэканструкцыі электроўні (25х4х30х0,8). Дарэчы, агульнавядома, што менавіта колькасцю энергіі, якую чалавек можа сабе дазволіць спажыць, вызначаецца якасць жыццёвага узроўню.

Не дзіўна, што пасля рэканструкцыі электроўні гарадскія ўлады эканомілі на асвятленні нават публічных месцаў: *«У Лідзе пабудавана адмысловая аўтастанцыя, на якой спыняюцца агромністыя аўтобусы. Кожны дзень аўтастанцыя прымае 60 аўтобусаў. Аўтобусны рух пачынаецца з рання і закачваецца толькі ў 20-30. Зараз дзень кароткі, аўтастанцыя не мае электрычнага асвятлення і таму разам з усім горадам пагружаецца ў цемру. Тыя электрычная ліхтары, якія ўсё ж свецяць у горадзе, маюць такія слабыя лямпы, што за 10 крокаў ад слупа ўжо цёмна. Таму абяцанне, што пасля рэканструкцыі электроўні "Ліда будзе зіхацець", не выканана»*[53].

На пачатку 1929 года стала вядома аб ліквідацыі суполкі з абмежаванай адказнасцю «Лідская электроўня», юрыстам-ліквідатарам быў прызначаны Носаль Калмановіч (вул. Шкляная, 16)

У траўні 1938 года пачалася пракладка новых электрычных ліній у раёне Слабодкі[54]. Пашырэнне электрычных сетак дазволіла злучыць у Лідзе чыгуначную і гарадскую электроўні: *«З новага бюджэтнага года (1939. — Л.Л.) гарадскія ўлады пашырылі свой уплыў у справе электраэнергетыкі, аб'яднаўшы чыгуначную электроўню з гарадской электроўняй. Згодна з разлікамі, чыгуначная электроўня дасць гораду прыбытак у 20 000 злотых у год»*[55]. Можна меркаваць, што трансфарматарны пункт па вуліцы Варшаўскай, які захаваўся да нашага часу, пабудаваны менавіта ў той год. Дарэчы, другі трансфарматарны пункт таго часу, які існуе і цяпер (але ўжо як размеркавальны пункт), знаходзіцца каля корпуса шпіталя, пабудаванага ў 1938 годзе.

## Планы развіцця энергетыкі

Цікава, што яшчэ ў верасні 1928 года лідскі староста разгледзеў праект пабудовы гідраэлектрычнай станцыі на рацэ Гаўя і дазволіў далейшыя працы па яе праектаванні[56].

У красавіку 1938 года гарадская ўправа афіцыйна перадала паліцыі справу на Станіслава Чаплю (Легіяновая, 20), які самавольна падключыўся да электрычнай сеткі і краў энергію

[51]Kurjer Wileński № 184(4502) 7 lipca 1938.
[52]Kurjer Wileński № 283(4601) 15 października 1938.
[53]Kurjer Wileński № 291(4609) 23 października 1938.
[54]Kurjer Wileński № 142(4460) 25 maja 1938.
[55]Kurjer Wileński № 28(4704) 28 stycznia 1939.
[56]Życie Nowogródzkie №212(246) 7 września 1928.

А ўзімку 1938 года знік без вестак гарадскі кантралёр электроўні Лейба Леў. Па словах крэўных, кантралёр стаў ахвярай кахання без узаемнасці

У канцы 1930-х гадоў у Лідскім павеце першыя малыя электроўні будаваліся ў мястэчках Воранава і Жалудок[57].

У 1938 годзе будавалася вялікая электроўня ў Слоніме, якая пасля злучэння яе з гідрастанцыяй на рацэ Гаці павінна была абслугоўваць Слонімскі і Баранавіцкі паветы. Праектавалася перабудова электроўні ў Наваградку. На рэалізацыю гэтых праектаў было выдзелена 250 000 злотых[58].

«Кур'ер Віленьскі» адзначаў, што цэнтральныя ўлады мала ўвагі звяртаюць на развіццё ўсходніх тэрыторый. Энергетычны камітэт пры Міністэрстве прамысловасці і гандлю ў планах электрыфікацыі не знаходзіў месца для Віленшчыны ажно да 1935 года. Гэта кажа пра недаацэнку Камітэтам важнасці гэтай справы для развіцця эканомікі.

Як мясцовая ініцыятыва пад кіраўніцтвам інжынера віленскай электроўні Янчы былі распрацаваны планы развіцця энергасістэмы нашага рэгіёна. Наш край мае мала энергетычных рэсурсаў, і таму прапаноўвалася базіраваць выпрацоўку электрычнасці на тарфяных электроўнях, для чаго пачаць здабычу торфу каля Глыбокага і Вільні, таксама прапаноўвалася пабудаваць гідрастанцыю на Віліі[59]. Дарэчы, у 1938 годзе вялікія запасы торфу ў Лідскім павеце знайшоў інжынер-доктар Аляксандр Нявесцін з Геалагічнага інстытута[60]. Акрамя выкарыстання ў якасці паліва, навукоўцамі вывучалася магчымасць выпрацоўкі з лідскага торфу бензолу, асвятляльнай газы, змазачнай алівы, ўгнаенняў і г. д.[61].

Самы дарагі план электрыфікацыі з распрацаваных у Вільні, складаўся з трох этапаў. На першым этапе неабходна было пабудаваць рэгіянальныя электроўні ў Вільні і Маладзечне. Потым лініі высокага напружання ў 100 000 вольт павінны былі аб'яднаць асноўныя гарады Віленшчыны: Ліду, Маладзечна, Глыбокае, Дзісну, Друю. На трэцім этапе лінія электраперадачы ад Маладзечна праз Стоўбцы на Баранавічы павінна была злучыць Віленскі энергетычны раён з агульнадзяржаўнымі сеткамі. Кошт праекта — 100 мільёнаў злотых.

Больш сціплы варыянт прадугледжваў толькі аб'яднанне існых станцый электрычнымі лініямі ў 30 000 вольт. Кошт гэтага праекта быў каля 7 мільёнаў злотых[62].

У лістападзе 1937 года віленская газета «Слова» пісала пра яшчэ адзін гіганцкі праект пабудовы гідраэлектрастанцыі на Нёмане, якая давала б ток для Наваградка, Слоніма і Ліды: *«Як стала вядома, у коле адмыслоўцаў г. Гародні паўстала думка звярнуцца да ўладаў з праектам пабудовы на Нёмане вялікай гідраэлектрастанцыі. Станцыя магла б забяспечыць электраэнергіяй частку Наваградскага ваяводства з Лідай, Слонімам і Наваградкам, а таксама частку Беластоцкага ваяводства з горадам Беласток. Адна з прычын слабага развіцця эканомікі нашага краю — недахоп крыніц энергіі. ... Пабудова электроўні на Нёмане выправіла бы гэты недахоп. ... Падлікі паказваюць, што сабекошт 1 кілават-гадзіны з улікам амартызацыі склаў бы 0,6 гроша»[63].*

Вайна не дазволіла рэалізаваць гэтыя планы. Але вядома, што з канца 1950-х гадоў, ужо ў іншай дзяржаве, энергетыка развівалася прыкладна так, як было прапісана ў гэтых планах, — будаваліся магутныя электроўні, якія злучаліся лініямі электраперадачы. А гідраэлектрастанцыя на Нёмане была пабудаваная ўжо ў наш час каля Гародні.

## Здарэнні на гарадской электроўні

Вялікую цікавасць маюць планы развіцця энергетыкі нашага краю ў тыя часы.

У канцы жніўня 1929 года чыноўнік лідскай электроўні Фішар у дрэнным настроі вярнуўся апоўдні дадому і патрабаваў у жонкі, каб тая яго накарміла. Калі жонка трохі прамарудзіла, ён, пакрыўдзіўшыся, выпіў бензін з бутэлькі, якая ста-

[57]Kurjer Wileński № 7(4325) 8 stycznia 1938.
[58]Kurjer Wileński № 258(4576) 20 września 1938.
[59]Kurjer Wileński № 253(4216) 14 września 1937.
[60]Kurjer Wileński № 182(4500) 5 lipca 1938.
[61]Kurjer Wileński № 185(4503) 8 lipca 1938.
[62]Kurjer Wileński № 253(4216) 14 września 1937.
[63]Słowo № 324(4888) 23 listopada 1937.

яла каля стала. Урач канстатаваў апёкі горла і кішак[64]. Нервовая была праца ў энергетыкаў у тыя часы...

6 мая 1932 па Лідчыне прайшла магутная вясенняя бура, якая павалiла тэлефонныя слупы і парвала правады на чыгуначным шляху Ліда—Маладзечна (адразу, за мостам праз Лідзею). Маланка патрапіла ў гарадскую электроўню, кіраўнік электроўні і дзяжурны манцёр часова страцілі прытомнасць і таму да 19-30 горад апынуўся ў цемры. З-за моцнага дажджу на 1 метр паднялася рака Лідзея і месцамі выйшла з берагоў[65].

Тады ж, падчас работы на дзядзінцы плябаніі ксяндза Баярунца рабочыя абарвалі электрычны провад. Адзін з рабочых, Юзаф Місюра, вырашыў провад адкінуць і узяўся за яго рукой. *«Пацярпелы ў цяжкім стане трапіў у шпіталь»*[66].

Энергетыкам заўжды трэба было быць гатовымі выканаць неабходныя аварыйныя работы: *«13 ліпеня (1937 года. — Л.Л.) каля староства, на вуліцы Сувальскай, армейскі аўтамабіль збіў слуп электрычнай размеркавальнай сеткі»*[67].

Не абыходзілася і без кур’ёзаў. У канцы 1937 года суд прыгаварыў чыноўніка адміністрацыі горада, назіральніка за гарадскімі работамі Палтарацкага да штрафу ў памеры 15 злотых за тое, што падчас начной змены на гарадской электроўні ён збіў работніка Уладзіслава Вільбіка: *«Гэта вынікі ўхвалы гарадской радай выдачы работнікам гарэлкі падчас працы»*[68].

У любой энергасістэме важным полем дзейнасці з’яўляецца ўлік адпушчанай спажыўцу электраэнергіі.



Лідская электрастанцыя ў 1930-я гады.

У красавіку 1938 года гарадская ўправа афіцыйна перадала паліцыі справу на Станіслава Чаплю (Легіяновая, 20), які самавольна падключыўся да электрычнай сеткі і краў энергію. Такім жа незаконным чынам карысталіся электрычнасцю ўладальнікі спартыўнай залы яўрэйскага спартыўнага таварыства «Макабі» (Сувальская, 74)[69]. Як паліцыя пакарала парушальнікаў, невядома.

Верагодна, фактаў крадзяжу энергіі было шмат, бо хутка адміністрацыя гарадской электроўні паведаміла, што ўсім абанентам неабходна праверыць дакладнасць працы ўсталяваных у іх электралічыльнікаў і потым іх паўторна перарэгістраваць. За гэта трэба было заплаціць ад 11 да 13,5 злотага, у залежнасці ад стану прыбораў уліку[70].

А ўзімку 1938 года знік без вестак гарадскі кантралёр электроўні Лейба Леў. Па словах крэўных, кантралёр стаў ахвярай кахання без узаемнасці[71].

---

[64] Kurjer Wileński №197(1542) 30 sierpnia 1929.
[65] Słowo №104(2911) 8 maja 1932.
[66] Kurier Nowogródzki №128(214) 6 czerwca 1932.
[67] Kurjer Wileński № 192(4155) 15 lipca 1937.
[68] Kurjer Wileński № 327(4287) 28 listopada 1937.
[69] Kurjer Wileński № 97(4415) 8 kwietnia 1938.
[70] Kurjer Wileński № 159(4447) 12 czerwca 1938.
[71] Kurjer Wileński № 27(4345) 28 stycznia 1938.



## Два дамы яднала арка

### Да юбілею Леаніда Левіна

**З размовы:**
**— Ён лічыў сваімі настаўнікамі Янку Купалу і Якуба Коласа, бо ў паэзіі бачыў архітэктуру і наадварот.**
**— Так, і помнікі Коласу і Купалу ён таксама стварыў. Ён лічыў, што паэзія і архітэктура непарыўныя. Ён жа і сам пра гэта пісаў. Яго дзённікі — гэта само сабой, але ён жа пісаў і вершы.**

**З паштовай скрыні:**
**«Адпраўляем апавяданні Леаніда Мендэлевіча. Просім захаваць яго стыль. Гэта была яго асаблівасць: радкі абрываліся, ніколі не запаўняючы старонку цалкам».**

**Ад перакладчыка:**
**«Я б назвала гэта хутчэй вершамі ў прозе. Стыль захаваць паспрабавала. М.»**

### Каханне

Два дамы яднала арка.
Стаялі дамы, быццам бы ўзяўшыся за рукі.
Дамы мелі агульны двор.
Двор падзяляў блок гаражных пабудоў.
Хлопчыкі любілі бегаць па дахах гаражоў.
Дзяўчаткі з зайздрасцю глядзелі на іх знізу.
Кожны дом меў свой сквер.
Кожны сквер меў сваю гісторыю.
У нашым доме жылі знакамітыя пісьменнікі:
М.Танк, Крапіва, А.Куляшоў, Лынькоў і г. д.
Калісь у скверы яны саджалі маленькія дрэўцы.
Сёння — гэта вячыстыя дрэвы.
Галіны радаваліся першай
зеляніне, спевам птахаў,
Залатым фарбам восені.
Кожная кватэра — свой лёс, свая гісторыя.
*Ён* жыў у адным доме.
*Яна* — у другім.
*Ён* бегаў па дахах гаражоў.
*Яна* гуляла ў класікі.
Старэлі дамы, старэў двор,
Ды яны былі маладыя.
Разам пайшлі ў школу.
Разам хадзілі ў студыю.
Разам паступілі ў тэатральна-мастацкі інстытут.
Калі спазняліся ў інстытут — раз-
ам беглі да тралейбуса,
Эцюднікамі штурхаючы адзін аднаго.
Вярталіся дамоў традыцыйна пешшу.
І двор сустракаў іх сваёю цеплынёй.
Сёння двор сустрэў іх залатым ды-
ваном з восеньскага лісця.
Яны ўвайшлі ў арку.
Разам спыніліся,
Быццам упершыню пабачылі адзін аднаго.
*Ён* нечакана абняў і пацалаваў *яе*.
Эцюднікі прыціснуліся адзін да другога.
Пачуцці перапаўнялі *яго*.
*Ён* хацеў крычаць. Крычаць: «Кахаю!»
Дома *ён* сабраў усе фламастары,
нарэзаў шмат паперак.

Два дамы яднала арка

Да позняга вечара на кожнай паперцы пісаў:
«*Кахаю, кахаю, кахаю…*»
Выйшаў на двор.
Вецер кружыў апалае лісце —
Тое peралятала цераз гаражы,
ліпла да шкельцаў машын.
Напісаныя лісткі ён шпульнуў і ў суседні двор.
Раніцам здзіўленая прыбіральшчыца
сабрала апалае лісце
і ягоныя паперкі ў адну гурбу.
«*Кахаю, кахаю, кахаю*».
Пайшла прыбіраць другую палову двара —
І там было тое самае:
«*Кахаю, кахаю, кахаю…*»

2001 год

## Неба

Бягуць па небе адна па адной бясконцыя хмары.
Бягуць, быццам спрабуючы абагнаць адна адну.
Бягуць, і вецер іх падганяе.
Розныя формаю, насычанасцю,
Яны або рвуць адна адну на шматкі,
або паядноўваюцца ў адзіную шэрую масу,
Робяць усё шэрым ды панылым.
Часам хмары не паспяваюць запоўніць прастору
І агаляюць блакітныя латкі неба.
Гэтае сіняе неба імгненна запаўняе
Прастору жыццём і святлом.
Промні сонца адразу ж нагадваюць пра сябе.
Шэрая маса ператвараецца ў рэльефныя дахі
Каляровых дамоў, ажываюць дрэ-
вы, аранжавым колерам
Свеціцца тарэц двухпавярхова-
га дома насупраць майго акна.
Хутка ўсё знікне зноў:
Шэрасць запаўняе ўсю прастору.
Чакаю гэтых блакітных астраўкоў,
пасланцоў Усявышняга,
Чакаю з нецярплівасцю.

2013 год



*Леанід Левін (1936—2014) — архітэктар і скульптар, аўтар «Хатыні», «Прарыва» і «Ямы», станцый метро «Плошча Леніна», «Няміга» і іншых, лаўрэат Ленінскай прэміі, двойчы лаўрэат Дзяржпрэміі Беларусі, заслужаны архітэктар. Не друкаваныя раней апавяданні-вершы Леаніда Левіна прадастаўлены па просьбе «Маладосці» дачкой, Галінай Левінай. Пераклад на беларускую мову зроблены Маргарытай Латышкевіч. Пры афармленні матэрыяла выкарыстаны малюнак самога Леаніда Левіна.*

Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна

# РАЗВІЦЦЁ ВОБРАЗНАГА І КРЫТЫЧНАГА МЫСЛЕННЯ НА ЎРОКАХ ЛІТАРАТУРНАГА ЧЫТАННЯ Ў ПАЧАТКОВЫХ КЛАСАХ

Выкладчык Мікола Сянкевіч



Ілюстрацыя Алесі Галоты.

Паводле канцэпцыі вучэбнага прадмета «Літаратурнае чытанне», адна з яго асноўных задач — развіццё эмацыянальна-пачуццёвай сферы, **вобразнага і крытычнага мыслення**, літаратурна-творчых здольнасцей вучняў. Мы спынімся на развіцці вобразнага мыслення вучняў, без якога немагчымы ні якасны аналіз мастацкага твора, ні развіццё літаратурна-творчых здольнасцей малодшых школьнікаў.

Спачатку — азначэнне паняцця. *Вобразнае мысленне* — здольнасць асацыятыўна звязваць прадметы і з'явы навакольнага свету, уменне бачыць агульныя рысы ў розных прадметаў у выніку іх знешняй падобнасці або блізкасці ўражанняў ад іх.

Вобразамі могуць мысліць не толькі людзі мастацтва. Вобразы ўзнікаюць у свядомасці кожнага чалавека.

## Асноўныя псіхалагічныя механізмы вобразнага мыслення

Яны наступныя: *памяць, уяўленне, асацыяцыі.*

**Памяць** — псіхалагічны фактар. Розныя віды памяці разглядаюцца ў курсе псіхалогіі.

**Асацыяцыі** — гэта думкі і вобразы, якія ўзнікаюць пры сузіранні прадмета ці пры ўспрыманні выказванняў, дзякуючы ўстанаўленню падабенства, успаміну ці знаходжанню аналогій з дапамогай *падсвядомасці*.

Напрыклад, чую ў тралейбусе, едучы да вас: «Ну мы і ржалі ўчора» — і пачынаю ў думках дамалёўваць грывы прыгожым носьбіткам мовы. Вы ў вашай будучай працы: сустракаеце завуча — і ўспамінаеце, што не падрыхтавалі выступленне на педсавет.

Механізм асацыяцый дрэнна паддаецца вывучэнню менавіта за той прычыны, што яны ўзнікаюць з дапамогай падсвядомасці. Аднак можна сказаць дакладна, што ўсе яны ўзнікаюць на аснове папярэдняга вопыту. Чалавек мысліць

*Тут друкуюцца самыя цікавыя лекцыі на самыя розныя тэмы па самых розных дысцыплінах. Галоўныя ўмовы: зразумела ўсім, карысна кожнаму, цікава шырокаму колу маладых чытачоў-інтэлектуалаў. Прымаем ад выкладчыкаў тэксты ў форме лекцый з фатаграфічнымі доказамі студэнцкага захаплення.*



Мікола Сянкевіч, старшы выкладчык кафедры беларускай і рускай моў з методыкай выкладання Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна

асацыятыўна. Любое слова можна разглядаць як пучок — сэнс ад яго разыходзіцца ў розныя бакі. А значыць, і асацыяцый кожнае слова можа нараджаць бясконцае мноства.

Іншы раз чытач-пачатковец успрымае значэнне слова, зыходзячы не з канкрэтнага сэнсу, які ўклаў у яго аўтар. Слова абуджае ў дзіцячай памяці самыя розныя асацыяцыі. Не маючы магчымасці растлумачыць многія з'явы рэчаіснасці, дзіця стварае свае «гісторыі».

Новае слова яно прыстасоўвае да свайго разумення яго значэння, імкнецца асэнсаваць шляхам вобразнага мыслення.

*У лозах шчэбет не сціхае.*
*Шум стаіць і свіст.*
*У яркім бляску спачывае*
*На ракіце ліст. (Ля ракі Целіст).*

Пра вобразныя асацыяцыі, на якія ён аказаўся здольны ў маленстве, вельмі цікава піша ў сваёй біяграфіі Якуб Колас: «Як і кожнае дзіця, я мысліў толькі вобразамі. Так назва кожнага тыдня выклікала які-небудзь вобраз (нядзеля — шпулька белых нітак; аўторак — фабрычнае кляймо, што ставяць на донцы некаторых гліняных кубкаў; серада — драўляная спінка ложка; чацвер — ручка далатца; пятніца — ружэйны прыклад; субота — пара мяккіх халяў)».

Адны і тыя ж прадметы ў розных людзей выклікаюць розныя асацыяцыі.

Неабходным кампанентам псіхалагічнага механізму вобразнага мыслення з'яўляецца таксама **ўяўленне**. Уяўленне камбінацыйна-творча ўзнаўляе блокі ўражанняў і вобразаў, што захоўваюцца ў памяці, камбінуе і малюе ў свядомасці чалавека жывыя карціны.

Уяўленне мае не меншае значэнне за веды, хоць і абапіраецца на іх. Веды чалавека ў любой галіне абмежаваны, а ўяўленне не мае межаў. На жаль, у грамадстве існуе многа фактараў, якія наносяць шкоду творчаму ўяўленню вучняў (не высокай якасці тэлевізійныя перадачы, асобныя камп'ютарныя гульні), але галоўнае — страх адхіліцца ад агульнапрынятых у дзіцячым калектыве канонаў. Неардынарная асоба заўсёды з'яўляецца нязручнай у калектыве, дзе прызнаецца толькі адзін метад кіравання — аўтарытарны, адзіны метад навучання — «паўтарай за мной, рабі як я». У гэтым выпадку па-за ўвагай застаецца сама асоба, яе творчы патэнцыял. На першае месца вылучаюцца перайманне, імітацыя, дзеянне па алгарытме.

Развіццё творчага ўяўлення пры такім навучанні выступае як «пазапланавы вынік», «пабочны прадукт».

Дзякуючы памяці, асацыяцыям, уяўленню ў свядомасці чалавека з'яўляецца мноства вобразаў, абставін, сітуацый. Эстэтычны густ дапамагае з бясконцасці варыянтаў адабраць лепшыя.

З названых вышэй кампанентаў асноўным выступае творчае ўяўленне вучняў.

## Развіццё славесна-вобразнага ўяўлення малодшых школьнікаў

Працэс фарміравання навыкаў чытацкай дзейнасці пачынаецца з этапу наіўна-рэалістычнага разумення мастацкага твора. Але ўжо на гэтым этапе можна гаварыць пра элементы вобразнасць мыслення ў свядомасці малодшых школьнікаў. Справа ў тым, што навакольны свет дзеці ўспрымаюць пачуццёва, а не прагматычна. Калі дзіця любуецца вясновым квітнеючым садам, яно не бу-



дзе думаць пра тое, які ўраджай паспее восенню. У гэтым дзеці падобныя да паэтаў. Кожны новы прадмет дзіцяці цікавы. Малодшыя школьнікі нават умову матэматычнай задачы ўяўляюць вобразна. Калі размова ідзе пра кухара ці гандляра, яны ўяўляюць гэтых людзей і іх дзеянні зрокава.

Як неаднойчы сцвярджалі Карней Чукоўскі, Джані Радары і іншыя класікі дзіцячай літаратуры, дзецям уласціва **вобразнае ўспрыманне самой мовы.** Нават гукавая абалонка слова выклікае ў іх непасрэдную эстэтычную рэакцыю, жывы вобраз, у тым ліку пры ўмове абсалютнага ці частковага неразумення яго значэння.

Аднойчы ў сярэдняй групе дзіцячага садка мы без сувязі з назвамі адпаведных дрэў (проста сказалі, што ёсць такія незвычайныя словы) прагаварылі некалькі разоў па складах «са-кса-ул», «ба-а-баб». Да канца дня названыя словы былі паўтораны дзецьмі некалькі дзясяткаў разоў у самых розных сітуацыях: яны ім спадабаліся, яны ўспрымалі іх на смак, на слых, на аб'ём.

Як станоўчы момант трэба разглядаць тое, што на ўзроўні наіўна-рэалістычнага мыслення дзеці, самі таго не ўсведамляючы, карыстаюцца такой асаблівасцю вобразнай мовы, як метафарычнасць. Памылковую пазіцыю займаюць выхавацелі і настаўнікі, якія з самых першых дзён знаходжання дзіцяці ў школе лічаць адной з галоўных сваіх задач навучыць дзяцей строга адмяжоўваць рэальнае ад нерэальнага. У такіх выпадках у іх не выхоўваецца эмацыянальная чуйнасць і давер да мастацкага слова і, наадварот, выяўляецца не ўласцівы для дзіцячага ўзросту скептыцызм. «Якім вы ўяўляеце сабе Дзеда Мароза?» — пытаецца ў выхаванцаў настаўніца аднаго з падрыхтоўчых класаў. «Дзедаў Марозаў не бывае», — папраўляе яе шасцігадовы пачатковец.

Нельга не прывесці з гэтай нагоды выказванне Карнея Чукоўскага: «Гэтыя няшчасныя дзеці так падазрона ставяцца да ўсякага — самага паэтычнага — вымыслу, што ўсё, што колькі-небудзь выходзіць за мяжу паўсядзённасці, лічаць нахабнай і бессэнсоўнай выдумкай. Калі ў адной школе павялі з імі размову пра акул, адзін з вучняў паспяшаўся выказаць свой пратэст:

— Акул не бывае!

Юны прагматык, — працягвае пісьменнік, — не зможа атрымліваць асалоду ад гульні ўяўлення, не зможа прыняць умоўнасцей мастацтва. Усё, што ён хоча, — гэта інфармацыі, якая б адпавядала яго крайне небагатаму жыццёваму вопыту».

Няма ўпэўненасці, што пазней такі вучань, для якога многіх цікавых рэчаў і з'яў «не бывае», заўважыць, як усміхаецца вясёлка, як плачуць дажджавыя аблокі.

Выпадак з практыкі. Пасяджэнне літаратурнага аб'яднання пры абласной газеце «Зара». Жанчына-пенсіянер крытыкуе вершы маладога аўтара: «Дрэвы не могуць глядзець у спіну закаханых, — як вы напісалі. У дрэў няма вачэй». У пэўнай часткі нават дарослых чытачоў, тэлегледачоў, наведвальнікаў мастацкіх салонаў наіўны рэалізм, пры якім ставіцца знак

роўнасці паміж мастацтвам і жыццём, становіцца ваяўнічым («Не можа быць, бо так не бывае ў жыцці».)

Шкада, што з пераходам ад «чытання» да «літаратурнага чытання» некаторыя настаўнікі праяўляюць настойлівасць у размежаванні праўды і вымыслу. Спяшацца з гэтым не варта — губляецца вобразнасць мыслення.

Каб зразумець твор, які стаў прадуктам вобразнага мыслення пісьменніка, маленькі чытач у меру сваіх здольнасцей і магчымасцей павінен імітаваць творчы працэс, прайсці следам за аўтарам. А для гэтага важна, каб у яго было вобразнае адчуванне слова.

Трэба заўважыць, што многія адназначныя словы, не гаворачы ўжо пра мнагазначныя, патрабуюць больш глыбокай і прадуманай працы над іх зместам ужо таму, што гэты змест не вычэрпваецца на лагічным узроўні. У кожнай мове існуюць словы-сімвалы, словы-вобразы, якія звязаны з культурай народа, яго гістарычным быццём. Для носьбіта рускай культуры, напрыклад, слова «берёза» з'яўляецца не толькі назваю дрэва, але і выклікае пачуццё замілавання, любові да Радзімы. Адпаведнае гэтаму пачуццё ў сэрцы кожнага беларуса выклікаюць словы «васількі», «верасы», «буслы», «журавы», «знічка», «лілея», «Мілавіца»…

Каб пераканаць дзяцей у высокай значымасці слова ў мастацкім кантэксце, настаўнік можа паспяхова выкарыстаць роднаснасць беларускай і рускай моў. Спашлёмся на прыклад. «Сезонныя» тэмы на ўроках «літаратурнага чытання» і «литературного чтения» вывучаюцца амаль сінхронна.

— Якой малюецца зіма ў беларускім фальклоры? — пытае настаўнік.

— Зіма лютая (у нас і месяц «люты»), халодная, сцюдзёная, суровая, злая, — падбіраюць азначэнні вучні.

— А ў творах рускага фальклору, у творах рускіх паэтаў?

— Часта ўжываюцца словы «зимушка-зима», «матушка зима», «красавица зима», «волшебница зима»...

Каб высветліць, чаму вызначэнне зімы рознае ў літаратуры розных народаў, трэба праводзіць сапраўднае даследаванне. Тым не менш звярнуць увагу дзяцей на падобнае разыходжанне будзе карысна: развіваецца іх аналітычнае мысленне.

Адна з асноўных задач настаўніка, які імкнецца фарміраваць вобразнае мысленне вучняў, — навучыць іх разуменню **метафарычнасці мовы**. Да метафары дзеці прыходзяць праз загадку, праз **параўнанне.**

Часцей за ўсё падабенства прадметаў і з'яў, не падобных на першы погляд, заўважаюць мастакі, паэты і дзеці. Іх яднае асацыятыўнасць мыслення.

Падбор параўнанняў можна правесці ў выглядзе гульні. «Адгадчыкі» выходзяць з класа, а вучні падбіраюць параўнанні да названага настаўнікам прадмета.

Падобны на кветку, на матылька, на веласіпед, на васьмёрку, што ляжыць бокам… — бант;

Вучні могуць весці спецыяльныя блакноты «Мае адкрыцці». Гэта прымусіць дзяцей больш уважліва ўглядацца ў свет вакол сябе, заўважаць цікавыя параўнанні. Добра, калі вучні будуць самі ацэньваць параўнанні сваіх сяброў. Вельмі карысныя адзінкавыя параўнанні. На іх аснове можна пабудаваць метафару і загадку.

Прывядзём прыклады. На экскурсіі ці ў класе, разглядаючы яркі малюнак, настаўнік просіць вучняў сказаць, на што падобна ластаўчына гняздзечка. Не выключана, што некаму здасца яно цёплай рукавічкай. На аснове адной гэтай метафары дзеці з дапамогай настаўніка могуць спачатку скласці загадку:

Што за рукавічкі пад страхою
Разглядалі ўчора мы з сястрою.

Чые пад страхой рукавічкі,
Шпака, вераб'я ці сінічкі?

а пасля і вершаваныя радкі:

У рукавічцы ластаўчыны дзеці
І не страшыць іх халодны вецер.

У рукавічках з гліны і пуху
Птушаняткам цёпла і суха.

Прывычнае, будзённае звычайнае параўнанне ўмее павярнуць так, што яно робіцца паэтычным, цікавым.

Пры рабоце з параўнаннямі можна выкарыстаць прыём «Думай пра іншае». Паслядоўнасць яго прымянення наступная.

1. На дошцы робіцца схематычны малюнак, напрыклад, кружок.
2. Выказваецца думка, на што гэты кружок падобны (мяч, шайба, сонца)
3. Называюцца 3—4 аб'екты, зусім не падобныя (лінейка, кракадзіл, сшытак).
4. Шукаецца падабенства непадобных (кракадзіл кусае сябе за хвост; лінейка хутка круціцца ў паветры; сшытак згарнулі ў трубачку).

Для фарміравання творчых уяўленняў і вобразнага мыслення вялікае значэнне набываюць практыкаванні гульнявога характару са словам.

Слова, якое запала ў душу чалавека, выклікае цэлы шэраг ланцуговых рэакцый, нараджае вобразы, асацыяцыі, ўспаміны, а ў спалучэнні з іншымі словам яно набывае сэнсава-выяўленчы змест.

Прывядзём некалькі практыкаванняў, прапанаваных дзіцячым пісьменнікам Джані Радары, іншымі аўтарамі і метадыстамі.

## «Камень, кінуты ў ваду»

Калі камень кінуць у ваду — усё пойдзе ў рух. Да гэтага ўсё жыло само па сабе, драмала. Камень ідзе ўніз, расштурхоўвае водарасці, пужае рыб, уздымае глей. Так і слова, якое запала ў галаву, — распаўсюджвае хвалі ў шырыню і ў глыбіню, выклікае ланцуговыя рэакцыі, асацыяцыі, уяўленне, мары. Слова ўступае ў самыя розныя спалучэнні. Для прыкладу возьмем слова КАМЕНЬ. Могуць прыйсці на памяць:

— асобныя словы, блізкія па гучанні;

— словы, што рыфмуюцца з КАМЕНЬ;

— словы, блізкія па значэнні (цэгла, мармур);

— успаміны пра былое: галька на моры; каменяпад; збіты палец; хто далей кіне камень…

Гэтае ж слова можна запісаць у слупок і каля кожнай літары напісаць новае слова. З гэтых жа пяці слоў можна паспрабаваць скласці сказ…

## «Біном фантазіі»

Думка ўзнікае часта з парных паняццяў. Пры гэтым важна, каб словы былі «не з аднаго поля» — далёка стаялі адно ад другога ў сэнсавых адносінах. Злучыўшы з дапамогай прыназоўнікаў такія словы як САБАКА і ДЗВЕРЫ, можна атрымаць наступныя варыянты:

*сабака за дзвярыма,*
*сабака на дзвярах,*
*сабака з дзвярыма,*
*дзверы ў сабакі.*

## «Што было б каб…» (варыянт прыёму «біном фантазіі»)

Бяруцца першыя, што трапляюць пад руку, назоўнік і дзеяслоў. Іх спалучэнне дае гіпотэзу.

*Брэст — лётаць*
*школа — плаціць, наліваць*
(Каб я быў вялікай самай і зубатай між акул…)

## Вольны прэфікс

Гэтае практыкаванне вучыць даследаваць магчымасці слоў, стымулюе моўную свабоду. У два слупкі запісваюцца пристаўкі і назоўнікі, якія пасля камбінуюцца:



*парасон — антыпарасон,*
*гіпапатам — мікрагіпапатам,*
*коўдра — максікоўдра.*

## Творчая памылка

Арфаграфічная памылка, калі да яе ўважліва прыгледзецца, можа стаць нагодай для мноства цікавых і павучальных гісторый:

*Пітон — бідон,*
*Аўтамабіль — атамабіль, адамабіль…*

## Казка наадварот

Для развіцця фантазійных уяўленняў і творчых здольнасцей карысны і такі прыём, як «казка наадварот». Праца гэтая даволі складаная. Дзеці звычайна прытрымліваюцца вядомага сюжэта толькі ў агульных абрысах. Заданне ж «наадварот» абавязкова патрабуе ўставак, дапаўненняў, зменнай канцоўкі. Такія казкі лепш складаць калектыўна, каб адразу спыніцца на больш цікавых варыянтах і тут жа іх адрэдагаваць. Галоўным рэдактарам-каардынатарам выступае настаўнік.

Прывядзём фрагмент урока чытання, на якім вучні складалі «казку наадварот». Урок праводзіўся ў сярэдняй школе № 15 Маскоўскага раёна горада Брэста.

— Усе вы добра ведаеце, — кажа настаўнік, — казку «Воўк і сямёра казлянят». Давайце яе крыху прыгадаем. Якім быў воўк? (злым, бязлітасным…) А казляняткі? (малымі, смешнымі, непаслухмянымі). Цяпер уявіце ўсё наадварот. Як жа памяняюцца падзеі ў казцы пасля таго, як мы пераставім герояў месцамі? Што здарыцца з ваўком, калі ён трапіць у рукі разбойнікаў-казлянят?

Змяшчаем вучнёўскі варыянт казкі, нязначна папраўлены ў стылёвых адносінах.

*У адным цёмным-цёмным лесе жыла каза са сваімі дзецьмі. Казлянят было сямёра — задзірыстых, шкадлівых, непаслухмяных.*

*Як толькі каза-маці зачыніла за сабою дзверы, казляняты адразу — шусь у лес. Задаволеныя, яны гойсалі па лесе, таптлі кветкі, пужалі звяроў і птушак. Раптам ім на вочы трапіўся Шэры Воўк. Ён мірна ляжаў, грэўся на сонейку і нікога не чапаў. Убачыўшы казлянят, воўк схаваўся пад куст і ад страху задрыжаў. Але казляняты знайшлі яго, выцягнулі з-пад куста за хвост, прывязалі да дрэва. Што тут пачалося! Казляняты вырывалі няшчаснаму ваўку поўсць, вусы. Воўк ад болю енчыў на ўвесь лес. Ад страху пахаваліся хто дзе лясныя жыхары.*

*А тым часам вярнулася дахаты маці-каза. Стала яна гукаць непаслухмяных дзяцей. Кінулі казляняты ваўка і пабеглі дамоў. Смачна павячэраўшы, яны пакладаліся спаць, зусім забыўшыся пра шэрага.*

*Бедны воўк застаўся прывязаны у лесе. Але ноччу з норкі вышмыгнула мышка і перагрызла вяроўку. Змарнелы, стомлены воўк падзякаваў мышцы і ўцёк у іншы лес.*

Блізкі да «казкі-наадварот» і такі прыём, калі некалькі герояў розных казак сустракаюцца ў адной: у дадзеным выпадку дзеці маюць магчымасць прапаноўваць самыя розныя варыянты працягу дзеяння, бо ў кожнага героя свой шлях, свае прыгоды.

Гэтае практыкаванне можна правесці і па-іншаму: дзецям даюцца апорныя словы з вядомай казкі. Дадаецца адно «лішняе слова». Напрыклад: дзяўчынка, лес, кветкі, воўк, бабуля, верталёт.

## Казкі ад слова «Чаму?»

Трэба растлумачыць, чаму звер, прадмет ці з'ява мае тую ці іншую ўласцівасць. Напрыклад:

*Чаму ў вярблюда горб?*
*Чаму ў моры вада салёная?*

Такія казкі складаюцца па плане:

— Даўным-даўно гэтай уласцівасці не было. Чаму гэта было дрэнна?

— Як з'явілася такая ўласцівасць?

— Як змянілася жыццё героя? Чаму гэта стала зручна?

## Гісторыі на аснове ТРВЗ (тэорыя рашэння выяўленчых задач)

Выбіраецца аб'ект. Апісваецца яго надсістэма. Для гэтага трэба адказаць на наступныя пытанні:

- Якія аб'екты акружаюць нашага героя?
- Каго ён любіць? Каго не?
- Якая надсістэма была ў героя ў мінулым, да таго, як ён трапіў сюды?

Пасля герой павінен трапіць у іншую надсістэму, дзе павінны праявіцца яго найлепшыя якасці.

*(Я — мабільны тэлефон. Мне непрыемна чуць, як гаспадар нясе мне ў вуха ўсякае глупства па дзве гадзіны запар. І тады, каб адпомсціць яму, я пачынаю лічыць хвіліны ў два разы хутчэй. А яшчэ мне не падабаецца, калі ў мяне тыкаюць пракураным пазногцем, калі пхаюць у маю памяць такія мелодыі, ад якіх у мяне шчокі чырванеюць, калі іх агучваю…)*

(Я — кавалачак крэйды…)

## «А што было потым?»

Дзецям прапануецца прадоўжыць вядомую казку. У сецiве можна знайсці працяг «Папялушкі». Пасля таго, як Папялушка выйшла замуж за прынца, яна не пазбавілася сваіх былых звычак: неахайная, у старой вопратцы, з мятлой. Надакучыла яна прынцу. Нават з сёстрамі яму весялей. Ды і мачаха маладжавая, фітнесам занялася… А што рабіў Бураціна з залатым ключыкам?

## Напісанне лімерыка

Лімерык — верш зададзенай структуры.

*Першы радок* — называе героя.

*Другі радок* — яго характарыстыка.

*Трэці і чацвёртыя радкі* — рэалізацыя выказніка.

*Пяты радок* — падкрэслена іранічны эпітэт. Можа быць неалагізм.

*Жыў на свеце хлопчык Віця.*
*Вельмі-вельмі працавіты.*
*Як сядзеў за партай ён,*
*Да паўдня лавіў варон.*
*Мудры і разумны Віця.*

*Жыў на свеце добры вожык.*
*Вожык быў непераможны.*
*Па дарожцы бегаў жвава.*
*Карыстаўся дрэннай славай.*
*Рэкецірам быў наш вожык.*

*Жыў на свеце чорт балотны —*
*Адзінокі і самотны.*
*Ён на купіне сядзеў,*
*На кікімар не глядзеў.*
*Мілы-мілы чорт балотны.*

## Складанне сінквейнаў

Сінквейн — верш зададзенай формы.

*Першы радок* — тэма (назва).

*Другі радок* — два прыметнікі.

*Трэці радок* — тры дзеясловы.

*Чацвёрты радок* — выраз з чатырох слоў, які паказвае нашы адносіны да тэмы выказвання.

*Пяты радок* — сінонім да назвы тэмы.

***1. Сарока***
*2. Балбатлівая, непаседлівая.*
*3. Стракатала, лятала, крычала.*
*4. Стракатанне белабокай — звычайныя плёткі.*
*5. Падманшчыца (манюка).*

***1. Хлеб***
*2. Цёплы, духмяны*
*3. Корміш, ратуеш, радуеш.*
*4. Смачнейшы за ўсе ласункі свету.*
*5. Жыццё.*

***1. Лябёдка***
*2. Прыгожая, чыстая.*
*3. Плаваеш, цешыш, супакойваеш.*
*4. Не ведаю больш велічнай птушкі.*
*5. Князёўна*

***1. Брэст***
*2. Старажытны, малады.*
*3. Жывеш, працуеш, будуешся.*
*4. Самы прыгожы горад маёй краіны.*
*5. Радзіма.*

## Шкляныя і драўляныя чалавечкі

З характэрных асаблівасцей персанажа можна вывесці яго прыгоды з пункту гледжання фантастычнай логікі ці проста логікі.

Хай героем будзе шкляны чалавек. Ён павінен будзе рухацца, знаёміцца і г. д. у адпаведнасці з матэрыялам, з якога зроблены. Аналіз матэрыялу (напрыклад, шкла) падкажа паводзіны героя.

*Шкло празрыстае* — значыць, можна чытаць думкі чалавека, заўважаць, калі ён гаворыць няпраўду.

*Шкло крохкае* — значыць сцены пакоя, дзе ён жыве, павінны быць абабіты нечым мяккім. Герою нельга паціскаць руку пры знаёмстве.

*Шкло можа быць каляровым* і г. д. (у энцыклапедыі пра шкло 4 стар.)

Калі персанаж драўляны (Бураціна), ён баіцца агню, не тоне; яго не з'есць рыба.

Калі персанаж алавяны… («Стойкі алавяны салдацік» Андэрсена)

## Незвычайнае ў звычайным

Камічны эфект атрымліваецца за кошт элемента нечаканасці і «адхілення ад нормы».

*Неяк раніцай ружовы гіпапатам зайшоў у магазін «Кветкі» і папрасіў прадаць яму самы вялікі кактус…*

## Матэматычныя гісторыі

Абыгрываюцца тэорыя адносасці (маленькі — вялікі, высокі — нізкі…)

*Жылі-былі маленькі слонік і вялікая муха. Вялікая муха смяялася са слоніка...*

*У аднаго багача было 30 аўтамабіляў. Людзі казалі: «У, колькі ў яго аўтамабіляў». На галаве ў яго было столькі ж валасоў. Людзі казалі: «Ха-ха-ха! Як мала ў гэтага чалавека валасоў!».*

Зыходным пунктам для гісторыі можа быць вымярэнне.

*Хлопчык раніцай памераў цень. Ён быў роўны 10 партфелям. Другі хлопчык гэта зрабіў аб 11 гадзіне. Цень быў роўны ўсяго 7 партфелям. Сталі яны спрачацца і ў 14 гадзін пайшлі мераць цень.*

## Казка-няказка

З казкі трэба зрабіць няказку і наадварот.

1. Дзеці глядзелі мульцікі. Пасля яны выключылі тэлевізар. …

2. Наступіла восень і з дрэў абляцела ўсё лісце. …

***1. Чароўныя пераўтварэнні***

*Уявіце, што наш клас зачаравалі, і ён ператварыўся ў лес. Чым стануць парты, крэсла (пянёк), шафа (мядзведзь)?*

*Наш клас — самалёт. Тады настаўнік — пілот; партфелі — парашуты…)*

***2. Прыдумай новую назву***

Паводле функцыі прадметаў, характару паводзін жывёл і істот ім даецца новая назва.

*Кракадзіл — плаваючы вастразуб.*

*Жырафа — цыбаты лістаед.*

Можна прыдумаць назвы неіснуючых жывёл: *воўжык (воўк+вожык), гагулін (галубка+паўлін), шасціногі каменняед…*

***3. Дзе можна выкарыстаць***

На дошцы запісаны «вынаходніцтвы». Трэба прыдумаць, якую карысць яны могуць прынесці.

*Грэбень, які пішчыць (калі бярэ чужы, калі не мылі галаву…)*

*Паслухмянае крэсла (падскоквае ў час уборкі, мяняе шырыню і вышыню, ходзіць за гаспадаром…)*

*Разумная дошка…*

***4. Павелічэнне-памяншэнне***

Можна выкарыстаць некалькі відаў практыкавання:

а) павелічэнне і памяншэнне аб'екта *(адна частка класа даказвае перавагу карлікаў, а другая — веліканаў);*

б) павелічэнне ці памяншэнне частак аб'екта *(нос — Карлік-нос; вушы — Чабурашка)*

в) узмацненне асобных рыс характару чалавека *(што будзе, калі ўсе людзі стануць вельмі-вельмі добрымі? злымі? пачнуць вельмі-вельмі многа спаць);*

г) змяненне якасцяў прадмета *(вельмі-вельмі галодны воўк; вельмі-вельмі гаваркі папугай; вельмі-вельмі ліпучы клей);*

***5. Хутка-павольна***

Вучні прагназуюць, што адбылося б калі:

*час замарудзіўся;*

*год быў як дзень;*

*калі б час спыніўся;*

*калі б час пайшоў у зваротны бок;*

*калі б дзед і ўнук памяняліся ўзростам…*

***6. Метад Рабінзона***

Існуюць некалькі варыянтаў практыкавання:

а) «парасон у Афрыцы»

Трэба прыдумаць новае, нечаканае прымяненне для прадмета:

*Парасон — галаўны ўбор для слана; гняздо для птушкі; парашут…*

*Капялюш — пускаць па вадзе; лавіць мух; паказваць фокусы; мераць авёс; даць пудзілу; цягнуць на вяроўцы; абмахвацца ў спёку…*

б) «баян для казы»

Трэба прыдумаць, як выкарыстаць непатрэбны прадмет.

*навошта вартаўніку клей;*

*навошта футбольны мяч садоўніку…*

***7. Прыём «Звязкі антонімаў»***

У левы слупок запісваюцца пары антонімаў, якія абазначаюць умову, у правы — уласцівасці. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *раніца — вечар* | *стары — малады* |
| *зіма — лета* | *смяецца — плача* |

Малодшыя школьнікі нават умову матэматычнай задачы ўяўляюць вобразна. Калі размова ідзе пра кухара ці гандляра, яны ўяўляюць гэтых людзей і іх дзеянні зрокава

Абмяркоўваецца сітуацыя, ў якой могуць праяўляцца дадзеныя ўласцівасці.

***8. Прыём прагназавання***

Методыка выкарыстання гэтага прыёму наступная:

а) выбіраецца аб’ект (бальніца);

б) абгаворваецца, што добрага і дрэннага ёсць у гэтым аб’екце;

в) прагназуецца будучыня гэтага аб’екта:

Тут магчымы 3 узроўні:

а) аб’ект пазбавіцца ўсіх недахопаў;

б) аб’екта не будзе, а яго функцыі будуць выконвацца іншымі (*камп’ютар і інш);*

в) не будзе аб’екта і яго функцыі стануць не патрэбны *(людзі перастануць хварэць).*

*Няма халадзільніка, самалёта, ручкі…*

## Работа па прыёме «Кіт і Кот» (Барыс Захадэр)

Методыка правядзення практыкавання наступная:

а) выбіраюцца два словы, падобныя па гучанні (варона — карона);

б) выбраныя аб’екты мяняюцца месцамі.

в) даецца тлумачэнне, як такое магло здарыцца.

Каб зразумець сэнс твора, вучань павінен паўтарыць — хоць і ў спрошчаным варыянце — шлях пісьменніка. А гэта немагчыма без наяўнасці ў яго вобразнага мыслення.

# КІРАЎНІЦТВА ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ТВОРЧАСЦЮ

Для таго, каб уступіць у дыялог з пісьменнікам, як найбольш поўна зразумець яго, юнаму чытачу неабходна самому пабыць аўтарам.

Творчыя здольнасці дзяцей фарміруюцца толькі пры мэтанакіраваным, сістэматычным кіраўніцтве.

Разгледзім некаторыя асаблівасці паэтычнай творчасці малодшых школьнікаў, заклікаўшы ў падтрымку ўласны вопыт кіраўніцтва літаратурным гуртком і літаратурныя крыніцы.

*Ці аднолькавая цікавасць да паэтычнай творчасці ў розныя гады?*

Не. Не аднолькавая.

Перыяд з 2 да 7 гадоў — гэта захапленне;

У 8—11 гадоў дзіця ахвотна слухае вершы і само іх чытае. Таму любоў да паэзіі лепш прывіць менавіта ў гэты час. У 13—14 гадоў зрабіць гэта цяжка, бо падлетак больш любіць прозу.

*У якім узросце пачыналі пісаць класікі?*

Па-рознаму.

Блок — у 5 гадоў;

Някрасаў — у 7;

Ясенін — у 9;

Ахматава — у 11.

Няма сувязі паміж захапленнем паэзіяй у дзяцінстве і ў дарослым жыцці.

*Ці шкодна пераймаць класікаў?*

Перайманне — непазбежная форма вучнёўства. Пераймаючы, аўтар-пачатковец узбагачае слоўнік. Але пераймаць трэба толькі добрыя ўзоры. «Пакуль ідзе станаўленне паэта, чужое адзенне часткова замяняе сваё. Але яно пачне перашкаджаць, як толькі голас дзіцяці ўзмоцніцца». Але пераймаць трэба толькі найлепшыя ўзоры.

*Ці можна пісаць калектыўныя вершы?*

Можна пісаць калектыўныя пісьмы, сачыненні ці нататкі. Але калектыўны верш — не. Нівеліруюцца творчыя магчымасці вучняў, не праяўляецца індывідуальнасць успрымання, у дзяцей складаецца перакананне, што пісаць вершы — лёгка і проста. Сапраўдная паэзія — справа індывідуальная, нават, можна сказаць, інтымная.

*Ці трэба пісаць вершы штодня?*

Штодзённае напісанне вершаў шкоднае. Гэта не адкрые сакрэтаў майстэрства, але навучыць рамесніцтву. А гэта губіць паэтычны талент. Гэтым паэт адрозніваецца ад музыканта, які павінен набіць руку.

У 1934 годзе ў Ленінградзе ў доме Дзіцячай літаратуры адкрыўся клуб для заняткаў з літаратурна адоранымі дзецьмі. Правілы прыёму былі наступнымі:

1. Членам клуба можа быць толькі той, у каго адзнакі па ўсіх прадметах не ніжэй чым «добра».

2. Члены клуба павінны штодня праводзіць на вуліцы не менш за 2 гадзіны.

3. Катэгарычна забараняецца чытаць свае вершы дзе-небудзь.

4. Пісаць толькі тады, калі хочацца.

*Пра што пісаць?*

Некаторыя раяць дзецям пісаць пра тое, што яны бачылі, чым захапляліся, у чым прымалі ўдзел. Але такая парада абмяжоўвае кола тэм, прызямляе дзіцячую творчасць. Лепш даць наступную параду: пішы пра ўсё, што цябе захапляе, што любіш і пра што хочаш сказаць вершамі.

Вучні, якія да школы выхоўваліся ў вёсцы, пішуць часцей за ўсё аб прыродзе.

***Восень-гарэза***
*Палі і лугі прыбрала,*
*Копы ў стагі паскідала,*
*Рэчку прымарозіла,*
*Рыбак замарозіла,*
*Лісця намяла,*
*А сама ўцякла. (Лена К. 4 кл.)*

***Ручаёк***
*Першы ручаёк бяжыць,*
*Першы ручаёк звініць.*
*З першым ручайком вас. (Наташа Ш.)*

Юныя творцы не могуць не фантазіраваць: яны так бачаць, адчуваюць, вераць у тое, пра што пішуць.

*Уначы на месячыку*
*Каталася жарабятка,*
*Распусціўшы грыву.*
*Зрабілася холадна,*
*І папрасілася малое:*
*— Здыміце мяне,*
*Пакладзіце ў ложак.*
*Хоць крыху сагрэюся, можа. (Алеся Н. 4 кл.)*

Дзіцячыя вершы «добрыя». Не памятаецца, каб дзеці пісалі пра цёмнае, пачварнае.

Часцей за ўсё падабенства прадметаў і з'яў, не падобных на першы погляд, заўважаюць мастакі, паэты і дзеці. Іх яднае асацыятыўнасць мыслення

***Сабачка***
*Рыжанькі, калматы,*
*Смешненькі такі.*
*— Падыдзі, не бойся,*
*Да маёй рукі.*
*Прынясу прысмакаў,*
*Малака папіць…*
*Да мяне прывыкнеш,*
*Будзеш з намі жыць. (А. Яноўская)*

Паэты-пачаткоўцы тонка адчуваюць гумар. Хочацца па-добраму ўсміхнуцца, чытаючы верш другакласніцы Ані П.

*Адпачынку — ні мінуты:*
*Школа, музыка, камп'ютар,*
*Магазін, урокі, кошка,*
*Пагуляць хачу хоць трошкі…*
*І сама здзіўляюся,*
*Як з усім спраўляюся.*

Шчымлівае пачуццё не пакідае які час пасля знаёмства з вершам чацвёртакласніцы Алесі Н., якую выхоўвае адна мама.

*Ноччу дожджык ціха капаў,*
*Ноччу мне прысніўся тата.*
*Быў з калючай барадой,*
*Пахнуў дымам і смалой.*
*Ён прыедзе, ён раскажа,*
*Дзе хадзіў, як жыў без нас.*
*А пасля мяшок развяжа,*
*Што з дарогі той прыпас.*

Дзеці спяшаюцца. Такая асаблівасць іх псіхікі. Няма падстаў стрымліваць дзяцей, іх трэба разумна папраўляць, даходліва пераконваць, што над закончанай «крываножкай» (дзіцячым вершам) неабходна яшчэ папрацаваць.

*Ці трэба паказваць некаму свае вершы?*

Творцу неабходны выхад у свет рэальны. Толькі ў гэтым свеце створанае мастаком выканае сваю звышзадачу, судакрануўшыся з духоўным светам іншых людзей.



*У чым галоўнае адрозненне дзіцячай вершаванай творчасці і творчасці дарослых паэтаў?*

Лепшыя дзіцячыя вершы напісаны ў хвіліны натхнення. Калі дарослы здольны сілай майстэрства і працай давесці верш да дасканаласці, то дзіця не. У дзяцей няма майстэрства, а апрацоўка і перапрацоўка даецца з цяжкасцю. Чым меншыя дзеці, тым больш пацвярджаецца гэтае правіла.

*Ці патрэбна дзецям тэорыя вершаскладання?*

Ёсць анекдот пра сараканожку, якую запыталі, як яна перастаўляе ногі. Яна пачала тлумачыць і не зрабіла ніводнага кроку. Так і тут. Дзеці пачынаюць вывучаць тэорыю — і перастаюць пісаць. Ніякай неабходнасці ў тэорыі няма. Вершаваны памер дзеці засвойваюць не з кніг і лекцый настаўніка, а дзякуючы прыроднаму слыху і здольнасці пераймаць узоры паэзіі.

Найлепшы спосаб авалодаць метрыкай — чытаць як мага больш вершаў, непадобных памерам.

Няпраўда, што калі чалавек захоча што-небудзь напісаць, то яму нішто перашкодзіць не можа. Гэта не значыць, што дзецям трэба ствараць выключныя ўмовы ў сям'і, але з гэтым трэба лічыцца

Не адрозніваючы ямба ад харэя, дзеці складаюць выдатныя вершы ямбам і харэем.

*Ці шкодна друкаваць дзіцячыя вершы?*

У самім факце публікацыі шкоды няма. Усё шкоднае можа быць звязана толькі з пабочнымі акалічнасцямі. Дарослым нельга казаць: «Магчыма, ён не стане паэтам», а яшчэ горш: «Дасягнуў вялікага майстэрства».

Ранняе друкаванне не шкодна, калі:

— вершы таленавітыя, самабытныя, уяўляюць сабой паэтычнае адкрыццё свету;

— вершы не папраўлены рукою дарослага;

— прадмова да вершаў напісана з пачуццём такту;

— гэтаму не перашкаджаюць заключэнні педагагічнага характару, што маюць дачыненне да самога аўтара і яго акружэння.

*А. Пушкіну было 15 гадоў, калі ў «Вестнике Европы» з'явіўся яго першы друкаваны твор , пасланне «К другу стихотворцу» (1814 год, № 13, Александр Н.к.ш.п.)*

*Зборнік «Стихи детей» з прадмоваю С. Маршака выйшаў у Ленінградзе ў 1936 годзе (300 экз.)*

*Ці шкодна папраўляць дзіцячыя вершы?*

Так. Праўка дарослага ў 99 % выпадкаў робіць дзіцячыя вершы горшымі, надае неўласцівыя ім інтанацыі.

*Якія ж бачацца магчымасці выхаду дзіцячых твораў «на людзі»?*

Гэта могуць быць выступленні перад бацькамі на ранішніках, насценны друк, школьная радыёгазета, дзіцячыя перыядычныя выданні.

*Якія задачы літаратурнага гуртка ў школе?*

Такі гурток павінен быць найперш чытацкім і ставіць перад сабой самыя шырокія эстэтычныя задачы. Такі гурток добры тым, што маецца найлепшае літаратурнае асяроддзе. У літаратурным гуртку павінны быць не толькі адны паэты. Карысна, калі будуць у ім і людзі, якія не пішуць. Тады гэта будзе гурток не для выбраных, а для ўсіх тых, хто цікавіцца літаратурай. Не абавязкова пытацца ў дзяцей, ці пішуць яны вершы. Паэтам і празаікам у такіх гуртках не павінна быць аніякіх прывілей. Можа быць і так: сёння дзіця не піша вершы, а заўтра пачне.

Пасля кожных заняткаў гуртка ахвотныя паказваюць кіраўніку свае вершы. Кіраўнік гаворыць аўтару ўсё, што думае. Па дамоўленасці 1—2 разы на год аўтар можа прачытаць свае творы на занятках. Сябры выкажуць наконт іх свае думкі.

Лепшыя творы адбіраюцца для часопіса. Мастакі-ілюстратары зробяць да іх малюнкі. Настаўніку застанецца толькі ажыццявіць агульнае кіраўніцтва.

*У ШКІДе, дзе было 60 выхаванцаў, выходзіла 60 часопісаў розных напрамкаў.*

*Л. Талстой у 7 гадоў выпускаў часопіс «Детские забавы» (1 нумар). Ён апісаў 7 відаў птушак. «Орёл. Орёл, царь птиц. Говорят о нём: что один мальчик стал дразнить его. Он рассердился на него и заклевал его».*

*Пушкін у ліцэі ўдзельнічаў у выданні часопіса «Неопытное перо», часопіса «Пловец» і часопіса карыкатур.*

Калі гаварыць пра назвы часопісаў мінулага, то яны часам былі вельмі цікавымі: «Чёрт знает что», «Кочерга», «Самовар», «Ку-ка-ре-ку», «Всё что попало», «Пеликан»…

*Дзе пісаць вершы?*

Кожная разумовая праца, калі рабіць яе сумленна, патрабуе абсалютнай сканцэнтраванасці. Паэтычная — у тым ліку. Вершы складаюцца і па дарозе з школы, і ў лесе, і ў аўтобусе, і на ўроку, але часцей за ўсё — дома. Павінна быць любімае месца, да якога чалавек прывыкае, яго настройванне на рабочы лад. Няпраўда, што калі чалавек захоча што-небудзь напісаць, то яму нішто перашкодзіць не можа. Гэта не значыць, што дзецям трэба ствараць выключныя ўмовы ў сям'і, але з гэтым трэба лічыцца. Не варта трывожыць дзіця, патрабаваць, каб яно адклікалася тут жа, калі яно сканцэнтравана на працы. Не заўсёды можна вярнуцца да перапыненай думкі.

*В доме шумно, душно,*
*Выплеснуто зло.*
*Всё так равнодушно*
*К смыслу чудных слов.*
(Дзіцячыя вершы)

Які ж сэнс дзіцячай літаратурнай творчасці, бо зразумела, што далёка не кожны юны талент знойдзе сабе месца ў вялікай літаратуры?

Па-першае, літаратурная творчасць паглыбляе і пашырае спасціжэнне свету, напаўняе эмоцыямі жыццё, узбагачае пачуцці дзяцей.

Па-другое, яна дапамагае авалодаць такім багаццем, як нацыянальная мова — гэтым найдасканалым інструментам фарміравання і перадачы чалавечай думкі, пачуцця, унутранага свету.

Па-трэцяе, дзіцячая літаратурная творчасць дапамагае рыхтаваць чытача, фарміраваць яго чытацкія ўменні. Яна — адна з абавязковых умоў падрыхтоўкі чытача-сатворцы, суразмоўцы пісьменніка, здольнага паўнавартасна зразумець і асэнсаваць твор мастацтва.

Літаратура

1. Брыль Я. Збор твораў: У 4 т. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1968. — Т. 4. — С. 3—188.

2. Выготский Л.С. Психология искусства. — М.: Искусство, 1968 .— С. 313.

3. Левин В.Д. Воспитание творчества. — Томск: «Пеленг», 1992. — 56 с.

4. Сухомлинский В.А. Сердце отдаю детям. — Минск.: Народная асвета, 1982. — 288 с.

5. Лазарук М.А. Навучанне і выхаванне творчасцю: Педагагічныя роздумы і пошукі. — Мінск: Народная асвета, 1994. — 200 с.

**Айцец Аляксандр (Богдан)**

# Споведзь. Што пра яе вядома?

## Артыкул і трошкі слоўнік



Руская Праваслаўная Царква мае традыцыю абавязковай споведзі перад прычасцем. Традыцыя вельмі добрая. Толькі важна за сабою сачыць, каб споведзь не ператварылася ў нешта накшталт КПП да наступнага Таінства.

Споведзь — гэта Таінства, якое заключаецца ў шчырым пакаянні і прызнанні здзейсненых грахоў. Само слова «споведзь» паходзіць ад злучэння «с-» (з, з сябе, то бок, пра ўнутранае, асабістае, таемнае) і «-поведзь» (аповед).

У наш час спавядаюцца перад святарамі. А першыя хрысціяне спавядаліся перад абшчынай. Чалавек распавядаў пра свае грахі, яго слухалі ўважліва, з разуменнем і шкадаваннем. А пасля ўсе маліліся Богу, каб дараваў Ён таму, хто пакаяўся. Традыцыя спавядацца толькі святару з'явілася прыкладна ў IV стагоддзі, калі хрысціянства было прызнана законным і абвешчаным дзяржаўнай рэлігіяй. Новую веру пачалі прымаць не толькі з-за шчырай перакананасці, але і дзеля асабістых выгод. Менавіта з-за людзей, якія так рабілі, абшчыны страцілі сваю з'яднанасць, братэрскі дух. Спавядацца «адкрыта» стала немагчымым, бо не было ўпэўненасці, што сустрэнеш разуменне з боку ўсіх членаў абшчыны. Тады і было прынята рашэнне спавядацца толькі святару.

Часам можна пачуць: «Пайду на споведзь каяцца». Які сэнс у гэтай фразе? Шмат хто лічыць, што каяцца — гэта прагаворваць перад святаром свае грахі. Аднак гэта не зусім так. Слова «пакаянне» мае грэчаскае паходжанне і азначае перамену розуму. Мяркуйце самі: калі чалавек, учыніўшы грэх, забудзецца на яго і толькі праз нейкі час (перад «паходам» на споведзь) пра яго ўспомніць, то няўжо адбудзецца перамена розуму? Па сутнасці, пакуль мы дойдзем да споведзі, грэх наш павінен быць шмат разоў прааналізаваны і аплаканы, мы павінны адчуваць глыбокае шкадаванне і роспач ад зробленага, у нас павінна ўзнікнуць цвёрдае жаданне ніколі не паўтарыць гэты грэх. Вось у чым «перамена розуму».

Цяпер многія ідуць на споведзь, не ўсведамляючы толкам, што азначае слова «грэх». З грэчаскай мовы яно пе-

Айцец Аляксандр (Богдан)

ракладаецца як траплянне міма цэлі. Кожны чалавек мае нейкую мэту ў жыцці, дасягнуць якой увесь час імкнецца. Для некаторых людзей такой мэтай робіцца матэрыяльнае багацце, або папулярнасць, або ўлада, кар'ера… Для веруючага чалавека мэта ўсяго яго жыцця — імкненне да Бога, набліжацца да Якога можна бясконца. А калі жыццё праходзіць міма асноўнай мэты, мы грашым. Атрымліваецца, што грахом можа быць учынак, слова, пагляд, думка, бяздзеянне. Сваімі грахамі мы не проста зневажаем Бога, але і зноў Яго распінаем.

Часам сустракаюцца людзі, якія саромеюцца спавядацца. «Што падумае пра мяне бацюшка, калі я яму ўсё раскажу?» — хвалююцца яны. Ім хочацца трапіць на споведзь да незнаёмага святара, каб было не так сорамна. А ўсё таму, што не ведаюць: гаворым мы пра свае грахі не святару, а Самому Богу! Для таго і кладзецца перад намі Евангеллe і Крыж, каб мы глыбей гэта ўсведамлялі. Святар — гэта толькі сведка, але не той, што бывае ў судзе, а такі, як на вяселлі. Пагадзіцеся, што на ўласнае вяселле ў якасці сведкі мы запрашаем лепшага сябра — каб ён засведчыў радасную падзею ў нашым жыцці. Так і святар на споведзі — сведчыць пра наша прымірэнне з Богам, бо споведзь і ёсць Таінства прымірэння з Богам.

Часам людзі хаваюць на споведзі які-небудзь грэх. Бо баяцца, што бацюшка некаму ды расскажа. Баяцца гэтага нельга. Згодна з царкоўным правілам, святар ні пры якіх умовах не можа раскрываць пачутае на споведзі. Правіла гэтае настолькі важнае, што ўлічваецца нават свецкімі законамі. Святар, напрыклад, не можа выступаць як сведка ў судзе, калі акалічнасці злачынства былі высветлены ім на споведзі. Калі ж святар раскрые грэх таго, хто спавядаўся, нават ненаўмысна, то па царкоўных канонах яму забараняецца служэнне на тры гады, і кожны дзень ён павінен будзе класці па сто зямных паклонаў.

Не варта хаваць грахі і з-за сораму. Даведаўшыся пра нейкую нашу слабасць, святар не пачне пра нас дрэнна думаць і сваё стаўленне да нас не пераменіць. Наадварот, за нас «лішні» раз памоліцца.

На працягу жыцця мы спавядаемся не аднойчы, таму ўзнікае натуральнае пытанне: наколькі часта трэба спавядацца і ці трэба наогул, калі ведаеш, што грашыць не перастанеш? Адкажу спачатку на другую частку пытання. Упэўненасць у тым, што мы будзем працягваць грашыць, не павінна нас бянтэжыць. Мы ж не адмаўляемся хадзіць у душ толькі таму, што зноў будзем бруднымі.

А цяпер наконт перыядычнасці споведзі. Многія лічаць, што да Таямніцы споведзі трэба падыходзіць толькі перад Прычасцем. Такое меркаванне склалася невыпадкова. Яно мае гісторыю. У эпоху Пятра Першага многія людзі пачалі падыходзіць да Чашы без патрэбнага духоўнага трапятання і без асаблівай пашаны, то бок, успрымалі як простую фармальнасць. Напрыклад, пры ўладкаванні на працу чалавек павінен быў прад'явіць даведку, што ён прычашчаўся, і людзі ішлі на Таінства толькі дзеля такой даведкі. Каб неяк змяніць сітуацыю, царкоўнае святаначальства прыняло рашэнне ўвесці перад прычасцем абавязковую споведзь.

На самай справе трэба памятаць, што Споведзь і Прычасце — абсалютна самастойныя Таінствы. Ісці на Таінства пакаяння можна часцей, чым прычашчацца. Споведзь можа быць здзейснена ў любы час дня і ночы, пры гэтым не трэба трымаць пост ці адмаўляцца ад ежы наогул. Галоўнае — правільна настроіцца і ўсвядоміць усю важнасць Таінства. Не абавязкова пасля споведзі ісці прычашчацца. Няправільна прымаць Прычасце за працяг ці завяршэнне Споведзі.

У Царкве новаму чалавеку шмат да чаго трэба дарасці. Калі чалавек ідзе на споведзь упершыню, ён можа нават не ўяўляць ні пра якую перамену розуму. І можа так здарыцца, што першая споведзь стане для яго першай сустрэчай і размовай са святаром. Хоць, канешне, калі ёсць жаданне проста пагутарыць з бацюшкам, лепш дамовіцца пра гэта загадзя і выбраць час, зручны для абодвух. Словы, якія мы пачуем ад святара, дапамогуць нам правільна падрыхтавацца да споведзі. І былі выпадкі, калі пасля споведзі людзі прымалі рашэнне цалкам перамяніць жыццё.

**Андрэй Сідарэйка**

# Апошні гудок

## Імпрэсія

На дварэ стаяў люты.

За акном ліў дождж.

Звычайны, восеньскі.

Не сядзець жа дома з-за непаразуменняў прыроды! Я захапіў парасон.

На вуліцы агледзеўся. Па дарозе ішла пахавальная працэсія.

«Вось і ўсё, — падумалася. — Яшчэ адна кніга Жыцця скончана. У ёй напісаны апошні сказ і пастаўлена кропка. Родным і блізкім трэба толькі завяршыць пасляслоўе».

Я ўспомніў: не так даўно з жыцця пайшоў вядомы рэжысёр. Кажуць, перад сыходам ён перагледзеў свае фільмы. Мабыць, для яго было важна нанова прайсці жыццё, ацаніць зробленае, пакінутае нашчадкам.

Нябожчык не быў выдатнай асобай. Усяго толькі адзін з жыхароў невялічкага гарадка. Для кагосьці ён быў самым важным чалавекам на ЗЯМЛІ, для кагосьці — звычайным знаёмым, не больш...

Але ў адзін момант яго цягнік пад’ехаў да апошняй станцыі. Апошні гудок прагучаў, і колы жыцця спыніліся.

Я ўсё далей і далей ад гэтага месца.

Праз некаторы час я апынуўся каля чыгуначнай станцыі. Зайшоў у прыдарожную кавярню, сеў за столік, папярэдне ўзяўшы гарачай кавы. У такое надвор’е яна дарэчы.

За акном чуліся гудкі прыбываючых цягнікоў. Дыктар аб’яўляў пра пасадку і адпраўку лакаматываў у шлях.

…Мой цягнік ужо ў дарозе. Год ад года ён прыбывае да чарговай станцыі, пакідаючы ўспаміны пра тое, што я бачыў за гэты час. Ужо пройдзены не малы маршрут, а мне здаецца, што цягнік адправіўся ў шлях толькі ўчора. Таму што ў закутках памяці — толькі іскрынкі імгненняў.

У маім купэ — блізкія людзі. З імі мне ехаць па адных рэйках жыцця.

У іншых — суседзі, таварышы, калегі, незнаёмцы, з якімі я сутыкаюся ў агульным калідоры.

Мы ўсе жывём сваім жыццём, ідэямі і памкненнямі. Але ў пэўны час выходзім з купэ па патрэбах.

Калі б я быў мастаком, я б намаляваў зямны шар у выглядзе велізарнага лакаматыва, які рухаецца сярод зорак па рэйках часу.

У кожным вагоне знаходзіліся б людзі розных нацыянальнасцяў. Усе былі б шчаслівыя. У свядомасці пасажыраў гарэлі б агнём яркія ўспаміны ад пройдзенага за дзень маршруту.

Быць можа, мы спаткаліся б з іншымі жыхарамі Сусвету.

На сваім астэроідзе нас сустрэў бы Маленькі прынц. Ён пазнаёміў бы нас са сваёй ружай. Паказаў бы баранчыка, які спіць у каробачцы.

Разам з ім мы пазнаёміліся б з іншымі безназоўнымі планетамі і іх жыхарамі. Мы б з ім любаваліся заходамі сонца. Напэўна, у любым пункце Сусвету яно аднолькава цудоўнае!

…То заходзілі, то выходзілі людзі. Праз некаторы час я таксама падняўся і выйшаў.

Вакзал працягваў жыць сваім жыццём, а я — сваім. Добра разважаць на староннія тэмы, але час вяртацца да паўсядзённых спраў.

Я ішоў дадому той жа дарогай. І думаў пра тое, што гэтаму населенаму пункту ўжо некалькі стагоддзяў. І што па гэтай дарозе, як я цяпер, дзвесце ці трыста гадоў таму таксама хадзілі людзі. Яны жылі гэтак жа, дыхалі тым жа паветрам, і ў іх былі свае памкненні і клопаты. Разам яны будавалі гэтыя дамы і ўкладвалі гэтыя дарогі. І цяпер мы, нашчадкі, ходзім па іх дарогах, жывём у пабудаваных імі дамах.

Наша пакаленне таксама пакіне часцінку сябе. Быць можа, будучыя жыхары будуць успамінаць пра нас з гонарам.



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

З могілак вярталіся людзі. Яны пакінулі там таго, хто яшчэ зусім нядаўна падзяляў іх памкненні.

Апошні гудок прагучыць для кожнага. Але пакуль лакаматыў у дарозе, трэба імкнуцца жыць так, як падказваюць свядомасць і сэрца.

Я ўвайшоў у свой дом.

За акном ішоў дождж.

Звычайны, восеньскі.

Быў люты.



**Іераманах Агапій (Голуб)**

# Асуджэнне
## Урок і хатняе заданне

Калі я пачаў сачыць за тым, колькі месца ў маіх думках і размовах займае асуджэнне, мне зрабілася не па сабе. Тое ж я заўважаю і ў іншых. Аказваецца, асуджэнне, у тым ліку і плёткі, — лепшы сродак для падтрымання размовы, калі няма іншых тэм. Апошняе, канечне, звязана з узроўнем развіцця асобы. Але ў цэлым асуджэнне пранікае ў свядомасць і мову, як у цела трапляе пыл, падняты ветрам на прасёлачнай дарозе ў спякотны летні дзень. Або як тытунь у курыльшчыка. І я разумею, што жыць без асуджэнняў папросту не магу.

А з асуджэннямі ж можна працаваць — каб паменшыць сваю залежнасць ад іх і завалодаць большай унутранай свабодай. Для гэтага падыдзе той самы алгарытм, што і для працы з крыўдамі (гл. папярэдні нумар «М»): усведамленне схільнасці да асуджэння — жаданне пазбавіцца ад яе — пошук прычын — прапісванне — малітва — адкрыццё сябе іншым — споведзь.

У якім выпадку я асуджаю чалавека? Калі бачу яго ўчынкі і дзеянні, якія, *у маім разуменні*, не адпавядаюць нармальным маральным прынцыпам.

А хто сказаў, што гэты чалавек павінен адпавядаць маім поглядам? Ён такі, які ёсць. У яго свае пагляды на этыку, рэлігію, мараль. Вельмі нават верагодна, што я таксама «не ўпісваюся» ў яго разуменне правільных паводзін.

Такім чынам, я пачынаю асуджаць чалавека, значыць, я лічу, што ён павінен адпавядаць маёй «сістэме каардынат». Значыць, мне б хацелася неяк яго «перакроіць». А навошта мне гэта патрэбна? Мо для зручнасці — каб свет круціўся вакол мяне?

А мо я лічу, што нейкім чынам нясу адказнасць за паводзіны таго чалавека? Іншымі словамі, лічу што яго трэба «перавыхаваць», мне хочацца яго кантраляваць, але пры гэтым я не маю на яго ўплыву. Мая патрэба ў кантролі над ім застаецца нерэалізаванай, цісне на мяне, ствараючы дысфункцыі, і тады асуджэнне выступае ў якасці кампенсаторнай функцыі. У канчатковым выніку асуджэнне робіцца навязлівай патрэбай, да яго фарміруецца цяга — як да наркотыка.

А вось яшчэ прычына асуджэння — калі мне хочацца «схавацца ад сябе», ад уласных грахоў і ўчынкаў, за якія мне сорамна, але за якія я не гатовы каяцца. Сюды ўключана і самаедства: колькі разоў абяцаў сам сабе, а вось жа… І каб сысці ад самаабвінавачванняў, каб «апраўдаць» свой грэх, я пачынаю асуджаць учынкі і грахі бліжніх. Царкоўнага кіраўніцтва, святароў, прэзідэнтаў, супрацоўнікаў міліцыі — тых, хто павінен, на маю думку, стаяць на пэўнай маральнай вышыні, падаючы прыклад «пастве». Гэта дазваляе паменшыць значнасць уласных грахоў («калі б я быў святаром, я вёў бы сябе іначай»). У дадзеным выпадку асуджэнне — гэта абязбольванне параненага самалюбства, якое не жадае мірыцца з фактам маральнага падзення і проста прынесці пакорлівае пакаянне.

А яшчэ можна асуджаць нечую страсць перад слухачамі — каб ніхто не западозрыў, што і ў мяне самога схільнасць да такой страсці ёсць.

Можна ў кампаніі знаёмых высмейваць нечае абжорства — каб адвесці нават магчымасць падазрэння ў тым, што і я па начах крадуся да халадзільніка.

Наступная прычына асуджэння — роднасная з папярэдняй: калі я ў чалавеку заўважаю нейкія рысы, уласцівыя мне самому, але не хачу прызнаваць і прымаць іх наяўнасць. Напрыклад, чалавек сквапны. Ён саромеецца гэтага і «пераломлівае» сябе — удзельнічае ў дабрачынных справах, робіць іншым падарункі і ў канчатковым выніку «пераконвае» сябе, што ён абсалютна шчодры. Хоць уся гэтая дабрачыннасць не дае яму ўнутранай радасці. І вось ён сустракае іншага бізнесмена, які адкрыта «жыве для сябе» і нават марожанае пляменніку не купіць. І ў душы першага ўзнікае асуджэнне — «ды як жа ён так можа?!» Гэтае асуджэнне здольнае захапіць чалавека цалкам, ён можа нават засынаць з думкамі толькі пра гэта. Паводзіны іншага не будуць даваць спакою, пакуль не адбудзецца «перасячэння» ў жыцці. Або пакуль наш «вязень намераў» не ўсвядоміць, што яго навязлівы стан звязаны з тым, што той, другі, проста «люструе» яму свае страсці, прыгнечаныя, але не вылечаныя.

Ці, скажам, я буду асуджаць свет за грахі блуду — не таму, што я прывязаны да «прарочага» служэння, а таму, што сам хацеў бы мець сексуальныя адносіны, але мае бацькі — пурытане. Яны з дзяцінства «ўбілі» у мяне, што ўсё, што звязана з полам, — грэшнае, і я так глыбока падавіў у сабе здольнасць да пабудовы здаровых сексуальных стасункаў, што жыву вымушаным «аскетам». Толькі вось унутры ад гэтага вельмі некамфортна. Я адчуваю сябе ўшчэмленым. І мая асабістая няздольнасць пабудаваць адносіны з процілеглым полам з мэтай стварэння нармальнага шлюбу вядзе да таго, што я ненавіджу ўсё, што звязана з полам… Дарэчы, такія станы з'яўляюцца адной з прычын неўрозаў. Задача пастыра ці хрысціянскага псіхатэрапеўта ў такой сітуацыі — дапамагчы выявіць наяўнасць унутранага канфлікту, прыняць існаванне ўва мне гэтых страсцяў або ілжывых «табу». Але не прызнаваць іх за норму, як гэта часта робіць ліберальная псіхатэрапія, а прыйсці (пасля прызнання) да поўнага вылечвання, то бок, усталявання цэласнасці.

Далей — зайздрасць. Я асуджаю чыноўніка (бізнесмена, святара), які жыве ў суседнім пад'ездзе, за тое, што ён ездзіць на новай дарагой машыне, рэгулярна адпачывае на прыродзе з шашлыкамі, п'е «Марціні» — а тут жа вось людзі пакутуюць ад інфляцыі, не могуць сабе дазволіць дзяцей у аквапарк звадзіць… На самай справе, я не пра галодных дзяцей клапачуся, а сам мару так жыць. І гэты сусед «рэжа» мне вочы сваім існаваннем побач са мной, нагадваючы, што я «няўдачнік» — толькі на «Жыгулі» здолеў зарабіць. І замест «Марціні» п'ю танную гарэлку… Але прызнацца ў тым, што не маю такіх здольнасцей для бізнесу, а таксама ў наяўнасці элементарнай зайздрасці — не хочацца. Не хочацца быць чэсным перад сабой. І па прынцыпе громаадводу комплекс няўдачніка я пераводжу ў асуджэнне.

Наступная прычына — няўменне вызначыць і выказаць уласныя праблемы, патрэбы, пачуцці. Я глухі да сябе — і таму хачу, чакаю ад іншых таго, чаго не магу выказаць, папрасіць наўпрост. А паколькі ніхто і не здагадваецца, што мне патрэбна, дык натуральна, што мая патрэба застаецца нерэалізаванай, і я пачынаю крыўдаваць і асуджаць: вакол мяне, маўляў, чэрствыя людзі. Так жонка можа асуджаць мужа за праседжванне гадзінамі перад тэлевізарам, у той час як праблема не ў гэтым, а ў тым, што яна прагне яго ўвагі — каб ён абняў яе, сказаў «кахаю». Але няма ў яе навыкаў сачыць за сваім станам і фармуляваць патрэбы, вось яна і не здольная папрасіць пра гэта. Вось і абвінавачвае яго ў захапленні футбольнымі матчамі. І тады гэтай крыўдай на мужа дзеліцца ў фармаце асуджэння з сяброўкай, якая мае такую ж сітуацыю.

Ёсць яшчэ адна прычына крыўдаў і асуджэнняў, пра якую варта пагаварыць асобна.

Яны ўзнікаюць у якасці рэакцый на пагрозу маёй бяспецы, майму ўнутранаму свету. Рэакцыі на небяспеку, ад якой я не ведаю як абараняцца.

Прыклад. Побач са мною ёсць асоба з аўтарытарным тыпам характару, нашмат больш

моцная за мяне псіхалагічна — нехта з бацькоў, або сусед па пакоі ў інтэрнаце, або напарнік на працы. Ён мяне падаўляе, маніпуліруе мною — і я адчуваю сябе абсалютна бездапаможным, як трусік перад удавам. Мо ён, калі назіраць збоку, ніякай шкоды мне не ўчыняе, але яго пастаянныя кпіны з маіх недахопаў, яго рэгулярныя павучанні пра тое, як сябе паводзіць, як жыць і з кім сябраваць, яго паўгадзінныя тэлефонныя размовы (якія я не магу прыпыняць) у самыя нязручныя моманты — прымушаюць мяне адчуваць сябе перад ім проста дзіцёнкам… Маё самалюбства разам са злосцю кіпяць, але я пры гэтым магу толькі ўвагнуць перад ім галаву. І тады ўва мне расце смяротная крыўда, якая ператвараецца ў паталагічную нянавісць. У галаве ідзе вечная спрэчка з гэтым Іванам Васілевічам ці гэтай Марыяй Піліпаўнай. Я яму «пра сябе» нешта даказваю, імкнуся апраўдацца. Раз за разам круцяцца думкі: ды як жа ён так можа? Ды няўжо ён не бачыць, што творыць сваімі дзеяннямі?.. З гэтымі «спрэчкамі» і думкамі я магу засынаць. Прачынаюся — і як толькі ўспомню, што сёння мне зноў з ім сустракацца, дык смутак, трывога і крыўда адразу мяне агортваюць… Хто не ведае такі стан? У каго ў жыцці не было ці няма такіх І. В. і М. П.?

Паўтару: гэты стан авалодвае мною тады, калі я не магу, а дакладней, не ведаю, як усталяваць межы для парушальніка маёй бяспекі. Што тады адбываецца? Я ствараю ў сваім мозгу вобраз гэтага парушальніка — і накіроўваю на яго свае гнеў і крыўду. Калі я буду вінаваціць сябе за такі стан, даваць сабе абяцанні весці сябе іначай (але ж рэсурсаў на такія змены ў мяне пакуль няма), калі я буду проста падаўляць свае адчуванні — мая асоба будзе разбурацца. А таксама вось што адбудзецца: я сам пачну «зрывацца» на слабейшых: жонку, дзяцей, ката…

Шчыра кажучы, я не ведаю, чым тут можа дапамагчы святар. «Маліся і цярпі» не працуе. І сам быў бы рады цярпець, ды толькі замест сапраўднага цярпення атрымліваецца «набор ціску ў катле», і яшчэ невядома, дзе і калі «рване».

Я бачу тут неабходнасць звяртацца да псіхолага-псіхатэрапеўта, з чыёй дапамогай я змагу акрэпнуць і ўзвесці тыя межы сваёй асобы, якія не здолее парушыць сусед. Мне трэба навучыцца гаварыць «не». У мяне самога гэта не атрымаецца. А вось навучанне — дапаможа. Трэба толькі захацець.

Другі прыклад. Дырэктар арганізацыі ўводзіць жорсткія правілы паводзін і кантроль над іх выкананнем. І гэтыя правілы пазбаўляюць мяне свабоды выказваць сваё меркаванне, магчымасці эмацыянальна адпачываць, скажам, за кубачкам кавы з калегамі. Я адчуваю, што мяне з маім калектывам хочуць «прыціснуць». Пачынаюцца «адсочванні» і даносы, праверкі сталоў і кабінетаў. Атмасфера — цяжкая. Але пры гэтым я не магу звольніцца, як і звярнуцца ў вышэйшыя інстанцыі — там гэты кіраўнік лічыцца добрым. Ды і як патлумачыць праблему? Фармальна ж ён ніякіх злачынстваў не здзяйсняе, паўнамоцтваў не перавышае… Як патлумачыць некаму «зверху», што міміка, тон, жэсты майго дырэктара нясуць флюіды страху, агрэсіі, недаверу? Што ён не адкрыты для абмеркавання працоўных пытанняў, а патрабуе бездакорнага выканання, а ў выпадку няўдачы — заўсёды ўмее павярнуць справу так, што я апынаюся вінаватым?

І вось, як «спуск пары», з'яўляецца бар, дзе з прыяцелямі і калегамі я магу перамыць косткі гэтаму кіраўніку…

Што рабіць у такой сітуацыі? Чэсна скажу: не ведаю. Адзінае, што можна параіць: не ўцякаць ад праблемы ў алкаголь. Смутак, дэпрэсія, страхі і крыўды — добрыя перадумовы для развіцця алкагалізму. Трэба падумаць, дзе і як я магу шукаць выйсце назапашаным за дзень эмоцыям, каб не выплюхваць іх на сям'ю і захаваць духоўныя рэсурсы для малітвы. Гэта ўжо будзе нямала. Магчыма, ёсць сэнс параіцца з дасведчаным псіхолагам. Канечне ж, маліцца, каб Бог паставіў усё на свае месцы. На жаль, мой досвед падказвае, што ў такіх сітуацыях малітва паралізуецца смуткам. Лягчэй «завіснуць» у перажываннях і жыць шкадаваннем сябе. Вельмі добра было б знайсці сабе падобных, якія вынайшлі рашэнне праблемы. Буду вельмі рады, калі нехта з чытачоў падзеліцца асабістым досведам выйсця з такога вось крызісу ў калектыве.